


# ПОЛЫМЯ

**ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС**

**3** **(1037)**

**САКАВІК**

**Выдаецца са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб’яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2016

# ЗМЕСТ



Мікола МАЛЯЎКА

# ПАВУЦІНКІ СОНЕЧНАЯ НІЦЬ

## ЦВІЦЕ НА ПАДАКОННІКУ ГЕРАНЬ

Цвіце на падаконніку герань
У хаце той, дзе я бываю зрэдку.
Не перайшлі ў мінулым неўпрыкметку
Паміж сяброўствам і каханнем грань.
Прыгожая і стройная, як лань,
Казала ты, вясёлая суседка:
«Герань — мяшчан правінцыяльных кветка!
Ты мне адну, *купальскую*, дастань».

Я не дастаў… Прыносяць іншым госці
Вясёлкавыя кветкі маладосці.
Жыццёвы век заснежыла зіма,
Краса твая не слепіць, як маланка, —
І ты герані пестуеш сама,
Любоў мая — самотная мяшчанка.

---

*__Маляўка Мікалай Аляксандравіч__ нарадзіўся 13 снежня 1941 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1965). Настаўнічаў у вясковых школах. Працаваў на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні, у часопісе «Вясёлка».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Едуць маразы» (1966), «Лотаць» (1973), «Эстакада» (1982), «Аднавякоўцы» (1988), «Зімні дождж» (1991), «Ручнічок на крыжы» (1995), «Покуць» (2001), «Сядзіба, або Хата з матчынай душою» (2002), «Старая зямля» (2005), «Ой, бярозы ды сосны…» (2006), «Дзічка ў полі» (2007), «Крыштальная галінка снегападу» (2011), «Беражыце шыпшыну» (2013) і інш., кніг вершаў і казак для дзяцей «Дзед і ўнучка» (1983), «Салодкі лядзяш» (1986), «Як дом будавалі» (1987), «Дзе жывуць казкі» (1994), «Запрашаем на калядкі» (1998), «Папялушка» (2000), «Пачынайце дзень з усмешкі» (2013) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1992), прэміі Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1997), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2002).*

## ЗАІНЕЛАЯ ГАЛІНКА

Іскрыцца на галінцы іней —
Блакітна-белы дар нябёс,
Нібыта ў срэбра фарбы сіняй
Дабавіў крышачку мароз.

Ён на галінцы тонкай хутка,
Як нейкі казачны гравёр,
Стварыў з крышталікаў драбнюткіх
Адзіны, непаўторны ўзор.

На сонцы ўспыхнула барвяна
Галінка — незямной красы,
Хоць падары яе каханай,
Як дыядэму ў валасы.

* * *

Павуцінкі сонечная ніць
У паветры і ўваччу трымціць,
Заплывае мройна у душу —
За туману і дажджоў мяжу.
І ніякай аблачынкай быт
Не зацьміць жыцця майго блакіт,
Покуль у душы яна трымціць,
Павуцінкі сонечная ніць.

## А МОЖА, ТЫ ПРЫСНІЛАСЯ Ў ЖЫЦЦІ

А можа, ты прыснілася ў жыцці,
Зямная, стала марай неадлётнай —
З прыгожым тварам і душой пяшчотнай.
У круг тваіх абдымкаў не зайсці,
І толькі так, у сне-паўзабыцці,
Прыходзіш на імгненне ты, употай,
Асвечаная ўсмешкі пазалотай,
Каб зноў назад, у свет чужы, сысці.

На лініі трывожнага маўчання,
Здаецца, чую я тваё дыханне.
Далёка ты, а ў памяці жывой
Збліжае душы і такая ўцеха:
Гучыць з другога веку голас твой,
Як дзён шчаслівых маладое рэха.

## ЗАТОКА, РАСКАЮ ЗАТКАНАЯ

Затока, раскаю затканая,
Як вобраз твой, жыцця застой.
Трымцяць стракозкі закаханыя
Ці, можа, толькі сняцца ёй?

Даўно закінутая, ціхая,
Была ракою і яна:
Глыбока плынь жывая дыхала,
Віркі закручвала да дна.

Вось так, святла і руху казкаю,
Бадзёрыць, радуе спярша,
А потым заплывае раскаю
І чалавечая душа.

Застой істоту ўсю захліствае,
І толькі згадкі аж да слёз,
Нібы стракозкі серабрыстыя,
Трымцяць, высвечваючы лёс.

## ЛЮБОЎ

У жыцці любоў, як скрыпка,
Струны мае і смычок.
То гучыць шчымліва, зыбка,
То ўздымае да аблок.

На зямлі натхняе неба,
Ды замова ёсць адна:
Так іграць умела трэба,
Каб не лопнула струна.

## ТРЫЯЛЕТ

Шчаслівыя не думаюць пра смерць,
Глядзяць на свет вясёлымі вачыма.
Спрыяйце, людзі ім! Спрыяй, Радзіма!
Шчаслівыя не думаюць пра смерць.
Нядоўгай будзе радасць іх, магчыма,
І цешацца няхай, каб зразумець:
Шчаслівыя не думаюць пра смерць —
Глядзяць на свет вясёлымі вачыма.

## ЁСЦЬ СВЕТ, СХАВАНЫ АД ЧУЖЫХ ВАЧЭЙ

Ёсць свет, схаваны ад чужых вачэй,
Ён у душы — куточак запаветны:
Там не сцюдзёна ад дажджу і ветру,
Там боль не джаліць, крыўда не пячэ,
Там не вянкі жалобныя яшчэ
Ляжаць на плітах, а жывыя кветкі
Цвітуць пад вокнамі, як шчасця сведкі, —
Пра будучае марыць там лягчэй.

Туды, у паралельны свет былога,
Я не ўцякаю ад жыцця зямнога.
Я кожным днём пражытым даражу —
І перад сном, за клопатаў парогам,
Малюся і заглядваю ў душу,
Каб свет рэальны ўранку не палохаў.

## Я НЕ ЎЯЎЛЯЮ СВЕТУ БЕЗ БЯРОЗ

Я не ўяўляю свету без бяроз.
Сярод ялін і хвой — святла палосы,
Яны не гаснуць і ўначы, бярозы.
Яны заўжды, у спёку і ў мароз,
Высвечваюць і наш жыццёвы лёс:
Расой змываюць з твару сум і слёзы,
Пяшчотным шумам будзяць мары-крозы, —
Нібыта на зямлю сышлі з нябёс.

І людзі ёсць у кожным пакаленні
Такія ж светлыя, без хмаркі ценю.
На плошчы шумнай і ў лясной глушы
Яны нясуць, не цьмеючы ў знямозе,
Святло ў вачах, святло ў сваёй душы,
Каб весялей сучаснікам жылося.



**Наталля ТУМІЛОВІЧ**

# ЧУЖОГА ЛЁСУ НЕ ТРЭБА...

*Аповесць*

*1940 г.*

— Бабулечка, родненькая, што з табой?

Зося зразумела, што дзеці вярнуліся з лесу. Трэба было паспрабаваць хаця б устаць з ложка, але ў яе хапіла моцы толькі на тое, каб крыху прыўзняцца. Неяк холадна ў хаце.

— Каця, затапі печку на ноч. — І голас нейкі зусім кволы. Няўжо праўда захварэла? Надта ж не ў час, столькі працы ў гаспадарцы.

— Навошта, бабуля? У хаце ж цёпла. А на вуліцы дык і ўвогуле спякота, хоць бы ўжо дождж прайшоў, а то Пецька не наносіцца вады грады паліваць. — Дзяўчынка, відавочна спужаная, падышла бліжэй да Зосі. — Ці табе дрэнна, бабуля? Накрыць цябе? А можа, хочаш есці? Ці вады табе прынесці?

— Не, не трэба, зараз устану.

— Ды не, ты ляжы. Вось крыху паляжыш, і ўсё пройдзе. Так? — з надзеяй запытаў Зосю малодшы Пеця. Ён крыху хаваўся за сястрой, баючыся глядзець на хворую бабу.

— Так, дзетачка. Ты не бойся, я зараз пасплю, а заўтра буду зусім здаровая, — паспрабавала супакоіць унука старая.

Канешне, дзеці спужаліся. Колькі ўжо за свае гады яны паспелі пабачыць смерці. Як памёр бацька, Пеця нават і не памятаў, яму тады толькі-толькі споўнілася два гады. Кацечцы было ўжо шэсць, у яе ў памяці захаваліся нейкія напалову размытыя абрысы таткавага твару, асобным успалахам — яркі блакіт вачэй, што, казалі суседскія бабы, былі падобныя на яе ўласныя. Ды яшчэ калючасць бацькавай барады, калі той падкідваў дачушку ледзьве не да столі і, пакуль яна не паспела спужацца, лавіў на рукі, прыціскаў да сваёй зарослай шчакі бялявую Кацін галоўку.

Змітру было трыццаць чатыры гады, калі ён памёр ад мазгавой ліхаманкі. Выскачыў расхрыстаны з лазні на мароз і праз тры дні адышоў: увесь гэты час трызніў, нікога не пазнаваў: ні Марусю, ні дзяцей. А Марусі тады пайшоў трыццаць першы, і яна засталася з двума малымі дзецьмі. Доўга на хутары

---

*__Туміловіч (Саянава) Наталля Вячаславаўна__ нарадзілася 24 чэрвеня 1981 г. у г. Барысаве Мінскай вобл. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (2003), працуе там жа.*

*Апавяданні друкаваліся ў часопісе «Маладосць», «Полымя» і калектыўным зборніку «Пакуль б’ецца сэрца» (2013).*

яны не жылі, пераехалі да яе, Зосі, у старую цесную хатку, дзе яна жыла з пары свайго заўчаснага ўдаўства. Яе Сцяпан загінуў на вайне, яшчэ у пятнаццатым годзе, тады Маруся была такая ж прыблізна, як зараз Кацечка. Вось дачка і паўтарыла яе лёс. Толькі што нарадзіла дваіх, а не адно дзіця. Зося заўсёды шкадавала, што яна так і не змагла зацяжарыць яшчэ раз. Пасля таго, як яны са Сцяпанам пахавалі зусім маленькімі двух дзетак, дзяцей у іх болей не было. Заставалася толькі маліць Бога, каб Маруся расла здаровенькая. Сцяпан яе надта любіў, песціў. І мужык, Змітрок, як яна вырасла і выйшла замуж, кахаў, што праўда, то праўда. Яна, Маруся, канешне, была не вельмі здатная для хутарской працы: там усё браты рабілі за дваіх, і жанок сабе пабралі такіх жа, дужых, здаровых. А яна была квалаватая, тоненькая, надта хораша спявала, прыгожа вышывала, усе жанчыны ў вёсцы з зайздрасцю казалі, што ў яе дачкі быў самы мудрагелісты пасаг. І ручнікі, і фіранкі, і сукенкі, і падзоры для ложка — усё Маруся рабіла сама, нават маці ёй амаль не дапамагала.

Гэта ў Марусі атрымлівалася лепей, чым варочаць віламі ды хадзіць за канём. Пакуль Змітра быў жывы, то гаспадарка неяк трымалася. А без мужыка што ты зробіш, ні ў хаце, ні на двары, ні ў полі парадку не будзе. Таму яны, дзве ўдовыя цяпер бабы, старая і маладзейшая, так і парашылі: аддаць Змітраву зямлю братам, няхай дзеляць між сабой, калі не самі працаваць будуць, дык застанецца каму з сыноў. Можа, калі-нікалі ў падзяку дапамогуць былой братавай, усё ж не чужая кроў, двое малых пасля Змітры засталося.

Так і вярнулася Маруся да маці ў вёску. Толькі нядоўга яна без свайго Змітры пацялёпалася на гэтым свеце. Праз тры гады следам пайшла. Захварэла на сухоты, усю восень ды зіму грэлася на печцы, але дарэмна. Нават да першага ліслейка не дацягнула, у сакавіку адвезлі яе на могілкі. Зямля тады была замерзлая, ледзьве выкапалі Марусі магілу побач са Змітрам.

Да братоў ягоных не надта часта звярталіся, але ж тут яны самі прыехалі. Неблагія хлопцы былі, Андрэй ды Юрка, і сястра старэйшая, Анюта, у іх добрая дзяўчына, яны з Марусяй сябравалі крыху, пакуль тая на хутары жыла. Можа, Анюта зараз і за Кацечкай з Пецем прыгледзела б, калі б не гэтая высылка праклятая. Ну, няхай сабе ў яе мужык быў крыху багацейшы за астатніх у вёсцы, але ж ці за гэта ў Сібір трэба было высылаць? Няхай бы лепей не зайздрасцю ў акрузе зыходзіліся, а працаваць у яе Кастуся павучыліся. Дык не, данёс жа нехта з вяскоўцаў у горад, што Кастусь багаты, прыехалі адтуль, апісалі ўсё, што на падвор'і было, і Анюту з мужам звезлі. Потым ужо, Андрэй казаў, ліст прыйшоў ад іх: яны апынуліся ў Сібіры, дзякуй яшчэ, што на вольным пасяленні.

Андрэевай ці Юркавай жонкам, канешне, не надта трэба былі лішнія раты. Каця дык хоць ужо дапамагчы можа, а Пецечка яшчэ зусім малы, дзесяць гадоў хлопчыку, для мужчынскай працы гэта не ўзрост. Да таго ж, Кацю і замуж давядзецца выдаваць, які-ніякі пасаг, а сабраць трэба. А з Пецем зямлёй дзяліцца таксама ці ж захочуць... Не, не возьмуць іх бацькавы родзічы назад на хутар. Але, можа, і не трэба. Неяк і тут уладкуюцца. Будуць самі сабе гаспадарамі, не прыйдзецца ні ад каго залежаць, і чужы кавалак не стане ўпоперак горла...

Рана, канешне, ёй, Зосі, паміраць. Не з-за сябе рана, яна-то ўжо нажылася. Але ж каб хоць Каця крышачку пасталела. Ні бацькавай падтрымкі дзеці не ведалі, ні матчынай пяшчоты, лічы, не наймеліся, адна баба заставалася, ды і тая паміраць надумалася. А можа, акрыяе яна яшчэ паціху?

— А бабулечка ж ты мая родная, а на каго ты нас пакінула, навошта ж ты нас з сабой не забрала?.. А мы з табой да таткі з мамкай прыйшлі б, а мы б

іх абнялі, а мы б разам усе селі, паразмаўлялі… А што ж нам цяпер рабіць, бабулечка, як нам жыць далей, хто ж нам падкажа?.. А чаму ж ты паміраць надумала, ці ж мы цябе пакрыўдзілі, ці ж мы табе слова дрэннае сказалі, ці ж мы цябе не любілі, ці ты нас не любіла, адзіная ты нашая… Нашто ж ты нас на свеце пакінула, бабуля, каму мы патрэбныя, як жа нам жыць без цябе далей, хто нас навучыць…

*1942 г.*

...Ціхенькі стук у акно разбудзіў спачатку Алену. Яна паварушылася праз сон, спадзеючыся, што ёй толькі падалося, быццам нехта хоча да іх зайсці. Але стук звонку паўтарыўся.

— Бацька, уставай, — кранула яна мужа. — Нехта ў госці просіцца.

— Здурэла ты, баба, ці што, хто ў гэткі час да нас прыбяжыць? Падалося табе. Спі, яшчэ, мусіць, і пеўні не крычалі, — прамармытаў стомлены Андрэй, у паўсне забыўшыся, што апошняга пеўня яны яшчэ на тым тыдні зарэзалі і аддалі партызанам.

— Уставай, кажу, — Алена зноў, ужо крыху мацней, штурханула яго. — Раптам немцы?

— Во, кажу, дурная баба, — раззлаваўся, ужо канчаткова прачынаючыся, Андрэй. — Ці ты не бачыш, цёмна яшчэ на вуліцы. Дый якая халера ў гэткую пару таго немца да нашага хутара давядзе?

Да бліжэйшай вёскі, сапраўды, было кіламетраў восем, і фашысты, пакуль, мусіць, і не ведалі, што ў глыбіні лесу жывуць нейкія мірныя людзі, што падпадаюць пад вызначэнне «акупаванае насельніцтва». Дзякуй богу, ніхто з мясцовых вырадкаў-паліцаяў яшчэ не паспеў выдаць, дзе знаходзіцца гаспадарка лесніка Яблонскага, і ў хату Андрэя заходзілі толькі партызанскія пасыльныя, ды і тыя не надта часта. Таму і пра падзеі, што рабіліся навокал, Андрэева сям'я даведвалася толькі праз рэдкія візіты хлапцоў-партызан.

З вёскай сувязі ў іх амаль не было. Яны і ў даваенныя часы не надта часта самі ездзілі ў суседняе Замосце, толькі калі ўжо надаралася справа нейкая ці на святы трэба было ў царкву. Яблонскія прывыклі да жыцця наводшыбе. Сюды, у лес, прыйшоў на пачатку стагоддзя Андрэеў бацька разам з трыма маладымі сынамі і амаль маленькай дачкой. І з тых часоў ужо амаль пяць дзясяткаў год яны жылі на сваёй зямлі толькі сваёй сям'ёй. Кожны з братоў пабудаваў у дваццатыя гады сабе хату, яны прывезлі сюды жонак, якія не пабаяліся змяніць шумнае вясковае жыццё талакой на змрочныя, адзінокія сярод лесу хутарскія гаспадаркі. Сястра Анюта, праўда, пайшла замуж у больш аддаленую ад хутара Мартынаўку, але затое і паплацілася: іх з мужам выслалі у трыццаць шостым годзе як кулакоў на вечнае сібірскае пасяленне.

Малодшы з братоў, Змітра, памёр яшчэ да таго, у трыццаць першым, здаецца, і ягоная Маруся з'ехала з хутара да маці ў Замосце. А Юрка, самы старэйшы, пайшоў следам за братам два гады таму, і жонка не на шмат яго перажыла. Дзеці ўсе ўжо даўно раз'ехаліся па свеце, хто ў суседніх вёсках у прымах, хто жыве ў Мінску, а Андрэевы сыны абодва ў арміі, і з пачатку вайны ён з жонкай нічога пра іх не ведаюць. Толькі малодшая дачка, дваццацічатырохгадовая Дуся, атрымаўшы з фінскай пахаванку на мужа, вярнулася да бацькоў на хутар. І цяпер у Яблонскім (хутар заўсёды звалі па прозвішчы гаспадароў) засталіся толькі яны трое: Андрэй з жонкай і дачка.

Але зараз, можа, і лепей, што яны далей ад вёскі. І немцы не наведваюцца, і партызанам дапамагаць можна...

Хто ж гэта надумаўся сярод ночы бегчы да іх праз лес?

Андрэй нарэшце адчыніў дзверы і ледзьве не аслупянеў. Яму падалося, што ў перадранішнім паўзмроку перад ім стаіць Маруся. Не тая, схуднелая, калі яе амаль нельга было пазнаць, над якой ён сам зачыніў века труны сакавіцкім стылым поўднем… Не тая, стомленая ад спякоты ў чэрвеньскую касавіцу… Не засяроджаная над чарговым шытвом, якое трэба паспець як мага хутчэй скончыць тайком ад пільных і надта пранізлівых свёкравых вачэй, а тая, пяшчотна-сарамлівая, якая, быццам не верачы свайму шчасцю, танцавала са Змітрам полечку на сваім вяселлі. Або тая, якая з ласкавай усмешкай схілялася над калыскай Каці або Пецечкі, дзетак сваіх…

Так, гэта ж Каця... Андрэй зразумеў, што памыліўся, і амаль усміхнуўся сам сабе: як гэта ён, мужчына, якому ўжо пераваліла за пяцьдзясят, вырашыў, што на зямлі яшчэ засталіся цуды. Маруся ж даўно на могілках, а ягонае патаемнае пачуццё да братавай так і засталося нікому, перш за ўсё ёй самой, невядомым. Прынамсі, ён вельмі хацеў у гэта верыць... А перад ім стаіць спалоханая пляменніца, надта ж падобная на маці ў маладосці, на тую дзяўчыну, якую ён, Андрэй, упершыню ўбачыў, калі ўжо быў жанаты на Алене. Маруся ж была крыху сталейшая за Алену, калі бацька, Змітрок, ды сам Андрэй і старэйшая братавая Каця прыехалі да ўдавы Зосі сватаць яе адзіную дачку. Ёй, Марусі, тады споўнілася дваццаць. Андрэй, толькі глянуўшы на будучую сваячку, зразумеў, а хутчэй — сэрцам адчуў, чаму брат так закахаўся.

Марусін твар заўсёды быў адухоўлены, трапяткі, з яго, заўсёды здавалася Андрэю, лёгка было б пісаць ікону. Але пазней усё ж такі жыццё і лёс наклалі і на гэты твар адбітак скоранасці, безвыходнасці, непазбежнасці ў прадчуванні нейкай бяды. А тады, у маладосці, яна яшчэ была бесклапотная, уся нібы адкрытая свету і людзям: маўляў, вось я, перад вамі, уся празрыстая, уся як на далоні, ці ж хопіць у вас жорсткасці пакрыўдзіць мяне? І такая закаханая яна была ў Змітрака, гэта так кідалася ў вочы, што, бадай, упершыню у жыцці Андрэй пазайздросціў малодшаму брату, з тугой прадчуваючы, што, як толькі Маруся прыйдзе на хутар, у іх вялікую і даволі ладную сям'ю, яму трэба будзе ўтойваць свае пачуцці і ад яе, і ад самога сябе, і ад усіх Яблонскіх: крый божа, хто заўважыць, што малодшая нявестка падабаецца Андрэю.

І вось з тае пары мінула амаль два дзясяткі гадоў. Ён, Андрэй, ніколі так і не сказаў ёй пра свае грэшныя пачуцці, ніколі не паказваў гэтага, а зараз няма на свеце ні Змітры, ні самой Марусі. І вось перад ім стаіць дзяўчынка, што на імгненне вярнула яго ў чужую маладосць…

— Дзядзечка, прабач, што прыпёрлася сярод ночы, але што мне рабіць, не ведаю, — Каця пасунулася крыху ўбок, і Андрэй заўважыў за яе спінай малодшага пляменніка. — Пакінь хоць Пецю ў сябе, куды ж яму без мяне…

Алена са злосцю выхапіла чугунок з печы і адчула, як, саслізнуўшы на гарачае, заныла рука. Ну, дзіва што, усё на гэтым свеце нібы да гары нагамі робіцца, што ўжо тут перажываць за пальцы: апякла, дык апякла... Яна сунула руку ў вядро з халоднай вадой і ў роспачы прысела на лаўку. Дзе ж гэта бачна, каб роднае дзіця на пагібель выправіць? Во ўжо дзе чорт стары, на старасці зусім з глузду з'ехаў! Нашто яна яго ўчора разбудзіла? Лепей сама выйшла б да пляменніцы! Але ж не, збаялася, дурніца, што чужыя прыцягнуліся на хутар, не падумала пра тое, хто б сюды дарогу знайшоў сярод ночы, акрамя сваіх?

Міжволі Алена здзівілася, якія смелыя дзеці: гэта ж трэба, восем кіламетраў прайшлі ў цемры, не заблудзіліся, а калі і колькі яны на тым хутары былі...

Ой, Божачка, ратуй, што ж гэта сапраўды на белым свеце робіцца? Дзіцёнку шаснаццаць гадоў толькі споўнілася, а яго ўжо ў нейкую Германію хочуць вывезці, ці ж яна там напрацуе, гэтая Каця? Яна да той фабрыкі і не даедзе, ці яшчэ куды іх там збіраюцца прызначыць. Яна ж уся ў матку, гэткая ж і худая, і з твару бледная, не раўнуючы, як той рамоначак.

З пляменніцы думкі яе перакінуліся на мужыка. Канешне, шкада дзяўчыну, але яна, Каця, у свае маладыя гады разумнейшая, чым гэты стары дурань. Усё ж трэба было пагадзіцца, забраць да сябе Пецю, ужо неяк бы дагледзелі яго, а даў бы Бог, дык і Каця б з той Германіі вярнулася б жывая. Не можа ж быць, каб не перамагла нашая армія гэтую фашысцкую свалату... Ці мала бацьку, што два сыны на фронце ваююць, можа, ужо і галовы свае дзе палажылі. Не, Андрэй выдумаў — замест Каці, маўляў, на работы паедзе Дуся. Сказаў як адрэзаў. Дачка не ведала, што і адказаць, а сама Алена колькі ні лямантавала, не саромеючыся таго, што Каця з малодшым братам сядзяць у хаце, за сценкай, Андрэй нават не захацеў абмяркоўваць сваё рашэнне. Глянуў толькі на яе з-пад ілба і нібы папрок кінуў:

— У дзяцей на свеце ніводнага чалавека не засталося, акрамя нас. Змітра памёр, а мы ім амаль не дапамагалі. Маруся, — праглынуў ён даўкі камяк, — пайшла, да сябе не ўзялі. А зараз у іх нават бабы няма. Ці ж дзяўчына ад добрага жыцця да нас прыбегла па дапамогу? І ты хочаш, каб я ёй адмовіў? Ці пажадаў добрага шляху на чужыну?

Андрэй павярнуўся і пайшоў з хаты. Дзе ён бадзяўся па лесе, пакуль Алена супакоілася, згатавала снеданне ды ўсе разам паелі, баючыся заглянуць адно аднаму ў вочы, чакаючы яго вяртання, яна не ведала. Прыйшоў ён з гэткім жа хмурным тварам, як і выходзіў з хаты, і жонка зразумела, што лепей яму не пярэчыць. Было такіх момантаў у іх жыцці няшмат, Алена магла ўсе прыпомніць, калі і за што муж пачынаў гневацца на яе. І тады яна сама нават пачынала баяцца яго. Зараз, відавочна, настаў адзін з іх.

Канешне, шчыра кажучы, Андрэй мае рацыю. Дуся больш сталая, чым Алена. Да таго ж, не дзеўка ужо, жанчына, замуж паспела схадзіць. Праўда, нядоўгім быў яе жаночы век. А што пасля гэтай вайны будзе, дык ніхто не ведае. Ніхто не ведае, колькі мужыкоў ды хлопцаў загіне. Алена памятала, як у свой час, у васямнаццатым годзе яе маладзейшыя сяброўкі чакалі з фронту сваіх прыгожых, моцных жаніхоў, а дадому вярталіся змучаныя, спустошаныя фізічна і душэўна мужчыны. Ці ж зараз лепшага чакаць? Вайна нікому дабра не прыносіць… Божачка, ратуй, па звычцы перавяла Алена вочы на чырвоны кут.

Але ж… Ці ж ёй, маці, сваё дзіця не раднейшае за чужое? Адзіная дачка ў іх з Андрэем, Дуся самая апошняя нарадзілася, малодшанькая. Яна, Алена, ужо і не чакала, што пасля дзвюх няўдалых цяжарнасцей здолее нарадзіць яшчэ адно дзіця. Адна ў яе надзея на дачку, што тая і зараз матцы дапаможа, і ў старасці дагледзіць. Хлопцы, калі ажэняцца, дык добра каб хоць прывезлі паказаць сваіх дзевак. Валодзю ўсё некалі было жаніцца: то вучоба, то служба. Лётчыкам стаў. Яны з бацькам і не ведаюць, як ён у гэткай махіне (фотаздымак на сцяне ў чыстай хаце вісіць) не баіцца лятаць. Сярэдні, Алёша, таксама будзе вучоны. Ён студэнт, перад вайной чатыры курсы ў гэтым, як яго, ніверсітэце, скончыў, і яго, як і ўсіх хлопцаў, на лета адправілі на ваенныя зборы. А адтуль, канешне, — адразу на фронт. Дзе яны зараз, яе хлопчыкі?..

Алена не магла ўявіць, каб яе сыны, спакойныя, добрыя, якія нават ніколі не хадзілі з бацькам на паляванне, не забілі ні зайца ці лісіцу, зараз узялі ў рукі стрэльбы, ды каб стралялі ў чалавека, хай той і вораг. Валодзя на самалёце, як гэта бацька казаў, тараніць фашыстаў. А Алёша, мусіць, твар у твар з ворагам, у пяхоце...

Ой, сыночкі ж вы мае, сыночкі… Адзіная дачушка пры бацьках засталася, дык і тую немаведама куды трэба выправіць. Што ж гэта такое дзеецца, куды той Божачка глядзіць.

Алена спахапілася, што за сваімі думкамі так і пакінула чыгунок з недаваранай бульбай сярод печы. Нешта ж трэба хоць у дарогу Дусі сабраць, тое-сёе з ежы, якую адзежку, ды, можа, трэба свае срэбныя завушніцы ёй у вузялок завязаць. Тыя завушніцы татка перад вяселлем аддаў ёй, Алене, казаў, што яны засталіся яшчэ ад бабкі Таццяны, тая была каталіцкай веры, з заможнай сям'і. Але няхай Дуся возьме завушніцы з сабой, можа, у Нямеччыне аддась таму, хто будзе ёй за гаспадара, каб добра да яе ставіўся. Хаця і сярод немцаў, мусіць, таксама добрыя людзі ёсць. Дуся да сялянскай працы прывучаная, але хто ведае, што яе чакае ў той Германіі... А раптам моладзь вывезуць не на працу, а ў які лагер? Або ўвогуле дзе-небудзь прымусяць і яе, і тых, хто будзе з ёй, самім сабе выкапаць яму ды расстраляюць? У суседняй вёсцы, казалі, усіх яўрэяў гэтак знішчылі, і малых, і старых...

«Святая дзева Марыя, дапамажы дачушцы маёй, і ўсім тым, хто далёка ад дома, і нам, хто застаецца на роднай зямлі. Хай абароніць нас Твая любоў і спагада. Ты ж ведаеш пакуты маці па сваім дзіцяці, не дазволь, каб паўтараліся яны ў нашых сем'ях. Выратуй і памілуй нас, Маці Божая».

Алена выцерла слёзы, перавязала хустку і абпаленымі пальцамі, амаль не заўважаючы болю, узялася за чапялу.

*1944 г.*

Ужо які дзень Валодзя збіраўся напісаць ліст дадому. Праўда, гэта толькі называлася — напісаць: большасць з параненых у палаце нават не маглі падняцца з ложка, не тое, каб узяць у рукі аловак. Пад іх дыктоўку лісты пісалі медсёстры. Некаторыя параненыя паспелі ўжо атрымаць адказы, і зараз, шчасліва ўсхваляваныя, прасілі дзяўчат прачытаць. І тыя чыталі і перачытвалі па некалькі разоў весткі ад родных. Ён бачыў, як хлопцы ўважліва слухалі, нібы не верылі, што ў іх дома ўсё больш-менш добра, што жывыя...

А ён усё марудзіў напісаць ліст дадому, сам не ведаючы, чаму. Можа, не столькі не хацелася распавядаць пра сябе, як было боязна — а раптам адказу не прыйдзе? Вунь лейтэнант Атрошка ўжо трэці тыдзень чакаў ліста ад маці і сясцёр, якія засталіся ў акупаваным Кіеве. Горад вызвалілі два з паловай месяцы таму, напісаў, а адказу няма… У іншыя палаты паштальёнка рэгулярна прыносіла лісты і нават тэлеграмы, у якіх паведамляецца, што да таго або іншага параненага едуць бацькі, жонка, нявеста… А яму, як і Атрошку, нічога няма… Валодзя бачыў, як той, сцяўшы зубы, маўкліва ляжыць у ложку, утаропіўшы невідушчыя вочы ў столь, не рэагуючы ні на што і ні на каго…

Але ж хопіць адцягваць!..

«Дарагія тата, мама, Алёша і Дуся! Спадзяюся, зараз, калі Беларусь ужо вызвалілі, я нарэшце атрымаю ад вас хоць адзін ліст. Як вы перажылі акупацыю? Іншы раз думаю, можа, да нашых непраходных лясоў фашысты і не дабраліся? Але ж не, пільна сачу ў шпіталі за зводкамі па радыё, ужо які тыдзень перадаюць, што ўпартыя баі вядуцца з немцамі на тэрыторыі Барысаўска-Бягомльскай партызанскай зоны, а гэта ж зусім блізка ад нашых вёсак

і нашага роднага Яблонскага хутара. І вось нарэшце пачуў, што тры дні таму вызвалены Барысаў, учора — беларуская сталіца. Дом, мой дом зноў свабодны! Як хочацца верыць, што ўсе вы жывыя і здаровыя, і што нашую сям'ю абмінулі крывавыя жахі і непаўторныя страты гэтай вайны».

Валодзя, стаміўшыся дыктаваць маладзенькай сястрычцы, адкінуўся на падушку. Урачы казалі, што падымацца яму яшчэ рана, твар будзе зажываць паволі, казалі, што і вачам нельга даваць вялікую нагрузку, а яна непазбежна пры рэзкіх рухах. Але ж немагчыма спакойна ляжаць тут, у ваенным шпіталі за сотні кіламетраў ад лініі фронту, хоць і акружаюць цябе клапатлівыя, уважлівыя медсёстры, калі твае таварышы, пэўна, лётаюць над тваімі роднымі мясцінамі і б'юць там ворага… Да ўсяго ён, з гэтым дурацкім раненнем, як сцвярджаюць урачы, увогуле ўжо ніколі не сядзе за штурвал самалёта... Але ж — не, ён яшчэ дакажа ўсім, ён яшчэ падымецца ў неба!.. І хай застанецца з шнарам праз увесь твар, ён і раней не лічыў сябе надта прыгожым — галоўнае, каб з-за гэтых бясконцых аперацый сам не застаўся без зроку. Хопіць таго, што адрэзалі палову носа: аскепак ад фугаскі раздрабіў амаль усю перагародку.

Самае крыўднае ў гэтай сітуацыі было тое, што ўсе тры ваенныя гады ён, як шчасліўчык, адлятаў без аніводнай драпіны. І раптам, у звычайных, лічы, амаль мірных умовах, застаўся, бадай, без твару і без левай кісці. Інтуітыўна, калі ў паветры, крыху не даляцеўшы да зямлі, узарвалася фугасная міна, ён закрыўся рукой ад асколкаў… Было гэта на часовым аэрадроме, у дробным прылеску, у якім былі замаскіраваны самалёты. Добра яшчэ, што не пасекла і правую руку, інакш ён мог бы ўжо зараз лічыць сябе поўным інвалідам…

Увогуле ж раненні былі такія, што яму нават не дазвалялі пісаць лісты самому. Газеты чыталі ўслых нянечкі, радыё ў палаце было ўключана з ранку і амаль да поўначы. Адзіны занятак, які заставаўся цяжкапараненым, у тым ліку і яму, — гэта былі ўспаміны. Мабыць, пра будучыню нікому не хацелася думаць: надта тужлівай па песімістычным запэўніванні дактароў яна padавалася кожнаму з тых, хто ляжаў з ім у палаце. А іх тут было чацвёра, трое зусім знявечаных, і толькі ён, Валодзя, яшчэ мог парадавацца: яму, у параўнанні з астатнімі, амаль пашанцавала — ногі цэлыя, рука засталася, бегаць будзе... Галоўнае — выратаваць зрок. Ну, а з твару, як кажуць, ваду не піць. Не дзеўка ж ён на выданні, хлопец...

Разважаючы так, Валодзя, вырашыў, што Марусі пісаць пакуль не трэба. Па-першае, яму яшчэ будуць рабіць аперацыі, і невядома, колькі. Па-другое, лепей спачатку дачакацца ліста ад бацькоў — як яны ўспрымуць вестку аб яго раненні? Маці, канешне, паплача, але будзе радавацца, будзе ўдзячная Богу, што сын не загінуў. Бацька ўвогуле заўсёды лічыў і дзяцей вучыў, што галоўнае ў жыцці — зямля і праца. Усё астатняе нават размовы не варта. Больш за ўсіх Валодзя спадзяваўся на сястру — тая ўжо, пэўна, здагадаецца адпісаць яму пра Марусю: як і што з ёй…

*1944 г.*

Шмат разоў за вайну у час чарговага налёту фашыстаў Каця з братам хаваліся ў лесе. Рабіць гэта ў лесе з яго балотамі, са сцяжынкамі, якія вельмі добра ведалі яшчэ з дзяцінства (шмат разоў хадзілі тут з бабуляй), — было не так ужо і складана. Прынамсі, да той пары, пакуль не паранілі Пецю. Самы вялікі жах, мусіць, апанаваў дзяўчыну, калі немцы наважыліся везці працаздольную моладзь у Германію. У вёсцы яны з'явіліся нечакана. Сагналі ўсіх жыхароў да старога млына ля возера, салдаты вышуквалі ў натоўпе найбольш прывабных

дзяўчат. Хлапцоў у вёсцы амаль не было: хто на фронце, хто ў партызанах. Жанчыны, чыіх дачок выбралі фашысты, галасілі, баяліся, што не для працы іх дзяўчаткі трэба. Можа, і да Нямеччыны не давязуць, пазабіваюць па дарозе. Казалі ж людзі, што з прыгожых жаночых валасоў нашых дзяўчат немкі парыкі сабе вырабляюць. А ў нас жа ўсе дзеўкі з даўгімі косамі…

Яшчэ цішэй і з большай насцярогай казалі жанчыны і пра іншае: ці не на забаву сабе вязуць нашых дзяўчат ворагі. Нацешацца ўволю, а як надакучаць, тых, што здаравейшыя, на працы адправяць, а слабейшых перастраляюць. Разважалі звычайна, каб дзяўчаты пра гэта не чулі…

Кацярыну, у адрозненне ад сяброваk, ад гэткіх размоў берагчы не было каму: краем вуха то там, то тут чула такія жаночыя плёткі. Але яе бянтэжыла і палохала нават не гэта: калі лёс такі, дык нікуды ёй не дзецца… Трывожыла іншае: калі яе схопяць і павязуць у Германію, што тады будзе з Пецем? На каго ж застанецца яе дванаццацігадовы брацік? У вёсцы ў кожнай хаце сваіх дзяцей хапае, не пойдзе ж ён прасіцца да чужых людзей. Такі малы, адзін выжыць ці ж здолее? Таму і пабегла яна ноччу да дзядзькі Андрэя з просьбай, каб той узяў да сябе пляменніка, калі яе, Кацю, усё ж такі забяруць немцы. Не пашкадуюць жа яе за брата, не дазволяць з-за яго застацца ў Замосці. Лютуюць фашысты. Вунь у суседняй вёсцы, калі не набралася столькі моладзі, колькі трэба было ім, немцы ўзялі ды расстралялі ўсіх, каго збіраліся везці ў Германію. І Каця, калі будзе старацца выкруціцца ад паездкі, падвядзе ўсіх, з кім жыве побач.

...Тое, што дзядзька вырашыў паслаць замест яе родную дачку, Кацю здзівіла. Ніколі ён асабіста цёпла да іх, сваіх пляменнікаў, не ставіўся. Мабыць, лічыў, што ў яго сваё жыццё, у іх — сваё. Бачыліся яны рэдка, яшчэ калі была жывая маці. Апошні раз, на пахаванне бабулі Зосі дзядзька Андрэй з жонкай прыехаў на кані, дапамог адвезці бабулю на могілкі. І зараз, калі Каця прыбегла да яго, баялася крыху, што ён яе нават не пазнае, асабліва ў начной цемры. Але ж сядзець, чакаючы, пакуль за ёй у хату ўваляцца немцы, было яшчэ жахлівей. А дзядзька — усё ж не чужы чалавек, павінен дапамагчы...

Канешне, дзяўчына разумела, што нікому ў дзядзькавай сям'і, акрамя самога гаспадара, яны з Пецем не надта патрэбны. Тут свой клопат. І ёй нават сорамна было глядзець у вочы цётцы Алене і Дусі, таму ад прапановы дзядзькі застацца на хутары Каця рашуча адмовілася. Тым больш, і так Дуся, згадзіўшыся ехаць замест яе, выкліча падазрэнні. Выратаваць магло адно: калі ніхто ў вёсцы іх не выдасць, а за гэтым наборам моладзі прыедуць іншыя немцы, не тыя, што былі ў мінулы раз. Дарэчы, да гэтага, каб падмяніць дзяўчат, дадумаўся не толькі дзядзька Андрэй. Каця бачыла потым, што замест яшчэ некалькіх дзяўчын ў Германію таксама паехалі іншыя, старэйшыя: за каго сястра, за каго братава...

Такім чынам яны з Пецем і засталіся ў бабулінай хаце. Здаралася, разам з іншымі вяскоўцамі хаваліся ў балотах, калі загадзя даведваліся, што ў Замосце едуць гітлераўцы. Аднойчы, было гэта пасля таго, калі паранілі брата, Каця не паспела выправіць малога у лес раней, як з'явіліся немцы.

Каця з Пецем селі на ложак, яна абняла брата, чакаючы, што будзе далей, а тым часам у хату зайшоў пажылы немец. Ён быў чымсьці падобны на старога кульгавага Хведара, што жыў за рэчкай, і Каця ад гэтага падабенства амаль супакоілася. Падумала: заб'е дык заб'е, затое разам абодвух…

Немец, не ўцяміўшы, чаму ў хаце засталіся дзеці, неяк здзіўлена, зусім не грозна запытаў:

— Дзе гаспадар?

— Я гаспадар, — адказала Каця, стараючыся, каб не надта задрыжэў голас.

Твар у немца зніякавеў, на імгненнне ён нават збянтэжыўся, потым моўчкі, нічога не сказаўшы, выйшаў з хаты. А Каця яшчэ доўга трымала Пецю за плечы. Той, адчуваючы яе стан, таксама не варухнуўся, і толькі праз некалькі дзён Каця ўбачыла ў брата на перадплеччы сінякі ад яе пальцаў.

Гэта быў адзін з самых напружаных момантаў у яе жыцці за ўсю вайну. Увогуле, месяцы, нават гады акупацыі ў яе свядомасці зліліся ў нейкую адну застылую стужку, дзе нават змена года, паварот на лета ці, наадварот, прыход зімовых маразоў значылі толькі тое, што ў лесе з'явіліся чарніцы, якімі можна было падсілкавацца падчас працяглага чакання, ці што Світлаўскае балота падмерзне крыху болей, немцы здолеюць прайсці далей, а нехта кволы не здолее некалькі гадзін сядзець, затаіўшыся на лютым холадзе...

Успышкамі памяці сярод гэтай, здавалася, бясконцасці было толькі некалькі імгненняў. Першае — як яна бегла на Яблонскі хутар па сакавіцкай лясной вільгаці, бегла па заблытаных і амаль забытых сцежках, баючыся заблудзіцца... Як распавядала дзядзьку пра нямецкі загад ехаць у Германію, а затым слухала, што ён казаў ёй. Хаця ўсё гэта засталося ў яе свядомасці менш ярка, чым блуканне паміж мокрага ельніку і голых бяроз у невыноснай адзіноце, калі здавалася, ніхто на свеце не паспачувае ім з братам. Потым — Пецева недарэчнае раненне. І таксама ў яе памяці захаваўся не толькі братаў перакошаны ад болю твар, а хутчэй яе халоднае, нейкае адчайнае пачуццё жаху недзе ў глыбіні ўласнага цела, там, дзе казалі старыя, і жыве чалавечая душа...

Калі Пецю параніла, яна не ведала, ці шкадаваць брата, ці злавацца на яго. А было гэта ў маі сорак трэцяга. Навокал крыху пацішэла: партызанскія атрады дзейнічалі на тэрыторыі амаль усёй вобласці, і немцы наязджалі ў вёску радзей. Затое самі партызаны, асабліва тыя, хто быў з бліжэйшых паселішчаў, часта наведвалі родных. Неяк з'явіліся яны на дзянёк і ў Замосці. Ці Сцёпка Шпакаў не ўгледзеў, як малодшы брат Ванька схапіў ягоную вінтоўку і пабег на бліжэйшую за вёскай горку, ці сам дазволіў малому ўзяць яе, каб той пахваліўся перад сябрамі братавай зброяй, пра тое Каця так і не дазналася. Але тады на пагорку сабралася, лічы, уся хлапечая чарада. Як яны яе круцілі, вінтоўку, гэтыя васьмі-дзесяцігадовыя хлопчыкі!.. Вядома, упершыню ў жыцці трымалі ў руках сапраўднае «ружжо». І чаму і як у вінтоўцы аказаўся той адзіны злавесны патрон?.. Куля трапіла Пецю ў калена. Перапалоханыя хлопцы стрымгалоў даляцелі да сярэдзіны вёскі, але зайсці ў хату да Яблонскіх збаяліся, стоўпіліся ля варот.

Каця, прадчуваючы нешта нядобрае, чуючы дзіцячыя крыкі, выскачыла з хаты на падворак.

— Што? — закрычала яна, не заўважаючы сярод дзяцей брата.

— Там… Пецьку параніла, — нарэшце выціснуў з сябе старэйшы з хлапчукоў, трынаццацігадовы Алесік.

— Дзе? — прастагнала яна, ледзь трымаючыся на нагах.

— На ўзгорку, за вёскай, — нібы абудзіўшыся ад здранцвення, загаманілі ўсе разам: — Пабеглі, хутчэй, хутчэй!..

Усё астатняе: як дабегла яна да той ваколіцы, як нехта, ці не той самы Алесік дапамагаў ёй несці дадому Пецю, яна помніла няясна. Але, у Пеці было ненатуральна вывернута калена. Твар здаваўся белы, нейкі незнаёмы… Як прынесла яго дадому, не помніла. Помніла, як Сцёпка прывёз з лесу сталую ўжо дакторку, і тая параіла Каці прамываць Пецеву рану па некалькі разоў на дзень. Рана пачала загнівацца, і дзяўчына прамывала яе адварам з сасновых

іголак… А потым з раны пачалі выходзіць аскепкі косці (куля раздрабіла каленную чашачку, папярэдзіла дакторка)...

Немцы з'явіліся ў вёсцы толькі ў пачатку кастрычніка. Пеця ўжо скакаў на мыліцах: іх яму па Кацінай просьбе змайстраваў сусед, дзед Рыгор. Пеця, сяк-так навучыўшыся перасоўвацца па вуліцы, ужо мог за гадзіну дабрацца да бліжэйшага пералеску, каб схавацца там.

І яшчэ адно засталося ў яе памяці гэтак яскрава, нібы і зараз стаяла перад вачыма: апошнія хованкі ў балоце перад тым, як палілі вёску. Тады яны ўцякалі ад немцаў разам з дзядзькам Лёвачкам, нейкім, як памятала Каця яшчэ па бабуліных аповедах, далёкім сваяком з бацькавага боку. Дарэчы, падчас небяспекі людзі разам беглі ў лес, у балота, глядзелі, каб па дарозе не згубіліся свае і чужыя малыя. Вось ёй з Пецем і выпала хавацца побач з Лёвачкавай сям'ёй. Акрамя дарослых і Каці з Пецем, тут было пяцёра зусім маленькіх хлопчыкаў і дзяўчынак. Цётка Наста, Лёвачкіна жонка, трымала на руках малодшую, дзесяцімесячную Янінку. Пакуль беглі, жахліва азіраючыся назад і насцярожана адшукваючы знаёмую сцежку, затым, пакуль уладкоўваліся разам у вялізнай варонцы ад снарада, немаўля маўчала. А потым, калі ўсе крыху супакоіліся, яно, нібы назнарок, пачало румзаць, а пасля і заплакала. У сакавіцкай, асабліва пранізлівай цішыні дзіцячы плач было далёка чуваць. А з-за лесу паціху набліжаўся гул матацыклаў, але немцы не злазілі з машын, ажно пакуль можна было ехаць.

— Супакой ты яе!.. — не вытрымаў Лёвачка. — Пачуюць жа… Усіх выдасць сваім плачам.

Настася ледзьве не са слязьмі мацней прытуліла малую да грудзей, супакойвала, як магла, але тая працягвала крычаць — ці то прастудзілася ў гэтых бясконцых бадзяннях па стылых сакавіцкіх балотах, ці то ў дзіцяці рэзаліся зубкі, і яно заходзілася ў плачы.

— Дай сюды, — сцяўшы зубы, Лёвачка пацягнуў дачку да сябе. — Давай сюды, кажу!

Настася моўчкі ўскінула вочы і, здагадаўшыся, навошта муж адбірае Янінку, у сваю чаргу ўчапілася за дзіцячае цельца. У барацьбе паміж бацькамі коўдра расхінулася, і дзяўчынка, адчуўшы холад, закрычала яшчэ мацней.

— Не чапай! — Настася адсунулася ад мужа і дзяцей, не заўважаючы родных і чужых. Усе глядзелі на яе з жахам: што ж гэта будзе... — Я сама пайду адсюль. Калі не супакоіцца, немцы знойдуць мяне з ёй, няхай разам забіваюць. А тапіць дзіця — не дам!..

Не прамовіўшы болей ні слова, жанчына павярнулася і, намацваючы дрыжачымі нагамі сцежку, пайшла далей ад людзей.

Каця толькі мацней прыціснула да сябе брата і яшчэ кагосьці з меншых Лёвачкавых дзяўчынак і ціха супакойвала ўсіх. Але тыя, ахопленыя жахам, імкнуліся забіцца як мага далей пад корч, быццам спадзеючыся, што так схаваюцца і ад немцаў, і ад холаду, і ад усяго гэтага незразумелага і жорсткага свету…

А вёска палала, гітлераўцы знішчылі ўсе да адзінай хаты, ўсю жывёлу ў хлявах, якую гаспадары не паспелі загадзя схаваць па балотах. Але людзі дзякавалі Богу, што ўратаваліся. Нават зусім нямоглыя старыя паспелі дакульгаць да лесу — зажыва ў Замосці не згарэў ніхто...

Вярнуўшыся на папялішча, вяскоўцы імкнуліся адшукаць хоць штонебудзь з напамінкаў пра былое жытло, але дарэмна. Нічога свайго не знайшла і Каця. Яна вельмі шкадавала, што не здагадалася закапаць дзе-небудзь на гародзе ні бацькоўскія фотакарткі, ні матчын вясельны вэлюм, ні нейкія

манеты, што хавала ў хусцінцы за абразамі бабуля Зося. І абразоў не засталося аніводнага. Нічога і нікога ў іх з Пецем не было на ўсім белым свеце, акрамя адно аднаго.

Таму і пайшлі яны ў лес, да партызан, і апошні год вайны правялі ў атрадзе.

А зараз, пасля вызвалення, у іх з'явілася будучыня. Але якая яна будзе, Каця не ведала, тым болей не ведаў гэтага чатырнаццацігадовы скалечаны Пеця. Зразумела было толькі тое, што трэба будаваць зямлянку, каб было дзе жыць. І яшчэ, трэба было працаваць. Але дзе?... Калгас яшчэ не аднавілі, да горада далёка. І яна ўладкавалася ў падсочку, стала працаваць у лесе. Думала, можа, хоць лес на хату хутчэй выпішуць. А калі пашанцуе і з'явяцца хоць якія грошы, перш за ўсё трэба будзе купіць карову. Бабуля заўсёды казала, што без каровы гаспадаркі няма. Кароўка — карміцелька, і малака дасць, і масла зробіш, і без смятаны не застанешся.

А пакуль сяк-так перабіваліся з Пецем, ягоная рана зажыла, косці нейкім неверагодным чынам усё ж зрасліся. Канешне, кульгаў хлопец на параненую нагу моцна, пра тое, што калісьці ён яшчэ зможа бегаць, і нельга было марыць. Каця баялася, што Пеця застанецца інвалідам: яна на ўсё жыццё запомніла словы той немаладой партызанскай дакторкі, якая, аглядваючы рану, сказала: «Калі ён выжыве, гэта будзе проста цуд».

І ён выжыў.

*1947 г.*

…Як вяртацца дадому, Аляксей не ведаў. Што сказаць бацькам — дзе ён быў тры гады пасля вызвалення? Чаму не пісаў? Але ж гэта не галоўнае. Дзе ён быў у вайну? Ваяваў з гітлераўцамі ці не?..

Магчыма, лепей увогуле забыцца на тое, што ў яго ёсць — быў — дом... Можа, трэба з'ехаць куды-небудзь, дзе яго ніхто не ведае… Туды, дзе людзі не спазналі акупацыі. Там ніхто не будзе ўспамінаць пра спаленыя вёскі, забітых людзей, пра многае іншае, звязанае з вайной. Туды, дзе ніхто не ведае пра такіх, як ён, здраднікаў-паліцаяў.

Бацька не даруе. А маці?.. На тое яна і маці, каб дараваць. Але ў тым, што астатнія ў сям'і не зразумеюць яго і не даруюць, Алёша амаль не сумняваўся.

Пасля заканчэння чацвёртага курса і датэрмінова здадзеных экзаменаў іх, студэнтаў, накіравалі на вайсковыя зборы пад Баранавічы. Прыехалі яны ў вайсковую часць у сярэдзіне чэрвеня. Не паспелі як след асвоіцца — вайна!..

Яны нічога не ведалі і не разумелі, што дзеецца… Як не разумелі, што зараз рабіць, і ненашмат старэйшыя за саміх студэнтаў камандзіры. І таму ў першы час вайны яны бязладна адступалі, пакуль не дайшлі ажно да гомельскіх балот, пры гэтым без страт. Пад Лельчыцамі, здалося, ім пашанцавала: сустрэлі вайскоўцаў, купку байцоў, што засталася ад аднаго батальёна, які недзе ўступіў у бой з фашыстамі. Але ўжо праз пяць дзён ваенныя і студэнты трапілі ў палон.

Алёша на ўсё жыццё, здавалася, запомніў твар хударлявага, быццам стомленага ці хворага нямецкага перакладчыка, які манатонна, нібы заведзены, паўтараў для кожнага палоннага словы, што былі зразумелыя і без яго, па пякучай нянавісці, з якой цадзіў іх чужынец-афіцэр, перабіраючы дакументы, выцягнутыя з кішэняў кожнага:

— Камуніст?

Усіх, пры кім знайшлі партбілеты, расстралялі адразу ж, на вачах у астатніх. Камсамольцам літасціва прапанавалі выбар — «рушыць» услед за забіты-

мі або прызнаць законнасць новай улады на былых савецкіх (гэтае слова нібы муляла немцам язык не меней за «камуніст») тэрыторыях і пагадзіцца верай і праўдай служыць ворагу.

З усіх — а іх засталося чалавек пятнаццаць — толькі тры здолелі добраахвотна падставіць сябе пад кулі. Астатнія выбралі жыццё, сярод іх — і Аляксей... Неаднойчы ў гарнізоне яны потым разважалі пра свае ўчынкі. Ніхто не пагаджаўся, што гэта — здрада ўсяму таму, чаму іх вучылі бацькі, настаўнікі, выкладчыкі ўніверсітэта, зрэшты, тое асяроддзе, у якім жылі… Калі табе ўсяго толькі дваццаць, як хочацца жыць… А тады гэта была адзіная магчымасць застацца жывым… Але, будучы ў паліцыі, Аляксей верыў, што дойдуць нашы сумленныя салдаты да Германіі, дойдуць і перамагуць. Ён як мог спрабаваў пазбегнуць удзелу ў карніцкіх аперацыях: у людзей не страляў, не выцягваў дзяцей, што хаваліся, з падпечкаў… Не выдаваў маці, якія імкнуліся засланіць сабой гэтых самых малеч. Калі паліцаі ездзілі па вёсках, збіраючы моладзь для працы ў Германіі, не ведаючы, чым памагчы няшчасным, стараўся нават папярэдзіць каго незаўважанага, каб хаваўся…

Як наступалі нашы, гарнізон разбегся, і ён сам прыйшоў з павіннай, бо не мог і не хацеў хавацца ад людзей — судзіце!

Аляксея судзілі. Ён ва ўсім, што было з ім, прызнаўся. Атрымаў пяць гадоў пакарання. Адбываў яго на Поўначы. З амністыяй, за прыкладныя паводзіны і добрую працу яму скарацілі тэрмін.

І вось зараз ён вяртаецца дамоў. Навошта? Магчыма, трэба было заставацца там, некаторыя з былых паплечнікаў па высылцы гэтак і рабілі. А хто пабайчэй, нават жаніліся на мясцовых дзяўчат і заставаліся працаваць там. Некаторыя выбіралі Сібір, ехалі ў іншыя далёкія, чужыя мясціны, дзе ніхто не ведаў пра іх мінулае. Але ж у каго хопіць сілы ўсё жыццё ўтойваць аднойчы здзейснены ганебны ўчынак, які называецца здрадай? Ды і ці можна яго выправіць, калі ўжо так здарылася… Хіба што толькі цаной самога жыцця…

Ён хацеў пабачыць маці і бацьку, хоць і разумеў, што цёплы прыём яго наўрад ці чакае. Усе тры гады на Поўначы ён марыў дакрануцца рукой да бярозак, што садзіў разам з Валодзем на падворку, пайсці па баравікі, папіць самай лепшай у свеце вады з роднай крыніцы...

А потым — калі бацькі не прымуць яго, не зразумеюць, не даруюць — магчыма, ён таксама паедзе у белы свет, шукаць — не, не шчасця, хаця б спакою, каб хоць як прыглушыць пачуццё віны…

*1947 г.*

Няўжо нарэшце яна амаль дома?..

Дуся пераклала дачушку з рукі на руку і запаволіла крок. Зараз, праз хвіліну за пагоркам будзе вёска. А адтуль рукой падаць і да яе роднага хутара. Якімі цяжкімі здаюцца гэтыя апошнія крокі. І колькі ж гэта ішла яна дамоў... Два тыдні? Не, амаль пяць гадоў. Што чакае яе на парозе бацькоўскай хаты? Маці — тая, вядома, паплача, але сцішыцца і даруе. Бацька таксама прыме дзіця, не такі ў яго характар, каб адвярнуцца ад малой.

Не бачыла Дуся за сабой віны, не адчувала! Але хто ведае, ці павераць ёй родныя… І нават калі і так, прымуць яе з дзіцём, па вёсцы ўсё роўна пойдуць плёткі, што прыехала з Нямеччыны ўдовая кабета з немаўлём на руках. Але чаго пасля вызвалення адразу дадому не вярталася, чаго чакала?

У пачатку вясковай вуліцы стаяла дзяўчына з пустымі вёдрамі. Калодзеж быў на другім баку, і тая чакала, пакуль Дуся пройдзе, мабыць, не хацела пераходзіць ёй дарогу. Але лепей было б, каб дзяўчына, наадварот, набрала вады

ды вярталася назад, гэта было б добрай прыкметай. Дык гэта ж… Падышоўшы бліжэй, яна пазнала Кацю.

— Ну, здарова табе, сястрычка.

Каця не адразу зразумела, хто гэта звяртаецца да яе з такім незвычайным прывітаннем. Угледзелася — і ледзьве не войкнула.

— Дуся, ці ж гэта ты?!

— А што, непадобная? — Дуся, быцца праз сілу, усміхнулася ў адказ.

— Ну… — Каця не ведала, як гэта падалікатней адказаць. — Схуднелая ты надта…

— У хату запросіш? — спытала Дуся. — Марту пакарміць трэба, на спякоце самлела дзіцятка.

— Канешне, заходзь! — схамянулася Каця, міжволі чырванеючы, быццам гэта яе дачку трымала на руках сястра. — Толькі, як бачыш, хаты пакуль няма… Зямлянкі яшчэ ў нас. Ну, то хадзем і праўда, раскажаш, што ў цябе і як… — Дзяўчына зноўку запнулася. Як-ніяк, Дуся з-за яе аказалася і ў Германіі, і вось, вяртаецца з дачкой…

— Не вінавацься, Каця. Тваёй віны няма, — зразумеўшы, пра што падумала сястра, супакоіла яе Дуся. — Тата ўсё правільна тады вырашыў. Цябе нельга было пускаць у Германію.

— Страшна там было? — ускінула на яе спалоханыя вочы Каця.

— Але, спачатку і страшна было, мы ж не ведалі, куды нас — ці то ў лес паблізу, ды там і расстраляюць, ці на пацеху да генералаў іхніх, ці ў лагеры тыя… канцэнтрацыйныя.

— Дык дзе ж ты была? — апынуўшыся ў зямлянцы, Каця нібы крыху паспакайнела, дастала чугунок з бульбай, пачала расстаўляць на стале міскі, наліла ў іх вараную капусту.

— Працавала спачатку на ферме — так у іх называюць нашыя гаспадаркі. Там нас было некалькі дзяўчат. Гаспадар не надта благі быў, ферма на дваіх з жонкай. Сын у першую сусветную загінуў, нявестка зноў замуж выйшла, унукаў не было. Ну, то яны да нас нядрэнна ставіліся.

Каця недаверліва глянула на сястру, і Дуся, заўважыўшы яе позірк, запэўніла:

— Так, людзі ўсюды аднолькавыя, і сярод немцаў таксама спагадлівыя сустракаюцца.

— Ну… мусіць, — Каця раптам успомніла старога немца, што заходзіў да іх у хату, калі яны з Пецем не паспелі схавацца ў лесе, як чарговы раз наляцелі гітлераўцы.

— А потым дзед памёр… шкада нават крыху было, ведаеш, — уздыхнула Дуся, — і нас на завод адправілі. Там выраблялі ёлачныя цацкі.

— Што? — не ўцяміла Каця. — Нашто ім у вайну тыя цацкі?

— Гэта тут вайна была, у нас. А яны жыццю радаваліся… Мы вось адны Каляды сустракалі яшчэ ў гаспадара — усё як мае быць. Служба вячэрняя ў царкве — кірха па-іхняму, вячэра з рознымі стравамі. Ды і ёлка, дарэчы: хоць нашы гаспадары былі старыя, а гірляндаў па ўсёй хаце панавешвалі, ліхтарыкі align рознакаляровыя — я такіх ніколі раней і не бачыла.

— А потым? А… дачка ў цябе адкуль? — спытала Каця, сароменючыся.

— Адкуль-адкуль… адкуль дзеці і бываюць. Ад кахання, — сумнавата ўсміхнулася Дуся. — Ды не, не ад немца, ад нашага.

— А дзе ж ён падзеўся? Чаму ты адна прыехала? І толькі зараз?

— Таму і прыехала, што няма яго болей, — Дусін твар стаў суровым, зніякавеў. Яна падалася намнога старэйшай, чым была. Колькі ж гэта ёй, паду-

мала Каця, ужо, мусіць, за трыццаць. У такім узросце і праўда варта пра дзіця думаць. Ды дзе цяпер дзеўкам іх пакалення жаніхоў знайсці… Колькі іх загінула… А хто вярнуўся, дык і не ўсе з рукамі-нагамі, шмат скалечаных. Вунь і Валодзя вярнуўся паранены, колькі тых аперацый яму зрабілі, але былой прыгажосці не вярнулі. Аднак Маруся з радасцю замуж за яго пайшла, можа, па каханні, а можа, таму што ведала, што ніхто іншы яе наўрад ці возьме...

А сама Каця… Не, лепей пра Колю не думаць, усё роўна былога не вернеш, і яна зрабіла правільна. Зараз трэба з сястрой пагаманіць, яе паслухаць, ды і пра ўсе навіны расказаць. Дуся ж, мабыць, не ведае, ні пра Валодзю, ні пра Алёшу, ні пра маці… А потым ужо і сваю рану можна развярэдзіць, у думках спыніла сама сябе Кацярына. А Дуся быццам і не заўважыла цішыні, што раптам запанавала вакол, глядзела некуды невідушчымі вачыма, у якіх нават не было і слязінкі. Але здавалася, што ў яе цёмна-сініх вачах так і застыла нешта цяжкое, цёмнае, хваравітае. І ў каго, у бацьку ці маці, у яе такія вочы, са здзіўленнем падумала Каця, раней быццам былі не такія. Ды ўся яна зараз нейкая іншая стала. Ці то дзіця змяніла яе так, ці што іншае. Мабыць, шмат гора перажыла сястра на чужыне.

— Ён быў лейтэнант, — нарэшце сказала Дуся. — Калі гарадок, у якім мы былі, вызвалялі, іхняя часць далей не пайшла, там засталася. Было гэта ўжо напярэдадні Перамогі, нас амаль да сярэдзіны Германіі загналі, — крыху памаўчала і працягвала яна далей. — Ён мяне адразу ўпадабаў. Ды і я… Ён прыгожы… І разумны. Да вайны паспеў скончыць у Разані вайсковае вучылішча — ён і родам адтуль. Вучоны. З сабой усюды кніжкі вазіў, з яго салдаты нават смяяліся. Я там у яго столькі кніг перачытала — і ўсе пра жыццё…

Яна зноў замаўчала, нібы збіраючыся з сіламі, ці, наадварот, надта паглыбілася ў мінулае, забыўшыся, здаецца, і на Кацю, і нават на дачушку. Маўчала і Каця, дзіця па-ранейшаму спала.

— Яго пасля Перамогі пакінулі там служыць, спачатку — у тым жа гарадку, а потым перавялі ў Дрэздэн — гэта вялікі горад, можа, як наш Мінск будзе, а то і болей. І я паехала следам за ім. Я ўжо тады цяжарная была. А распісваць нас не хацелі, бо ў мяне на руках не было аніякіх дакументаў. Ды і ўвогуле… — раптам сказала Дуся.

— А чаму Мартай назвалі? Гэта ж быццам нямецкае імя, — ціхенька мовіла Каця.

— Так яго маці хацела. У яе нехта з продкаў быў ці то з Прусіі, ці то з Эстоніі, мабыць, з абруселых немцаў. Таму яна з дзяцінства ведала нямецкую мову і вучыцца пайшла на настаўніцу. Праўда, скрывала, што з немцаў, баялася. Ну, вось, маці на настаўніцу вывучылася, яшчэ да рэвалюцыі, у гімназіі, пэўна. А бацька ў яго быў чэкіст. І ў трыццаць сёмым яго забралі. І маці забралі. А ён, мой Міця, на тую пару ўжо ў вучылішчы быў, і вучыўся выдатна, таму яго і абмінулі. Але па службе не давалі расці. Ён ужо мог і маёра атрымаць — а нават капітана не давалі.

Ну, дык вось, ягоная маці марыла калісьці пра дзяўчынку, дачку. Хацела, калі будзе, каб абавязкова Мартай назвалі, чаму — не ведаю.

І таму, калі ў нас дачка нарадзілася, мы і вырашылі назваць Мартай. Маці парадавалася б… Дзе яна, маці, невядома. Бацьку, дакладна ведалі, расстралялі, а яна знікла нібы без следу… Ці жывая… Мусіць, не…

Ты не думай, — паглядзела на Кацю сястра, — ён на сябе Марту запісаў. У яе і імя па бацьку ягонае, і прозвішча. Яна — Юнькова. Юнькова Марта Дзмітрыеўна. У мяне і метрыка ёсць. Паказаць?

— Навошта? — паціснула плячыма Каця. — Думаеш, я табе не веру?

— Ты-то, можа, і верыш… А вось іншыя…

— А ты пра іншых не думай, Дуся. Ім да твайго жыцця справа невялікая, сёння папляткараць, назаўтра забудуцца, новы хто знойдзецца на іх языкі. Ты сваім розумам жыві...

— Твая праўда… — пагадзілася з Кацяй Дуся і падумала: мабыць, не такая ўжо яна маладая ды някемлівая, мая малодшая сястрычка, калі так кажа. Атрымліваецца, што менавіта з-за Каці Дусін лёс склаўся так, як склаўся. Знешне не надта зайздросны лёс. Але яе, Дусін… Іншага ёй і не трэба. І нават калі б можна было яго перайначыць, мяняць яна нічога не стала б. І Марту нікому не аддала б, і Міцю яна любіць, любіць, нягледзячы ні на што, і дачакаецца яго. Раз ён сказаў, калі іх разлучалі, што знойдзе яе і дачушку, то абавязкова знойдзе, колькі б часу ні прайшло. Вайны ж няма болей, а ўсё астатняе перамелецца неяк…

Каця болей нічога не пыталася, а Дуся працягвала расказваць нібы сама сабе.

— А потым, яму ўжо толькі крышку заставалася даслужыць, мы думалі, скончыцца яго тэрмін там, будзем вяртацца на радзіму. І раптам арыштавалі яго сябра. Не ведаю нават за што. Можа, за якія лішнія размовы, не з тымі людзьмі, з кім варта было. А Міцю, значыць, — за кампанію.

— А чаму ж ты не пісала нічога? Цётка тут… — Каця змоўкла.

— Я пісала, дадому пісала. Мне адказаў не было. Іншым, ведаеш, дык назад лісты прыходзілі: не дайшло да адрасата, а мне — увогуле нічога… І што думаць, не ведала. Ну, расказвай цяпер ты. Як вы перабылі? Дзе твой Пеця? Як мама з татам? Дзе Валодзя? Алёша? — спытала, выгаварыўшы сваё, Дуся. Цяпер ёй вельмі ж хацелася хутчэй даведацца, што было тут, дома, пакуль так пакручаста і незразумела віхурыўся яе ўласны лёс за тысячы кіламетраў ад родных мясцін.

— Пеця… Пеця дома. Ну, зараз недзе, мусіць, на рэчцы, а так — дома, пры мне. Яго параніла ў вайну, кульгае на адну нагу, але дзякуй богу, што хоць без палкі ходзіць.

— Бедны хлопчык! А нашы, нашы як?

— Валодзю таксама параніла, твар папсавала.

— Моцна?! — жахнулася Дуся.

— Бачна. Колькі ён ужо ў тых шпіталях наляжаўся… Жаніўся ён, праўда, на сваёй Марусі. Зараз у Мінску яны, дзядзька Андрэй казаў, ён служыць, але не лятае болей. Перажывае за тое моцна...

— Ну, а Алёша?

— Алёша, во, нядаўна, якраз перад табой зноў прыязджаў. Але не надта ў яго з бацькам заладзілася.

— Чаму?

— Я сама добра не ведаю, чаму, але дзядзька за нешта моцна на яго сярдуе. Ну, дадому прыйдзеш, ён сам табе раскажа. — І, нарэшце, збіраючыся з думкамі, Каця нібы выціснула з сябе. — Дуся, цёця Алена памерла.

— Як… Як памерла?!.— не ўцяміла адразу сястра. — Мама? Памерла? Ды ты што?! Не можа быць! Не можа… Мама…

— Яна цябе вельмі чакала. Ад цябе ж нічога не было. Мы не ведалі, што і думаць, — Каця змаўчала пра тое, як па начах малілася сама, толькі б сястра вярнулася дамоў. Ёй, як і раней, было сорамна і перад Дусей, і перад цёткай, якая, здавалася, так і не даравала ёй, што прыйшлося выправіць у Германію дачку замест пляменніцы.

— А тут яшчэ ў Валодзі такое… І Лёша з бацькам сварыліся. Вось яна і згасла…

— Даўно? — ледзь стрымліваючы слёзы, спытала Дуся.

— Па восені, пасля Пакрова.

Па восені… Мартачка толькі нарадзілася. А зараз чэрвень…

Мамы няма… Мамы, на падтрымку якой яна так спадзявалася. Няма мамы... Мамы няма... Як гэта — няма мамы?.. Дуся механічна паўтарала гэтыя словы, якія быццам страцілі сэнс, і так і не магла прымусіць сябе да канца ўразумець іх.

Калі з’явіўся Міця, Дусіна жыццё перайначылася і быццам нанова адкрылася. І яна неяк адышла ад успамінаў пра бацькоўскі дом, яны ўжо не адзываліся ў ёй тым нясцерпным, амаль фізічным болем, як напачатку.

А цяпер, калі што ў яе і засталося, — гэта бацькоўскі дом… А мамы болей няма…

Тым часам нарэшце прачнулася і заплакала Марта. І Дуся нібы спахапілася: «У мяне няма больш мамы. Цяпер у мяне ёсць Марта. Нібы замест…»

…Каця правяла сястру за ваколіцу і нават яшчэ крыху прайшла з ёй далей, несучы на руках Мартачку, і калі Дуся спрабавала забраць дачушку, казала:

— Яшчэ наносішся, а мне папесціць пляменніцу хочацца.

Пацавалаўшы на развітанне і малую, і стрыечную сястру, памахаўшы і паглядзеўшы ім услед, пакуль Дусіна постаць не схавалася ў светлым бярозавым лесе, Каця нечакана для сябе павярнула не назад, а на бакавую дарожку, што вяла да могілак.

Чаму ёй захацелася менавіта зараз пасядзець каля бацькоўскіх магіл, яна і сама не ведала. Была ж тут не надта даўно, на Радаўніцу, і прыбраныя магілкі іхнія, на крыжыках новыя ручнікі, і тады, здаеццца, нагаварылася ў думках з імі…

Каця зайшла на могілкі, спынілася каля бацькавай і мамінай магілак — яны побач. Дзіва, але на іх неяк самі па сабе прыжыліся і першацвет, і нейкія дробненькія невядомыя блакітненькія, падобныя на маленькія вочкі, кветачкі. Нават суніцы праклюнуліся. Затое на бабулінай магіле нічога не расло, хаця Каця ўжо не аднойчы і дзёрнам абкладала, і спрабавала перасаджваць з гарода кветачкі. І магіла ўжо не надта свежая, а не хочуць расці…

Сем гадоў прайшло, як бабулі нестала. З іх амаль палова, лічы, выпала на вайну. Адразу пасля бабулінай смерці было цяжка, страшна, нязвыкла: яны з Пецем нават баяліся начаваць удваіх, клаліся на адзін ложак, тады было хоць крыху ўтульней і не так страшна. А ў вайну ўжо не да дзіцячых жахаў было…

Каця амаль не помніла тату: так, нейкія два-тры асобныя моманты, калі ён быў з імі — здаецца, ласкавы... Ды і мама засталася ў памяці болей сваімі светлымі шкадаваннямі іх, дзяцей, чым нейкімі дзеяннямі. А ўсё, чаму Каця паспела навучыцца за сваё хуткае дзяцінства і кароценькае юнацтва, дала ёй бабуля. І дзяўчына, перш чым што зрабіць, спачатку думала: ці пагадзілася б з ёй бабуля, ці адобрыла б… Часам — нават смешна камусьці прызнавацца — Каця ў думках прасіла, каб бабуля саснілася ды штосьці падказала, параіла… І зараз яна падумала, што бабуля ўхваліла б яе: Дуся і яе дачушка — наша родная кроў…

Яна не стала распавядаць Дусі пра сваё жыццё-быццё: што казаць, калі ўсё навідавоку. Трэба ставіць новую хату, а на гэта трэба грошы. Пеця няхай, можа, яшчэ з годзік пабудзе дома, а потым, пэўна, прыйдзецца ісці да стар-

шыні, прасіць, каб знайшлі яму якую работу, бо яна адна далей не здолее ўсё цягнуць на сабе. Ды і што б Дуся ёй сказала, калі б Каця паскардзілася, як ёй нялёгка?.. Сястра і так нібы агаломшаная звесткай пра маці, ёй сваіх перажыванняў хапае. Таксама ж нялёгкая доля...

А Каці — што ўжо цяпер казаць... Калі што і было, дык сплыло. Назад не вернеш, ды і навошта? Усё роўна інакш яна не зрабіла б. І калі хто не разумее — ці варта апраўдвацца?

Вось і ён… Не захацеў нават зразумець яе...

Летась прыехала ў вёску брыгада салдат — дапамагаць калгаснікам аднаўляць ферму, ды і іншыя калгасныя пабудовы даводзіць да ладу. Амаль паўгода, з мая па верасень, кватаравалі салдаты па мясцовых хатах. Захар Васільевіч, старшыня, нават да яе, Каці, хацеў накіраваць кагосьці, маўляў, знойдзецца жаніх табе, дзеўка. Але яна жартаў не прыняла, адмовілася: як гэта адзінокая дзяўчына пусціць начаваць да сябе няхай нават і сталага мужчыну? (Былі сярод іхняга салдацкага начальства і такія.) Гэта ж сораму на ўсю вёску не абярэшся!.. Міжволі Каціны думкі вярнуліся да Дусі. Адчайная яна ўсё-такі! Каця б так ніколі не змагла, напэўна. Хаця Дуся ўжо і да вайны замужам паспела пабыць. Але ўсё роўна. Як яе там дзядзька Андрэй сустрэне? Шкада Мартачку — ці ж яна ў чым вінаватая?.. Такая добрая дзяўчынка, і спакойная, і прыгожанькая… Добра, мусіць, мець дзіця ад таго, каго кахаеш. Няхай і яго побач няма — а вось яна, нітачка, што звязвае. Дасць бог, і праўда прыедзе, знойдзе яе тата-Міця, абавязкова адшукае Дусю з дачушкай…

А вось яна, Каця, нікому непатрэбная. Хаця было, падалося ёй на імгненне нешта іншае — патрэбная… Але менавіта падалося, ды толькі…

Быў сярод салдат Коля... Высокі, статны, прыгожы. І праца ў яго любая ў руках гарэла, за што ні возьмецца. І на танцах Коля быў першым. Заляцаўся ён да Каці. А яна спачатку яго старанілася. Цёткі-суседкі казалі ёй: «Каця, не гняві Бога, не цурайся хлопца, ён жа з цябе вачэй не зводзіць». Наконт «вачэй» Каця не ведала, сама на яго надта часта пазіраць саромелася, але што часта запрашаў яе танцаваць, часцей, чым каго з дзяўчат, і праводзіў толькі яе адну — што было, тое было.

І праводзіў яе Коля, і ля веснічак абдымаў, і стаяць гатовы быў хоць да раніцы, пакуль яна сама не спахопіцца: колькі ж можна, суседзі ўсе вочы праглядзяць з-за вакон, ды потым будуць пляткарыць — а ёй з імі жыць…

Ды ён зваў яе жыць з сабою. У сваю Украіну, адкуль быў родам. Маўляў, калі Каця з ім паедзе, ён для яе — і дом, і — у дом, і дзеткі ў іх будуць, як кветкі, і кахаць будзе адну яе назаўсёды.

Можа, так яно і было б, але не магла яна кінуць Пецю. Ну, яму ж толькі — шаснаццаць гадоў! І нага яшчэ… Ладна б, здаровы быў, можа, яна б яшчэ падумала, павагалася. А так… І нікога няма ў іх з Пецем больш. Хто за ім стане глядзець, акрамя яе? Зноў да дзядзькі Андрэя бегчы прасіць? Каця і так баялася лішні раз сустракацца з цёткай Аленай, хаця і яна неаднойчы ў тое лета казала: «Каця, дзяўчынка, няхай ужо хоць у цябе ўсё наладзіцца… Пайшлі б у сельсавет, распісаліся б, ды і жывіце на здароўе, ды хай Бог вам дзетак дае…»

А Коля не хацеў пасля службы ехаць сюды. Яго таксама зразумець можна: бацька загінуў на фронце недзе пад Курскам, дома адна маці ды дзве малодшыя сястрычкі. Пакрыўдзілася Каця, хоць і не паказвала. Але хто яна яму?.. У яго маці, сёстры, пра іх трэба думаць-хвалявацца. А ёй пра Пецю… Ды ў яе і няма болей нікога ў цэлым свеце, куды яна паехала б?.. А з сабой забраць брата Коля не прапаноўваў. Не, брата яна ніколі, ні за што не пакіне…

У думках пагаварыўшы з бабуляй, якая, канешне, каб была жывая, сказала б, што так і трэба было паступіць, Каця паднялася з прымагільнай лавачкі. Мінала магілы бацькоў, суседзяў, аднавяскоўцаў і думала, што ў кожнага свой лёс. І ў яе таксама.

Але ад гэтага лягчэй на сэрцы чамусьці не станавілася.

*1952 г.*

Пад вечар Каця так стамілася, што не магла ўжо даць скаціне рады, і карову даіць пайшоў Пеця. Паставіўшы ў калідоры бідон з сырадоем, моўчкі некуды знік. Ну, то і добра, няхай таксама падумае, паразважае над сваім лёсам — як-ніяк, лічы, апошні халасцяцкі вечар у хлопца.

А ў яе — апошні вечар, калі яна гаспадыняй у хаце. Але пакуль яшчэ заўтра-паслязаўтра будзе ладзіцца вяселле, канешне, яна будзе тут, пры кухні. А наступнай раніцай устане новая гаспадыня і пачне наводзіць свае парадкі.

Каця яшчэ раз у думках перабрала, ці не забылася яна што зрабіць напярэдадні свята. Не, не забылася… Гарэлка схаваная ў падполі, там жа — і палядвіца, ды і ўсё, што трэба для вяселля. А яно ладнае будзе, толькі са свайго боку — амаль пад трыццаць чалавек. Дзядзька Андрэй, Валодзя з жонкай, Дуся з Міцяй, з іх дачушкай. Міця акурат у час вярнуўся, нібы знарок пад вяселле прыладжваўся... І колькі ж гэта ўжо гадоў прайшло, як вярнулася Дуся? Шэсць ці, можа, сем, столькі ж гадоў, як Марту людзі перахрысцілі на мясцовы лад, у Марусю: ім так зручней — і палюбілі ўсе, прынялі да сябе. На наступны год дзяўчынка ўжо ў школку пойдзе. То і добра, якраз у пару прыехаў яе татка Міця, Дуся ўжо, мусіць, і чакаць перастала, а ён знайшоў-такі яе з дачкой. Значыць, кахаў па-сапраўднаму, калі праз столькі гадоў не забыўся і на жонку сваю нявенчаную, і на дзіця сваё гаротнае.

Як там яны з дзедам зараз паразумеліся, Каця не ведала, але што дзядзька Андрэй спачатку не надта хораша ставіўся да дачкі, было ясней яснага. Не аднойчы Дуся прыходзіла ў вёску з цвёрдым намерам прасіць старшыню, каб дазволіў ды дапамог збудаваць ёй тут хоць якую хацёнку. А той адно, уздыхне: з бацькам паразумецца трэба… Пасядзіць-пабядуе Дуся, ды назад: сябе шкада, а бацьку яшчэ больш жаласней, куды ён без іх адзін, у лесе, стары ўжо, нямоглы…

Зараз Міця ўсіх іх бліжэй да людзей і перацягне, будуць жыць разам, і Маруся будзе з вясковымі дзеткамі хадзіць тут у школу. Як бы яна з хутара дабіралася сюды? Хіба што жыла б у іх з Пецем, а на выхадныя маці забірала б. Ды куды ж яе да сябе возьмеш, калі Каці і самой, можа, хутка не будзе месца ў роднай хаце…

Хаця Аня неблагая дзяўчына. Са шматдзетнай сям'і, яе бацька таксама рана памёр. Да працы дзеўка прывучаная, старэйшая ў сям'і, за ёй — яшчэ пяцёра. І да Пеці, здаецца, няблага адносіцца. Але Кацю не пакідала думка, колькі яна ні старалася адагнаць яе ад сябе, што, можа, не ў апошнюю чаргу Аня ідзе замуж таму, каб хутчэй пазбавіцца мацярынскай апекі ды стаць самастойнай. Няхай сабе Каця пакуль тут і гаспадыня, галоўная ў доме, але ж яна — без мужа, Пецева сястра. А сястра, вядома ж, не жонка…

Каця разумела, што сорамна так думаць, але ж чамусьці думалася. Таму яна і маўчала да часу. Зараз жа, перад Пецевым вяселлем зноў вярнулася ў думках да таго, што не давала спакою, вярэдзіла душу.

Каця прысела на лавачцы ў двары перад хатай. Быў надвячорак, ціха навокал. Зноў задумалася, як быць… Ат, яна даўно ўжо ўсё для сябе вырашыла,

што заставацца ёй тут няма сэнсу. Няхай Пеця шчасліва жыве тут з жонкай, яна ўсё, што магла, для яго зрабіла. Хату някепскую справілі — з чыстымі пакоямі, з сапраўднай падлогай, з печчу — як мае быць, на дзве паловы. Карова ёсць, а свіней маладыя самі завядуць: апошняга парсюка асвежавалі якраз дзеля вяселля. Ну, і грошай, колькі Каця справіла, усе ім пакіне. Сабе возьме толькі на першы час, каб пражыць, пакуль уладкуецца ў горадзе. Працу яна сабе знойдзе. Хіба мала заводаў ды фабрык? Пойдзе ў які цэх, ці ж яе не возьмуць?.. Ды ці мала працы ў горадзе…

Вось Валодзя прыедзе, з ім перагаворыць, раптам ён дапаможа. А калі не, дык яна сама… Свет жа не без добрых людзей, і яна дзесьці спатрэбіцца, дзяўчына… Але ўзрост такі, што даўно ўжо пара дзяцей мець, а яна — адна…

Каця ўспомніла Колю. Напісаў ён ёй пасля расстання некалькі лістоў, клікаў да сябе, яна адказвала, маўляў, а як жа брат… Пра брата ён нічога не казаў і неўзабаве перастаў пісаць увогуле… Дзе ён зараз? Мусіць, даўно ўжо ажаніўся, дзяцей гадуе. То хай, хай у яго ўсё будзе добра. А ёй ці давядзецца калі займець сям'ю…

Рыпнулі веснічкі, у двор зайшоў Пеця.

— Засумавала, сястрычка? — І быццам пажартаваў: — Таксама, як мая Аня, замуж хочаш?..

Каця паглядзела на шчаслівага брата, падумала, можа, дарэмна, яна так пра Аню думае. Можа, тая сапраўды любіць Пецю, і яна, сястра, у іхняй хаце, у сваім доме будзе не чужой ім?.. Хто ведае…

І Каця адказала бадзёра:

— Маё вяселле яшчэ наперадзе…



Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

# БЕЛАРУСКАЕ ВЯСЕЛЛЕ

* * *

Кружаць хутка каруселі,
Кружаць часу каруселі…
Вось і нам Бог даў вяселле,
Беларускае вяселле.

І жагнае сына маці,
Выпраўляючы ў дарогу,
Слёз не могучы стрымаці,
Воч з яго не зводзіць доўга…

І ў другой матулі вочы
Заблішчэлі, быццам зоркі,
Як мелодыя званочкаў
Стала чутна за пагоркам.

А дарожка, як падкова,
Гнецца — шчасця ўсім жадае.
І дружына жаніхова
Ў двор нявесты заязджае.

— Гэй, музыкі, грайце, грайце, —
Адпачынку не давайце
І гармоніку, і скрыпцы, —
Добры ўсім настрой стварайце!

---

***Валодзька Станіслаў Віктаравіч*** *нарадзіўся 11 лістапада 1956 года ў вёсцы Падольцы Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1987). Працаваў на чыгунцы. Цяпер жыве і працуе ў Даўгаўпілсе (Латвія).*

*Аўтар паэтычных кніг «У вачах Айчыны» (1996), «Памяці гаючая трава» (2000) і інш.*

*Узнагароджаны нагрудным знакам Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь «За ўклад у развіццё культуры Беларусі».*

* * *

Нібы ўспомнілі дзяцінства, —
Зноў у хованкі гуляюць:
Жаніху шукаць нявесту
Шаферы дапамагаюць.

Па суседніх хатах ходзяць,
Жарты, кпіны рассыпаюць.
— За насы нас доўга водзяць,
Ой, хітрухі!
І гукаюць:
— Вось знайшлі!

Яе ж сяброўкі
Шчодры выкуп вымагаюць,
Так сур'ёзна хмураць броўкі:
— Ў нас нявеста дарага-ая!

Быць скупымі — смеху варта!
І жаніх з нявестай разам

Да яе ідуць у хату
І сядаюць пад абразы.

* * *

Пасля тостаў-пажаданняў
Важны момант наступае:
Маладыя з хваляваннем
На льняны ручнік ступаюць,

І бацькоў благаславенне,
Як вялікі дар, прымаюць,
І, схіліўшыся ў паклоне,
Да іконкі прыпадаюць.

І вянчацца крочаць з хаты.
Маці следам паспявае, —
Зорна іх
свянцоным жытам
На парозе абсявае.

* * *

Маладыя ў Божым храме
Да алтара падыходзяць.
І гучыць аргана гранне, —
Ў сэрцах водгукі знаходзіць.

Ў іх руках жаўцеюць свечкі,
Не трашчаць, пылаюць ярка, —
Значыць будуць жыць у згодзе,
Абмінаць іх будуць сваркі.

І даюць адзін другому
Клятву вернасці да скону,
Ідучы адной дарогай,
Жыць па Боскаму закону.

* * *

Быццам крылы за плячамі,
Праз палі ляцяць да хаты
Маладыя муж і жонка —
Акальцованыя птахі.

І дружбанты са сватамі
Запяваюць дружна песню, —
Каб і сцюжнаю зімою
Абдымаў іх ветрык весні!

З-за дубравы ім насустрач
Выбег дожджык зухавата,
З ім — вясёлка.
Значыць будуць
Маладыя жыць багата.

* * *

Ім вяскоўцы каля вёскі
Перашкоду учыняюць:
Стужкай вогненна-чырвонай,
Як зара,
картэж спыняюць.

Сват падносіць, як вядзецца,
«Чэсным людзям» пачастунак,
А яны хлеб-соль — ад сэрца —
Маладым у падарунак.

Кажуць: «Хай каханне ваша
Будзе моцным і праз годы,
Каб магло пераадольваць
Так, як гэту, перашкоды!»

* * *

Вось выходзяць бацька з маці
На падворак сустракаць іх.
І, як вулей той, вяселле
Зноў гудзе-шуміць у хаце.

І прыгожая хвіліна,
Як жар-птушка, прыляцела:
Хросныя бацькі старанна
Каравай вясельны дзеляць:

— За павагу к нам такую
Караваем пачастуем,
Што для вас жаніх з нявестай
Узрасцілі з цілі-цеста!

Рады госці-ягамосці
Жарту добраму, — смяюцца,
І ў кішэнь па жарт не лезуць, —
У даўгу не застаюцца:

— Дарым вам па жмені бобу,
Каб жылі вы сытна, добра.

— Дарым вам па жмені грэчкі,
Каб баяліся вас спрэчкі.

— А мы дарым вам маркоўку,
Каб не траціў муж снароўку.

— Дарым вам качан капусты,
Каб было ў вас дзетак густа…

— Гэй, музыкі, грайце, грайце, —
Адпачынку не давайце
І цымбалам, і трашчоткам, —
Ўсіх да танцаў запрашайце!



**Ніна РЫБІК**

# ПЯЧЭНІК

*Апавяданне*

Дзень не заладзіўся з самага ранку.

Ноччу Сяргей дрэнна спаў: усё мроілася нейкае дурноцце. Прачынаўся, доўга варочаўся, стараўся ўспомніць, што ж снілася — і зноў правальваўся ў цяжкі ліпкі сон. Заснуў толькі пад раніцу. І, калі зазваніў будзільнік, нецярпліва націснуў кнопку — яшчэ хвіліначку…

Калі прахапіўся, да пачатку рабочага дня заставалася пятнаццаць хвілін. Ён спехам нацягнуў учарашнюю, пакамечаную кашулю, бо свежых і прасаваных не засталося — у думках паўшчуваў Наташу, жонку, якая надта ўжо ж забавілася ў вёсцы, магла б і пра мужа падумаць-паклапаціцца, а не толькі пра сваю мамачку… А яму тут усё самому: сняданак, абед, сарочкі чыстыя, шкарпэткі… Да маці яшчэ трэба ў бальніцу заскочыць, бо ўчора не меў часу, а яна тэлефанавала, нешта пільнае хацела сказаць.

На працу ён катастрафічна спазняўся.

«Нічога, кіраўнік не спазняецца, а затрымліваецца», — спрабаваў ён супакоіць сваё сумленне. Але яно супакойвацца не жадала: тут жа нагадала, што ўчора ён, наадварот, збіраўся прыйсці раней, каб падрыхтавацца да ранішняй нарады. «Перанясу планёрку — такой бяды», — на хаду прыдумаў выйсце.

Хоць разумеў, што бяда будзе, бо перанесці планёрку — гэта значыць на гадзіну затрымаць пачатак работы. А затрымаць на гадзіну рабочы дзень — гэта ўсё роўна, што пачаць працаваць пасля абеду. Значыць, можна і ўвогуле не пачынаць… І ад таго, што сам у гэтым вінаваты, і «наганяй» даваць няма каму, хіба што самому сабе, станавілася яшчэ больш прыкра.

Да ўсяго яшчэ і машына не завялася! Напэўна, сеў акумулятар — «чмыхаў» яшчэ ўчора. Сяргей роспачна глянуў на гадзіннік — падначаленыя, пэўна, ужо сабраліся ў зале пасяджэнняў… Пакуль ён знойдзе машыну, прыедзе, разбярэцца, што да чаго… «Спазніўся — дык не спяшайся», —

---

*__Рыбік Ніна Аляксееўна__ нарадзілася 16 студзеня 1962 года ў вёсцы Уласы Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці (пасля аварыі — у зоне адчужэння). Скончыла Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум (1980) і факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта (1990). Працавала ў Хойніцкай раённай газеце «Ленінскі сцяг». З 1989 года жыве ў Астраўцы, працуе ў рэдакцыі раённай газеты «Астравецкая праўда», з 1992 года — галоўным рэдактарам газеты.*

*Друкавалася ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», часопісах «Полымя», «Маладосць», у калектыўных зборніках. Выйшла дзве кнігі яе апавяданняў — «Права на адсяленне» (2001 год) і «Свае і чужыя» (2008 год).*

успомніў даўнюю матчыну прыказку, махнуў рукой і пазваніў па мабільніку сакратарцы.

— Света, народ ужо сабраўся?

— Так, Сяргей Іванавіч, усе ў зале пасяджэнняў.

— Скажы ім, што сёння планёркі не будзе. Хай займаюцца бягучымі справамі. Усё абмяркуем заўтра. Калі ў каго што тэрміновае, хай тэлефануюць на мабільны. Мне сёння трэба затрымацца.

Прынятае рашэнне прынесла нейкае заспакаенне. Ён прысеў на лаўку, закурыў. «Раз ужо ўсё роўна працоўны дзень пайшоў наперакасяк, трэба зайсці ў бальніцу, даведацца, чаму так тэрмінова хацела пабачыць яго матуля», — вырашыў Сяргей. Бо ўсё роўна ўвесь дзень будзе думаць, як яна сябе адчувае. Можа, горш чым учора. Але ж урач казаў, што аперацыя прайшла паспяхова і маці папраўляецца. Казаў, што праз тыдзень, калі ўсё будзе добра, яе выпішуць. Да таго часу, пэўна ж, вернуцца Наташа з Дзімкам, і матулю трэба будзе забіраць да сябе. Жонка, вядома, стане чмыхаць, але ён настоіць: маме патрэбен догляд, клопат і ўвага, і немагчыма яе ў гэткі час пакінуць адну ў вясковай хаце. Яна ж адразу ў свае грады пацягнецца, а то і ў лес: грыбы пайшлі…

Сяргей заскочыў у магазін, купіў фруктаў, соку, тварагу — хоць і злавіў сябе на думцы, што мама яго наўрад ці будзе есці: пасля таго, як давялося збыць яе сяброўку, карову Малышку, малочных прадуктаў амаль не ўжывала. Суседскія ёй не так пахлі, а тыя, што купляў у краме і прывозіў Сяргей, называла штучнымі, казала, што ў іх няма ніякага смаку.

Маці, здаецца, чакала яго: сядзела на ложку і глядзела на дзверы. Радасна ўсміхнулася, калі ён увайшоў у палату:

— Сынок…

— Мама, чаму ты не адпачываеш? — пацалаваўшы яе ў шчаку, стаў ушчуваць Сяргей. — Урач жа казаў: табе спакой трэба, ляжаць больш, спаць…

— Ды нешта не спіцца, — вінавата ўсміхнулася маці. — Я ў акно ўгледзела, што ты падыходзіш, вось і чакала…

— Мама, ты яшчэ і да акна падымалася? Ну як можна! Але ж і непаслухмяніца ты ў мяне!

— Ну, хоць буду зараз ведаць, у каго ты такім неслухам удаўся, — засмяялася матуля і патрапала яго рана пасівелы чуб — як некалі ў дзяцінстве, калі сын свавольнічаў. І неяк так шчымліва-цёпла стала на душы ў Сяргея ад гэтага дзіцячага ўспаміну-дотыку…

— Вось, гэта табе… — зглытнуўшы камяк, што засеў у горле, пачаў ён выкладваць на тумбачку прысмакі.

— Ды яшчэ і тое не з’ела, што ты ў мінулы раз прынёс, — замахала рукамі маці. — Не traць на мяне грошы, у мяне ўсяго хапае.

— Мама, я цябе прашу: калі ласка, еж, папраўляйся.

Суседкі, пацікаваўшы, што ж прынёс сын матулі, далікатна выйшлі з палаты, каб не перашкаджаць іх сямейнай размове. Сяргей тым часам абчысціў банан, стаў адламваць маленькія кавалачкі і класці маці ў рот.

— Ты ўжо зусім са мной, як з маленькай, — усміхалася яна, але паслухмяна ела.

— Чаму ты так рана сёння? — спытала маці, калі ён скарміў ёй увесь банан і выцер вусны папяровай сурвэткай. — Я думала, ты вечарам прыйдзеш, пасля работы.

— Ну ты ж гаварыла, што нешта хочаш мне сказаць. Дык я ўсю ноч заснуць не мог, усё думаў: што ж такое пільнае табе спатрэбілася… Можа, здарылася што, ці горш сябе адчуваць стала?

— Ды не, сынок. Мне ўжо лепш, хачу прасіцца дахаты.

— Па-першае, мама, ніякіх «прасіцца», — голасам, які не цярпіць пярэчанняў, загаварыў Сяргей. — Гэта бальніца, а не санаторый: калі ўрач вырашыць, што ты паправілася, тады і адпусціць. А па-другое, ты паедзеш не дахаты, а да мяне. Пакуль поўнасцю не паправішся, будзеш жыць з намі.

— Ну што ты кажаш такое, сынок? Вам самім у вашай двухпакаёўцы цесна, а ты яшчэ мяне, старую і хворую, прывезці туды збіраешся… Не, я лепш у сваю хатку…

— Мама, гэта не абмяркоўваецца! Табе патрэбен догляд, а хто цябе ў тваёй вёсцы будзе глядзець — перавязкі рабіць, есці варыць? Суседзі? Антаніна, дык яна ўжо і сама з хаты выйсці не можа. Ці вечна п’яны Лявон?

— Добра, добра, — прымірэнча пагладзіла яго па руцэ маці. — Пра гэта пазней пагаворым. Мяне ж не сёння выпісваюць і нават не заўтра. Я іншае табе, сынок, сказаць хацела… Папрасіць…

— Што, мама? — памкнуўся ён насустрач, гатовы выканаць любую яе просьбу.

— Сярожка, ты памятаеш, які заўтра дзень? — памаўчаўшы, асцярожна спытала маці.

— Серада, — недаўменна паціснуў плячыма Сяргей.

— Так, серада… Дванаццатага жніўня… — задуменна паўтарыла маці. — Крыху памаўчала і дадала, пільна паглядзеўшы сыну ў вочы: — Роўна пяць гадоў, як не стала твайго бацькі…

— І што? — твар у Сяргея скамянеў.

— На магілу трэба было б схадзіць, сынок, — у матчыным голасе загучалі ўмольныя ноткі. — І ў царкву…

Убачыўшы, як перасмыкнуўся яго твар, паспешліва дадала:

— Ну добра, у царкву я папрашу каго-небудзь іншага запіску памінальную падаць. А на могілкі табе, Сяргейка, трэба наведацца… — апошнія словы яна прамовіла цвёрда, як загад.

Сын, унурыўшы галаву, зацята маўчаў. Маці, не дачакаўшыся яго адказу, сама парушыла маўчанне, загаварыла крыху мякчэй:

— Сынок, які б ні быў, а ўсё ж бацька ён табе. Родная кроў. Ад бога грэх, ад людзей — сорам. Схадзі — няўжо табе так цяжка? Кветачку купі, пакладзі на магілку. І пячэніка якога ці цукерку занясі. Бацюшка забараняе, але ў нас так заўсёды рабілі. Ручнічок я яму свежы на крыж павязала, яшчэ перад тым, як у бальніцу выпраўлялася. Думала, што да гадавіны выпішуць, тады, можа б, не стала цябе абцяжарваць. Але ж во, бачыш — затрымалася… Дык ты схадзі, сынок, добра? Бацька ўсё ж…

У Сяргея ўсё клекатала ў грудзях. Калі б маці была не хворая, ён бы выказаў ёй усё, што думае пра яго, бацьку. А таксама, што яго рабочы дзень распісаны па хвілінах — а тут трэба выкраіць некалькі гадзін. Для чаго? Каб наведаць магілу чалавека, які лічыўся яго бацькам? Менавіта лічыўся — бо які ён бацька? Хіба што біялагічны…

Але ж маці хварэе, і спрачацца — прычыніць ёй лішні боль. Хапіла ёй і без таго…

— Добра, схаджу, — працадзіў праз зубы Сяргей і выскачыў з палаты.

«Пячэніка яму… Кветачку…» — злосна бурчэў ён сабе пад нос, спускаючыся па лесвіцы. «А ён, бацька, шмат купіў яму, сыну, тых пячэнікаў? Ці маці хоць адну кветку за жыццё падарыў? А яна, бач ты, усё даравала. Гадавіну смерці яго памятае мабыць лепей, чым свой дзень нараджэння. Забылася, як

пакутавалі мы ад нішчымніцы, як білася, нібы рыба аб лёд, каб мяне ў школу выправіць, каб пад'есці было што — сама надгаладзь хадзіла. Да яшчэ і працавала цяжка… А яму цяпер, бач ты яго, пячэнікі на магілу насіць трэба».

Чамусьці гэты пячэнік зачапіў яго больш за ўсё.

Успомнілася, як аднойчы маці вяла яго, малога, стомленага і галоднага, па гарадской вуліцы. Яны ў той дзень прыехалі праведаць бацьку, які п'яны ў чарговы раз з некім пабіўся, ці мо ўкраў нешта, і зноў сядзеў у каталажцы — тое здаралася часта. Маці несла ў сумцы бацьку сала, бліны, яйкі. Сярожу яна накарміла ранкам бульбай з малаком, сама, мусіць, паснедала варголай, добра, калі падсалоджанай. Час ужо браўся пад абед, і малому хацелася есці. Нос зваблiва казытаў пах свежых піражкоў, што прадавалі на рагу вуліцы, а таксама булак — іх пакупнікі выносілі з хлебнай крамы. На вочы, нібы знарок, трапляліся то хлапчукі і дзяўчынкі, якія са смакам упляталі марожанае, то бочка з водарным хлебным квасам...

— Мама, купі мне піражок, — папрасіў Сяргей.

Мама мацней сціснула яго руку і пацягнула далей ад спакуслівых пахаў.

— Мам, ну купі… — захныкаў ён. — Я есці хачу…

— Ты б лепш спытаўся, ці ёсць у мяне за што купіць той піражок, — раздражнёна тузанула яго маці: яна і сама хацела есці, і ў яе круціла пад лыжачкай ад водару тых піражкоў і булак.

Малы прыціх, зразумеўшы, што пакрыўдзіў маму. Але есці ўсё роўна хацелася. А ў вітрыне магазіна так прыгожа было выкладзена пячэнне ў яркіх пачках. «К чаю», — прачытаў Сярожа.

— Мамачка, можа, хоць на пячэніка нам хопіць грошай? Хоць на аднаго… — ціхенька спытаў малы, прыпыніўшыся ля вітрыны. — Ты мне так даўно нічога не купляла…

— Не, сынок, — ледзь стрымліваючы слёзы, пакруціла галавой маці і мацней сціснула худую дзіцячую ручку. — Не магу я табе купіць сёння пячэніка. Нават аднаго. Ты пацярпі, сыночак, хутка я палучку атрымаю, тады абавязкова куплю.

— А ты дастань тую дзясятку, што дома ў насоўку закруціла, — нагадаў Сярожа пра грошы, пра якія, ён лічыў, мама ўжо забылася. А за іх жа можна столькі піражкоў і пячэння купіць! І нават марожанага…

Мама села на лаўку, прыціснула да грудзей яго бялявую галоўку і расплакалася.

— Сыночак, родненькі, не рві ты мне душу! Ну няма ў мяне грошай — ні на пячэнік, ні на піражок. Нават на самы танны. А той дзясяткай нам трэба за бацьку штраф заплаціць. І яшчэ жыць да палучкі.

Сярожку стала шкада маму. Ён прытуліўся да яе, абняў:

— Ты не плач, мамачка. Я вырасту, зараблю грошай і куплю табе шмат пячэнікаў і піражкоў. І нават марожанага. І прыгожую сукенку. І туфлі. Ты толькі не плач…

…Цяжка было маці падымаць сына — Сяргей цяпер гэта добра разумеў. Бацька з'яўляўся ў хаце, толькі калі ў яго заканчваліся грошы. А як толькі яны з'ўляліся, то знікаў разам з імі. Часам замест яго прыходзілі сябрукі і патрабавалі маці вярнуць мужавы даўгі, ці міліцыянеры, якія прыносілі нейкія паперы, па якіх трэба было плаціць немалыя штрафы. Мама плакала, праклінала прапойцу, але плаціла. І зноў гарбацілася зранку да вечара — на працы, на агародзе, у людзей на сотках: палола, капала бульбу, жала жыта, рвала лён… Каб толькі зарабіць капейчыну, апрануць, абуць, накарміць сына, вывучыць — хлапчук рос разумным, здольным да навукі.

Неўзабаве бацька і зусім знік з іх сяла. Людзі, якія раней пасмейваліся з маладзіцы, сталі спачуваць: раней хоць які мужык быў, а цяпер што ж — адна засталася з дзіцем на руках… Нібы яна калі-небудзь жыла за мужам! Яны з маці, наадварот, уздыхнулі з палёгкай. Сярожа стараўся ва ўсім дапамагаць матулі: па гаспадарцы, у хаце. Падлеткам на лета ўладкоўваўся на працу ў калгас: на збожжатаку дапамагаў, а як падбольшаў, памочнікам на камбайн.

Пасля школы маці выпраўляла яго вучыцца — атэстат у хлопца быў добры. Ды на поўнае дзяржаўнае забеспячэнне бралі толькі ў ваенныя ды міліцэйскія вучылішчы, а людзі ў форме Сяргея палохалі з таго часу, як яны з маці ездзілі ў горад вызваляць бацьку з-за кратаў. А паступаць у інстытут, каб маці вучыла яго яшчэ пяць гадоў, ва ўсім сабе адмаўляючы, ён дазволіць сабе не мог. Таму на другі дзень пасля выпускнога пайшоў працаваць у калгас — правы вадзіцеля атрымаў яшчэ ў школе. Адслужыў у арміі, а пасля ўжо паступіў на завочнае аддзяленне інстытута. Вучыўся, працаваў, паціху рабіў кар’еру. Неўпрыкмет дарос да начальніка хай не вельмі вялікай, але досыць паспяховай арганізацыі. Сям’я, кватэра, дастатак — усё, як у людзей.

Сяргей мог бы лічыць сябе шчаслівым, каб не гэтая вось раптоўная хвароба маці, якая моцна выбівала яго з каляіны… Думка аб тым, што мамы можа не стаць, рабіла яго безабаронным, як дзіця: яму здавалася, што яго трымаюць у гэтым свеце толькі яе кволыя рукі, святло яе вачэй, добрая, крыху вінаватая усмешка…

Бацька зноў з’явіўся ў сяле гадоў сем назад. Прыблукаў невядома адкуль — аброслы, абарваны, моцна хворы.

— Не надумайся яго прыняць! — папярэджваў сын маці. — Успомні, як ён абыходзіўся з табой і з са мной. А зараз, як прыціснула, успомніў, што сям’я ў яго ёсць?! Хай там сям’ю шукае, дзе грошы свае прагульваў змоладу, а ты за яго штрафы ды даўгі выплачвала.

— Няможна так, сынок, — плакала маці. — Жывы ж чалавек… Бацька твой… Грэх…

Ён не мог зразумець гэтага яе ўсёдаравальніцтва. Злаваўся. Нават нейкі час не ездзіў у вёску — каб не глядзець на азызлы твар чалавека, які, нібы знарок, называў яго сынам, каб не бачыць, як даглядае гэтага вечнага дармаеда, як малое дзіця, маці. Матуля моцна перажывала, што ён не можа дараваць бацьку і ёй, трымае крыўду за яе ахвярніцкі клопат. І ўрэшце Сяргей, сціснуўшы зубы, зноў прыехаў да роднай сялібы. Бацьку стараўся не заўважаць, нібы той — пустое месца. Прывозіў маці прадукты — хоць і ведаў, што большасць іх яна скорміць гэтаму «пакутніку», рабіў, што трэба, у хаце — і хуценька вяртаўся ў горад. Маці бачыла, што ён злуецца. Цяжка ўздыхала, але маўчала…

Калі бацька памёр, Сяргей арганізаваў пахаванне як мае быць — з вянкамі і шчодрым памінальным сталом. Ну не маці ж гэтым займацца — у яе ўзросце ды з яе здароўем!

Сяргей лічыў, што на тым свой сыноўні абавязак перад чалавекам, які даў яму жыццё — і не больш таго, ён выканаў. Думаў, што і маці нарэшце супакоілася і хоць астатнія дні пражыве дзеля сябе. А ён паклапоціцца, каб у яе было ўсё самае лепшае! Як некалі ў дзяцінстве абяцаў… Хай хоць на старасці гадоў апранецца прыгожа, з’есць смачна, адпачне — заслужыла! А яна во што… Гадавіны яго смерці лічыць, у царкве памінае, магілку даглядае — ручнічок во яму свежы, барону такому! А цяпер яшчэ і да яго, сына, прыстала — адведаць трэба… «Нізавошта не пайду! — злосна думаў пра сябе Сяргей. — Не заслужыў ён ні памяці, ні пашаны!»

…Назаўтра каля вясковых могілак спынілася дарагая імпартная машына. Высокі мужчына ў дарагім касцюме і стыльным гальштуку дастаў з задняга сядзення букецік штучных кветак і нейкі пакет і рушыў углыб могілак. Спыніўся ля чорнага жалезнага крыжа, на якім трапятаўся на ветры нядаўна павязаны белы ручнік. З медальёна на мужчыну пазіраў усмешлівы твар, які ён амаль не помніў — не хацеў помніць.

— Ну што, бацька, добры дзень, — крануў крыж Сяргей.

Памаўчаў хвіліну, нібы разважаў, што рабіць далей. Затым утыркнуў у магільны грудок букет:

— Вось кветкі табе. Ад мамы. Ты ёй ніколі не дарыў — то зараз яна табе дорыць.

— І вось гэта яшчэ… — ён паклаў на магілу пачак пячэння «К чаю» ў такой самай яркай абгортцы, як некалі, з яго напаўгаладнага дзяцінства. — Ад мяне…

Мужчына прысеў на нізенькую скасабочаную лавачку ля крыжа, закурыў, памаўчаў.

— Вось, бацька, пры жыцці мы з табой ні разу не пагаварылі — не да таго табе неяк было, — ціхенька сказаў пасля доўгай паўзы. — А потым, як ты вярнуўся, ужо я не хацеў гаварыць — лічыў, што няма пра што. То давай хоць зараз пагаворым, га? Мама ж сцвярджае, што душа твая недзе там ёсць, на нябёсах ці, хутчэй за ўсё, у пекле — і ты мяне чуеш. Дык калі так — паслухай мяне. Раз у жыцці паслухай, што табе сын скажа…

Сяргей на хвіліну змоўк, а затым працягваў:

— Ведаеш, бацька, я сёння зноў усю ноч не спаў. З табой гаварыў. Расказваў табе свае крыўды дзіцячыя, пра гэты вось пячэнік, які мне ў дзяцінстве мама купіць не магла… А ранкам адчуў, што той дзіцячы боль знік некуды. І я зразумеў, што, па вялікім рахунку, павінен быць табе ўдзячны. За што, спытаешся? Дык за навуку, бацька! Ты не вучыў мяне калоць дровы, касіць сена, вудзіць рыбу, хадзіць за плугам — гэтаму жыццё вучыла ды нішчымніца нашая. Але і ты навучыў многаму — сёння ноччу я зразумеў, што самаму галоўнаму. Я так цябе ненавідзеў у дзяцінстве, што гатовы быў памерці — толькі б не стаць такім, як ты. Каб ніхто ніколі не сказаў мне ўслед: «Што вы хочаце — гэта ж сын п’яніцы». Каб не ты, я б, напэўна, не зведаў, якая гэта агіда — п’янка і, магчыма, таксама, як і іншыя, захацеў бы некалі паспытаць смак гарэлкі — за кампанію ці з цікавасці. Каб не ты, я б не ведаў як баліць, калі б’юць: кулаком, ці словам, ці пустым раўнадушным поглядам — усё роўна. Каб не ты, я б не даў слова сабе і маме, што ніколі не буду падобным на цябе. Я б, напэўна, не стаў караскацца з усіх сіл па гэтым жыцці, абламваючы пазногці, не зважаючы на сінякі і ўдары — без бацькоўскай падтрымкі, парады, добрага слова: добры бацька паклапаціўся б, каб у яго сына была лягчэйшая дарога. Я дасягнуў сваёй мэты — не стаў такім, як ты. І гэта — дзякуючы табе. Так што, бацька, дзякуй за навуку. І спі спакойна. Я табе ўсё дараваў…



Юрый САПАЖКОЎ

# НЕ СЫХОДЗЬ!

* * *

Ты ўчора ўночы пазваніла мне
Пад  цяжарам прынукі абяцання
І голасам напружаным сказала,
Што ты вяртаешся дамоў з вяселля,
Адказвала так сцісла, нерухома
На спробы, жалю вартыя, дапяць,
Чым скутасць змушана твая.
Паўшэптам ты ўсяго сказаць паспела:
Далей няёмка размаўляць,  бо даўні сябар
Навіс над тэлефонам-аўтаматам.
Напэўна, цёткай ты яму прадставіла мяне,
Што да цябе прыехала аднекуль.
А я ўявіў цябе ў сукенцы сіняй,
Амаль да пят, з разрэзам на баку,
Нагі маленькае чароўны астравок
Як пробліск рыбіны, што танчыць у вадзе.
Сягоння перад цягніком начным
Мы зазірнулі на маю кватэрку.
Ты прымярала новыя пакупкі —
Спаднічку, штроксы, кофтачку і капялюшык,
Што мусілі здзівіць Місхор.
Усё ў абліпачку сядзела на тваім
Такім прыгожым, да нахабства, целе,
Была шчаслівая ты просценькім абноўкам.
Так шчыра, міла і наіўна,
Так верыла ты люстраным адбіткам,
Дурэла, скокала, смяялася, нібы дзіця,
Што я забыў учорашнюю крыўду,
Наіўна і ласкава, акурат «браценік»,
У захапленні папраўляў я шлеечкі твае,
Што падалі з плячэй, на шчасце, часта,
Ты хітравата паглядала на мяне
І не тарашчыцца прасіла, а дапамагчы.

Мы на вакзал вярнуліся пасля
І з рэчамі мяне ты папрасіла пастаяць,
Сама ж пабегла «даць званочак» маме,
Якая непакоіцца й чакае.
Мяне тут быццам нешта штурханула
І я, нібы ачуўся, як учора,
Калі званком мяне падняла ты з пасцелі.
І мне страшэнна раптам закарцела падысці
Да той, што з мамай размаўляла ў захапленні,
Таксама з поўным правам сябра
Над тэлефонам тым без сораму навіснуць.
І я марудна паваloкся да фатальнай стрэчы
Ды жвавае тваё маўленне на вачах
Цвярдзела ў нерухомае маўчанне.
Чуваць было, як голасам мужчынскім
Пыталася са слухаўкі нервова мама:
— Што здарылася там з табою? Не маўчы!
«Мой сябра, — я падумаў, — вось цяпер мы квіты…
Хаця… усё ж табе зайздрошчу я:
Бо ты не цётка ёй, як я, ты — мама!»

## НЕ СЫХОДЗЬ!

***Па матывах Олдаса Хакслі***

Няма мінулага й таго, што будзе потым —
Ні ратавальных каранёў, ні тых пладоў, што спеюць.
Ёсць колеру прасцін той першацвет, што ўпотай
Пялёсткамі гадзін сплывае ў ночы цемру.
Пабудзь, застанься, не сыходзь, дай мне адолець
Хаду хвілін — падоўжыць ноч на міг ці болей:
На некалькі ўрачыстых і сляпых імгненняў,
Дзе крык і плач да месца болей, чым маўленне.
І дай агню каля агню астыць,
І водар твой, і тое ўсё забыць:
Што мы былі без сораму, цнатлівыя, як дзеці.
І хто на смерць асуджаны, той сам шукае смерці.
Ноч скончыцца, але, мой Божа, цуд ствары —
Не дай мне згінуць пад лязом зары.

## ПУНКТ НЕЗВАРОТУ

Сысці ад даўніх берагоў
Як некалі, беспаваротна…
Ва ўсіх бывалых маракоў
Паняцце ёсць — пункт незвароту.

Цяпер ужо ў апошні раз!
Узлёт, падзення горыч — што там,
Наперадзе? Так, кожны з нас
Пільнуе свой пункт незвароту.

Ты зараз мусіш вырашаць,
Што ісціна, што — не, не ўпотай.
Пачуць душу сваю, прыняць
Прад гэтым пунктам незвароту.

Калі назад ужо не смець,
Разняты час на да і потым
І штосьці гоніць, бы на смерць
Цябе за твой пункт незвароту.

## ПАЛЬЦЫ

Яе пабляднелыя ад зробленай памылкі пальцы
Точаныя, як апярэнне птушкі,
З дагледжанымі дзюбкамі пазногцікаў,
Што імгненне назад лянiва
Шукалі лічынкі літар,
Якія распаўзліся па клавіятуры,
Раптам ператварыліся ў дружных сквапных драпежніц —
Накінуліся на сапсаваны аркуш паперы,
І ў сметніцу паляцеў,
Ламаючы тонкія костачкі хрусткі камячок.
Нікчэмнае здарэнне, але ж як
Уразіла яно мяне! Як сціснулася і прыціхла
Душа, пачуўшы небяспеку…
Я месца цэлы дзень не мог сабе знайсці,
Прыйшоў дахаты і са сметніцы скамечаны дастаў
Я аркуш, спісаны наскрозь,
Выпростваў яго доўга, плакаў,
І суцішаў душу, як мог.

* * *

Думка прыйдзе ў галаву —
Бог за шкірку паднімае
Нас, нікчэмных, угару,
Бы шчанятаў. Ды бывае

(так здараецца часцей),
Думка тым паэту шкодзіць,
Што ці ў голаў не прыходзіць,
Ці ніяк з яе не йдзе.

* * *

У чым ёсць сэнс жыцця? Вучоных процьма,
Гіпотэзамі смелых і адважных,
(Што жонкам надакучылі, заўважым,
Не справаю мужчынскаю начной,
Вось гэта стала б вартым пахвалы, —
А геніяльнасцю сваёй),
Адказваюць на хітрыя пытанні
З разумнай галавой ды з сэрцам, быццам камень.
Той кешкаецца ў сховішчы ідэй
Грамадскіх, вудзіць іншы ў возеры самапазнання.
А мой знаёмы ўзяў на выхаванне
З убогага прытулку трох дзяцей.
Вось дзіўнае пытанне, ён смяецца.
Не доўга думаў ён, што адказаць:
«Нам для таго жыццё даецца,
Каб іншым без астатку аддаваць».

***Пераклад з рускай***
***Таццяны БУДОВІЧ-БАРАДУЛІ.***



Наталія КАСЦЮЧЭНКА

# ЧАС ЖНІВА І ЧАС ПАКАЯННЯ

*Аповесць у навелах*

## Не ствары куміра

«Не ствары сабе куміра», — сказана ў Бібліі.

І сапраўды, ці ёсць людзі, вартыя пакланення? А само пакланенне — ці не ад ілюзій яно?

Хоць здольнасць захапляцца — гэта таксама талент. Чэрствыя і цынічныя натуры захапляцца не ўмеюць. Стварыць куміра — значыць убачыць адметнае ў іншым чалавеку. І не проста ўбачыць, а адчуць гэта ўсёй сваёй істотай, зведаць нешта падобнае на «белую зайздрасць».

Дай божа, каб стасункі з кумірам прыносілі толькі карысць. Бо пачуцці да куміра заўсёды змяшчаюць у сабе закаханасць. А дзе закаханасць — там ёсць і абагаўленне. Абагаўляючы, можна спарадзіць ідала.

Аднак у любым выпадку майстэрства падабацца, падараванае прыродай ці напрацаванае ўпартымі намаганнямі, заслугоўвае павагі. Чалавек, здатны падабацца іншым, безумоўна, валодае ўяўнымі ці сапраўднымі вартасцямі, і ў яго ёсць шмат чаму павучыцца. Зносіны з ім могуць быць не толькі карыснымі, але і ўзрушваць душу, выклікаць асалоду.

У той жа час, калі задумацца, гэта асалода чымсьці нагадвае тую, дзеля якой мы ходзім у тэатр, слухаем музыку. Такім чынам, стаўленне да куміра заўсёды мае ў сваёй аснове нешта падобнае на карысць, бо гэтым стаўленнем мы «сілкуем» душу.

---

*Касцючэнка Наталія Мікалаеўна* нарадзілася 5 кастрычніка 1963 года ў вёсцы Старая Іолча Брагінскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла лесагаспадарчы факультэт Беларускага тэхналагічнага інстытута імя С. М. Кірава (1987). Працавала інжынерам-азеляняльнікам у Мінскзелянбудзе, дырэктарам прадпрыемства па фітадызайне і народных промыслах «Белы комін», дырэктарам вытворчага прадпрыемства «Квецень».

*З 2005 года працавала рэдактарам аддзела прозы часопіса «Нёман», вядучым рэдактарам аддзела кнігавыдання РВУ «Літаратура і Мастацтва». Цяпер — намеснік старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ.*

*Аўтар кніг прозы «Таямніцы пачуццяў» (2004), «Сугучнасць» (2004), «Добро и зло — две половинки любви» (2005), «Верба над омутом» (2011), «Водгукі маўчання» (2012).*

*Лаўрэат Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу «Лепшы твор 2011 года» за кнігу прозы «Верба над омутом».*

Магчыма, я памыляюся. Бо куміра мы любім.

Яна з’явілася ў маім жыцці, калі я была падлеткам. Пазнаёмілі нас нашы бабулі ў вясковай краме, калі мы стаялі ў чарзе па хлеб. Яна, гэтак жа як і я, прыязджала ў Прудавіцу на летнія канікулы.

Мая бабуля, злёгку падштурхоўваючы мяне ў спіну, бо я была надта ж нясмелая, падвяла мяне да дзяўчынкі, якая з недзіцячым спакоем ці нават з паблажлівасцю пазірала на іншых людзей, што былі ў краме. Яна стаяла побач са старой, якая быццам пад нейкім нябачным цяжарам нахілялася наперад і добразычліва глядзела ў наш бок.

— Добрага здароўечка табе, Улляна, — прывіталася мая бабуля.

— І ты будзь здаровая, Таечка, — у мутнаватых вачах старой прамільгнула ўсмешка.

Я адчула, што мая бабуля штосьці задумала.

— Да цябе, галубка, гляджу, унучка прыехала, — сказала яна і голасам, нібыта не словы вымаўляла, а намазвала мёд, звярнулася да незнаёмай дзяўчынкі: — Цудоўная якая, прыгожая! Як цябе зваць, донька?

— Ларысай, — стрымана і міла ўсміхнулася дзяўчынка і перавяла смелы і цікаўны позірк на мяне.

— Добрае імя, — пахваліла мая бабуля. — Значыцца, ты — Ларыска. А маю ўнучку зваць Наташкай. — Бабуля падцягнула мяне за руку бліжэй да дзяўчынкі. — Вы, гляджу, аднагодкі і абедзве гарадскія. Мы з тваёй бабуляй, — хіба не так, Улляна? — век сябравалі. Хай бы цяпер пасябравалі і нашыя ўнучкі.

Мне было няёмка за тое, што бабуля гэтак настойліва мяне знаёміла, і я нясмела, моўчкі пазірала на Ларысу. Тая ж не бянтэжылася, і ў яе вялікіх, з густымі светлымі вейкамі вачах былі спакой і паблажлівая лагоднасць, якія звычайна ўласцівыя толькі вельмі ўпэўненым у сабе людзям.

Знешне Ларыса чымсьці нагадвала квітнеючы сланечнік. Гэта адчуванне ўзнікала дзякуючы яе доўгім, саламянага колеру валасам і паўднёваму, з насычаным шакаладным адценнем загару — Ларыса жыла на поўдні Украіны, у Запарожжы. Тонкі, высмалены сонцам пушок надаваў асаблівае, цёплае адценне шчокам яе прадаўгаватага, з буйнаватымі рысамі твару. Галаву яна трамала грацыёзна, высока, як і тая кветка, якая, натуральным чынам скараючыся сваёй прыродзе, заўсёды цягнецца ўверх, да сонца і святла. Гэткай знешнасці вельмі пасавалі аранжавая сукенка і аранжавыя стужкі, якімі яна перавязвала валасы. Уся Ларысіна істота выпраменьвала абаянне і ашаламляльную гожасць. Ёю любаваліся. Я бачыла, як яе разглядалі ў краме жанчыны.

Ларыса, безумоўна, усведамляла сілу свайго ўздзеяння на людзей. Менавіта ад усведамлення гэтай сваёй сілы і зыходзілі яе відавочная ўпэўненасць у сабе і пачуццё ўласнай годнасці.

— Не хвалюйцеся, — запэўніла яна маю бабулю. У яе голасе была такая ж абаяльнасць і гожасць, як і ў яе знешнасці. — Мне вельмі спадабалася Наташа, — яна ласкава ўсміхнулася і працягнула мне руку. — Я з радасцю буду з табой сябраваць.

Мне здавалася, што ў Ларысы былі такія вартасці, пра якія я да знаёмства з ёю нават не мела ўяўлення і якіх, безумоўна, не было ў мяне. І не толькі ў мяне, але і ў тых людзей, якіх я ведала. Яе вобраз зрабіўся для маёй свядомасці і для маіх пачуццяў пэўным эталонам — я параўноўвала з ім і сябе, і іншых. Размаўляючы з ёю, я адчувала радасць, як чалавек, што адкрывае для сябе нешта новае і важнае.

Мы з Ларысай і сапраўды адрозніваліся адна ад адной. Яна была больш мажная, моцная, дужая, а я — слабая і хударлявая. Ларысіны рухі і паходка былі лёгкія, па-кашэчаму гнуткія і грацыёзныя, я ж, калі з’яўлялася на людзях, рабілася маўклівай і сарамлівай. Прысутнасць людзей ажыўляла, узбуджала Ларысу, нібыта ёй было прызначана несці святло іншым, і ў гэтым выяўлялася не нахабства, а смеласць. Я ж пачувала сябе на людзях няёмка.

Як мне хацелася быць падобнай на яе!

Я была ў захапленні ад Ларысы і, нібыта губка, усмоктвала ў сябе, запамінала і заўважала кожны яе рух, міміку, жэст, сказанае слова. У прысутнасці Ларысы адчувала радаснае хваляванне, і ўвесь свет мне здаваўся іншым, я глядзела на яго ўжо не сваімі, а яе вачыма. І ўсё, што бачыла вакол сябе, напаўнялася новым сэнсам і зместам. Акрамя таго, я намагалася быць падобнай на сваю чароўную сяброўку: гэтак жа, як яна, трымаць галаву, рухацца. Яна нібыта асляпіла мяне. Ларыса зрабілася для мяне кумірам.

У адрозненне ад мяне, Ларыса з нейкай абаяльнай даросласцю дапамагала бабулі па гаспадарцы. Яна заўсёды была занятая: то вытрасала палавікі ці мыла посуд, то, седзячы на кукішках ля сажалкі, якая была акурат за іхнім дваром, выцягвала старым кошыкам раску для качак. Пад кіраўніцтвам сваёй бабулі выконвала і больш складаную работу: бяліла ў хаце столь і сцены, шыла на вокны новыя фіранкі. І за што б яна ні ўзялася — рабіла гэта з вялікім задавальненнем. У такія моманты ў ёй, захопленай работай, па-спартыўнаму гнуткай і адначасова па-жаноцку прывабнай, наўрад ці ўгадвалася дзяўчынка-падлетак.

— Гарная, Улляна, у цябе нявестка, — аднойчы пахваліў Ларысу сусед, які зайшоў да іх у хату. Ларыса якраз рассцілала на вымытай падлозе палавікі. На ёй былі чорнае спартыўнае трыко, якое падкрэслівала грацыёзнасць яе паставы, і майка, у туга сцягнутых на патыліцы валасах — блакітная стужка. — Бач ты, як выгінаецца! Нібыта без касцей!

— Яна не нявестка, а ўнучка, Івана майго дачка, — засмяялася баба Улляна. І было відаць, што яна ганарылася Ларысай.

— Падумаць толькі, то ўнучка ўжо така бальша! — здзівіўся дзед.

Гледзячы на Ларысу, мне таксама хацелася працаваць. Вяртаючыся ад сяброўкі, я прасіла бабулю даручыць і мне што-небудзь зрабіць па гаспадарцы. Цяпер заўсёдная вясковая праца поўнілася для мяне хараством і сэнсам.

Аднойчы я прыйшла да Ларысы і ўбачыла, што яна сядзіць на нізкім услончыку перад двума кошыкамі з грыбамі. Ачышчаючы грыб ад скуркі, ігліцы і смаўжоў, яна з нейкай палкасцю, што заўсёды прысутнічала ў яе істоце, паднесла яго да твару і прымружыла вочы:

— Пахне лесам! У нас, ля Запарожжа, няма грыбоў. А тут — гэткае багацце! Як было б добра жыць тут!

— А ты б змагла жыць у вёсцы? — пацікавілася я.

— Змагла б, — трохі падумала і ўпэўнена адказала Ларыса. — І нават уяўляю, як бы я тут жыла. Ты ведаеш, Натачка, у любым месцы можна жыць нясумна і цікава: і ў самай глухой вёсцы, і ў вельмі вялікім горадзе. — Яе ласкавы голас раптам зрабіўся жорсткім: — Што тычыцца мяне, дык я — максімалістка. Я хацела б пажыць паўсюль, асабліва на Поўначы, дзе цяжка і холадна, і паўсюль на зямлі пакінуць свой след.

І я шчыра верыла, што свой след на зямлі Ларыса абавязкова пакіне. І абавязкова калісьці адкрые для сябе суровую поўнач. Бо яна мне бачылася не толькі чароўнай і мілай, але і смелай, адчайнай. Ларыса не баялася падысці да

каня, пагладзіць і нават ўскочыць на яго. Здаралася, прасіла ў каго з хлопцаў матацыкл і спрабавала ім кіраваць. Дужая фізічна, яна заплывала амаль на сярэдзіну нашага даволі-такі шырокага Дняпра. Мяне гэта асабліва захапляла, бо я сама плаваць не ўмела і надта ж баялася вады. Часам мы гулялі да цемнаты, і яна абавязкова, насуперак усім маім пратэстам, мяне праводзіла.

Я тады не ведала сапраўдных прычын гэтай яе адчайнай смеласці, да таго ж яны мяне і не цікавілі. Хоць аднойчы і пачула ад яе шчырае, даверлівае прызнанне: «Я хачу падабацца ўсім». Усім, без выключэння. Відаць, тое было своеасаблівым славалюбствам ці прагнасцю да пашаны, дзякуючы якім выяўляюцца ў чалавеку ўсе магчымыя вартасці і здольнасці.

Не я адна захаплялася Ларысай. Я заўважала, як на яе рэагавалі людзі, і мне было вельмі цікава, што пры гэтым адчувала сама Ларыса. Бачыла, як кулём зляцеў з дарогі ў кювет разам са сваім веласіпедам хлапчук, які загледзеўся на яе; як спатыкнуўся і паваліўся, упусціў на зямлю бохан хлеба стары, што ішоў насустрач і разглядаў яе. Ларыса тады падбегла да старога, дапамагла ўстаць з зямлі і, клапатліва атрасаючы з яго адзення пясок, падняла і ўклала яму ў рукі згублены хлеб. Я ціха зайздросціла Ларысе, калі мы ўвечары выходзілі на вуліцу, дзе чакалі яе з'яўлення хлопчыкі, якія заўсёды круціліся каля двара. І зусім яшчэ маленькія суседскія дзяўчынкі, якія паўсюдна хадзілі за ёю следам, утыкалі для яе ў шчыліны веснічак букецікі лугавых ці садовых кветак. А на зыходзе лета, перад яе ад'ездам у Запарожжа, гэтыя ж дзяўчынкі выкралі забытыя Ларысай на ганку хаты яе старэнькія зношаныя сандалі — на памяць.

Я пазнаёміла Ларысу з Надзяй, дзяўчынкай, што жыла па суседстве і з якой я сябравала з самага маленства. Надзя бачылася з намі не часта, падпрацоўвала ў саўгасе на праполцы буракоў. Яна была худзенькая, з няроўным, плямамі на абгарэлай скуры, загарам. Яе трохі папсаваныя гумкай русыя валасы былі сабраны на патыліцы ў хвост. Бліскучыя, цёмныя, нібыта вугольчыкі, вочы на кірпатым, з лёгкім рабаціннем твары глядзелі ветліва і добразычліва. Надзя была па-свойму прыгожая, я заўсёды раней любавалася ёю, але тады, у прысутнасці Ларысы, яна мне падалася зусім непрыкметнай. Я нават адчула расчараванне ад таго, што іншыя людзі былі не падобныя на Ларысу, адрозніваліся ад яе не толькі знешне, але і сваімі паводзінамі. І Надзя, добрая, мілая Надзя, раптам зрабілася для мяне нецікавай.

Маёй вясковай сяброўцы Ларыса таксама вельмі спадабалася. Надзя глядзела на Ларысу ў нясмелым захапленні, нібыта знізу ўверх, быццам бы хацела ёй дагадзіць. Аднак сама Ларыса, у адрозненне ад многіх людзей, распешчаных чужой увагай, ніколі ні з кім не трымалася ганарліва. Яна адказвала на ўвагу да сябе гэткай жа шчырай цікавасцю і зычлівасцю.

Ларыса амаль ніколі не гаварыла пра сябе — тут, бадай што, таксама выяўлялася яе прывабнасць і, магчыма, ад нараджэння ўласцівая ёй мудрасць. Нават калі яна выпадкова захаплялася і пачынала гаварыць пра нешта асабістае, дык адразу ж, нібыта штосьці прыгадаўшы, змаўкала, хмурылася і рашуча пераключала ўсю сваю ўвагу на праблемы і клопаты суразмоўцы. І я, і Надзя, і іншыя дзяўчынкі, і нават дарослыя маладзіцы з задавальненнем, лепш сказаць — з нейкай унутранай патрэбай у яе спачуванні і ўвазе, давяралі ёй свае таямніцы. Яна здольная была слухаць і прымаць іх да сэрца.

Надзя расказвала ёй пра сваю закаханасць у аднакласніка Сярожу, пра тое, што марыць стаць яго дзяўчынай. Ларыса падбадзёрвала Надзю і, разам з ёй аддаючыся яе фантазіям і марам, пераконвала, што ў будучым так абавязкова і будзе.

Дзіўна, але так яно далей і адбылося. Сяргей адслужыў у арміі, вывучыўся на агранома і вярнуўся ў родную вёску, дзе пасля школы засталася Надзя, якая так і не знайшла свайго шчасця. Хлопец меўся ўзяць яе за жонку.

Я на гэты час ужо закончыла інстытут, выйшла замуж і працавала ў Мінску.

Ларыса, як і марыла, пераехала на поўнач краіны, у цудоўны і велічны Ленінград — горад, які, як мне здавалася, быў варты яе выбару. Яна закончыла школу з залатым медалём, а пасля паступіла ў Ленінградскі інстытут тэатра, музыкі і кіно. Я радавалася за Ларысу і не сумнявалася, што аднойчы буду глядзець пастаўленыя ёю фільмы ці ўбачу яе знакамітай артысткай. Але невядома чаму яна адвучылася два гады, а тады, як сама сказала, «часова» пакінула інстытут і, каб дапамагчы «аднаму чалавеку», арганізавала фірму «Лора» і занялася бізнесам. Яна не расказвала, хто той чалавек, таму што паранейшаму не любіла гаварыць пра асабістае. У той час, адразу пасля перабудовы, адкрываць фірмы адважваліся толькі смелыя і рашучыя людзі. Ларыса гэткай і была. Калі я прыязджала да яе ў Ленінград, то бачыла сетку яе кіёскаў ля станцыі метро «Ладажская». Аднак праз нейкі час яе фірма развалілася, і яна ўладкавалася прадаўцом у адзін з кіёскаў каля той самай «Ладажскай» па найме. Але яна называла свае цяжкасці зноў жа «часовымі» і запэўнівала, што ў будучым абавязкова будзе ставіць свае фільмы.

Сям'і Ларыса не стварыла, таму што цаніла свабоду і шмат чаго збіралася дасягнуць у жыцці.

Мы час ад часу тэлефанавалі адна адной, бо пісаць лісты яна не любіла. І аднойчы дамовіліся сустрэцца, каб адсвяткаваць мой дзень нараджэння, але не ў Мінску, дзе я жыла, а ў Прудавіцы — нашай вёсцы.

Мы з мужам прыехалі ў Прудавіцу загадзя, каб да дня нараджэння падрыхтаваць хату, прапаліць печ. У хаце Ларысінай бабулі на той час ужо жылі чужыя людзі, а мая стаяла ў запусценні — нашых бабулек ужо не было на свеце.

Я памятаю, як чакала яе на пероне, хаваючы змерзлы твар у настаўлены каўнер. Ларыса павінна была прыехаць ранішнім цягнікам. Мы не бачыліся некалькі гадоў, і я чамусьці хвалявалася, што гэтай сустрэчы можа штосьці перашкодзіць. Заўсёды трохі сумняваешся ў верагоднасці таго, што для цябе зашмат значыць. Я засяроджана ўглядалася туды, дзе ў празрыстым восеньскім паветры свяціўся семафор.

Ларыса прыехала. Я адразу ж пазнала сяброўку. Яна выйшла з цягніка і, стоячы на пероне, адкуль пачынаўся спуск у накірунку да вёскі, чакала. Апранута яна была ў яркае клятчастае паліто, на галаве — берэтка, з-пад якой выбіваліся, тузаліся на ветры светлыя, саламянага колеру кароткія пасмачкі.

— Як хораша! — сказала Ларыса, калі мы з ёю зайшлі ў хату. Яна зняла з пляча і паклала на лаўку невялікую дарожную сумку. — Я так рада, што нарэшце бачу цябе і што мы сустрэліся менавіта тут, у нашай вёсцы.

Яна хутка распранулася і прыгожа, гнутка, нібыта не мела касцей, нахінулася, сцягнула з ног модныя, але зношаныя чаравічкі. Ларыса засталася ў падпяразаным бліскучым раменьчыкам старэнькім світары, з-пад якога вузенькім ланцужком выглядвала кароценькая спаднічка. Штосьці новае, вартае жалю, з'явілася ў яе абліччы, аднак я, усё яшчэ ўсхваляваная і ўзрушаная, не магла засяродзіцца, каб як след разгледзець сяброўку.

— Я... хацела б пакурыць, — амаль шэптам, але не саромячыся, сказала Ларыса і выцягнула з сумкі пачак цыгарэт. Мы выйшлі ў сенцы. Ларыса пры-

села на маленькі ўслончык. Я прымасцілася на табурэтцы насупраць. Зрабіўшы глыбокую зацяжку, Ларыса задаволена прыўзняла галаву, выпусціла дым і ласкава паглядзела на мяне. У невялікіх сенцах саладкаваты водар яе таннай парфумы змяшаўся з пахам тытуню.

— Мая ты дзяўчынка… Як я магла столькі не бачыць цябе? — Ларыса шчаслівa і гучна ўздыхнула, на імгненне прыкусіла трохі прыпухлыя, ярка падфарбаваныя вусны і рашуча запэўніла: — Але годзе! Цяпер усё будзе па-іншаму.

Я адчувала, што чым больш узіралася ў сяброўку, тым больш драбнела, праціралася маё захапленне ёю. Ранейшая зачараванасць паступова саступала месца нечаканай вастраму і непрыемнаму жалю да яе. Ларыса, нейкая незнаёмая, схуднелая, з бледна-шэрым, друзлаватым, аднак вельмі нарумяненым тварам, сядзела насупраць мяне і курыла. Яе калісьці густыя доўгія валасы былі абстрыжаны да пляча, парадзелі і пасекліся ад завіўкі.

Мы з Ларысай былі ў доме адны. Мой муж пайшоў з суседам на рыбалку, даючы нам магчымасць застацца сам-насам.

У хаце было яшчэ сыравата, пакоі недастаткова прагрэліся, і мы селі да стала, каб выпіць па чарачцы каньяку, што было, як мне здавалася, дарэчы.

Спачатку я думала, што мы многа піць не будзем, але мая сяброўка настойліва падлівала ў чаркі і штосьці натхнёна гаварыла. Спакваля мне пачало здавацца, што яе голас слаба і далёка ўспыхваў, так далёка, нібы ў марской ракавіне.

Пасля мне стала кепска, я ванітавала. Ларыса вывела мяне з хаты і падвяла да рукамыйніка.

— Не саромейся, мілая, — ласкава гаварыла яна. — Што ж ты не сказала, што не ўмееш піць, дурненькая?

Раніцай, апрануўшы на сябе старыя ватоўкі, што засталіся пасля бабулі, мы з Ларысай выйшлі пагуляць. У мяне нясцерпна балела галава, але я з усіх сіл трымалася, спрабуючы не падаць выгляду, бо настрой усё роўна заставаўся добрым: быў мой дзень нараджэння, прыехала любая сяброўка, якою я не магла нарадавацца.

Раніца выдалася марозная, празрыстая. Мы ішлі ўздоўж дарогі да хвойніку. Аджылая, пасівелая ад інею трава хрумсцела пад нагамі. У каляінах ледзяной скарынкай бялела вада. Ларыса расчырванелася, расшпіліла і расхінула ватоўку. Я глядзела на сяброўку і не магла ўявіць сабе яе прастуджанай, змерзлай. Мне здавалася, што холад толькі бадзёрыў і ажыўляў яе.

Пасля мы сядзелі на камлюкаватай старой карчажыне. Ларыса курыла.

— Як тут хараша! — Ларыса выпусціла праз напаўадкрыты рот цыгарэтны дым, вочы ў яе blішчэлі. — Дзякуй богу за такія хвіліны.

І зноў, як калісьці ў маленстве, я са здзіўленнем усвядоміла, што ад тых слоў, якія Ларыса казала хутчэй за ўсё проста так, без ніякага намеру, у глыбінях маёй істоты пачалі абуджацца новыя, яркія, нязвыклыя для мяне думкі і пачуцці.

— Ларысачка, размова з табой кожны раз дзейнічае на мяне так, што я пачынаю заўважаць тыя фарбы і гукі, якім звычайна не надавала ўвагі. І ўвогуле, мне заўсёды хацелася быць падобнай на цябе.

— Імкнуцца быць падобным на кагосьці — гэта не надта добра, мая дарагая. Бо тады чалавек пачынае разважаць чужымі думкамі, перажываць не свае страсці. Я паважаю ў чалавеку індывідуальнасць… — Хвіліну Ларыса сядзела нерухома, і вочы яе неспакойна блішчэлі. — Сэнс жыцця — у самавыяў-

ленні. Кожны чалавек непаўторны, мілая. — Ларыса патушыла, кінула ў траву цыгарэту і пагладзіла даланёю, нібыта спрабуючы сагрэць штосьці ёй адной бачнае, жывое, па шурпатай кары карчажыны, на якой мы сядзелі. — Толькі людзі чамусьці баяцца саміх сябе. А можа, не столькі сябе, колькі таго, што пра іх падумаюць. Таму яны не раскрываюцца, не спатоляюць сваіх жаданняў. Адсюль — душэўны голад, безвыходная незадаволенасць. — Яна памаўчала і дадала: — У баязлівых людзей, якія ўвесь час на кагосьці азіраюцца, я не сумняваюся ў гэтым, самая незайздросная доля. Я б не хацела так пражыць…

Калі вярнуліся з прагулкі, Ларыса пацікавілася, якія і дзе маюцца ў наяўнасці прадукты, потым ласкава выштурхнула мяне з кухні і пачала гатаваць вячэру.

— Ідзі, ідзі, міленькая. Сёння твой дзень. Я ўсё зраблю. А ты адпачні, прывядзі сябе ў парадак.

Я пайшла ў святліцу, распакавала дарожную сумку з адзеннем. «На Ларысе гэткі непрывабны ўбор, — падумала я, перабіраючы тое, што ўзяла з сабой у вёску. — Трэба прапанаваць ёй штосьці сваё». Дастала з сумкі серабрыстачорны, надта ж стыльны трыкатажны сарафан, у які збіралася апрануцца сама. «Бадай, на ёй ён будзе глядзецца лепш за ўсё». Паклала сарафан на ложак і выцягнула з сумкі сукенку прасцейшую — для сябе.

Ларыса пераапранацца ў сарафан спачатку адмовілася, сказала, што ўзяла з сабой блузку, але калі я ўмольнымі вачыма паглядзела на яе, пагадзілася.

— Толькі дзеля цябе, мая дарагая.

Яна зняла старэнькі світар, расшпіліла на спадніцы «маланку», сцягнула яе праз ногі. Я засаромелася, але не змагла адвесці вачэй ад зграбнай Ларысінай постаці. Хараство збітага, тугога цела, шыі, рук, ног нечакана ўразіла мяне. Ларыса перахапіла мой позірк і ўсміхнулася. Пасля, апрануўшы сарафан, які шчыльна, нібыта панчоха, абхапіў яе фігуру, павярнулася да мяне, схіліла трохі галаву і паглядзела бліскучымі, гулліва-пакорлівымі вачыма. Маўляў, на што не пагодзішся дзеля цябе, сяброўка.

Ларыса падфарбавала вочы і вусны, і ў вечаровым паўзмроку твар яе выглядаў прыгожым.

На вячэру сабраліся дзве сямейныя пары, з якімі Ларыса не была знаёмая, бо яны перасяліліся ў Прудавіцу пасля чарнобыльскай аварыі з забруджанай радыяцыяй вёскі. На дзень нараджэння прыйшла і Надзя, адзіная з гасцей, каго Ларыса ведала і сустрэчы з якой вельмі ўзрадавалася. Разам з Надзяй прыйшоў Сяргей, спакойны, трохі пануры і маўклівы, той самы Сяргей, шчаслівую будучыню з якім калісьці з упэўненасцю напрарочыла закаханай Надзі Ларыса. Бліжэй да вясны ў Сяргея і Надзі планавалася вяселле.

Мой муж радасна і ветліва сустракаў гасцей і запрашаў да стала. Стол Ларыса накрыла з густам. Яна была ў цэнтры ўвагі, бо змагла далучыць да размовы кожнага, закранаючы то адну тэму, то другую. І я бачыла, што ўсім яна падабалася.

Распачалі гаворку і пра тое, якое тут, на Брагіншчыне, становішча пасля чарнобыльскай аварыі. Нехта ўспомніў пра адсяленне з родных мясцін, хтосьці непакоіўся пра тое, наколькі бяспечна ў гэтых умовах, зусім побач з зонай адчужэння, нараджаць і гадаваць дзяцей. Адзін з гасцей, з якім звычайна, прыязджаючы ў вёску, мой муж хадзіў на рыбалку, нервова жэстыкуляваў рукамі і абураўся, што іх, маладыя сем'і, не перасялілі далей ад гэтых мясцін, у экалагічна чысты раён. Маленькая, прыгожая яго жонка маўкліва згаджалася з мужам, хітаючы галавой і ціха ўздыхаючы.

— Годзе, — жартаўліва і ў той жа час строга спыніла размову Ларыса. І раптам спахмурнела. — Безумоўна, імкнуцца да таго, каб перасяліцца ў незабруджаны раён — гэта правільна і разумна. Але на сённяшні дзень вы жывяце тут. Удумайцеся: жы-вя-це. І яшчэ будзеце жыць у гэтай мясцовасці месяцы, гады, а мажліва, і заўсёды. Можна, я закуру? — Яна прыкурыла, зацягнулася, выпусціла дымнае воблачка і абаперлася рукой, у якой трымала цыгарэту, на стол. — Нам часцей за ўсё шкодзіць страх, — нечакана вочы ў Ларысы гнеўна бліснулі, — нават больш за радыяцыю, нітраты і іншыя атруты! — Гэтак жа нечакана яна памякчэла, павольна, ласкава абвяла позіркам усіх, і вочы яе зрабіліся вільготнымі. — Дарагія мае, расслабцеся. Замест таго, каб баяцца, кахайце, захапляйцеся і са шчырым сэрцам успрымайце тое, што вакол вас. І тады небяспека будзе нашмат меншая. Паверце мне, у гэтым ёсць нейкая таямнічая ісціна.

Ларыса зноў зрабіла зацяжку, ускінула ўверх рукі, прыгожа, нібыта крыламі, павяла імі і ўжо весела прапанавала:

— Дык давайце ж вып’ем за тое, каб не быць баязліўцамі. Баязліўцам больш за ўсіх дастаецца!

Я піла ваду і нічога не ела, бо ўсё яшчэ адчувала сябе блага, не пераносіла нават паху спіртнога і ежы. Але настрой мой быў прыўзняты. Я з задавальненнем назірала за сяброўкай і захаплялася яе прысутнасцю. Такую асалоду можна зведаць, стасуючыся з чалавекам своеасаблівым і непадобным на іншых. Я любавалася гнуткасцю Ларысіных рухаў, ажыўленасцю на яе твары, якая ўгадвалася то ва ўсмешцы, то ў позірку, і якой яна нібыта гіпнатызавала прысутных. Бачыла, што кожнаму, хто размаўляў з Ларысай, было лёгка, проста і прыемна, быццам бы яны даўно ведалі яе. І ўжо не толькі не ўзнікалі тыя няёмкія хвіліны, калі трэба было адшукваць тэмы для размовы, а, наадварот, адчувалася, што кожны не паспяваў сказаць тое, што хацеў.

Не падтрымлівалі размову толькі Сяргей і Надзя. Нечакана я зразумела, што ўвесь час па сутнасці не заўважала нікога, акрамя Ларысы. І, нібыта абудзіўшыся ад нейкага гіпнатычнага сну, раптам убачыла, як нервова сціскае ў пабялелых пальцах свой відэлец Надзя. Як Сяргей, нібыта забыўшыся на прысутнасць сваёй нявесты, неадрыўна і збянтэжана глядзеў на Ларысу.

Пасля былі танцы. Ларыса выходзіла танцаваць першая, весела запрашаючы астатніх.

Часта яна разам з жанчынамі выходзіла на двор. Калі я пайшла з імі, то здзівілася, што прыяцелькі, якія дагэтуль, як я ведала, не бралі ў рукі цыгарэт, курылі таксама. За кароткі час яны зблізіліся з Ларысай і нават гаварылі аб патаемным. Нібыта адчувалі патрэбу ў яе спагадзе.

На дварэ было марозна і бязветрана. Пасля хатняга святла нічога нельга было разгледзець у цемры. Я толькі бачыла, як пакалыхваліся, мільгацелі перад тварамі сябровак цыгарэтныя агеньчыкі.

— Божа, — глыбока выдыхнула Ларыса, і я здагадалася, што сяброўка зараз глядзела на неба, — як хочацца ўзяць і застыць...

Увесь вечар яна была вясёлая і ажыўленая. Шмат піла, спачатку віно, пасля гарэлку, аднак знешне заставалася цвярозай, толькі гаварыць яна пачала гучней, незвычайна высокім голасам і хутка. Госці ўжо не падтрымлівалі яе ў выпіўцы. Сяброўка напаўняла сваю чарку і піла адна.

Я адчувала, як пачала згасаць мая павага да Ларысы. Упершыню ўбачыла ў ёй заганы. І яны выклікалі ў маёй душы нядобрыя, непрыемныя адчуванні. Я заўважыла, што Ларыса пачала ненатуральна сутуліцца. Дзяўчаты пакінулі яе і цяпер сядзелі разам з Надзяй на канапе. Надзя злосна, з непрыемным

выразам на твары штосьці казала ім. Мужчыны глядзелі тэлевізар. Мой муж утульна ўладкаваўся ў крэсле і спаў. Толькі я і Сяргей заставаліся за сталом разам з Ларысай. Сяргей глядзеў на яе са шкадаваннем і пяшчотай.

— Выпі са мной, Сярожа, — раптам папрасіла Ларыса. — Сядай каля мяне.

Сяргей паслухмяна сеў побач з ёю. Ларыса напоўніла яму чарку.

— Бітая баба, — пачуўся чыйсьці шэпт.

Ларыса абдымала Сяргея за шыю, штосьці ціха казала і глядзела яму ў вочы прываблівым позіркам.

— Гэта ўжо робіцца непрыстойным, — злосна абурылася Надзя. — Яна нікога не паважае.

Ад гэтых слоў мне зрабілася горача. Я раптам востра адчула ўсю няёмкасць і нават трагізм сітуацыі.

Я ўстала і папрасіла Ларысу выйсці са мной у суседні пакой. Там, прымушаючы сябе абняць сяброўку, спытала:

— Што з табой адбываецца, Ларыса? Чаму ты так многа п’еш?

— Я і сама здзіўляюся, — выдыхнула ў адказ яна. — Але я не п’яная.

Ларыса стаяла перада мною нейкая ўзбуджаная і адначасова наструненая і здранцвелая. Яна была нібыта напятая спружына. Я здагадалася, што ўся гэта бачнасць цвярозасці патрабавала ад яе вялікіх намаганняў.

— Ты глядзіш на мяне, — зноў загаварыла Ларыса, — і чакаеш, што мне зробіцца сорамна? Дарэмна. Я для гэтага надта шчаслівая.

— Вось як, — разгубілася я і раптам зразумела, што ўжо наўрад ці змагу хоць неяк паўплываць на сяброўку, якая не захоча і не зможа пачуць і ўбачыць мяне. Але ўсё ж такі папрасіла: — Калі ласка, Ларыса, выслухай мяне. Я вельмі цябе люблю. Люблю такой, якая ты ёсць, але…

— Ты ведаеш, якая я ёсць? — Ларыса насмешліва паглядзела на мяне.

— Не, не ведаю, — я на момант разгубілася. — Але існуюць пэўныя маральныя нормы, якіх трэба прытрымлівацца. Няўжо ты не адчуваеш, што робіш кепска? Мне сорамна за цябе, а паколькі ты мая сяброўка, дык і за сябе.

— Гэта перад кім сорамна? — узбунтавалася Ларыса. — Перад імі? — яна з пагардай паглядзела на мяне.

— Навошта ты так? Яны — людзі сціплыя і прыстойныя, — я ледзь стрымлівала сябе, каб не абурыцца, і зазірнула ў жахлівыя сваёй непранікальнасцю вочы сяброўкі. — Ларыса, ці ты гэта?

— Як бачыш, я, — дзёрзка, жорстка і рашуча адказала Ларыса. — Я, распусная, бессаромная, аднак такая, як ёсць, шчырая. Я не хаваю таго, што ўва мне, ні благога, ні добрага. Не хітрую, не вычвараюся. Не з’ядаю вачыма чужых жанчын, каб пасля глядзець на жонку, нібыта нічога не адбылося, і не пляткару за чыёйсьці спінай, як некаторыя! — вочы ў Ларысы гнеўна бліснулі.

Я больш не пярэчыла. Раптам мне ўсё падалося няясным, заблытаным. Я адчула стому. Нібыта праз туман, праходзілі праз мой прыгнечаны розум Ларысіны словы, але яны ўжо не закраналі маёй душы, не абуджалі ў ёй, як раней, ні водгуку, ні хвалявання.

— Ты толькі не чапай Сяргея, — папрасіла я. — Ён — жаніх Надзі.

— Але ён не кахае яе.

— Страшна тое, — раптам вырвалася ў мяне, — што ў маёй душы ўсё перавярнулася: і замест любові і пяшчоты да цябе цяпер расчараванне і агіда.

— Дарэмна ты так хвалюешся, міленькая. Страшнага нічога няма, — Ларыса прымусіла сябе ўсміхнуцца, адвярнулася ад мяне і рашучымі крокамі пайшла з пакоя.

Праз некалькі хвілін яна вымыла твар, пераапранулася ў сваю спаднічку і світар, накінула старую ватоўку, у якой раніцай хадзіла на прагулку, і падышла да мяне.

— Заўтра паеду. Хачу ўспомніць бабулю, пагуляць па вёсцы. Калі што, кладзіся спаць, не чакай мяне, мілая.

Ларыса сумна ўсміхнулася, пасля паглядзела на Сяргея і накіравалася да выхаду. Сяргей устаў з-за стала, пахіснуўся і няўпэўненымі крокамі выйшаў за ёю.

Вярнулася Ларыса раніцай, у пакамечанай спадніцы, са сцяблінкамі сена ў зблытаных валасах. Паспешліва вымылася, прычасалася, сабрала сумку. Я моўчкі, з нейкім неўсвядомленым яшчэ адчаем назірала за ёю. Трымалася Ларыса незвычайна прама і выглядала спакойнай.

Я разумела, што трэба нешта сказаць.

— Ты не пакрыўдзілася? — спытала я ў Ларысы, але прагучала гэта неяк няшчыра, ненатуральна.

— Я? Ніколькі. Не пакутуй ад усялякіх думак. Мне ўсё спадабалася, і я вельмі ўдзячная табе.

Ларыса надзела берэтку, апранула паліто і хуткай, цвёрдай і лёгкай хадкай зрабіла тыя некалькі крокаў, якія аддзялялі яе ад мяне, пацiснула маю руку і прабачліва ўсміхнулася:

— Не перажывай. Бо нічога не здарылася. Мы абавязкова сустрэнемся.

Яна пайшла.

Я доўга стаяла ля акна, глядзела, як аддалялася, паступова памяншаючыся на фоне пустога восеньскага поля, постаць у яркім клятчастым паліто, і думала, што мы з Ларысай больш не сустрэнемся.

Аднак мы сустрэліся. І неаднойчы.

Апошняя сустрэча з Ларысай адбылася, калі нам ужо было амаль па сорак гадоў. Я адшукала яе ў тым самым горадзе на Няве, толькі перайменаваным з Ленінграда ў Санкт-Пецярбург. Выправілася туды па просьбе яе мамы, ад якой атрымала ліст. Спасылаючыся на нездароўе, беднасць і ўзрост, яна прасіла мяне адшукаць Ларысу і паведаміць, ці ўсё ў парадку з яе дачкой. Ларыса не была ў бацькоў у Запарожжы больш за дзесяць гадоў, яна перастала дасылаць ім лісты і званіць. Паўночныя і паўднёвыя гарады былога Савецкага Саюза цяпер падзяляла не толькі адлегласць, але і межы. Аднак каб не паведамляць пра сябе нават бацькам — тут, бясспрэчна, прычына хавалася толькі ў самой Ларысе.

Яе я адшукала ў бальніцы. У п’яным стане яна трапіла пад машыну, калі вярталася з работы дамоў. Шукаючы Ларысу, я даведалася, што там, дзе калісьці размяшчалася яе фірма, зараз яна гандлявала кветкамі і адтуль яе звальнялі за п’янства то адны, то другія гаспадары.

Ларыса пазнала мяне і, усхваляваная, прытрымліваючы рукой загіпсаваную нагу, рэзка пачала ўставаць з ложка насустрач.

— Натачка, якім чынам? Як ты знайшла мяне?

І я ўпершыню ўбачыла, як Ларыса плача.

— Была на тым месцы, дзе ты звычайна гандлюеш. Там мне і падказалі.

Я глядзела на Ларысу, на яе не па ўзросце састарэлы, пабурэлы ад п’янства твар, і пазнавала і не пазнавала сяброўку. Ларыса плакала, а я плакаць

не магла, у мяне нешта знямела ў душы. Я гладзіла яе па галаве, па збітых, у сіняках руках з бруднымі пазногцямі.

Там, у гандлёвых радах, мне расказалі, што Ларысу пазбавілі бацькоўскіх правоў, забралі ў дзіцячы дом яе маленькую дачку. Я з'ездзіла ў гэты дзіцячы дом і там даведалася, што Ларыса не раз абскарджвала рашэнне суда, спрабавала вярнуць дзіця, але нават дзеля гэтага так і не здолела кінуць піць. Дачку Ларысы ўдачарылі.

Я аплаціла дарогу і выправіла па Ларысу яе маці. Але пакінуць паўночны горад, дзе засталася маленькая дачка, якую ўдачарылі невядомыя людзі, Ларыса адмовілася.

Яшчэ праз некалькі гадоў, тэлефануючы ў Санкт-Пецярбург, я дазналася, што Ларыса нідзе не працуе і начуе ў пад'ездах і падвалах жылых дамоў.

— Бамжуе Ларыса, наўрад ці перазімуе, — адказала мне па тэлефоне яе былая сяброўка.

«Не ствары сабе куміра»… Я зноў і зноў думаю над сэнсам таго, што сказана ў Бібліі.

Ці прызнаю я сваёй заганай тое, што некалі стварыла сабе куміра? Не, не прызнаю. Я хутчэй абвінавачваю сябе ў тым, што калісьці кагосьці асуджала, хай нават па заслугах, але толькі не ў тым, што кагосьці незаслужана ўзносіла.

Ларыса па-ранейшаму дарагая для мяне. Часам, калі іду па вуліцы і, сціскаючыся ад холаду, ведаю, што зараз увайду ў цёплы дом, думаю пра Ларысу, пра тое, ці холадна ёй. Успамінаю пра яе, калі прымаю ванну, п'ю гарачую гарбату.

Я не думаю пра яе пастаянна. У мяне сваё жыццё. І я разумею, што кожны чалавек сам абірае свой лёс.

І ўсё-ткі гэта добра, калі ў тваім жыцці былі або ёсць куміры. Адзінае, пра што варта памятаць, што кумір не «звышчалавек». Кумір — гэта той, кім мы ўсяго толькі захапляемся, па-свойму ідэалізуем, а па сутнасці проста любім яго такім, які ён ёсць.

P. S. Праз некалькі месяцаў пасля напісання гэтых успамінаў я даведалася, што Ларысы нестала.

## Няслаўе

***Што такое паражэнне? Не што іншае, як урок; не што іншае, як першы крок да чагосьці лепшага.***

У. ФІЛІПС

Відаць, у кожнага чалавека ёсць перыяды ў жыцці, калі ім па нейкай прычыне хтосьці пагарджае ці думае пра яго кепска. Для чалавека чуллівага, інакш кажучы — «з тонкай скурай», гэтыя перыяды ганьбы могуць зрабіцца не толькі балючымі, але і небяспечнымі. Бо, перажываючы сорам ці адчай, ён губляе ранейшыя сувязі і з акаляючым асяродкам, і з самім сабой. Стрэлы пагарды, выпушчаныя ў слабага духам чалавека, могуць яго зламаць, гэта значыць надоўга ці назаўсёды пазбавіць здольнасці пазітыўна наладжваць сваё жыццё. Невыпадкова рымскі паэт Цэцылій Стацый сказаў: «Я лёгка перанясу сваё няшчасце… Вытрываю несправядлівасць, толькі не ганьбу».

Здараецца часам, адбудзецца нейкая непрыемная падзея, а за ёю яшчэ адна, і раптам у тваім жыцці запануе суцэльнае бязладдзе. Кудысьці знікае, больш не намацваецца танюткая нітачка, якая дагэтуль звязвала цябе з поспехам. І як ні дзіўна, менавіта ў гэты, магчыма, найцяжэйшы для цябе перыяд, азіраючыся вакол, ты са здзіўленнем усведамляеш, што застаўся адзін. А калі нават і не адзін, ты гэтага не заўважаеш, не ў стане заўважыць, такой змрочнай здаецца табе рэчаіснасць. На блізкіх людзей, якія табе шчыра спачуваюць і якіх, на жаль, заўсёды мала, ты не звяртаеш увагі і ў той жа час у роспачы ўсведамляеш, што большасць знаёмых, якія не так даўно і складалі тваё акружэнне, раптам адвярнуліся ад цябе. І тады ты ўзгадваеш адну славутую ісціну: свет не спрыяе няўдачнікам, асабліва тым, каго напаткала няслаўе.

Аднак для кагосьці перажытае няслаўе можа паслужыць штуршком да тых дасягненняў, якія былі б немагчымымі ва ўмовах спакою і шчасця. І першай прыступкай да душэўнага ачуньвання робіцца пакутлівая размова з самім сабою. У адзіноце, звяртаючыся то да сябе, то да Нябёсаў ці Бога, чалавек пытае:

«Хто вінаваты? Я ці іншыя?»

«І ў чым мая правіна? Калі гэта правіна…»

«Ці знайду сілы сябе паважаць? А без павагі да сябе ці змагу жыць?»

І калі ў выніку гэтай пакуты, якая здаецца непрагляднай, да яго прыходзяць, нібыта ў адказ, думкі: «Мой грэх — не самае вялікае зло. Бо жыццё складаецца са спакус, якія трэба пераадолець. Я — не Бог, я — чалавек. А чалавек — грэшны паводле сваёй прыроды. Сіла мая ў тым і ёсць, каб пераадолець сваю прыроду», — тады ён робіцца здатным не толькі вярнуцца да паўнавартаснага жыцця, але і пераўзысці, перарасці самога сябе ранейшага.

Нейкая псіхалагічная перашкода не дазваляе распачаць аповед пра мінулае. Ці магчыма перадаць тое, што калісьці палала і, магчыма, даўно згарэла на агні майго і чужога жыцця? Тое, пра што думалася і што адчувалася? Шмат чаго засталося ў тумане непазнанасці, нявырашаных супярэчнасцей і праблем. І цяпер, узіраючыся ў мінулае з вышыні сённяшняга дня, ужо сумняваешся, ці было ўсё тое ў сапраўднасці, што адбывалася са мной і вакол мяне. Колькі падзей прамільгнула ў жыцці і забылася… Іх немагчыма падлічыць і на кожнай з іх засяродзіць увагу. Яны як кадры бесперапыннай кінахронікі, і не ўсе з іх застаюцца ў памяці. Але ёсць і такія, пра якія памятаеш, колькі б з тае пары ні мінула часу. Хоць з гадамі мяняеш само стаўленне да іх, яны цябе больш не турбуюць, і, вяртаючыся да іх у думках, ацэньваеш іх па-новаму.

…Мне запомніўся той вечар тым, што я зведала невядомы да гэтага душэўны боль, які і болем назваць цяжка. Боль то быў ці што іншае? Але тое новае пачуццё, якое раптоўна пранікла ў душу, агаломшыла. Прадметы і людзі, якія былі вакол мяне, нібыта змянілі сваю сутнасць і памеры і нечакана падаліся незнаёмымі. Я не ведала, што свет можа так сказіцца ва ўспрыманні на працягу дня, гадзіны, імгнення. Нібыта нейкая нябачная сіла вырашыла раптам раскалоць маё жыццё на дзве паловы і аддзяліць мяне ад той, кім я была ўсе свае трыццаць тры гады. Ні мудрасці, ні яснасці душэўнай, якія звычайна набываеш у гэтым узросце, у мяне тады не было. Хоць, як паглядзець, магчыма, тая падзея змяніла не толькі маю самасвядомасць, але і светаўспрыманне ўвогуле.

Мы сабраліся дома ў маёй стрыечнай сястры Рыты. У невялічкай кухні за ненакрытым сталом сядзелі я, мама, Рыта і мая любая цётухна Людміла. «Людзям мілая», — часта тлумачыла цётухна значэнне свайго імя. Хоць Люд-

міла — стрыечная сястра бацькі — і не з'яўлялася маёй найбліжэйшай сваячкай, удзел, які яна брала ў маім жыцці, быў даволі актыўны.

Трохі ўбаку ад нас, спінай да акна, ледзь абапіраючыся на падаконнік, у прыгожай, ганарліва-паблажлівай позе застыла Вікуня, дачка цётухны. Танклявая, хударлявая, яна хутчэй нагадвала падлетка, чым дзевятнаццацігадовую дзяўчыну. Можа, таму, не думаючы пра яе ўзрост, мы, старэйшыя, па-ранейшаму ставіліся да яе як да дзіцяці.

— Ці ж можна пачынаць размову, — раздражнёна абурылася Вікуня, — калі сабраліся не ўсе! — Яна паглядзела ў мой бок з нечаканай высакамернасцю ў вачах і дадала: — Не разумею! Што ж гэта такое! Калі мы прыйшлі, каб гаварыць пра Наташу, чаму тут не прысутнічае Іна? — узгадала яна жонку майго брата. — А жаніх Наташы? Яму тым больш не пашкодзіла б ведаць, з кім ён збіраецца ажаніцца!

— Віка, памаўчы! — спалохаўшыся, што дачка пачала размову надта недыпламатычна, абарвала яе Людміла. — Не ўблытвайся, калі гавораць старэйшыя!

Лялечны тварык Вікуні раптам зрабіўся незадаволеным, бровы рэзка сабраліся на пераноссі, вусны пакрыўджана сцяліся, і ў выразе яе вачэй з'явілася дэманстратыўная непрадузятасць у дачыненні да далейшых падзей.

Мяне і маму сюды, да Рыты, запрасіла не сама Рыта, а цётухна, і зрабіла тое даволі афіцыйна, дакладна вызначыўшы месца, дзень і гадзіну.

Гэтае запрашэнне падалося маме дзіўным. Пра тое, што размова будзе тычыцца майго ладу жыцця, Люда маму папярэдзіла.

Пасля няўдалага выступлення Вікуні мы нейкі час сядзелі моўчкі, і нас раздзялялі асаблівая напружанасць у прасторы і пакутлівае чаканне.

Пакуль я яшчэ не ведала, пра што тут будуць гаварыць, але адчувала нейкую варожасць да сябе з боку сваякоў, нібыта яны хавалі да пэўнага часу свае намеры, рыхтуючыся выкласці іх толькі тады, калі пойдуць у наступ.

Рыта на момант перарвала маўчанне, прапаноўваючы чай. Але ўсе адмовіліся. Зацягвалася (ці тады толькі так здавалася?) паўза.

Раней я была ўпэўнена ў добразычлівасці да мяне гэтых досыць блізкіх людзей, але зараз прадчувала нядобрае. Тут, у стрыечнай сястры, у гэтай да драбніц знаёмай і яшчэ нядаўна такой утульнай для мяне кухні, усё раптам пачало ўспрымацца ненатуральным і чужым. Нават няяркае святло насценнай лямпы цяпер здавалася рэзкім, залішне яркім, яно нібыта працінала і джаліла. І сама цішыня напаўняла мяне трывогай. Усё паўставала пранізліва-нямілым: і прадметы, і людзі, сярод якіх раней было спакойна і добра…

…Люда, Людачка… Так, па імені, цётухну называлі пляменнікі. І звычайна з радасцю запрашалі ў свой дом. Ніводнае мерапрыемства ні ў мяне, ні ў іншых нашых агульных сваякоў не абыходзілася без яе. Яна выглядала маладжавай, была заўсёды добразычлівай і вясёлай — і сапраўды «людзям мілая». Шмат каму падабалася, што яна захаплялася і казала кампліменты «ў вочы». Слабы чалавек… Ухвалі, «пагладзь яго па галоўцы», сагрэй словам — і ён выпрастае спіну і плечы, адчуе сябе больш упэўненым і шчаслівым на гэтай зямлі.

А калі наадварот?

Вох, як цяжка бывае, калі наадварот…

Вось таму мы і цягнемся да такіх, як мая цётухна, «людзям мілым», якія тонка іграюць на слабасці чалавека — яго славалюбстве.

Гэтак і я… Я цётухну ледзьве не абагаўляла.

— Наташачка, — аднойчы пераконвала яна мяне, — вось гляджу я на цябе і ўсё дзіўлюся: да чаго ж ты ў нашым родзе асаблівая. І люблю цябе так моцна,

што ты не паверыш. Нават мая Вікуня мяне да цябе раўнуе. Кажа, што ледзьве не забываюся пра яе з-за гэтай сваёй Наташкі! Так яно і ёсць. Ты на мяне можаш разлічваць заўсёды. Барані божа, з табой штосьці здарыцца — прыбягу, прыпаўзу, калі сіл не будзе бегчы…

Я з асалодай слухала яе прызнанні, не заўважаючы сваёй прагнай патрэбы ў тым, каб мне ліслівілі і мною захапляліся.

Бацькі заўсёды ставіліся да мяне строга, амаль сурова, і словы Люды, сяброўства з ёю былі для майго славалюбнага «я» бальзамам.

Мой бацька не надта любіў стрыечную сястру і сваіх пачуццяў не хаваў.

— Люда лічыць сябе разумнай. У сапраўднасці ж яна — чалавек павярхоўны. А галоўная яе якасць — ліслівасць, — я бачу, табе да душы, — дакараў мяне бацька.

І вось, седзячы на куханьцы сястры, я са здзіўленнем успрымала цётухну, нечаканую для мяне, новую, незнаёмую.

— Думаю, самы час абвясціць, для чаго мы сабраліся тут, — ненатуральным голасам, гледзячы прама прад сабою, нарэшце парушыла маўчанне яна.

«Значыць, гэты сход — з ласкі цётухны», — здагадалася я. І каб сустрэцца, яна абрала чый заўгодна, толькі не свой дом. Яе любімай роляй была роля госці. Гэтым разам яна выбрала кватэру Рыты.

— Я вырашыла сабраць вас, — пацвердзіла маю здагадку цётухна, якая ўсё яшчэ не рашалася распачынаць гаворку па сутнасці, — таму што надта непакоюся за Наташу.

Яна ўздыхнула, на імгненне павярнула твар у мой бок, але так і не ўзняла на мяне вачэй, пасля адвярнулася і зноў некаторы час напружана, нічога не выказваючы ні мімікай, ні позіркам, глядзела перад сабой.

Неўзабаве яна зноў загаварыла. Але нават у гэткіх дзіўных і не зусім добразычлівых абставінах не забылася паведаміць тое, што я так часта і з такім задавальненнем слухала.

— Я Наташачку люблю. Люблю нават больш за сваю Вікуню, — яна павярнулася да дачкі і вінавата дадала: — Даруй мне, мая ластаўка.

На гэты раз мяне непрыемна ўразіла яе прызнанне.

— Не верыцца, што яшчэ зусім нядаўна мы ганарыліся Наташай, — адчувалася, што Люда з цяжкасцю адшуквала словы і выказвалася. Але пастунова голас цётухны рабіўся ўсё больш упэўненым, і ў яе манеры гаварыць з’явілася характэрная для яго напеўнасць. — Як прыемна было ўсведамляць, што наша Наташа — таленавіты фітадызайнер, кіраўніца вядомай фірмы і што я магла пахваліцца: пра маю пляменніцу пішуць у газетах, маю пляменніцу паказваюць па тэлебачанні… А зараз?

Цётухна ўздыхнула, нейкі час памаўчала і зноў загаварыла, па-ранейшаму не гледзячы ў мой бок.

— Што зараз? А нічога. Сваю фірму яна давяла да развалу. Хіба ты, Волечка, не ведаеш? — звярнулася Людміла да маёй мамы. — А чаму развабіла? Гэта ўсё праз сваіх кавалераў. То ў яе Валодзя, то Саша, то яшчэ невядома хто. А зараз — самы сапраўдны прайдзісвет, якому яна аддала ўсе свае грошы ды яшчэ і замуж за яго збіраецца.

— І якія грошы! — зноў не вытрымала Вікуня. — Кватэру можна было за іх купіць!

— Віка, — зноў перапыніла дачку Людміла, — я ж цябе прасіла памаўчаць.

І тут нясмела далучылася да размовы Рыта.

— Учынкі Наташы проста незразумелыя. Калі мой муж распачынаў свой бізнес, я папрасіла яе пазычыць яму на пачатковы капітал. Яна адмовіла. І аддала грошы чужому чалавеку, замест таго, каб дапамагчы сястры.

Я са здзіўленнем паглядзела на Рыту. Вось, як высвятляецца, чаму яе муж кінуў са мной вітацца… Няўжо я не маю права пазычыць ці нават падарыць зробленыя мною грошы таму, каму лічу належным? І калі на тое пайшло, дык яе муж усё яшчэ не аддаў ранейшую пазыку — суму, якую папрасіў на рамонт машыны. І хіба да праблем сястры я была абыякавая? Колькі разоў па просьбе Рыты купляла для яе сына то куртку, то чаравікі. Падтрымлівала матэрыяльна і цётухну. Нават рамонт дапамагла зрабіць у яе кватэры. Рабіла падарункі Вікуні. І ўсё гэта было не так і даўно. Пакуль не развялася з мужам…

Развод… Мая здрада… Здрадзіла другому чалавеку. Блізкаму. Таму, з кім дзесяць гадоў была побач…

Так, шмат што мне ў ім не імпанавала: лянота, нежаданне працаваць, тое, што абапіраўся ў жыцці на маё плячо як больш трывалае. Але ён быў добры… Верыў мне і верыў у мяне. Аднак я ўспрымала яго як дзіця, хутчэй як сына, а не як мужа.

Нейкая ўнутраная патрэба, нават адчуванне якойсьці згаладаласці падштурхнулі мяне да пошукаў. Спантанных, неабдуманых, ненаўмысных.

Я шукала таго, хто быў бы дужэйшы за мяне. Хоць і не ўсведамляла, не разумела, што распачала пошук…

Але «мы ў адказе за тых, каго прыручылі». І вось — пачуццё віны. Якое зрабілася вастрэйшым за пачуццё страты, за пачуццё гора.

Што тычылася маёй фірмы, дык праўда: я давяла яе да галечы.

У нейкі момант я спалохалася, што Рыта ці цётухна раскажуць у прысутнасці маёй мамы пра тое, што апошнім часам, дапамагаючы, як яны казалі, «жаніху», я практычна засталася без сродкаў не толькі для работы, але і для нармальнага існавання, і ў якасці заспакаяльнага сродку пачала ўжываць алкаголь. На пачатку кожнага дня я была ўжо абыякавая да самога гэтага дня. Прымусова, нібыта па інерцыі, адбываючы ў сваёй збяднелай фірме «працоўныя» гадзіны, зрабілася абыякавай да ўсяго, што тычылася маёй работы, і з нецярпеннем чакала яе заканчэння. Але больш за ўсё перажывала за свой нядаўні развод і здраду, што суправаджала яго. Усведамленне таго, што «я — здраднік», зрабілася згубным для маёй псіхікі. Для мяне цяпер меў значэнне толькі вечар. Толькі ён і нездаровае заспакаенне, што прыходзіла разам з ім.

Але пра гэта яны не расказалі. Пашкадавалі мяне? Ці маму? Ці не гэта было галоўным з таго дурнога, што з'явілася апошнім часам у маім жыцці?

Цётухна і сястра гаварылі, як ганарыліся мною, як раптам адбылося нешта невытлумачальнае і я раптоўна рэзка змянілася. Звяртаючыся то да мяне, то да мамы, яны ў разгубленасці пыталі, дзе ж падзелася былая Наташа, якой так захапляліся людзі, і чаму я «кінула на вецер» столькі сродкаў і працы, калі і дзе спарадзілася зло?

— Учынкі Наташы неадэкватныя, — нібыта праз сон чула я словы цётухны. — Сваё футра з чарнабуркі суседцы аддала! Не, каб пра сваякоў падумаць… — голас цётухны паступова набываў злыя ноткі. — Мне вось няма за што калготкі сабе купіць!

А Рыта? Мая дарослая, на два гады старэйшая за мяне стрыечная сястра… Мне здавалася, што паміж намі — пяшчота, па-жаночы трапяткое сяброўства. Чаму раптам яна пачала ўспамінаць, як я крыўдзіла яе ў дзяцінстве? Што не слухалася яе, хітравала, падлабуньваючыся да бабулі, якая, не разабраўшыся ў маіх хітрыках, менавіта з гэтай прычыны мяне і любіла больш за яе, Рыту. Здаралася, што і сястра мяне крыўдзіла. Але тое было даўно.

І няўжо гэткімі важнымі былі для кагосьці мае фінансавыя магчымасці — тыя паперчыны, якія я не так даўно зарабляла і магла б яшчэ больш зарабіць? Хай я — марнатраўка, але я траціла тое, што зарабляла сама.

Часам у мяне ўзнікала адчуванне, што гаварылі пра кагосьці іншага. Надта ж балюча было ўсведамляць, што гаворка ішла пра мяне.

«Пайсці, пайсці… — раптам з'явілася вострае жаданне. І я ў роспачы азірнулася вакол: — Дзе я? Што са мной? Сон? Не можа быць…»

З'явілася дзіўнае адчуванне раздвоенасці, нібыта мая сутнасць раскалолася на дзве палавінкі і адна з іх, не вытрымліваючы ці баючыся заставацца надалей ува мне, па-здрадніцку аддзялілася ад мяне і, нібыта аднекуль збоку, назірала за тым, што адбываецца: вось сяджу, ненатуральна заціснутая, наструненая. Гэтай сваёй палавінцы я страшэнна не падабаюся, ёй сорамна за мяне. І за мой відавочна зблажэлы, з цёмнымі плямамі пад вачыма твар. І за мае выцягнутыя наперад рукі, якія недарэчна застылі на краі стала. Яны не дрыжалі, як звычайна бывала, калі я хвалявалася. Гэтым разам я іх проста не адчувала і, апусціўшы вочы, неадрыўна глядзела на іх.

Я здавалася сваёй палавінцы непрыемнай і невыразнай. Таму што ў маёй душы адсутнічалі і тая ўпэўненасць, што мелі іншыя, і пачуццё годнасці.

«Мяне тут больш не любяць, — зразумела я. Але раптам нібыта выбухнула думка: — Не, тут, сярод гэтых людзей, мяне любіць адзін чалавек! Мама. І ёй гэтак жа балюча, страшна і холадна, як і мне».

І з гэтага моманту я пачала не толькі думаць пра маму, але і адчуваць яе.

— Наташа не павінна выходзіць замуж, — нібыта здалёк даляталі да мяне словы цётухны. — Яна не толькі зрабіла кепскі выбар, але да таго ж, відаць, не ўсведамляе як след, што ўзяць шлюб — гэта адказнасць, а не пагоня за зямнымі радасцямі!

Я моўчкі слухала. Не спрачалася. Не задавала пытанняў. Не апраўдвалася. І паступова, упершыню за гэты вечар, да мяне пачала вяртацца здольнасць разважаць.

Я глядзела на Люду і не пазнавала сваю вельмі ж вясёлую сяброўку-цётухну. Яшчэ не так даўно яна, забываючыся на мужа і дачку, суправаджала мяне на банкеты, свецкія прыёмы і прэзентацыі фірм, якія я са сваімі дызайнерамі афармляла. Цётухна наведвала гэтыя мерапрыемствы з задавальненнем. І я, нясмелая і нешматслоўная, каб пачувацца больш упэўнена, ахвотна клікала яе з сабой. Заканчвалася ўсё звычайна позна, і цётухна ехала начаваць у маю кватэру. Я ўспомніла, як аднойчы, зручна ўладкаваўшыся ў крэсле-качалцы, мая гарэза-цётухна, закінуўшы нагу за нагу і са звыклым шыкам зацягваючыся цыгарэтай, мяне вучыла:

— Памятай, мілая Наташачка… Вартасць жанчыны ў тым, якім поспехам яна карыстаецца ў мужчын… Трэба, каб яны ля тваіх ног — штабялямі, штабялямі. А ты — па трупах! Па трупах! Мужыкі для таго і існуюць, каб іх выкарыстоўваць. У мяне іх было многа. І я ўсё жыццё прытрымліваюся прынцыпу: «Не я — для іх, а яны — для мяне!» І гэтаму вучу Вікуню.

Я не апраўдвала сябе ў душы, але, узгадваючы пра тую паўночную навуку, цяпер, у доме маёй сястры, слухала абвінавачванні цётухны са здзіўленнем.

— Волечка, — звярнулася яна да маёй мамы. — Наташа зрабілася нервовая, раздражняльная. — Цётухна гучна ўздыхнула і працягвала: — Яна і бедную Іну давяла, — успомніла яна пра жонку майго брата. — Нядаўна на дні нараджэння ў Іначкі перакуліла на яе шклянку з кіпнем. Іна, дагаджаючы гасцям, падала Наташы чай, а тая наўмысна адштурхнула ад сябе яе руку. Чай на Іначку і выліўся. А яна, мая дзяўчынка, нічога, прамаўчала. Я нават дзіўлюся яе далікатнасці. Паводзіны ж Наташыны — проста ненармальныя.

Я чула, як пасміхнулася за маёй спінай Вікуня.

Сполахам узнік успамін, які часта трывожыў мяне, пра тое, як у дзень нараджэння Іны я прыйшла да яе са сваім жаніхом. Запрасіўшы яго на танец, нявестка то імкнулася дакрануцца шчакой да ягонай шчакі, то апускала на яго плячо галаву. Мой брат, муж Іны, у той вечар адсутнічаў — быў у камандзіроўцы.

Ад нечаканай крыўды ў мяне сціснулася горла. Я ўспрыняла ўчынак нявесткі як падвоеную здраду. Яна здрадзіла не толькі мне, але і майму брату.

Пасля гэтага я і адштурхнула прапанаваны чай.

Значыць, тое, што я здзейсніла, заўважылі і запомнілі. А прычыну маёй выхадкі, як высветлілася, не заўважыў ніхто. Ці зрабілі выгляд, што не заўважылі?

Наўрад ці я мела права асуджаць Іну — маё маральнае аблічча, магчыма, было яшчэ горшым, — і ў далейшым я гэткіх паводзін сабе, хутчэй за ўсё, ужо не дазволіла б. Але тады, балюча ўспрымаючы крыўду, падпарадкоўваючыся нейкаму непадуладнаму здароваму сэнсу дзёрзкаму памкненню, я з агідай адштурхнула ад сябе руку Іны. І пасля моўчкі, у цяжкім душэўным запале, які паступова рабіўся звыклым, пакутавала. У той перыяд усё часцей у маёй душы ўзнікала нейкая чорная злосць, яна быццам душыла мяне, як дым ці пах тлення. Гэта быў беспрасветны стан, які адбіраў волю да жыцця.

Занятая сваімі думкамі, я ўжо не чула, пра што потым гаварылі то цётухна, то Рыта, то Вікуня, якая ўжо забылася на крыўду з-за свайго перарванага на самым пачатку размовы маналога.

Чым больш я маўчала, тым больш рашуча яны ўспаміналі і гаварылі. Са здзіўленнем думала, як жа многа, відаць, я зрабіла гэтым людзям зла і з якім задавальненнем яны ўсё тое злое вышукваюць, выкрываюць, нібыта старыя незагоеныя раны-гнайнікі, і пагардліва выціскаюць усё начынне вонкі…

Мама, як і я, маўчала. Яна за ўвесь вечар ні разу не паглядзела на мяне. Але яе прысутнасць, яе духоўную сувязь з сабою я ўвесь час падсвядома адчувала. Я ведала, як ёй цяжка зараз, і, штораз думаючы пра гэта, адчувала незнаёмы страшэнны жах, які ледзяніў душу.

Часам мяне нібы працінала маланка — здавалася, пачынаўся прыступ пакутлівай, тайнай хваробы, падобнай да сутаргі. Ад гэтага рабілася нясцерпна горача.

Пасля, гэтак жа раптоўна, без відавочных прычын, я супакойвалася і тады прыслухоўвалася да таго, што гаварылі.

Але пра што яны гаварылі? Чаго ж усё-ткі ад мяне хацелі?

Гэта быў суд. Справядлівы ці не — няважна. Але суд.

Падсвядома разумела: мяне судзілі за тое, што душу маю, відаць, даўно пакінуў анёл. Судзілі за маё перакроенае ў апошнія гады асабістае жыццё, за маё душэўнае бязладдзе. Судзілі за нечаканае маё безграшоўе, якое, як высветлілася, у чымсьці ўшчыміла і іх інтарэсы. І нейкім чынам маё маральнае падзенне закранула гэтых людзей, менавіта іх, што былі такімі блізкімі ў перыяд майго шчаслівага і ўстойлівага дабрабыту.

Я не была падрыхтавана да таго, што адбылося ў той вечар. Таму маўчала. Але, мажліва, дзякуючы менавіта маўчанню шмат чаго пачула, зразумела і пераацаніла. І, перажыўшы ўзрушэнне і балючы сорам, раптам усвядоміла, што цяпер навакольны свет ужо не змагу ўспрымаць як раней.

З гэтага пакутлівага стану, як ні дзіўна, мяне вывела нейкае ўнутранае ўсведамленне майго няслаўя. Да таго ж, прадчуванне гэтага няслаўя, нейкі страх і трывога, якія звычайна спадарожнічаюць такому прадчуванню, даўно гняздзіліся ў маёй душы. Я насіла ўсё гэта ў сабе, як нарыў, які раптам прарваўся. Тое, што было ў маёй душы, балючае і горкае, што да часу стаілася, маўчала і хавалася, раптам выспелілася, моцным, магутным штуршком вырвалася вонкі і знікла. Адначасова знікла пачуццё сораму і разгубленасці. Я нібыта вызвалілася ад усяго, што дагэтуль прыгнятала мяне. І гэта адчуванне свабоды, якое раптам узнікла, быццам асвятліла ўсё вакол і маю душу таксама.

Люда і Вікуня засталіся ў Рыты. Толькі мама рашуча пайшла разам са мной.

У паўзмроку пад'езда яна спыніла мяне, узяла за руку, глыбокім, пакутлівым позіркам глянула ў мае вочы і, нібыта молячы, сказала:

— Даруй ім.

Больш яна нічога не гаварыла.

* * *

Усёй душой я разумела, што была грэшнай. І гэтых грахоў у мяне было замнога. Але толькі не перад тымі людзьмі, якія імгненне таму мяне судзілі… Хто з іх, шчыра кажучы, мог даць клятву, што не зведаў у большай ці меншай ступені хоць аднаго з тых грахоў, за якія дакаралі мяне?

Перш чым сесці ў сваю маленькую, кінутую ля дома сястры машыну, я ўзняла галаву. Я ўбачыла цёмнае, маўклівае, глыбокае неба… Яно дыхнула на мяне веснавым холадам, але такім свежым, такім усёразумеючым…

Ніхто не мае права судзіць, — пераканалася я, — ніхто і ніколі. Акрамя гэтага велічнага і чыстага неба.

Па-рознаму рэагуюць людзі на ганьбу і паражэнне. Адных няўдачы апускаюць яшчэ ніжэй, на дно, адкуль не падняцца; для іншых яны могуць зрабіцца той стартавай сілай, той іскрай, якой якраз і бракавала, каб разгарэўся ў іхнім жыцці вялікі і яркі агонь.

Стан шчасця чымсьці падобны на стан сытасці. А сыты заўсёды інертны.

Я добра памятаю тыя пачуцці, якія перажыла, калі садзілася ў машыну, устаўляла ў замок запальвання ключ, паварочвала яго. У дакладных рухах сваіх рук я адчувала невядомую да гэтага цвёрдасць, у душы панавала яснасць. І раптам зразумела, што гэты горкі момант маёй маральнай паразы і прыніжэння можа зрабіцца, магчыма пачаткам маёй, магчыма, найгалоўнейшай у жыцці перамогі.

…Перамога адбылася. Я набыла ўпэўненасць у сабе і ў сваіх сілах, якой не ведала раней, і нейкую натуральную патрэбу нязмушана і з гонарам трымаць галаву.

Я зноў зрабілася паспяховай дзелавой жанчынай, да якой паступалі заказы на афармленне самых прэстыжных і важных у краіне аб'ектаў.

Тыя, хто ўваходзілі калісьці ў маё атачэнне, у яго вярнуліся. Усё нібыта «стала на сваё месца». Цётухна і іншыя мае сваякі зноў захапляліся мною… І чамусьці ніколі не ўзгадвалі той вечар, быццам бы яго і не было.

Толькі я дагэтуль удзячная Богу за кожнае імгненне тых маіх адчуванняў, за кожную хвіліну перажытага няслаўя.

Так, ёсць падзеі не самыя прыемныя ў жыцці, перыяды непрымання самога сябе, сораму і адчаю… Важна, што адбудзецца потым.

Для мяне яны паслужылі ўрокам, пасля якога я змяніла стаўленне да самой сябе і да тых, хто побач. Яшчэ незалюбіла лісліваcць. Якую заўгодна… Для каго б яна ні прызначалася і ад каго б ні зыходзіла. І зразумела: часам, каб падняцца на вяршыню, трэба пабыць на дне. Нават калі гэтым дном будзе тваё няслаўе.

## Час і ўзрост

***Мы ўступаем у розныя ўзросты нашага жыцця, нібы нованароджаныя, не маючы за плячамі ніякага досведу, колькі б нам ні было гадоў.***

Ф. ЛАРОШФУКО

Амаль не заўважыла, як «пясочны гадзіннік» жыцця раўнамерным танюткім струменьчыкам часу, які звычайна так непрыкметна, павольна ўбывае, адлічыў мае пяцьдзясят.

Узрост чымсьці нагадвае несамастойнае, неспрактыкаванае дзіця, якое з моманту свайго нараджэння спрабуе ўтрымацца за руку маці — часу.

Маці і дзіця — час і ўзрост. На першы погляд такія роднасныя, неразрыўна звязаныя адна з другой катэгорыі. Але розніца паміж імі не мае аналагаў у створаным па нейкіх неспасціжных для чалавечага разумення законах сусвету. Падобна да зададзенага маршруту ўзрост заўсёды адмяраецца пачаткам і канцом. Час жа ні пачатку, ні канца не мае. Ёсць толькі замкнуты цыкл змены пораў года: за летам ідзе восень, потым зіма, за зімою — вясна і зноў лета. Ілюзія бессмяротнасці... І няспыннага руху па коле.

Усё яшчэ стаўлюся да свайго ўзросту лёгка, без страху і шкадавання. Можа таму, што нярэдка чую кампліменты? Хто ведае, якім акажацца маё ўспрыманне ўзросту, калі ў люстэрку ўбачу пазначаны старэчымі зморшчынамі ўласны твар. Што, калі ўзрост, нібы вострае лязо, паласне па маёй душы і раптоўна, не вагаючыся, ацвярэзіць яе? Пакажа час.

Дагэтуль для мяне ўзрост атаясамліваўся з пэўнымі здольнасцямі ўспрымаць тое, што акружала і з чым сутыкалася. Кожны ўзроставы перыяд быў нейкім своеасаблівым, мала падобным да папярэдняга, кантынентам адчуванняў і пачуццяў.

У тую шчаслівую пару маленства, калі не ўмела чытаць і хоць колькінебудзь рацыянальна думаць, мяне быццам нябачная пупавіна звязала з сапраўдным сусветам, шматмерным і шматгранным, які яшчэ не быў скажоны ні маім, ні чужым веданнем пра яго. І фарбы гэтага сусвету здаваліся ярчэйшымі і шчыльнейшымі, гукі — больш выразнымі і тонкімі, а ўсхваляванасць, якую яны выклікалі, узрушала душу. Тады, у дзяцінстве, мяне акружалі не проста неба, дрэвы і травы, а Неба, Дрэвы і Травы. Усё мела іншую веліч, іншую маштабнасць і быццам вяшчала пра тое, што свет існуе для мяне. Я адчувала, улоўлівала гэта не розумам, не мысленнем, а скурай. І, адчуваючы давер да створанага для мяне свету, не сумнявалася: нішто і ніколі не зможа азмрочыць маю радаснасць.

Але калі гэтая радаснасць пры першым жа, няхай нават і дзіцячым, выпрабаванні з прычыны нязначнага, на сённяшні погляд, удару раптам разляцелася на малюсенькія аскепкі, я зразумела, што свет існуе не толькі для мяне адной. Што на зямлі ёсць безліч іншых людзей. І кожны з іх мае такое ж выключнае права на гэты свет.

Нечаканым узрушэннем стала ўсведамленне таго, што ім, людзям, аказваецца, амаль няма справы да маёй асобы, і, разгубіўшыся, я раптам адчула сябе нязначнай, нібыта падманутай кімсьці. Так, напэўна, з´яўляецца на свет, быццам куранё з яйка, нясмелае і неакрэплае, якое толькі-толькі пачынае сумнявацца і думаць, «я» і разам з ім — «эга».

Тады, шчыра апраўдваючы і ўспрымаючы як справядлівае гэтае сваё «эга», я не здагадвалася, што надыдзе час, калі давядзецца распазнаваць амаль кожнае з яго шматлікіх адценняў. І, вывернуўшы спод ягонай ганебнай сутнасці, да знямогі, «да крыві» змагацца з ім. І з кожнай, хай нават і самай нязначнай, перамогай над сваім «эга», углядаючыся ў іншых людзей, я болей і болей буду разумець: усе мы падобныя ў галоўным. І гэтая падобнасць — натуральная. Бо агульны «архетыпны» вопыт карэніцца ў кожным з нас, прытым даволі глыбока. Індывідуальнае быццам патанае ў ім. І такая шырока распаўсюджаная схема (няма чалавека, які ў тыя ці іншыя моманты жыцця не ўспрымаў свет па ёй) — «я» — цэнтр, а па перыферыі — «яны», гэта значыць народ, — сёння стала для мяне непрымальнай. Бо я — гэта таксама «яны». І ўсе мы аднолькава радуемся ў дзяцінстве, марым у маладосці і маркоцімся, калі старэем. Магчыма, аналагічнае таму, што адчувала ў тым ці іншым ўзросце я, дзесьці ў іншым куточку зямлі адчуваў немец, француз ці амерыканец.

Таму, калі апісваю няхай нязначныя, але асаблівыя, вострыя па адчуваннях сітуацыі і падзеі, што адбываліся са мной недзе ў глухой беларускай вёсачцы, якая ведаць не ведала ніводнага іншаземнага госця, я не сумняваюся, што той жа немец, француз ці амерыканец зразумее мяне, калі раптам знойдзе нешта сугучнае з маімі пачуццямі, і нібы знаёмае, у асабістай душы.

У дзяцінстве мне здавалася, што неба над маёй любай вёскай з яе невысокімі хатамі распасціралася на ўсю шырыню зямлі. Удзень яно было то бясхмарнае, блакітнаватае, то ў хмарах, якія мудрагеліста клубіліся. Вечарам — насычалася згусцелымі фарбамі, ад фіялетава-сініх да барвовых, што ўзбуджалі і трывожылі душу. Ноччу неба станавілася таямнічым і прываблівым, асабліва калі на ім праяўляліся зоркі.

Бывае, у час бессані выразна бачыш тое яскравае і незваротнае, што калісьці ўсхвалявала і да канца твайго жыцця ўтрымаецца ў памяці.

Вось я, малодшы брат і бацькі ў нашым першым сумесным начлезе на дняпроўскай пясчанай, парослай маладымі вербамі, касе... Бацька пераправіў нас сюды на лодцы. Змайстраваў з лазняку шалаш.

Дагарала вогнішча. Учатырох, поплеч, мы ляжалі на духмяным сене і глядзелі на неба, што пачынала чарнець. І тыя ўражанні ад зорнага неба ўва мне ярчэйшыя і больш выразныя, чым ад першага пацалунка, паступлення ў інстытут і нават ад тых хвілін, калі ўпершыню, на самалёце, узляцела ў яго неабсяжны прастор. Я прыгадваю тое начное неба з большым хваляваннем, чым некаторыя іншыя значныя падзеі ў маім жыцці.

Тады я не магла адвесці вачэй ад вялікіх і маленькіх зорак, якія мігцелі, заварожвалі незямной прыгажосцю, глядзела, як пралятаді самалёты, крэслілі цемру метэарыты, а можа, нават і спадарожнікі. Бацька ціха, загадкавым паўшэптам, расказваў пра планеты, неспасціжнасць для нашага разумення сусвету, пра вечнасць. І мне здавалася, што я глядзела ў космас з калыскі зямлі. І космас адчуваў мяне, моўчкі міргаў зоркамі. У такія хвіліны адкрываецца тайна: калі на неба глядзець доўга, страчваеш мяжу паміж ім і зямлёй. Альбо зоркі апускаюцца, альбо ты ўзносішся да іх і ўцягваешся, уцягваешся бяздоннай далячынню.

О, якое ж гэта было шчасце — знаходзіцца побач з самымі блізкімі табе людзьмі і, лежачы пад адкрытым, бясконцым, поўным загадак небам, удыхаць пахі траў і ракі!

Дняпро з ягонымі абрывістымі берагамі, у якіх ластаўкі рабілі свае норкі-гнёзды, з шырокімі плёсамі, пясчанымі косамі і водмелямі, старыцамі і заліўнымі лугамі быў самай прыгожай, самай галоўнай ракой на зямлі, бо ён быў маёй ракой. Мне падабалася глядзець на ракеты, што праплывалі міма, катары і баржы, на хвалю, якая імкліва наварочвалася, злізваючы з берагавога пяску свежыя сляды, на чародкі малявак, што заміралі ў празрыстай, прагрэтай сонцам водмелі. Любіла смак дняпроўскай вады, тады яшчэ даволі чыстай, якую чэрпалі проста з ракі кепкай або панамкай і тут жа, працадзіўшы праз свой галаўны ўбор, пілі. А яшчэ падабалася, прысеўшы на беразе, глядзець удалечыню, у той бок, куды несла свае воды мая рака. Да мора. Уяўляла, як яна шырыцца і набірае сілу. І думала, што вось так жа будзе шырыцца, імкнучыся ў будучыню, і набіраць сілу маё жыццё.

Памяць... У ёй усё: і пахі, і гукі... І нават смак ежы... Здараецца, што якое-небудзь адно, няхай нават імгненнае, адчуванне раптам вяртае цябе ў дзяцінства. Прытым настолькі ярка, што ўспамін быццам становіцца рэальнасцю.

Неяк, крыху прыхварэўшы, я заварыла палын і бяссмертнік. Пах, гарката гэтага адвару так не падабаліся ў дзяцінстве... Бабуля выводзіла мяне ў сенцы, падавала кубак з тымі горкімі лекамі і ўгаворвала зрабіць глыток. Я моршчылася, адпіўшы нясмачны адвар. Гарката... Помню тое непрыемнае адчуванне... Рабіла глыток праз сілу. Сёння з хваляваннем вымаю з палатнянага мяшэчка лекавыя зёлкі, сабраныя летам. Заліваю кіпнем і з глыбокай пашанай, замiраннем настойваю.

Як пахне... Родным... Адчуваю прысутнасць бабулі, якой ужо больш за дваццаць гадоў, як няма. Раблю глыток... Заміраю ад адчуванняў... І няма нічога саладзейшага за гэты горкі напой.

На жаль, тое, што ў дзяцінстве хвалявала мяне, тонкае, злітае з нябачнай першаасновай быцця, паступова стала гаснуць. І з узростам гэтае згасанне рабілася ўсё больш прыкметным.

Прыйшоў час, і пастукаўся ў мой яшчэ недасведчаны свет «эрас», каб стаць уладаром эмоцый і жарсцяў, заглушаючы ціхую, пяшчотную мелодыю дзіцячых пачуццяў. І гэтыя жарсці і эмоцыі патрабавалі душэўных сіл, усіх, без астатку. Серабрысты голас дзяцінства гучаў усё цішэй і глушэй.

І вось цяпер, пражыўшы паўвека, я чую ўжо іншы голас. Ён робіць усё роўным і амаль безэмацыйным. Хоць яшчэ па звычцы ўсклікваю: «Як хараша!» або «цудоўна!», але рэдка адчуваю гэтае чароўнае і цудоўнае. Новы, сталы голас хутка гасіць рэдкія ўсплёскі радасці, не дазваляючы сабе чакаць ад лёсу цуду, як бы паспяхова ні складвалася жыццё.

Можа, у гэтым свеце, сплеценым з усіх адкрыццяў і дасягненняў чалавецтва, даражэй за ўсё маленькі бесцялесны згустачак дзіцячай душы?

Я рэдка сню сябе ў цяперашнім узросце. Мае сны быццам адмаўляюцца ўспрымаць сапраўдны ўзрост і існуюць у мінулым. Іншы раз у сне я зусім юная і, радуючыся, бачу моцнымі і здаровымі сваіх дзядулю і бабулю, а таксама шмат каго з тых людзей, якіх ужо няма на гэтым свеце. І нярэдка, як у маладосці, хвалюючыся, спяшаюся на адны з першых, далёкіх, якім больш ніколі не паўтарыцца ў рэальным жыцці, спатканняў.

Чалавечае жыццё нібы круціцца вакол маладосці. Маладосць — «восевы час» чалавека. Толькі ў маладосці табе даецца безумоўная вера ў сябе, у свае здольнасці і прадчуванне значнай, абавязкова шчаслівай будучыні з яе неверагоднымі магчымасцямі. Таямніца твайго лёсу пакуль яшчэ не раскрыта. Таму ўсё, што наперадзе, кліча і прыцягвае. І ты адчуваеш сваё асаблівае прызначэнне, абранасць.

У дзяцінстве маладосць мне бачылася яскравай, прывабнай, і я нецярпліва чакала яе прыходу (вось вырасту вялікая!), а цяпер з сумам думаю пра яе. І хоць маладосць, як прынята лічыць, валодае паўнатой сіл і магчымасцей, я з горыччу тушу апошнія вугольчыкі яе былой, дзёрзкай і саманадзейнай, фанабэрыстасці.

Наперадзе — старасць. Яе набліжэнне востра адчуваю, калі бачу, як старацца, страчваюць фізічныя сілы самыя дарагія для мяне людзі — мае бацькі. Іншы раз, у думках прымяраючы іх старасць на сябе, баюся самага страшнага — разлукі. Дзіўлюся, што, здаецца нядаўна, амаль ці не ўчора, ім было столькі ж гадоў, як мне сёння, а цяпер яшчэ больш кароткі, можна сказаць, нязначны прамежак часу аддзяляе мой узрост ад іхняга. Вось ён дзе, бязлітасны і незваротны закон паскарэння! Ужо не доўжыцца, а ўсё шпарчэй пралятаюць зімы і вёсны.

Цяпер ты не толькі набываеш у гэтым нястрымным бегу жыцця, але і страчваеш. І з кожнай чарговай стратай усё часцей задумваешся пра непазбежнасць смерці. Думкі пра яе выклікаюць шчымлівую, невытлумачальную тугу, нейкі холад, што смокча знутры.

Больш за ўсё баюся страціць сваіх блізкіх. І гэты страх, бескантрольны, падсвядомы, амаль увесь час са мной... А ў тыя хвіліны, няхай і рэдкія, калі ён нечакана становіцца пранізлівым, перад вачамі ўзнікаюць эпізоды з жыцця — звычайныя, нічым не знамянальныя, — але якія цяпер, з узростам, успрымаюцца як галоўнае і самае дарагое. Вось мама, яшчэ маладая, укладвае перад люстэркам у строгую прычоску свае доўгія русыя валасы... Тата, седзячы на канапе, пры святле бра чытае газету. Твар у яго засяроджаны, ледзь нахмураны, сур´ёзны. Мне не хочацца яму перашкодзіць, пакой жа бацькоў — зала — праходны, і толькі праз яго можна трапіць у маленькую пярэднюю, ванную, кухню. Іду міма бацькі на дыбачках, ціхенька, амаль крадком, каб не адцягваць увагу... Прыгадваецца і наш з братам шасціметровы пакойчык-спальня з невялікай канапай і крэслам-ложкам, аднаместнай раскладной партай, за якой я школьніцай рыхтавала ўрокі, і з дзвюма кніжнымі паліцамі на сцяне. Тая маленькая, небагата абсталяваная кватэра-паўтарачка дагэтуль сніцца і здаецца мне больш утульнай, чым цяперашняя, раскошная, са старанна прадуманым інтэр´ерам.

Даўнія, паўзабытыя эпізоды жыцця ўстаюць перад вачамі і знікаюць хутка, быццам у нямым кіно. І хоць у імгненнях, што ўсплываюць у памяці, нічога асаблівага не адбывалася, яны для мяне вельмі дарагія. І я люблю да болю, да слёз тых, хто паўстае ў гэтых нечаканых, хвалюючых карцінах: маму, бацьку, брата...

Часам думаю, якое нетрывалае чалавечае жыццё, колькі ўсяго пагражае яму. Яго засцерагае толькі тонкая далікатная скура ды маленькі язычок дзвярнога замка. І яшчэ — шыба. Яна, праўда ж, увогуле не засцерагае. Нездарма кажуць: крохкае, як шкло... А наўкол — поўны небяспекі свет. Тэлевізар паглядзіш: недзе паводка, ураган, цунамі, астэроіды лятаюць, зоркі ўзрываюцца, а там вайна, тэрарыстычны акт, некага забілі... Не-не ды і прамільгне думка: як добра, што не мяне, не блізкіх маіх. І якім прывідным і хісткім уявіцца раптам дабрабыт твой і тваіх родных. Аказваецца, смерць заўсёды напагатове, побач, увесь час дыхае ў патыліцу... Толькі ёй адной дазволена

паставіць кропку ў канцы твайго жыццёвага шляху. І толькі пра яе ніколі не хочацца думаць. Здаецца, пакуль пра яе не думаеш, ні з табой, ні з тымі, каго ты любіш, нічога не здарыцца.

Але вось пайшоў у іншы свет знаёмы чалавек. Не блізкі. Яго, вядома, вельмі шкада. І раптам у падсвядомасці, недзе вельмі глыбока ў табе, успыхне і патухне думка, нават не думка, а імпульс нейкі, зусім не падобны на спачуванне: «Не я!» — «Пакуль не ты», — згаджаецца смерць. Аднак ля чыёйсьці, няхай нават чужой, магілы больш баішся не за сябе, а за таго, хто дарагі.

З кожнай стратай і выклiканым ёю пякучым, нясцерпным болем старэеш. Ды і самі думкі пра смерць — першыя вестуны набліжэння старасці.

Хоць, напэўна, уменне быць старым — асаблівае майстэрства. У старасці больш не патрабуеш ад свету таго, чаго ён не можа табе даць, і набываеш найважнейшае з пачуццяў — пакорлівасць. Скараючыся, становішся бліжэй да Бога. А ў гэтым, можа, і ёсць галоўны сэнс чалавечага жыцця?

Старасць — гэта пастаянная сустрэча з мінулым, якое ўжо не марыць, а спаганяе, патрабуе з цябе, тыцкае табе ў вочы, у душу тваімі памылкамі, слабасцямі, заганамі і прапушчанымі магчымасцямі. Старасць, можа, таму і патрэбная, каб спытаць з цябе за маладосць. Ты ўжо не маеш магчымасці сказаць: я шмат чаго дасягну, шмат чаго зраблю... Усё перад табой: вось яно, глядзі, што ты зрабіў, чаго дасягнуў. Ці не праз гэтае пакутлівае адчуванне няздзейснага так не любяць старасць?

Нехта лічыць старасць вартым жалю становішчам, дарэмна адведзеным чалавеку прыродай адрэзкам жыцця.

А можа, старасць — гэта праверка на мужнасць? Незаўважна звужаецца тваё наваколле. Ты становішся слабым, пачынаеш адчуваць самоту, абязвечваешся і няўхільна набліжаешся да мяжы, за якой — цемра няведання. Няма ў цябе ні прыгажосці, каб зачароўваць, ні сілы, каб процістаяць.

І ўсё ж, відаць, нездарма дадзены чалавеку гэты складаны, апошні, але, магчыма, самы галоўны ў яго жыцці перыяд. Час спыніцца і час задумацца. Час жніва і час пакаяння. А ў канчатковым выніку — момант ісціны.

## Страсці

***Страсці, якіх больш за ўсё трэба баяцца, не тыя, што вядуць супраць нас адкрытую вайну, папярэджваючы рыхтавацца да абароны. Больш трэба асцерагацца страсцяў, якія падманваюць і спакушаюць, замест таго, каб няволіць і падахвочваць нас без нашага ведама рабіць тое, чаго мы не жадаем.***

Жан-Жак РУСО

Яшчэ ўчора думала — хоць не так даўно і абяцала маці і камусьці з сяброў і знаёмых дапісаць сваю споведзь, — што не ствару і радка. Менавіта не ствару. Выціснуць з сябе словы можна, прымусіць напісаць абзац, два і болей, але каб ствараць — патрэбна страсць. Творчасць без страсці — банальная, прэсная праца, якая наўрад ці каго зацікавіць. А літаратурная творчасць — асаблiва. Нельга крануць чыюсьці душу, не адчуваючы хвалявання ў сваёй душы. Чым больш жыцця ў табе, тым больш цікавым і запатрабаваным ты будзеш для іншых. Дыхай, гары, калі хочаш, каб атрымалася штосьці значнае. Але лёгка загадаць: «Душа, ажыві, зазіхаці пачуццямі!» А яна вось не адгукнулася. Ні ўчора, ні сёння... А што, калі і заўтра?

Добра памятаю, як пісала раздзел «Здрада». Такое не забудзеш! Два тыдні творчасці. Спачатку перастала спаць, потым — есці. А праз нейкі час і піць. Магла толькі ваду. Гарбату арганізм не прымаў. Але колькі эмоцый! Баялася згарэць на ўласным агні. Вось што такое страсць!

Затое і чытач не застаўся абыякавым. «Здраду», казалі, перадавалі з рук у рукі. Хтосьці плакаў, а хтосьці і не мог заснуць — прызнаваліся.

А цяпер...

Пасля смерці блізкіх мне людзей — бацькі і былога мужа Валодзі, пасля ўсплёску горкіх, але надзвычай моцных перажыванняў, раптам адчула, як згасла, знікла папярэдняя воля да жыцця, быццам нехта нябачны ўзяў і адгарнуў, адгарадзіў ад мяне свет, які я столькі гадоў даверліва любіла.

Расчаравана, абыякава, быццам з вышыні нейкага ведання, якое раптам мне адкрылася, стала глядзець на людзей і ўспрымаць як бессэнсоўнасць іх мітусню і памкненні.

Што гэта? Дэпрэсія? А дэпрэсія — ці не ёсць поўная адсутнасць страсцяў?

Хоць існуюць і іншыя пачуцці — часовыя радасці і засмучэнні, альбо пачуццё гармоніі, напрыклад, якое не мае нічога агульнага ні з дэпрэсіяй, ні са страсцю. А яно ж таксама можа быць рухаючай сілай творчасці, як, урэшце, і жыцця. Але ці паўнавартасная творчасць, як і само жыццё, без палкасці, гарачых пачуццяў? І калі падумаць: нічога вялікага ў свеце не здзяйснялася без страсці.

Аднак дэпрэсія дэпрэсіяй, а жыццё працягваецца. Калі на душы дрэнна, ці — што яшчэ горш — ніяк, можаш не ствараць. А вось каб падтрымаць гэтае жыццё, якое раптам страціла ўсе яркія колеры, неабходны мінімум штодзённай працы выконваць трэба. Інакш, яўна выпаўшы з рытму, трапіш альбо ў псіхіятрычную клініку, альбо ў нікуды. А калі ў нікуды — то гэта тупік, канец усяму.

Хоць менавіта гэты, неабходны мінімум, што патрабавальна выстаўляе ўсім без выключэння жыццё, часцей і ратуе, выцягвае цябе з цемры, якая нядаўна здавалася беспрасветнай.

Страсці... Ужо ці не на іх шэрых папялішчах, дзе некалі яны, напоўненыя нястрымнай шалёнай сілай, разгараліся і ўспыхвалі, прарастае атрутным пустазеллем маркота?

А што ёсць страсць? Моцнае пачуццё, жаданне, захапленне? Надзвычайная ўзбуджанасць душы? Нецярпенне? Нястрымныя парывы да неабдуманых учынкаў? Страсць — гэта тое, з чым амаль немагчыма саўладаць.

І ўсё ж, добра ці дрэнна быць страсным? Прынята паважаць тых, хто мае сілу над сваімі страсцямі. Ва ўтаймаваных страсцях бачаць сутнасць дабрадзейнасці. Калі ж страсці падпарадкоўваюць сабе волю чалавека, іх лічаць заганай.

Але страсці страсцям розніца. Іх можна параўнаць з вятрамі, што напінаюць ветразі карабля: адны дапамагаюць яму плыць, другія яго топяць.

Калі зазірнуць у глыбіню ўласнай душы пільна, адважна, не накідваючы сарамліва завесу на адчувальнае, аголенае сумленне, можна жахнуцца. Бо тады ты выявіш у ёй не толькі зародкі, але і плады ўсялякіх заганаў. І захочацца крыкнуць: «Не!» І адвярнуцца. Бо невыносна цярпець боль, які ўзнікае пры гэтым. Душа не вытрымлівае, калі ў яе зазіраюць, яна рвецца і пачынае крываточыць.

Так, ты вымушаны будзеш адвярнуцца. І супакоіцца. Каб жыць... Але супакаенне гэтае часовае. Раней ці пазней табой авалодвае раскаянне. Звычайна гэта здараецца, калі страчваеш, калі раптам не аказваецца побач таго, хто, як цяпер разумееш, вельмі дарагі. І ты не столькі ўсведамляеш, колькі адчуваеш, калі і чым яго пакрыўдзіў. На жаль, дрэнны ўчынак асабліва востра мучыць не ў момант яго здзяйснення, а праз нейкі час, калі ўжо нічога немагчыма выправіць.

Вось і сёння, з адчаем зазіраючы ў сваё мінулае, пытаюся ў сябе і ў кагосьці мудрага, усёведнага, які назірае адтуль, з сусветнай вышыні за ўсімі, хто жыве на зямлі: чаму ўва мне, як і ў падобных да мяне, узнікае і множыцца зло? Што падштурхоўвае наносіць удар блізкаму чалавеку? У чым прычына таго, што аднойчы асабістае, тое, што выяўляе і адлюстроўвае сутнасць майго «я», стала для мяне больш важным і значным, чым «я» іншых? Калі, у якім узросце і ў які момант гэта здарылася? Што разбэсціла душу, спакусіла яе на страсці і дзеля чаго?

Можа гэта здарылася ў тую далёкую навагоднюю ноч?.. Было мне тады пяць гадоў. Сяджу на гарачай печы, падцягнуўшы пад сябе, пад ногі, каб не было горача, ватовую коўдру, і з захапленнем узіраюся ў сваё адлюстраванне. У маіх худых, амаль празрыстых руках цяжкаватае, вялікае, заседжанае мухамі люстэрка, якое знялі для мяне са сцяны. Я была ў белай, сапраўднай «балерынскай» сукенцы, якую бабуля напярэдадні свята пашыла мне з марлі.

У падобнай на гэтую сукенцы не толькі ўяўляла, але і амаль адчувала сябе, калі на чорна-белым альбо, як яго яшчэ называлі, «блакітным» экране паказвалі «Лебядзінае возера». Для мяне, дзіцяці, тыя імгненні сталі чарадзейнымі з´явамі музыкі, рухаў і... о, сукенкі! Мне здавалася, што не салістка балета, а менавіта я, я! чараўніча кружылася і ледзьве не лятала па сцэне ў атачэнні найпяшчотнейшых ў свеце лебядзіных пярынак. Заварожана гледзячы на экран, зусім не з дзіцячай пыхлівасцю, я бачыла толькі сябе, адну, замест яе, цудоўнай, той...

Я трызніла, марыла, хутаючыся ў цюль, кружачы па пакоі, імправізуючы, то з лёгкасцю апускалася на падлогу, то нібы ўзлятала ўвышыню пад музыку, якую быццам чула альбо адчувала — яна гучала ўва мне. Гэтаму занятку з фанатычнай страснасцю я аддавалася, калі мяне ніхто не бачыў. І была амаль шчаслівая. Нефставала, і я ніяк не магла скарыцца і супакоіцца, толькі аднаго — сукенкі.

Якім чынам бабуля здагадалася, што менавіта пра такую сукенку я марыла? Неяк яна купіла ў краме паркалёвую, у кветкі, запэўніваючы, што гэтая таксама «балерынская». Тады я не хавала свайго расчаравання. І вось яна — яе бабуля пашыла за адзін дзень, да навагодняй ночы — пяшчотная, незямная, з упрыгожанай пер´ем спадніцай, у бліскаўках прышытай елачнай мішуры... Быццам Папялушка перад балем я ўзіралася ў сваё, як мне здавалася, чароўнае адлюстраванне і ад замілавання і шчымлівай радасці ледзь не плакала. Разглядваючы сябе ў люстэрку, я ўпершыню адчула нясціплае захапленне майго яшчэ дзіцячага, якое толькі-толькі абудзілася, «я».

У той вечар мой малодшы брацік і стрыечныя брат і сястра гулялі сярод дарослых каля сасны, якую бабуля ўпрыгожыла да свята. Усе яны былі ўнізе, у пакоі. Я іх чула, але не жадала да іх спусціцца — у маёй сукенцы можна было красавацца толькі на печы.

Ці не ў тую ноч, калі нечакана задаволілася, дзякуючы бабулі, маё першае страснае жаданне, узніклі, каб прарасці і памацнець ува мне, самалюбства і эгаізм?

Чалавек — гэта сістэма, замкнёная на сябе. Часта так і ёсць. Аднак не ўсе людзі эгацэнтрычныя. Маці можа жыць інтарэсамі дзіцяці, ахвяруючы ўласнымі; святар, не думаючы пра сябе, дапамагаць пакутніку; а хтосьці гатовы аддаць апошнюю кашулю, калі гэта будзе патрэбна сябру.

Атрымліваецца, чым больш у чалавеку любові, тым менш ён сканцэнтраваны на сабе. Хоць любоў да сябе — гэта таксама любоў.

Любіць сябе і любіць блізкага... Ці багата такіх, у кім не на шкоду адна адной не толькі суіснуюць, але і складаюць адзінае гарманічнае цэлае гэтыя дзве любові?

У жыцці мне давялося сустрэць такіх людзей. Але як хацелася б сказаць: пашчасціла сустрэць... Няздольнасць своечасова цаніць сустрэчы, якія дорыць табе лёс, часта ператвараюць шчасце ў трагедыю. Як у той старой з вядомай казкі «Залатая рыбка», якая, ставячы вышэй за ўсё свае жаданні і патрэбы, у выніку застаецца ля разбітага карыта.

Падпарадкаванне спантанным жаданням чымсьці нагадвае запой, калі не ведаеш меры, калі бурліць кроў і цяжка спыніцца, і ад бессэнсоўнага захаплення немагчыма прадугадаць вынікі.

Чаму пра гэта пішу? Каб разабрацца ў прыродзе сваіх памылак і кепскіх учынкаў? Пакаяцца і гэтым палегчыць цяжар віны? Альбо паспрабаваць знайсці адказ на пытанне, якое рана ці позна мучыць амаль кожнага чалавека: у чым усё ж такі заключаецца сэнс жыцця? Тады чаму пошук і хоць бы нейкае разуменне яго надыходзяць занадта позна, звычайна ў канцы шляху, калі пражыць па-новаму, інакш, не прычыняючы шкоды сабе і іншым, ужо немагчыма.

Кожны ўчынак і тое, што за ім вынікае, ёсць урок. Можа, гэтыя ўрокі ўсё ж такі нечаму вучаць, і ў гэтым — мізэрнае і адзінае апраўданне страсцям.

* * *

Часта перад вачыма ён, Валодзя, блізкі для мяне чалавек, сябар, былы муж. Цераз два тыдні будзе год, як ён пайшоў з жыцця.

...Май. Хмары камароў, вялікая вада. Дняпро спыніўся ля самых вясковых двароў. Усё гэта ён палюбіў: і вёску, і раку, і поплавы. І магілу маёй бабулі, да якой кожны раз, прыязджаючы на маю радзіму, мы прыходзілі ўдваіх.

Ён жыў маімі зацікаўленнямі, прыхільнасцямі і жаданнямі. І што б я ні рабіла, якія б рашэнні ні прымала, верыў, што гэта — добра.

І вось ён упершыню на маёй радзіме адзін, без мяне. Апошні раз... У гэтым жорсткім маі.

Цяпер ён не наведваў маіх гасцінных землякоў. Хаваўся, быццам палескі рабінзон. Толькі хадзіў да магілкі маёй бабулі. З ёй адной дзяліўся горам. Садзіўся каля ўзгорачка і маўчаў. Якога суцяшэння ён у яе шукаў?

Мне ж пакінуў запіску ў прыхожай, на тумбачцы: «Не шукай».

Два тыдні, як я пайшла да іншага, заглядваючы дамоў толькі, каб прыгатаваць для Валодзі ежу і трохі супакоіць яго.

Я перажывала. І ён бачыў гэта. І шкадаваў мяне.

Не вытрымаў. Паехаў. Ад мяне і ў той жа час да мяне.

...Скончыліся кішэнныя грошы. Схуднелы, увесь у вадырах ад укусаў камароў, ён пёк на вогнішчы бульбу, якую прыкупіў у вёсцы. Начаваў тут жа, на востраве-купіне, сярод разліву, у невялікім, сабраным з галін будане.

Аднойчы ноччу яго нібы апякло, не крыўдай, не, а спачуваннем, жалем да той, якая здрадзіла, кінула — да мяне: «Наташка хвалюецца, перажывае, магчыма, шукае мяне, не знаходзіць месца!» Ён нават быццам наяве выразна пачуў, як я клічу яго: «Валодзя!»

«Які ж я бессардэчны», — абвінаваціў ён сябе і рвануўся на гэтае гуканне. Аўтастопам вярнуўся ў Мінск.

Валодзя не памыліўся. Плачучы, я сустрэла яго дома.

— Я ведаў, адчуваў, што ты чакаеш! Не плач, усё добра. І галоўнае, зразумеў, што не магу без цябе жыць. Ты патрэбна мне, Наташка!

Ён, і сапраўды, там, на востраве, мог пачуць мой кліч. Сэрцам. Так, я гукала яго. Але не дома, а ў таго, да каго пайшла. Клікала моўчкі, у думках, выходзячы на балкон і ўзіраючыся ў ноч. Душа кроватачыла болем. Я плакала, хоць кожны, хто б мог бачыць сітуацыю збоку, назваў бы мае слёзы несумленнымі.

І вось, нарэшце, ён, жывы, — дома. Радасць сустрэчы. І палёгка...

Але праз гэтую палёгку я здолела зрабіць тое, што яшчэ зусім нядаўна, усяго гадзіну альбо дзве таму мне здавалася немагчымым.

Страсць гоніць, з невытлумачальнай сілай штурхае ў плечы. Не даючы апамятацца, вырывае цябе са спакойнага, надзейнага тылу. Куды і ўва што? Калі-небудзь усё ж прыйдзецца даведацца, куды і ўва што. А пакуль, пад уладай страсці, пераступаеш цераз пачуцці блізкага чалавека і, вызваліўшы руку з-пад яго надзейнай рукі, здраджваеш. Страсць здольна памуціць усялякі розум, яна сляпая і глухая да ўсяго.

Растлумачыўшы, што здарылася, а дакладней, свае ўчынкі, я папрасіла Валодзю дараваць і зразумець. І пайшла.

Ён жа і дараваў, і зразумеў.

Няпроста пісаць пра Валодзю. Няроўныя скупыя сказы... З цяжкасцю выціскаю з сябе словы.

Калі былі апублікаваныя першыя раздзелы споведзі, сярод якіх і той, дзе я расказвала пра Валодзю, ён быў жывы. І нават выпісваў з іх цытаты ў нататнік, які цяпер захоўваю ў сваім пісьмовым стале.

Можа, і не я непасрэдна забіла яго, але ведаю — калі б не мая здрада, ён хутчэй за ўсё і сёння па-дзіцячы даверліва ўспрымаў бы гэты свет. І, пэўна ж, жыў бы!

Восем гадоў ён быў адзін. Гэта мала, калі ты шчаслівы, і зашмат, калі сумуеш.

Я ж выйшла замуж.

Але Валодзя ў кожны час мог прыходзіць да нас у госці. Для дачкі-школьніцы майго мужа ён стаў добрым, нават найлепшым сябрам, альбо, як мы яго называлі «вялікім нянем». Набылі ката і сабаку, якія жылі на два дамы.

Валодзя ў вольным рэжыме — а гэта значыць, калі меў жаданне — працаваў у маёй уласнай фітастудыі, складаў кветкавыя кампазіцыі і майстраваў дрэвы. Ён меў ад прыроды добры мастацкі густ.

Каб неяк заглушыць у ім даўнюю цягу да гарэлкі, а гэта атрымлівалася, калі ён нечым захапляўся, я сабрала яму даволі вялікую дамашнюю бібліятэку. Амаль усё, да чаго ён праяўляў цікавасць, у яго было: трэнажоры, тэлевізар, музычная апаратура, камп’ютар, інтэрнэт, у якім ён праводзіў шмат часу.

На жаль, кожны яго занятак быў недаўгачасным. Як бы ярка ні ўспыхвала захапленне чым-небудзь, яно хутка згасала, змяняючыся на расчараванне. Яшчэ ў часы нашага сумеснага жыцця свой звычайны стан ён сам жа і вызначаў кароткім словам: сумна. У яго была нейкая схільнасць да дэпрэсіі, пасіўнасць. «Я лянівы», — шчыра, не саромеючыся, прызнаваўся ён.

Я шкадавала Валодзю і, як магла, клапацілася аб ім, аплачвала ўсе ягоныя рахункі.

Але нішто матэрыяльнае і аніякае сяброўства не можа ўратаваць ад адзіноты. І ад памылак. У кожнага чалавека павінен быць хтосьці блізкі, вельмі блізкі...

Аднойчы, у чарговы раз нудзячыся ад адзіноты, калі па тэлевізары трансліравалася начная музычная праграма, ён убачыў у «бягучым радку»: «Цікавая жанчына жадае пазнаёміцца...» І патэлефанаваў.

Пасля некалькіх спатканняў жанчына прапанавала перайсці жыць да яе, а ягоную маёмасць прадаць. У рэшце рэшт наіўны і даверлівы Валодзя застаўся без кватэры і мінскай прапіскі. Праўда, у нейкай ступені яна пра яго ўсё ж

паклапацілася: не выкінула, бяздомнага, на вуліцу, а адправіла ў лячэбна-працоўную калонію для алкаголікаў.

Калі скончыўся тэрмін «лячэння», Валодзі не было куды ісці. Мы з мужам параіліся і вырашылі пасяліць яго ў сябе. Прапісалі, дапамаглі з вопраткай першай неабходнасці і ўладкавалі на працу.

Прызнаюся, мне было няпроста, бо ў гэты час у нас жыў мой паралізаваны бацька, якога я даглядала.

Праз паўгода, калі Валодзя пачаў зарабляць, я дапамагла наняць яму пакойчык у сціплай добрасардэчнай жанчыны, у якой былі дзве дарослыя дачкі. Незамужнія. Нават употай думала: раптам каторай з іх Валодзя спадабаецца.

— Рукі-ногі ёсць, галава таксама. Трэба пачынаць жыць, — даводзіла яму. — Няхай нават з нуля. Сімпатычны, здаровы. Усё ў цябе атрымаецца. І абавязкова знойдзеш сваю палавінку.

Сапраўды, гаспадыня аднеслася да яго, як да роднага. Вопратку мыла, бялізну. Запрашала да стала. І я спадзявалася, што ўсё будзе добра.

А праз нейкі час — тэлефонны званок. Мужчынскі голас. Суразмоўца называецца следчым. Удакладняе, ці прапісаны ў нас Валодзя і кім мне даводзіцца. Я адказваю: «Былы муж». І пытаюся: «Што з ім?» — «Памёр».

У суботу раніцай Валодзю знайшлі мёртвым у бытоўцы дзіцячага садка, дзе ён працаваў. Прыняў вялікую дозу супакаяльнага са спіртным. Больш не захацеў жыць. Гэта быў апошні дзень восені.

Напярэдадні трагедыі папрасіў загадчыцу гаспадаркі не зачыняць акенца ў бытоўку, каб не змерзлі котка з кацянятамі. Як звычайна, шкадаваў і падкормліваў дваровых жывёлін.

Часта пакутую, калі ўяўляю, як ён паміраў. Глухая восеньская ноч, трывожна енчыць вецер за акном. А ён адзін, адзін у гэтую ноч, без сну, без натхнення, без цікавасці да жыцця. Пакуль яшчэ жывыя ў ім успаміны — бясплённыя, пакутлівыя ад разумення таго, што ўсё незваротна.

Мне здаецца, што я адчуваю яго наяве, ва ўсіх рысах, у кожных імгненнях ягоных перажыванняў. Бачу, як ён прымае рашэнне пайсці з жыцця, адзінокі, стомлены, без надзеі на лепшае. Пайсці, бо нікому не патрэбны.

Чалавеку ж неабходна быць камусьці патрэбным, каб яго любілі. Кожны з нас ахоўваецца тымі, каму ён дарагі. Ачаг і блізкія людзі — абавязковая ўмова для жыцця.

Хавалі яго ўтраіх: я, муж і Валодзева сястра.

Побач з магілай маёй былой свекрыві, на шчасце, было зарэзервавана месца. Цяпер ён каля сваёй маці, не адзін.

У ноч перад пахаваннем бачыла сон. Валодзя — у сне ведаю, што ён памёр — ляжыць на канапе ў нейкім цёмным, незнаёмым пакойчыку.

Спачатку да Валодзі падыходзіць яго сястра.

— Іра прыйшла, — Валодзя расплюшчвае вочы. — Я рады табе, дзякуй.

Потым падыходжу я. Валодзя паволі падымаецца і вымаўляе:

— Наташа...

Я апускаюся перад ім на калені, ахопліваю рукамі ягоныя ногі, прыціскаюся да іх тварам і крычу:

— Валодзечка, даруй...

Ён гладзіць мяне па галаве і супакойвае:

— Ты самы блізкі, найлепшы мой сябар. Не вінавць сябе.

У дзвярным праёме з пакойчыка ў калідор стаіць яго маці, якая памёрла некалькі гадоў таму. За яе спінай — яркае святло. Калі прачнулася, я зразумела: яна чакала Валодзю, сустракала...

Раніцай, узрушаная сном, перад тым, як ехаць па Валодзю ў морг, напісала яму запіску, якую пазней, на могілках, пацалаваўшы яго ў халодны лоб, уклала ў скалелыя, цвёрдыя, быццам з каменю, рукі: «Ты таксама самы блізкі, самы найлепшы мой сябра. Даруй мне».

Самагубцаў не адпяваюць. Гэтая мая запіска стала адзіным цяплом для яго. І мой пацалунак.

* * *

У лютым, праз два з паловай месяца пасля смерці Валодзі, памёр бацька. Парушэнне кровазвароту, пяць гадоў без руху. На працягу чатырох гадоў яго даглядала жонка — мая маці, пакуль не захварэла. Тады я забрала яго да сябе.

Успамінаю, як раздражнялася, злавалася на яго за тое, што настойліва і вельмі часта мяне клікаў і непакоіў не столькі просьбамі, колькі патрабаваннямі дапамогі. Бывала, што апрацоўваць, пераварочваць, змяняць бялізну даводзілася па некалькі разоў на дзень і нават ноччу. Іншы раз не вытрымлівала, дакарала, што ён сам вінаваты ў сваёй хваробе. Маючы магутны ад прыроды арганізм — амаль ніколі не хварэў — загубіў яго курэннем і спіртным.

Піў і курыў таксама магутна — ад бутэлькі гарэлкі ў маладосці амаль не п΄янеў, проста станавіўся гаваркім і добрым. Цвярозага яго ў нашай у сям'і пабойваліся, бо быў ён чалавекам самаўладным, з жаданнямі іншых не лічыўся.

Я дакарала бацьку за страчанае здароўе маці, за сваю заціснутасць і закамплексаванасць у дзяцінстве — я рэдка адчувала сябе ў яго прысутнасці раскаванай, — і быццам у помсту за гэта, асабліва за свой дзіцячы страх, радавалася, бо цяпер была мацнейшая за яго.

І вось, пасля смерці таты мне сорамна за гэтыя свае пачуцці, за маральную «перамогу» над ім, за сваю «смеласць».

Не, фізічна я не крыўдзіла бацьку, а добрасумленна даглядала. Але тое, што адчувала да яго, бездапаможнага, па-свойму адзінокага — бачыў перад сабой увесь час адны і тыя ж сцены і кавалачак неба ў акне, — сёння выклікае ўва мне боль.

Калі ён пакутліва і доўга паміраў, і я ўжо пра гэта ведала, папрасіў у мяне прабачэння. Увесь час хацеў, каб я была побач, і чулліва, ціхенька, быццам гэта было для яго нейкім адкрыццём, паўтараў: «Дачка... дачка.... ты дач-ка...»

А аднойчы, з пяшчотай гледзячы на мяне, пацісну руку і нібы клятву прамовіў: «Ніколі не забуду». Тады ўпершыню я зазнала з ім сапраўдную блізкасць. Ён адчуваў, бачыў мяне, а не проста ведаў, што ў яго ёсць дачка. Як я марыла пра такую блізкасць у дзяцінстве, юнацтве і нават калі была ўжо самастойнай дарослай жанчынай...

Як жа я любіла яго ў тыя апошнія, асаблівыя дні і ночы, калі мы з маці не адыходзілі ад яго. І які мізэрна кароткі той час, што мы адводзім дзеля яднання і шчырай душэўнай цеплыні. Чаму ўсё гэта прыходзіць да нас вельмі позна, толькі калі страчваем? І калі нічога нельга выправіць.

Рада, што пахавалі тату на радзіме, на могілках за яго любімай вёсачкай. І што настояла на гэтым я. Так лягчэй на душы: нешта важнае зрабіла. Я ўпэўнена, ён удзячны за гэта. Спачывае ён побач са сваімі бацькамі — маімі дзядулем і бабуляй. Паклалі яго каля маці, як і Валодзю.

Вось і ўсё. А мне неяк трэба жыць, са сваімі грахамі і неспакойным сумленнем. І болем. Вось і жыву. А там ужо, як Гасподзь рассудзіць. І людзі таксама.



Леанід ЛЕВАНОВІЧ

# АПАВЯДАННІ

*Любіце гэтую святую зямлю аддана і да канца.*
*Іншае вам не дадзена. Дый непатрэбна.*
Уладзімір КАРАТКЕВІЧ

## Тры баравікі

### 1

Напрыканцы жніўня цямнее даволі рана. А сёмай гадзіне дзед Андрэй пачаў разліваць сіроп: пчолы-зладзейкі з суседніх вулляў, дый з чужога пчальніка, нядоўга будуць дакучаць тым сем'ям, якія атрымалі па тры-чатыры літры падкормкі.

Дзед пыхкаў куралём у лётку, быццам сігналіў: гэта я, іду да вас, затым падымаў вуллінае вечка. Ён падкормліваў апошні на сёння вулей, калі забрахаў Рэкс, а потым радасна заскуголіў — значыць, ідзе свой чалавек. Адвячоркам меўся прыехаць унук Арцём. Учора патэлефанаваў: удзень з сябрамі будзе ў турпаходзе на лясным возеры, што недалёка ад вёскі, потым сябрукі паедуць у Мінск, а ён прыйдзе сюды.

Арцёмка ўгледзеў дзеда, зняў заплечнік, паставіў яго на лаву каля веранды і пакіраваў на пчальнік. Дзед адкінуў з твару сетку, прыхінуў унука, адчуў водар вогнішча, якім прапах хлопец, але не такі духмяны, як з кураля. Падалося, што за два тыдні, пакуль не бачыліся, Арцёмка прыкметна падрос, і быў ужо вышэй за дзеда амаль на галаву.

---

***Левановіч (Лявонаў) Леанід Кірэевіч*** *нарадзіўся 14 верасня 1938 года ў вёсцы Клеявічы Касцюковіцкага раёна. Скончыў Магілёўскае культасветвучылішча (1956) і журфак БДУ (1963). Служыў на Балтыйскім флоце. Працаваў у рэспубліканскіх газетах, часопісах «Полымя», «Нёман», у выдавецтве «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар кніг нарысаў і прозы: «Зялёны трохкутнік» (1973), «Якар надзеі» (1979), «Валанцёр свабоды» (1983), «Хлеб і мужнасць» (1987), «Усмешлівая Амерыка» (2005). Надрукаваў раманы: «Шчыглы» (1986), «Паводка сярод зімы» (1989), «Дзікая ружа» (1993), «Сіняе лета» (2005), «Бесядзь цячэ ў акіян» (2007), «Палыновы вецер» (2009).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1999) і прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь (2005). Ганаровы грамадзянін Касцюковіцкага раёна.*

— Ну, як паход? Ці спадабалася возера тваім сябрам?

— Паход класны. Возера — супер. Толькі вада — дубарына.

— Дзіва што! Ночы халодныя. Ілля даўно ў ваду наліў халоднага гнілля.

— Табе многа яшчэ работы? Можа, што памагчы?

— Не, канчаю. Ідзі ў хату. Там бабуля чакае.

Бацька ягоны баіцца пчол, як чорт ладану, падумаў Андрэй Жаркевіч. Але некалі малога пеканула пчала пад вока, распух увесь твар, вось з таго разу не любіць ні мёду, ні пчол.

За вячэраю ўнук распавядаў пра паход. Лес вакол возера светлы, чысты, а грыбоў няма: усё вытаптана.

— Знайшоў аднаго баравіка. Аддаў сябру. Ён пару лісічак зрэзаў. Расказаў хлопцам пра тры баравікі. Смяяліся. Яны збіраць грыбы не ўмеюць і не любяць. Дарэчы, у Мінску прадаюць апенькі.

— Дык, можа, уранні сходзім? — дзед з любасцю пазіраў на ўнука.

— Згодзен. Магу падняцца ў сем. Калі трэба, дык і ў шэсць.

— Ну што ты, Арцёмачка! Лепей паспі. Адпачні. Заняткі скора пачнуцца. Будзеш сушыць мазгі ў сваім каледжы. Хоцькі-няхоцькі давядзецца ўставаць ні свет ні зара, — раскудахталася бабуля.

— Можа й праўда, Арцёмка, лепей паспі. А я схаджу ў разведку.

— Не, пойдзем разам. І чым раней, тым лепш, — стаяў на сваім унук.

Арцём вучыцца ў каледжы, вывучае бізнес і правы, перайшоў на апошні курс. Бацькі за вучобу плацяць немалыя грошы, памагаюць і дзед з бабай. Дзе ж хлопец будзе працаваць, невядома: трэба самому ўладкоўвацца. Неяк унук абмовіўся, што някепска будзе, калі ён пасля вучобы з’едзе куды. А што... Дзед тады не запярэчыў, змаўчаў: з часам перадумае. Калі ўнук паступіў, дзед, хвалюючыся за яго, пачаў цікавіцца гэтымі дысцыплінамі. Але бізнес Арцёму хутка надакучыў, а правы захапіла. Асабліва тое, што яно звязана з гісторыяй, і найперш сваёй краіны. Па меркаванні дзеда Арцём будзе працаваць на радзіме, і, канешне, лепш ведаць правы, бо бізнес справа, як вядома, надта рызыкоўная. Калі Андрэй Жаркевіч у свой час скончыў сельскагаспадарчы тэхнікум, дык за яго, выпускніка з чырвоным дыпломам, спрачаліся тры старшыні калгасаў. І недарэмна. Жаркевіч стаў выдатным аграномам, завочна скончыў сельгасакадэмію, потым абараніў кандыдацкую дысертацыю, дарос да намесніка міністра.

## 2

У тую ноч стары Жаркевіч доўга не мог заснуць. Прыезд унука ўзрадаваў і ўсхваляваў. Мог жа з сябрамі катануць у Мінск, дык жа не, пацягнула ў вёску. І пра тры баравікі ўзгадаў. Будзе гаспадарыць пасля мяне, разважаў Жаркевіч, сына не ўдалося прыахвоціць да зямлі: у дзяцінстве мала бачыў яго, работа, вучоба забіралі ўвесь час.

Андрэй Жаркевіч быў з тых людзей, якія цалкам аддаваліся справе і якіх называюць працаголікамі. Ён любіў земляробчую справу, і поле плаціла яму важкім коласам, павагаю людзей. Вясковы хлопец, сірата: бацька загінуў на Проні, пад Чавусамі, зімою сорак чацвёртага, Андрэйку было тады тры гады, — зрабіў бліскучую кар’еру: намеснік міністра, вучоны-аграрнік.

Свайго сына, малога Валіка, ён браў іншы раз у поле, той, бывала, засынаў у запыленым душным «газіку», пакуль бацька займаўся сваімі справамі. Машыны Валянцін палюбіў, а да працы на зямлі імпэту не меў.

Калі пераехалі ў горад, сын-школьнік цішком пачаў курыць, а потым і выпіваць. Чаму так здарылася? Уплыў вуліцы? Гэта было. Маці песціла першынца: Валічак, Валічак, усё дазваляла. Дачка з'явілася праз восем гадоў: нараджэнне другога дзіцяці адкладвалі: завочная вучоба, праца, частая перамена месца жыхарства, неўладкаванасць...

З гадамі стары Жаркевіч усё часцей думаў: шчаслівы той чалавек, які змог зрабіць кар'еру і выгадаваць добрых, працавітых, сумленных дзяцей.

Жаркевічу ўдалося ўгаварыць сына паступіць на аўтатрактарны факультэт політэхнічнага інстытута. Праўда, вучыўся ён без ахвоты, сяк-так скончыў інстытут, атрымаў накіраванне на «Гомсельмаш». Маці падняла гвалт: зрабі ўсё магчымае, каб сын застаўся ў Мінску. Намеснік міністра дамогся, каб сын не паехаў па размеркаванні, выбіў яму кватэру. Сам у маладосці жыў у інтэрнаце, у салдацкай казарме, бадзяўся па прыватных кватэрах, а сыну — усё гатовенькае.

Раптам апякла думка: мо Арцёмка прыехаў да іх з бабуляй у вёску, бо яму няўтульна стала дома?.. Можа, бацька зноў запіў? Калі так, хоць бы не папёрлі яго з работы, цяпер ніякі прафкам не заступіцца, і бацька-пенсіянер не паможа, дый жыве ён у вёсцы: гарадскую кватэру давялося пакінуць дачцэ, якая адна гадуе дзіця. І з дачкою, як і з сынам, Жаркевіч, як кажуць, не мае душэўнага кантакту...

З гадамі ён усё мацней дакараў сябе, што не адпусціў сына ў Гомель. Хай бы самастойна пачынаў жыццё, мо ўсё склалася б іначай. Нездарма японцы кажуць: хто не зведаў цяжкасцей у маладосці, той павінен купіць іх за вялікія грошы. Хаця, калі б і ў Гомелі не склалася, тады б жонка дакарала яго, бацьку, што не дапамог сыну — адзінаму, любімаму, — застацца ў сталіцы.

Не, не сталіца робіць чалавека шчаслівым. Так, у сталіцы болей шанцаў узняцца па кар'ернай лесвіцы, чым у якім іншым горадзе, праўда, часцей гэта робяць выхадцы з глухіх вёсак, тыя, у каго нялёгкім было дзяцінства. У іх ёсць вялікае жаданне выбіцца ў людзі. Вядома, не ўсім гэта ўдаецца, але хто мае галаву на плячах, сілу волі, упартасць, той свайго дамагаецца, таго абдымае пані Фартуна.

Можа, Арцёмка пойдзе ў навуку, абароніць кандыдацкую, доктарскую, стане прафесарам — юрыстам ці эканамістам, або міністрам — падымецца вышэй за мяне, думаў Жаркевіч... А пакуль — заўтра... А заўтра паход у грыбы — сэрца апантанага грыбніка ўстрапянулася ад прадчування ціхай радасці.

Стары адагнаў прэч усе думкі і ненадоўга заснуў.

## 3

Выбраліся ў лес дзед з унукам рана. Сонца яшчэ не ўзышло, над лесам плаваў рэдзенькі, сівенькі туманок. Жаркевіч пачуваўся нядужа добра: спаў зусім мала, патыліца была як налітая свінцом — значыць, падняўся ціск. Ён спадзяваўся, што лес дапаможа перамагчы гэтую немач.

Спачатку ішлі не зварочваючы з дарогі: дзед вёў унука да балацявіны, дзе некалі рэзаў апенькі. Вось і ўлюбёнае месца. Здаля Жаркевіч убачыў паваленую бурай таўшчэразную асіну, на яе чорным, заімшэлым ствале купкамі высыпалі апенькі. Яны былі зусім маладзенькія — танклявыя ножкі, светларужовыя капялюшыкі. Грыбы падаліся Жаркевічу падобнымі на нейкіх галавастых лясных ратнікаў.

— А ведаеш, дзеда, гэтыя апенькі нагадваюць салдацікаў у касках, — падаў голас унук. Вочы яго свяціліся першароднай радасцю.

— Ну, Арцёмка, хіба гэта не дзіва! Я таксама падумаў пра гэта. Толькі я назваў грыбы галавастымі ратнікамі, а ты — салдацікамі.

— Ажно шкада зразаць. Гэткая прыгажосць, — любаваўся ўнук.

— Твая праўда, Арцёмка. Але ж праз тры-чатыры дні яны састарацца і нікому не будуць патрэбныя.

Арцёмка адышоўся далей, з радасцю ўсклікнуў:

— Дзеда, зірні сюды! Увесь пень аблеплены грыбамі. Быццам вялізны букет дзівосных кветак.

— Цікавае параўнанне. Я б не дадумаўся. З гэтымі я разбяруся, а ты зразай на пні. І не спяшайся. Самыя маленькія пакідай. Хай падрастуць.

Апенькі, у якіх капялюшыкі былі меншыя за пазногцік, Жаркевіч звычайна пакідаў на падрост. Калі зрэжа нехта іншы — на здароўе.

Унук шчыраваў над сваёй знаходкай. Зноў падаў голас.

— Дзеда, паглядзі. Капялюшыкі зрэзаў. Адны сцволікі тырчаць. Здаецца, пень цягне ўгору рукі і крычыць: «Аддайце маё багацце!» Не, не аддамо! Апенькі надта смачныя з бульбай.

Унукава радасць перадалася дзеду. Ён адчуў сябе лепей, у вачах пасвятлела, галава ўжо не так балела. Стары ступіў колькі крокаў наперад і аж ёкнула сэрца: паваленая нятоўстая бярозка была спрэс усыпана грыбамі. Зірнуў далей — там карціна яшчэ болей уразіла: пахіленая бярозка без верхавінкі каранямі трымалася за зямлю. На дрэве купкамі раслі апенькі. І было іх вельмі шмат. Жаркевіч не спяшаўся іх зразаць — карцела паказаць унуку. Паклікаў хлопца. У Арцёмкі ад радасці аж заблішчэлі вочы: гэта ж столькі грыбоў! Узяўся лічыць: колькі іх купак на дрэве.

— Дзеда, дванаццаць купак. А ў купках штук па дзесяць-пятнаццаць.

«Хутка палічыў. Будзе бізнесменам. Бацька, мусіць, так і застанецца шараговым інжынерам», — падумаў Жаркевіч.

— Глядзі, дзеда, вось дзве купкі грыбоў. Адна напроці другой. А вось тры грыбкі, нібы шлеманосцы. Ці, як ты казаў, ратнікі, выбеглі наперад. Усё роўна, як разведчыкі.

— А можа, як парламенцёры?

— Так. З прапановай: давайце жыць дружна! І лясное войска вырашыла не ваяваць, — і ўжо зусім іншым, дзелавітым тонам, дадаў: — Можа, я на гэтай бярозцы парэжу. Ну, каторыя нізка, каля зямлі. А ты на другой, без вершалінкі. Табе і гнуцца не трэба. Падстаўляй кош і рэж.

Старому гэтыя словы былі як мёдам па душы: клапоціцца ўнук, ведае, што дзеда часам даймае радыкуліт і ціск падскоквае. Пчолы ратуюць, іначай, можа, быў бы ўжо на тым свеце.

## 4

Неўзабаве напоўнілі кошыкі. У дзедавай кішэні знайшоўся поліэтыленавы пакет, але яго напоўніць не ўдалося, болей тут грыбоў не было. Дый так пашанцавала. Жаркевіч падняў кош — цяжкі, ажно адцягвае руку, грыбы маюць вагу. О, як цешыць сэрца любога грыбніка гэты цяжар!

— Ну што, Арцёмка, пайшлі дамоў. Мо па дарозе яшчэ што знойдзем.

— Таго баравіка, ну, каля возера, я знайшоў на дарозе. Такі смуглявы мацак. І корань здаровы, як сыр. Прыгожы грыб, як тыя тры, што з табою

некалі знайшоў. Прыкольна ты тады прыдумаў. Помню, як радаваўся. Гэткія грыбы знайшоў!

Мусіць, болей за ўнука радаваўся тады дзед: задума ўдалася, ніхто не апярэдзіў.

А было так. Андрэй Жаркевіч вяртаўся з лесу. Тое лета было дужа баравіковае. Кош быў амаль што поўны. Недалёка ад дарогі, пад невысокай елачкай угледзеў баравіка, адхінуў галінкі. Грыб зусім маладзенькі, капялюшык пяшчотна-руды, ссунуты набакір. Па звычцы азірнуўся: баравікі не растуць па адным, дзесьці побач павінен быць напарнік. Так і ёсць! Каля танклявай бярозкі пазіралі на свет два баравікі. Яны былі такія прыгожыя, зразаць іх не падымалася рука.

Раптам мільганула думка: а што калі пакінуць іх да раніцы? Вечар блізка, сёння іх ніхто не ўбачыць, за ноч баравікі падрастуць, а ўранні яны прыйдуць сюды з Арцёмкам. Сёння трэба настроіць яго, каб рана падняўся.

Дзед асцярожна прыкрыў мохам сваю знаходку: расціце да рання!

Жаркевіч добра памятаў, нібы тое было ўчора, як падгаворваў унука пайсці ранкам па грыбы. Малы аднекваўся, бабуля бурчала: дай паспаць дзіцяці. І ўсё ж, дзед перамог: унук згадзіўся. Праўда, уранні давялося доўга асцярожна і пяшчотна яго катурхаць, пакуль прачнуўся. Пазяхаючы, Арцёмка ўсцягнуў на ногі гумовікі, на галаву — палінялую жоўта-белую бейсболку. І яны рушылі ў дарогу.

У лесе было золка, пахла вільготным мохам, мокраю карою, настылым шыгаллем. Арцёмка тэпаў побач з дзедам, абодва маўчалі, быццам баяліся парушыць ранішнюю цішу: аніводная птушка не падавала голасу. Яны не зварочвалі ў глыбіню лесу, бо дужа густая раса зіхацела на траве, на лісцях дрэў. Знайшлі некалькі казлячкоў на ўзбочыне дарогі. Вось і тая елачка.

— Арцёмка, паглядзі каля вунь той елачкі. Некалі я там зрэзаў баравіка.

Унук паслухмяна павярнуў туды і тут жа пачуўся ягоны радасны голас:

— Дзеда, ёсць баравік! Ды такі прыгожы!

Арцёмка адхінуў яловыя лапкі — баравік быў, як на далоні. Гэткі здаровы, карэньчык тоўсты. Грыб нагадваў пінгвіна, толькі той чорна-белы, а баравік быў пяшчотна-смуглявы.

— Зразай, як мага ніжэй, — параіў дзед.

Унук разгроб шыгалле, разгарнуў мох — ножка грыба аказалася доўгай і тоўстай. Гэта быў не проста баравік, а цуд прыроды.

— Прайдзі круга елачкі. Могуць быць яшчэ баравікі.

Арцёмка нетаропка, пільна аглядаючы кожную купіну, абышоў вакол дрэўца, раптам зноў пачуўся ягоны азартны, звонкі голас:

— Дзеда! Знайшоў яшчэ два баравікі! Маладыя, прыгожыя.

Жаркевіч з любасцю пазіраў на ўнука: куды падзелася санлівасць, вочы хлапчука блішчэлі ад радасці.

Грыбоў яны тады назбіралі поўныя кошыкі, але гэткіх прыгожых, як першыя тры, не было.

## 5

Назаўтра ўнук ад'язджаў. Яго чакалі заняткі ў каледжы, дзе ён вывучаў бізнес і права. Яму заманулася яшчэ раз схадзіць у грыбы. Дзед і бабуля адгаворвалі:

— Арцёмачка, паспі, паляжы, — даводзіла клапатлівая бабуля. — Трэба сабрацца ў дарогу.

— А што мне збірацца? Слоік грыбоў і пяток яблыкаў у заплечнік — і я гатовы. Пайшлі, дзядуля.

Хіба мог заўзяты грыбнік Жаркевіч адмовіцца!

На гэты раз яны шмат хадзілі па лесе амаль што поруч. Шмат гаварылі пра жыццё, пра будучую Арцёмаву працу.

— Ведаеш, Арцёмка, — думаючы пра гэта пачаў Жаркевіч. — Ты неяк казаў, што пасля вучобы хочаш з'ехаць куды за мяжу. Не трэба. У нас жа такое цікавае ўсё сваё. Напрыклад, гісторыя. Вось я нядаўна вычытаў, што першая рэдакцыя Статута Літоўскага была прынята амаль пяцьсот гадоў таму! Ажно ў 1529 годзе. Аказваецца, гэта быў першы Звод законаў у Еўропе. Нават Напалеон шмат чаго пазычыў для свайго кодэкса. А нас некалі вучылі: беларусы былі заўсёды цёмныя, лапцюжныя, забітыя. Дык якія ж цёмныя, калі першыя ў Еўропе?!

— Тады наш край, дзеда, называўся не Беларуссю, а Вялікім Княствам Літоўскім. Гэта была вялізная дзяржава ад Балтыйскага да Чорнага мора, — упэўнена даводзіў Арцём. — І продкі нашы зваліся ліцвінамі.

— А пра Статут Літоўскі табе гаварылі на лекцыях?

— Так. З яго ўсё пачалося. Шмат што было ў нашай гісторыі, і ўсё трэба помніць.

— Але зараз мы — самастойная дзяржава. Сапраўды, без павагі да гісторыі — няма адукаванага чалавека, няма грамадзяніна. Чалавек без каранёў — перакаці-поле. Падзьмуў моцны вецер і панёс, — сказаў Жаркевіч.

— Дзеда, я з табой згодны, — ломкім баском адказаў унук, зірнуў на гадзіннік. — Трэба паварочваць дадому.

На заўтра, па абедзе дзед правёў Арцёма да гравійкі, памахаў услед аўтобусу, у які сеў унук. Дамоў Жаркевіч ішоў нетаропка. Прыезд унука ўзрадаваў яго, як ніколі: грыбоў назбіралі багата, нагаварыліся ў лесе пра многае жыццёвае і нават пра гістарычны лёс Беларусі.

Хоць бы пашчасціла ўнуку ў жыцці болей, чымся ягонаму бацьку, разважаў Жаркевіч, каб займеў працу пасля вучобы, каб удала ажаніўся. За свой немалы век ён пераканаўся, што лепей за добрую, верную, пяшчотную жонку нічога не бывае на свеце.

Думалася і пра іншае. Узгадаў і пра пакінутыя падрастаць апенькі. Дні праз тры дзед пашыбаваў з кошыкам у лес. Вось і знаёмая балацявіна, паваленая таўшчэразная асіна, але малыя апенькі не падраслі, а пачарнелі. Тое ж самае было і на бярозах. Што ж здарылася ў прыродзе? Марозу не было, ранкам плаваў над лесам туман, дык туманы спрыяюць грыбам. А тут зусім іншы малюнак.

— От, дзіва! Выскачылі на тыдзень і зніклі, — дзівіўся вучоны-аграном.

З узростам Жаркевіча ўсё болей здзіўляла на першы погляд звычайная рэч: усё ў прыродзе мае свой час, сваю наканаванасць. Калі якой кветцы, калі якому дрэву цвісці, калі адцвітаць. У садзе спярша забялеюцца вішні ды слівы, потым ігрушы, яблыні. У лесе першымі цвітуць суніцы, за імі чарніцы, брусніцы, а тады ўжо маліна, ажына. Ну, тут зразумела: калі ўсе расквітнеюць у адзін час, хто ж іх усіх зможа апыліць? Дый апыляльнікі: пчолы, чмялі, розныя кузюркі загінуць ад голаду, як усё разам адцвіце. А грыбы ж нікому апыляць не трэба, але і яны ведаюць свой час. Увогуле, усяму патрэбны спрыяльныя ўмовы. Цёплы дождж, начны прыпар — і растуць баравікі. Ды і яны, прыгожыя, крамяныя мацакі таксама хутка знікаюць, адбыўшы свой час на зямлі...

І раптам апякла нечаканая думка: ён, Андрэй Жаркевіч, ягоны сын Валянцін, унук Арцёмка — нібы тыя тры баравікі, дужыя, моцныя на сваёй зямлі. Але яны людзі, кожнаму таксама адведзены свой час. Канешне, пра гэта не трэба казаць унуку: у яго ўсё яшчэ наперадзе. Але ён, малады, ужо разумее, што трэба годна пражыць сваё жыццё. Раз прыйшоў на гэты свет, дык працуй напоўніцу, любі зямельку родную, людзей, жыццё і як можаш рабі ўсё, каб яно стала яшчэ лепшым.

## Гняздо пад шыферам

### 1

Пенсіянер, былы настаўнік, Антось Шабуня даўно планаваў адрамантаваць хату, зрабіць новы падмурак веранды, бо стары патрэскаўся, пачаў развальвацца. Рабіў яго некалі з жонкаю, не меў вопыту, цэмент эканоміў, дый выстаяў падмурак больш як дваццаць гадоў. А страха была накрытая шыферам, мабыць, гадоў паўсотню таму. Месцамі працякала, прыйшоў час мяняць.

Шабуня рыхтаваўся да гэтай справы не адзін год: збіраў грошы, набываў матэрыял, але з галоўным: чым крыць страху, яснасці не было. Летась ён ужо быў наважыўся купляць шыфер, некаторыя раілі яго пафарбаваць, але новы сусед — гараджанін, які купіў хату для лецішча, адгаварыў: гэта марная справа, фарба выгарыць на сонцы і страха будзе як аблупленая. Па вясне сусед узяўся перакрываць хату, з горада яму прывезлі даўжэзныя лісты тонкай бляхі вішнёвага колеру — так званы металапрофіль. Заказаў гэткі матэрыял і гэтката ж колеру і Шабуня.

Тыльную страху брыгада з пяці чалавек накрыла за адзін дзень. Гаспадар радаваўся: дні стаялі даждлівыя, як зняў шыфер, дык адразу трэба крыць, каб хату не заліло.

У той дзень прыехалі два чалавекі: брыгадзір Яўген Паўлавіч і памагаты Стась. Брыгадзір, саракагадовы каржакаваты плечавень, Стась маладзейшы, высокі, жылісты, даўгарукі, гойсаў па страсе, нібы Тарзан. Ён спрытна зняў з вільчыка канёк, месцамі бляха паржавела, потым гэтак жа спрытна аддзіраў лісты шыферу, на вяроўцы спускаў уніз, дзе іх падхопліваў Яўген, акуратна складваў у стос.

— Яўген, глядзі, якое дзіва! Гняздо пад шыферам, — крыкнуў Стась. — Пяць птушанят. Яшчэ голыя, жаўтаротыя. Што з імі рабіць?

— Гэта пліскі. Вунь бацькі ля коміна лётаюць, цвіркаюць. Пліскі жывуць у нас кожнае лета, — падаў голас Шабуня. — Над верандай, на стыку лістоў, яны і робяць гняздо. Трэба неяк ратаваць.

— Ратаваць трэба. А як? — незадаволена прабурчаў брыгадзір, ён шкадаваў часу на гэтую нечаканую перашкоду.

— Можа, дайце які кош. Невялікі. Прывяжу да галінкі яблыні, — прапанаваў Стась.

Шабуня кінуўся шукаць кошык. Пад паветкаю знайшоў стары, з дзіркамі, лазовы кошык, адшукаў матузок — жонка нарыхтавала завязак, каб падвязваць памідоры. Яўген ускараскаўся па драбінах на страху, падаў Стасю кошык. Той асцярожна перанёс гняздо ў кош, які прывязаў да тоўстай галіны яблыні. Птушаняты сядзелі ціха, але неўзабаве запішчалі, бацькі тут жа падляцелі да іх, пачалі карміць. І падляталі яны вельмі часта. Гэта заўважыў Стась:

— Глядзіце, як часта кормяць. Раз за разам падлятаюць А малыя так цвіркаюць. Дзякуюць, — з радасцю ў голасе казаў Стась.

— Ты рабі справу. Вунь хмара напаўзае, — сярдзіта бурчаў брыгадзір. — Дождж з градам абяцалі сіноптыкі.

«Сваё дзіця ты кінуў. І ведаць не хочаш, чым яно корміцца. Як жонка адна гадуе твайго сына. Ён табе не падзякуе», — з прыкрасцю падумаў Яўген. Яны працавалі ўлетку ўжо некалькі сезонаў і жылі ў адной вёсцы пад Маладзечна, усё ведалі адно пра аднаго. Яўген у свой час скончыў будаўнічы тэхнікум, працаваў на будоўлі, але заробкі былі слабыя: то цэглы няма, то цэмент скончыўся, то панэлі не прывезлі, то фінансаў у заказчыка бракуе. А ў сям'і трое дзяцей, жонка сядзіць у дэкрэтным, бо малой дачушцы два гады. Вось і вырашыў Яўген стаць прадпрымальнікам, стварыў брыгаду. З вясны Яўген імкнуўся нахапаць як мага болей заказаў, каб да зімы іх выконваць. Вось і ў Шабуні ён хацеў хутчэй накрыць страху, а падмурак веранды, новую падлогу можна зрабіць пазней. Прымаўка «вясновы дзень — год корміць» мела да яго самае непасрэднае дачыненне.

Найчасцей Яўген працаваў са Стасем, паважаў яго за цягавітасць, безадказнасць, гатоўнасць выканаць любую работу. Але здараліся ў іх і канфлікты: атрымаўшы аванс Стась знікаў на некалькі дзён — у суседніх вёсках меліся ў яго прысухі, гуляў то з адной, то з другой, пакуль не канчаліся грошы. Тады вяртаўся ў сваю хату, якая дасталася ад бацькі, сястра жыла ў Мінску, і бачыліся яны рэдка. Яўген лаяўся, крычаў, што болей не возьме Стася на працу, і ўсё ж мусіў браць, бо пасля п'янкі Стась рабіў, як чорны вол, на сваім «Жыгулёнку» дастаўляў брыгадзіра ды іншых хлопцаў на аб'екты. Сваю новую «аўдзюху» — так ласкава называў Яўген фарсістую «аўдзі», шкадаваў, а Стасева «капейка» была заўсёды спраўная, бо гаспадар добра даглядаў яе, мог разабраць і сабраць, дзе трэба падмазаць, дзе падціснуць, нейкую дэталь памяняць.

— Трэба накрыць плёнкай страху. Усё роўна не паспеем зняць шыфер. Над верандай плёнку прыбіць трэба па-любому, — даводзіў Стась.

Ён спусціўся ўніз, закурыў, прыгледзеўся да плісак, якія сноўдалі па градах, зыбаючы доўгімі хвосцікамі то ўгору, то ўніз.

— Карысныя птахі. Санітары. Колькі за дзень яны зловяць розных кузюрак! Як па-руску завецца гэтая птушка? — зірнуў Стась на Шабуню.

— Па-руску — трясогузка. Вельмі дакладная назва. Яна і праўда трасе хвосцікам заўсёды. Я кожную вясну радуюся, калі прылятаюць мае пліскі, — задуменна прамовіў гаспадар. — Я часам думаю: чым адрозніваецца людская памяць ад памяці іншых жывых істот? І ведаеце чым? Усё жывое любіць сваіх дзяцей. Старанна корміць, абараняе. А ўнукаў яно не ведае. Толькі чалавек можа гадаваць, песціць сваіх унукаў.

Я і пра сына не думаю, паўшчуваў сябе Стась, трэба неяк адведаць...

Яўген тым часам нёс рулон плёнкі, Стасю загадаў прынесці пару дошак, каб замацаваць плёнку. Хмара была ўсё бліжэй, ужо загрукатаў гром. Стась сцягнуў з галавы сваю піжоністую кепку, на якой было напісана па-англійску — Чыкага, і накрыў птушанят. І тут жа лупануў дождж, ды моцны, як з вядра. А потым заскакалі па траве белыяградзінкі. На шчасце, град быў дробны, сыпаўся нядоўга. Неўзабаве дождж сцішыўся. Зноў выбліснула сонца. Пасвятлеў з твару і брыгадзір — да вечара яшчэ можна шмат зрабіць.

## 2

Як і планавалі, шыфер будаўнікі знялі. Высахла пад сонцам і Стасева кепка. Пасля дажджу ён усцягнуў яе на галаву, часцяком пазіраў на кошык, дзе гучна, дружна пішчалі жаўтаротыя птушаняты, да іх нястомна падляталі бацькі. Перш чым злезці са страхі, Стась папрасіў гаспадара, каб пашукаў невялікі кавалак шыферу: раптам ноччу будзе дождж, трэба накрыць гняздо.

Шабуня з радасцю падаў Стасю даволі доўгі аскялёпак шыферу, той прыладзіў яго ў кошыку:

— Гадуйцеся. Цяпер вам і додж не страшны.

Напрыканцы дня брыгадзір усё званіў па мабільніку. Урэшце сказаў:

— Ведаеце, дзядзька Антось, хлопцы мае не скончылі працу на другім аб’екце. Дождж не даў. Прыедзем пазаўтра. Зробім абрашотку. Дошак павінна хапіць. Я палічыў. Накрыем страху. Усё будзе хакей.

— Колькі грошай рыхтаваць?

— Як і дамовіліся. У вас сто сорак квадратаў. Пяць баксаў за квадрат. Плюс рамонт коміна, падшыва страхі. Усяго восемсот.

Шабуня моўчкі хітаў лысаю галавою: насамрэч, усё, як і дамаўляліся.

## 3

Брыгадзір слова стрымаў. Праз дзень прыехалі на Стасевай машыне пяць мужыкоў. Даабеддзя накрылі страху, замачылі, каб яна не цякла. Стась сядзеў за сталом хмурны: за рулём — чарку не возьмеш. А Яўген расчырванеўся, добра выпіў, добра закусіў, са Стася пацвельваўся:

— Не сумуй, Стась, ты сваё атрымаеш. З надбаўкай за цвярозае жыццё.

Гаспадар таксама на радасцях кульнуў кілішак, узгадаў, што недзе чытаў, як Пётр Першы караў майстроў за нейкія хібы: майстра Пятрова ці Сідарава «лишить воскресной чарки». Хлопцы рагаталі, Стась яшчэ болей змрачнеў.

— Я не маю на гэта права. Дый не патрэбна яно. Мы і ў нядзелю часта працуем. Таму не п’ём і не курым. Ну, што ж, дзякуй вашаму дому, — Яўген першым падняўся з-за стала. — Прыедзем у панядзелак са Стасем. Зробім падшыву страхі... І ўсё будзе хакей.

Калі будаўнікі ад’язджалі, Шабуня прыкмеціў: Стась доўга пазіраў на птушынае гняздо.

## 4

У панядзелак будаўнікі не прыехалі. Не было іх і ў аўторак. Заявіліся яны ў чацвер. Стась перш-наперш прыставіў драбіны да страхі, зазірнуў у кошык. З радасцю паведаміў, як важную навіну:

— Пуста! Паляцелі птушаняты. Ну што ж, хай жывуць.

Стась адвязаў кошык, спусціўся ўніз. Шабуня заўважыў, што ён вельмі акуратна паголены, у новай кашулі, чыстых джынсах, вочы яго сцішана свяціліся, увесь ён неяк перамяніўся, быццам памаладзеў.

— Бачыце, дзядзька, Стась наш свеціцца, як новенькі пятак. Як другі раз на свет нарадзіўся, — ухмыльнуўся Яўген.

— А што, хіба не так? Ездзіў да жонкі. Віталік падрос. Ужо ў трэці клас перайшоў. Ашчаперыў мяне за шыю, кажа: «Не адпушчу цябе...» Праз тыдзень

жонка бярэ адпачынак. Прыедзе з сынам да мяне, — Стась закурыў. — З п’янкай я завязаў. Па восені ўладкуюся на сталую працу. Годзе дурня валяць. Абрыдла жыць аднаму, цягацца па чужых... У мяне ж ёсць свая сям’я. Сыну патрэбны бацька. Галя не супраць мецъ яшчэ дзіця. Як мой брыгадзір кажа: усё будзе хакей! — Стась з усмешкаю зірнуў на Яўгена. — Мо дачакаюся ўнукаў. Вы праўду сказалі, дзядзька. Толькі чалавек ведае сваіх унукаў. Раней я пра гэта ніколі не думаў.

Брыгадзір Яўген маўчаў. У глыбіні душы ён радаваўся, што аднавясковец вяртаецца да нармальнага жыцця, але дзе знайсці гэткага памагатага...

Над новай, ільсняна-бліскучай, вішнёвай страхою лёталі з радасным піньканнем пліскі. Бацькі вучылі малых набіраць вышыню. Напрыканцы лета ім ляцець у вырай. А вясною яны вернуцца, каб збудаваць новыя гнёзды.

## Медаль

У той дзень, як і заўсёды, калі прыязджаю ў горад, у мяне было шмат клопатаў. Увечары, у вёсцы, склаў спіс: якія рэдакцыі, выдавецтвы, установы трэба наведаць, калі запіс на радыё, а яшчэ — «Кнігарня пісьменніка», у якой хацеў набыць каляндар «Родны край».

Каляндар я набыў, выйшаў з кнігарні, і тут да мяне наблізілася худзенькая, сівенькая жанчына:

— Скажыце, калі ласка, Румянцава, 17 — гэта за трамваем, або ў гэтым баку? — жанчына тыцнула рукой направа.

Я азірнуўся, мы стаялі ля дома нумар дзевяць.

— Мусіць, направа. Паглядзім, які будзе нумар наступнага дома.

Мы пайшлі побач. Незнаёмка была апранута не па-гарадскому: на галаве клятчастая хуста, з-пад цёмна-рудой спадніцы віднеліся цёмныя шаравары, на нагах футравыя хатнія пантофлі, хоць на дварэ стаяла цёплае, сонечнае, жнівеньскае надвор’е. Жанчына ўзрадавалася, калі ўбачыла лічбу 11 на будынку.

— Значыць, ідзём у правільным кірунку,

Я таксама быў рады, што дапамог чалавеку. На доме нумар 17 была вялізная рэклама страхавой кампаніі.

— Ой, як мне пашанцавала! А то папёрлася б за трамвайныя рэйкі...

Незнаёмка павярнулася да мяне і я ўбачыў на яе сціплым шэрым жакецiку невялікі бліскуча-цёмны медаль «Узник концлагеря». Адразу мільганула думка: адкласці ўбок свае справы і пагаварыць з жанчынай, бо такую ўзнагароду бачыў упершыню, але ж яна, пэўна, спяшаецца...

— О, які медаль у вас. Першы раз бачу. Разумею, што ўсе мы спяшаемся, можа, скажаце колькі слоў. Як вы туды патрапілі?

— Ой, добры чалавек. Гэта доўгая песня. І вельмі жахлівая... Давайце прысядзем на пару мінутак, — жанчына пакіравала да лаўкі ля пад’езда. — Вясною сорак трэцяга наляцелі немцы. Жылі мы на Мядзельшчыне. І пачалі хапаць людзей у Нямеччыну. Схапілі нас з мамаю. Мне было шэсць, брацiку — восем, Зосьцы, сястрычцы, ішоў дванаццаты. На дзеўку ўжо бралася. Везлі нас доўга. Ну, прывезлі ў Дахау. Чулі, канешне, пра такі канцлагер. Я ж была малая. Не ўсё разумела... Мне цяжка пра гэта гаварыць. Чаму, вы думаеце, я ў цёплых пантофлях, у штанах? Хоць і сонца прыпякае. Бо ногі мерзнуць. Асабліва пяткі. Цёплыя шкарпэткі нашу і зімой, і летам. Нас жа там марозілі. І дарослых, і малых. Доследы рабілі. Як чалавек пераносіць холад? Салдаты ж нямецкія мерзлі ў Расіі... Дзякуй божачку, што ён марозіў іх. А яшчэ ў вязняў

кроў бралі, асабліва ў дзяцей. Петрык, брацік, памёр праз гэта... А Зоську, — жанчына прыцішыла голас, азірнулася. — А Зоську закатавалі...

Жанчына змоўкла. Я не адважваўся парушыць маўчанне, і ніякіх пытанняў не задаваў.

— Мы з мамай таксама б не выжылі. Немец дапамог. Ахоўнік. Я ні разу яго не бачыла. Калі ён дзяжурыў, перадаваў маме колькі лустак хлеба, ці цукру драбок, ці шакаладку... Шакалад не магу есці і зараз. Паднясу да рота, пачую пах — усё ўнутры ледзянее... Я была худая — адны косці. Неяк захварэла, дык гэты ахоўнік угаварыў лагернага доктара зрабіць мне укол, даў доктар таблетак. І я акрыяла... Вызвалілі нас амерыканцы. Яны як убачылі газавыя камеры, дык палонных ужо ахоўнікаў пастралялі з кулямётаў. Некаторых ахоўнікаў мужчыны, ну, вязні, задушылі голымі рукамі... Адкармілі нас памалу, пачалі ўгаворваць, каб дамоў не ехалі. Заставаліся ў Нямеччыне...

У гэты час з пад'езда выйшла высокая русявая дзяўчына:

— Бабуля! Мы цябе чакаем...

— Іду, дачушка, іду!.. Гэта мая ўнучачка. У вас ёсць унукі?

— Так, трое.

— Дай, Божа, ім шчасця. Самае галоўнае, каб не было вайны... Я колькі жыву, гэтулькі дзіўлюся... Ну, што вярнулася з таго пекла...

Жанчына падала маленькую шурпатую далонь. Я асцярожна паціснуў яе, прыхінуў незнаёмку, пацалаваў у халаднаватую шчаку. Калі за жанчынай зачыніліся дзверы, спахапіўся, што так і не спытаўся, як яе завуць. Я пайшоў далей па сваіх справах, у думках перабіраючы ўсе дэталі неспадзяванай сустрэчы. Перад вачыма паўстаў невялікі цьмяна-бліскучы медаль.

На свеце шмат розных медалёў. Першым хочацца назваць узнагароду шматдзетнай Маці, якая дае жыццё. Медаль «За адвагу» — ёй узнагароджваецца храбры воін, які бароніць жыццё. За сілу, спрыт і прыгажосць уручаюцца алімпійскія ўзнагароды. Медаль Нобелеўскага лаўрэата прысуджаецца штогадова лепшым людзям Планеты Зямля за выдатныя навуковыя і творчыя дасягненні. Гэтыя людзі славяць жыццё.

Медаль «Узник концлагеря» прысуджаецца за пакуты. Маё вялікае жаданне, каб гэты медаль не прысуджаўся болей Нідзе. Нікому. Ніколі.



Уладзімір МАЖЫЛОЎСКІ

# ЯД У СЭРЦЫ

*Апавяданне*

## 1

Жнівеньскім вечарам, сырым і халодным, пан Андрэй Варона з жонкай, пані Агатай, і двума сынамі-падлеткамі, вяртаўся ў Берасце ад свайго зяця пана Багдана з Трышына. Было пану Андрэю крыху за сорак, аднак стройная постаць, густыя доўгія валасы, бліскучыя вочы і вясёлы нораў значна яго маладзілі і ў вячэрнім паўзмроку магло падацца, што па вузкай ляснóй дарозе едуць не муж з жонкай, а старэйшы сын са сваёй маці. І ў той час, калі пані Агата з трывогай узіралася ў кожны прыдарожны куст, уздрыгвала ад кожнага ляснога гуку, пан Андрэй жартаўліва ўслых разважаў:

— Ну вось, Агатушка, і дачакаліся мы з табой першага ўнука. Але мне, калі падумаю, што астатак свайго жыцця прыйдзецца дажываць з бабуляй, становіцца млосна і сумна.

— І мне мала весялосці ад таго, што зараз жыву з дзедам, — у адказ усміхалася жонка, пры гэтым не перастаючы ўважліва азіраць наваколле.

За апошні тыдзень, як іх дачка Зося нарадзіла хлопчыка, пані Агата ўжо неаднойчы чула гэты няхітры мужаў жарт. Спачатку яна злавалася на яго, потым прывыкла, сама пачала жартаваць з гэтай нагоды. Аднак сёння ёй было зусім не да смеху: імкліва набліжалася ноч, а Берасця яшчэ нават не было чутна, і тое, што ехала яна ў суправаджэнні трох чалавек, яе зусім не супакойвала, наадварот — дадавала больш неспакою, залішняй нервознасці, бо п'яны муж і два іх малалетнія сыны, што конна рысілі ля вазка, не змаглі б аказаць сур'ёзнага супраціву начным бандытам, чуткі пра якіх з'явіліся на Берасцейшчыне з пачатку лета.

А чуткі пра банду начной Ваўчыцы і сапраўды былі трывожныя. І раней у мясцовых лясах хапала розных рабаўнікоў. Амаль кожны мясцовы шляхціц лічыў справай гонару, як казалі, зрэдку разагнаць густую кроў па сваіх жылах і абрабаваць які-небудзь купецкі абоз. Аднак раней да смертазабойства ніколі не даходзіла. Новую ж банду адрознівала звярыная жорсткасць — літасці бан-

---

*__Мажылоўскі Уладзімір Барысавіч__ нарадзіўся 7 лютага 1958 года ў вёсцы Станіслава Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут (1984). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў дырэктарам школы. Цяпер — загадчык аддзялення для састарэлых і інвалідаў Браслаўскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.*

*Аўтар кнігі прозы «Праклён Мітрапаліта Феафіла» (2015).*

дыты не давалі нікому, аднолькава пераразалі горла і пану, і купцу, і галоднаму жабраку. Не шкадавалі яны ні дзяцей, ні жанчын, ні нямоглых старых, і заўсёды на месцы злачынства пакідалі адбітак акрываўленай воўчай лапы. Яшчэ людзі расказвалі, што новая банда — гэта зграя ваўкалакаў, якой кіруе маладая прыгожая жанчына, што ноччу яны рабуюць і забіваюць, а днём ператвараюцца ў звычайных людзей і прадаюць нарабаванае. Праўда, адкуль людзі маглі ведаць пра ваўкалакаў і жанчыну — не вядома, бо банда ніколі не пакідала жывымі сведкаў сваіх злачынстваў. Вось чаму так трывожна ўзіралася пані ў прыдарожнае кустоўе, вось чаму жахам поўніліся яе вочы, а збялелыя вусны без супынку шапталі гарачыя словы малітвы аб выратаванні.

І якой бы ўважлівай не была пані Агата, якімі шчырымі не былі б словы яе малітвы, як бы горача не жадала яна выратавання сваёй сям’і, але нападзенне ўсё ж адбылося нечакана, маланкава. Яна толькі пачула, як побач раптоўна захрыпеў яе муж, убачыла, як з-пад стралы, што ўпілася ў яго шыю, струменем запарыла кроў, як над ёй бліскавіцай мільгатнула лязо сякеры, і ўсё — яна абрынулася ў чорную, бясконцую бездань…

## 2

Берасцейскі лаўнік Самуіл Корчак любіў у нядзелю пасля ранішняй службы ў Мікалаеўскай царкве са сваёй сям’ёй зайсці ў госці да бацькоў, пасядзець разам з бацькам і малодшым братам у садзе, выпіць кубак-другі нямоцнага мёду, пагутарыць аб жыцці. Аднак гэтым нядзельным ранкам яму не пашчасціла — бацька ў суботу павёз тавар у Камянец, а брат яшчэ не вярнуўся з царквы. У хаце была адна маці.

Пасля прывітальных слоў і звыклых пытанняў аб здароўі, Самуіл уладкаваўся на лаве, прытуліўся спінай да цёплай сцяны, задумаўся. На яго твары кучаравілася светлая модная, ахайна падстрыжаная бародка. Ледзь бачныя вусы адцянялі яго вусны, а з-пад гэткіх жа пшанічна-светлых броваў на свет глядзелі блакітна-шэрыя, добрыя вочы.

Незнаёмцаў такі твар лаўніка звычайна пацяшаў сваёй адкрытасцю і прастатой, аднак тыя, хто ведаў Самуіла, не падманваліся, ведалі, што за гэтай яго прастатой хаваецца непахісная і непадкупная чэснасць, што за якую б дробязную і нязначную справу ні браўся б лаўнік, ён аддаваўся ёй усёй душой і заўсёды даводзіў яе да справядлівага заканчэння.

Самуіл яшчэ нейкі час пасядзеў у хаце, паслухаў вясёлую гамонку сваёй жонкі Насці з маці, потым ціха падняўся і пайшоў у сад. На яго сыход ніхто не звярнуў увагі.

Сад быў невялікім, усяго з дзясятак яблынь, але Самуілу яшчэ з дзяцінства ён падаваўся незвычайным, казачным, дзе кожнае дрэва, кожны куст жылі сваім жыццём, дзе панавалі свае правілы, свае звычаі і свае законы.

Мужчына сеў на лаву ля куста язміну, адхінуўся да шурпатага ствала яблыні, заплюшчыў вочы, і адразу нейкае па-дзіцячы шчымлівае насланнё запоўніла ўсю яго істоту. Ён не заўважаў, як бяжыць час, забыўся аб жыццёвых праблемах, аб рабоце і, нібы у здранцвенні, быццам зачараваны, з непрыхаваным захапленнем і шчаслівай, ледзь бачнай усмешкай слухаў бясконцае гудзенне чмялёў, на поўныя грудзі ўдыхаў пах, прагрэтых сонцам глебы, травы, лісцяў, даспяваючых яблыкаў. Ён нерухома сядзеў на лаве. Яму падавалася, што слухаючы вясёлыя пераспевы птушак і дзелавое сакатанне конікаў, ён па-сапраўднаму адчувае іх жаданне жыць і бярэ частку гэтага жадання ад іх сабе.

Думкі Самуіла былі лёгкія, бесклапотныя, і тое, што ён зведваў у такія імгненні, праходзіла праз яго душу і сэрца. Ён адчуваў, як цела наліваецца гукамі зямлі, як жылы напаўняюцца яе жыццёвай сілай, як ён становіцца мацнейшы і чысцейшы, быццам навакольны свет, гэтыя пахі і гукі, праходзяць праз яго сэрца, ачышчаюць яго і гаючым бальзамам назаўсёды там застаюцца. Самуілу было хораша, і ён ніякім рухам не хацеў парушыць гэткае сваё забыццё, гэтае яднанне з роднай прыродай.

Раптам у садзе пачуліся крокі. Чалавек падышоў бліжэй, спыніўся побач з лавай.

— Ты спіш? — прагучала пытанне і Самуіл адразу пазнаў голас малодшага брата Марціна.

Ён расплюшчыў вочы, з лагоднай усмешкай блазнаватага, які яшчэ канчаткова не выйшаў з прыемнага забыцця, паглядзеў на брата. Перад ім стаяў стройны юнак, ужо з чорным пушком на падбародку і шчоках. «Пара галіцца», — падумаў пра брата Самуіл, а ўслых запытаўся:

— А ты чаму з бацькам у Камянец не паехаў?

— Яны абозам паехалі, з аховай, — Марцін сарваў з яблыні яблык, адкусіў яго, зморшчыўся. — Зараз усе купцы з аховай ездзяць, баяцца банды начной Ваўчыцы, — хлопец сеў на лаву, салодка, зусім па-дзіцячы пацягнуўся, павярнуўся да брата: — Вось ты працуеш у магістраце лаўнікам, ловіш у горадзе ўсялякіх рабаўнікоў і забойцаў, а скажы мне — адкуль у нас з’явіліся гэтыя нелюдзі і чаму іх цэлае лета княжы намеснік пан Ключэўскі ловіць і ніяк не можа злавіць?

Самуіл адштурхнуўся спінай ад ствала яблыні, абняў за плечы брата.

— Мужчынам становішся, Марціне, — усміхнуўся ён і свабоднай рукой правёў па падбародку брата. — Хутка з бацькам будзем цябе жаніць.

— Ды ну цябе, — пачырванеў Марцін і трасянуў плячыма. — Я сур’ёзна пытаюся, а табе ўсё жартачкі.

— Ну, калі б у мяне былі адказы на твае пытанні, то банда Ваўчыцы ўжо даўно гойдалася б на дрэвах уздоўж Віленскага шляху.

— А што ты думаеш пра ваўкалакаў?

— Думаю, што гэта людзі прыдумалі іх са страху. На самай жа справе гэта банда невялікая і складаецца з пяці-шасці мужчын, і хутчэй за ўсё — дэзерціраў.

— Чаму дэзерціраў?

— Яны маладыя, здаровыя, добра валодаюць зброяй і да жудасці бязлітасныя.

— Чаму ж яны называюць сябе «бандай начной Ваўчыцы»?

— Так іх людзі назвалі, — Самуіл на імгненне задумаўся, потым хмыкнуў: — А і праўда, чаму банда Ваўчыцы, а не Ваўка?

— Вось і Мішка دручок кажа, што атаманша ў іх сапраўдная ваўчыца, а яе падначаленыя — зграя ваўкалакаў. Таму і нападаюць яны ноччу, таму і пакідаюць воўчыя сляды на месцы злачынства, таму і нішчаць усіх без разбору.

— Я, напрыклад, ніколі не чуў, каб ваўкалакі стралялі з лукаў і мячамі секлі небаракам галовы, — ахаладзіў братаў імпэт Самуіл. — Але пра ваўчыцу ўсё ж трэба сур’ёзна падумаць.

— Падумай, братка, падумай, — Марцін зноў адкусіў яблык, зноў кісла зморшчыўся і, узняўшыся з лавы, адкінуў абгрызак пад плот. — Пайшлі ў хату, бо маці мяне паслала, каб я клікаў цябе на бліны.

## 3

Ідучы з мужам пасля гасцей да свайго двара, Насця апавядала яму навіны, якія пачула ад маці. Іх было шмат, але па-сапраўднаму зацікавіла Самуіла толькі адна — Марцін закахаўся ва ўдаву Гераські Дораха і ўжо прасіў бацьку накіраваць да яе сватоў. Самуіл крыху ведаў Герасіма, памятаў яго, як добрага цесляра, але яго жонкі ніколі не бачыў, нават ніколі не чуў, што яна ў яго была. Таму паведамленне Насці аб каханай Марціна выклікала ў Самуіла разгубленасць і з-за гэтай разгубленасці ён нават не парадаваўся за брата, хаця зусім нядаўна ў бацькавым садзе сам абяцаў яму яго ажаніць.

— Колькі ж удаве гадоў? — толькі і пацікавіўся ён у жонкі.

— Васямнаццаць, — адказала тая і, папярэджваючы яго наступнае пытанне, дадала: — Жалоба па Гераську закончылася ў чэрвені.

— А што пра яе вядома? Адкуль яна, хто яе бацькі, якога яна роду-племені?

— Маці расказвала, што родам яна з вёскі Корніца, што бацьку яе некалі разадралі ў лесе ваўкі, а маці памерла два гады таму, што мае яна трох братоў, два з якіх жывуць у вёсцы і займаюцца там гаспадаркай, а адзін жыве з ёй і, як і Гераська, цяслярыць.

— А чым займаецца яна?

Насця пацiснула плячыма, усміхнулася і зазірнула мужу ў вочы, і ад гэтага яе насмешлівага позірку Самуіл зніякавеў, зразумеў, якое бязглуздае яго пытанне.

— Я хацеў запытацца, ці ёсць у яе дзеці? — паспрабаваў ён апраўдацца і, запытаўшыся, яшчэ больш разгубіўся — ну якое дачыненне да кахання маюць дзеці? Ёсць яны — добра, няма — значыць будуць!

Але Насця не заўважыла мужавай збянтэжанасці.

— Дзяцей у Юльяны няма, — прагучаў яе мілагучны голас, — але ж яны маладыя і ў іх усё яшчэ наперадзе.

— Значыць яе завуць Юлька?

— Юлія, — паправіла мужа жонка і зноў усміхнулася, на гэты раз усміхнулася шырока, па-добраму.

— А характар у яе які? — не здаваўся Самуіл. — Можа, яна сваімі сквапнасцю і сварлівасцю звяла Герасіма з гэтага свету? Тады і Марціна чакае такі ж лёс?

— Пра характар яе я нічога не ведаю, аднак, калі жадаеш, раскажу табе казку пра жаночую сварлівасць.

— Ну раскажы, — пагадзіўся з жонкай Самуіл, — да хаты ісці яшчэ далёка.

— Яе мне расказала мая маці, калі я пагадзілася стаць тваёй жонкай, а не выставіла некалі тваім сватам гарбуза.

— Чаму ж не выставіла?

— Таму што пакахала цябе, — голас Насці быў сур’ёзны, не жартаўлівы, ад чаго Самуіл стрымаўся, прамаўчаў. — Некалі, даўным-даўно, адна маладая дзяўчына пабралася шлюбам з хлопцам і па звычаі перайшла жыць на яго двор. І ўсё б было добра, ды толькі ніяк не магла маладая паразумецца са сваёй свякроўкай: то вілкі яна не там паставіць, то малако працэдзіць не ў той збан, то хлеб спячэ нясмачны, то кашу недасоліць — усё не так рабіла нявестка, усё не падабалася свякроўцы.

Месяц прайшоў непрыкметна, закончыўся другі, а ладу паміж жанчынамі так і не ўсталявалася.

Урэшце дзяўчына не вытрымала здзекаў і прыдзірак свякроўкі і вырашыла збегчы ў свет, пакінуць мужа з яго маці. Аднак, як гэта пакінуць любага

мужа, ды і куды ёй бегчы? Тады яна вырашыла атруціць свякроўку. Сабрала грошай і пайшла да мясцовай лекаркі, каб купіць у той яду. «На горы іншага свайго шчасця не наладзіш, — выслухаўшы просьбу дзяўчыны, паспрабавала адгаварыць яе лекарка. Аднак тая была непахіснай, упартай у сваім жаданні і лекарка здалася: — Добра, я дам табе яду, але яго трэба падмешваць у ежу асцярожна, пакрышачку. І яшчэ, — лекарка панізіла голас да шэпту, зазірнула ў твар сваёй госці, — ты павінна змяніцца сама, стаць добрай і пяшчотнай нявесткай, інакш людзі адразу скемяць, што да чаго і абвінавацяць цябе ў смерці тваёй свякроўкі, і тады цябе чакае ганебная смерць на шыбеніцы».

З таго дня нявестку быццам падмянілі: на небе яшчэ свеціць месяц, а яна ўжо гаспадарыць ля печы, сняданак гатуе, потым бяжыць да каровы, завіхаецца па гаспадарцы, і так — цэлы дзень. А са свякроўкай ветлівая і лагодная, слова супраць не скажа, ва ўсім з ёй пагаджаецца, мамай зваць стала. І свякроўка змянілася: лаяцца перастала, шкадуе сваю нявестачку, ва ўсім ёй дапамагае, імкнецца дагадзіць, а праз месяц дачкой назвала. Лад і спакой запанавалі ў іх хаце, але аднойчы, калі старая жанчына раптоўна захварэла, успомніла нявестка пра яд, якім некалі труціла свякроўку. Успомніла, кінулася да лекаркі, павалілася ёй у ногі: «Ратуй, мілая, маю матухну або дай мне яшчэ яду, каб і я разам з ёй памерла!»

Пасмяялася з дзяўчыны лекарка, расказала, што дала ёй тады не яд, а звычайны адвар шыпшыны, і што шкоды здароўю свякроўкі яна не нанесла. «Ды і лячыла я тады не тваю свякроўку, а цябе, бо вельмі ўжо зашмат яду было ў тваім сэрцы і зараз бачу — з Божай дапамогай ты вылечылася, ачысціла сваё сэрца для дабрыні». — Насця дакранулася да мужавага локця, сціпла ўсміхнулася: — Вось так, Самуіл. Усё дрэннае мы носім у сваім сэрцы і толькі мы самі можам пазбавіцца ад таго яду, што атручвае нас, што апаганьвае нашы ўчынкі і ачарняе нашу душу.

Самуіл прамаўчаў. Нейкі час ён крочыў моўчкі, потым уздыхнуў і, быццам сам сабе, ціха прамовіў:

— Трэба быць вельмі моцным чалавекам, каб перамагчы самаго сябе, — ён аб нечым засяроджана разважаў, быццам вагаўся — сказаць гэта жонцы ці лепш прамаўчаць? Урэшце не вытрымаў: — І ўсё ж я думаю, што лёс любога чалавека залежыць у першую чаргу ад ладу жыцця яго бацькоў, што менавіта яны вызначаюць тую меру яду, які збіраецца ў сэрцах іх дзяцей.

## 4

А вечарам, калі сонечны дыск надзейна схаваўся за небасхілам, а на яго месца ўзабраўся самотны месяц, Самуіл пачаў апранацца.

— Ты куды? — здзівілася мужавым зборам Насця.

— Марціну трэба дапамагчы, пакуль горшага не здарылася, — адказаў ён жонцы і, каб тая не хвалявалася, дадаў: — Я, магчыма, у маці заначую.

Ён выйшаў з хаты, крыху пастаяў на панадворку, паслухаў, ці зачыніла жонка дзверы і, толькі пачуўшы шоргат засаўкі, павярнуўся і пакрочыў у канец вуліцы.

Ноч яшчэ не спавіла зямлю змрокам, але цяжкі жнівеньскі туман ужо клубіўся ля яе паверхні. У траве ўздоўж дарогі па-заліхвацку стракаталі конікі, ля Мухаўца ў кустоўі час ад часу дзіка крычала начная птушка.

Двор нябожчыка Гераські Дораха Самуіл знайшоў без цяжкасці. Чорная хата пад чорным дахам, абнесеная высокім чорным плотам, выглядала злавесна. Яшчэ больш злавеснасці дадавала ёй блізкасць лесу, які ў начны час

падаваўся змрочным і непрыветлівым. Самуіл зябка павёў плячыма: «І чаго чорт панёс мяне ноччу ў гэтае гіблае месца? Што я тут спадзяюся ўбачыць?» Ён знайшоў пень у зарасніку лазы, прысеў на яго, суцішыўся ў чаканні.

Час цягнуўся нясцерпна доўга, хіліла да сну і, магчыма, Самуіл не вытрымаў бы і заснуў проста на пні, калі б не камары, якія з ніадкуль з'яўляліся ля яго твару і якіх без супынку трэба было адганяць пучком лазовых галінак.

Раптам праз камарыны піск лаўнік пачуў, як на двары Дораха мякка рыпнула засаўка, а праз імгненне бясшумна адчыніліся веснічкі і з іх выйшаў высокі, магутнага целаскладу чалавек. Незнаёмец павольна агледзеў наваколле, уважліва паслухаў начную цішыню, крыху яшчэ пастаяў на вуліцы і нягучна кашлянуў, — як зразумеў Самуіл — гэта быў умоўны сігнал, бо хутка з панадворку на вуліцу выйшлі яшчэ адзін мужчына і невысокая, танклявая жанчына. «Пэўна, Юлія», — здагадаўся Корчак. Ён, баючыся пашавяліцца і больш не звяртаючы ўвагі на камароў, праводзіў позіркам невялікую кампанію і, калі тыя схаваліся ў нізінцы, спачатку нерашуча, а потым усё смялей, прыгнуўшыся да самай зямлі, пабег за незнаёмцамі.

І тут, нібы назло, з-за хмары выпаўз месяц, асвяціў сваім нежывым святлом і лясную ўскраіну, і балоцістую, зарослую трыснягом і кустоўем, нізінку, і далёкі пагорак, на якім, як ведаў Самуіл, размяшчаліся гарадскія могілкі, да якіх наўпрасткі ішлі трое чалавек.

Корчак, ратуючыся ад месячнага святла, хуценька спусціўся ў нізінку і, ужо амаль не хаваючыся, пачаў прабірацца па кустоўі — пад яго ботамі трашчала гнілое голле, хлюпала балотная твань. Яму было страшна ісці наперад, але яшчэ страшней было вяртацца назад.

Хутка ён выйшаў на сцяжынку, азірнуўся навокал і, убачыўшы, што людзі не змянілі свайго шляху і крочаць да могілак, спыніўся, прысеў ля куста, выліў з ботаў гнілую ваду і толькі потым, дзе хаваючыся за кустоўе, а дзе паўзком, ён накіраваўся да самотнага пагорка.

Ён бачыў, што людзі і сапраўды прыйшлі на могілкі, спыніліся на іх ускрайку ля паваленага дрэва. Мужчыны селі на яго ствол, а жанчына адышлася крыху ўбок, прытулілася спінай да абпаленай маланкай сухаліны і паднесла да свайго твару рукі. Корчак ужо сабраўся падпаўзці бліжэй, як раптам начную цішыню прарэзала воўчае галашэнне, ды такое голаснае, такое жахлівае, што Самуіл ледзь не падскочыў на ногі, ледзь не кінуўся ўцякаць ад гэтага крыку, ад гэтых людзей і гэтых скасабочаных крыжоў. Ён ледзь не самлеў ад жаху. Аднак рэха ад галашэння растварылася ў лясной цішыні, а навокал нічога не змянілася. Як і раней, побач з ім мірна трымцела сваім лісцем маладзенькая асінка. Як і раней, месяц асвятляў чорны лес. Як і раней, мужчыны сядзелі на паваленым дрэве. І Самуіл здагадаўся — то выў не воўк, то крычала жанчына. І калі жудасны крык паўтарыўся зноў, ён ужо аднёсся да яго больш стрымана, без ранейшых панічных думак і неабдуманых памкненняў.

Раптам месяц схаваўся за хмару. Цемра запоўніла наваколле, і лаўніку падалося, што яно пачало змяняцца, што нават паветра стала іншым — цяжкім, густым, калючым. Без усялякай прычыны ў верхавінах дрэў зашумеў вецер. Спачатку ціха і нерашуча, потым мацней, а праз нейкі час на могілках па-сапраўднаму ўжо разыходзілася віхура. Ды яшчэ крумкачы і вароны, якія да гэтага начавалі на дрэвах, паднялі такі вэрхал, што Самуіл начыста забыўся, для чаго ён прыйшоў на гэты пагорак і адно, раз за разам жагнаючыся, апантана шаптаў малітвы ды цалаваў свой нацельны крыжык.

Ён не бачыў, адкуль на могілках з'явіўся яшчэ адзін мужчына, не чуў яго гутаркі з жанчынай і яе братамі, не заўважыў калі і куды ўсе яны зніклі.

Корчак маліўся, і толькі, калі супакоілася патрывожанае вараннё, калі начная цішыня зноў ахінула сваімі мяккімі крыламі магільныя крыжы і камяні, ён апамятаўся, да яго вярнулася здольнасць разважаць, думаць.

Самуіл спачатку прыўзняўся на каленкі, потым сеў на кукішкі, агледзеўся. На ўсходзе ўжо ружавела неба, халоднае, сырое паветра непрыемна абдымала яго цела.

Лаўнік, бы прывід, падняўся на ногі, рукавом кафтана, мокрага ад расы, выцер твар і, не азіраючыся, больш ні ад каго не хаваючыся, пакрочыў у накірунку да горада.

## 5

Раніцай Корчак быў у магістраце. Сонны, пакамечаны ён квола павітаўся са сваім сябрам Фёдарам і, гэтак жа квола кіўнуўшы на дзверы войта, пацікавіўся:

— Пан Міхал у сябе?

— У сябе, — адказаў Фёдар і не ўтрымаўся, рагатнуў: — А ты, бачу, ноч правёў весела, з карысцю!

— Чаго-чаго, а весялосці хапіла, — адмахнуўся ад сябра Самуіл і стомлена апусціўся на лаву. — Было так весела, што і зараз усё цела выкручвае, бы на дыбе.

— А жанчыны там былі?

— Былі і жанчыны. Адна! Але затое якая! — ваўчыца, а не жанчына!

— Ніколі б не падумаў такога пра цябе, — Фёдар падсунуўся па лаве бліжэй да сябра і паўшэптам даверліва пацікавіўся пра жанчыну: — Ліхадзейніца? І колькі грошай яна бярэ за ноч?

Самуіл хмыкнуў, грудзі яго затрэсліся ад унутранага смеху і ён ужо адкрыў рот, каб расказаць сябру пра жанчыну, каб цалкам задаволіць яго цікаўнасць, але ў гэты момант расчыніліся дзверы ў пакой войта і адтуль паказалася мажная постаць пана Міхала.

Войт падазрона агледзеў сваіх лаўнікаў, нават прынюхаўся, аднак нічога так і не ўчуўшы, хітнуў ім галавой:

— Заходзьце.

Лаўнікі зайшлі ў пакой і, убачыўшы на лаве незнаёмага шляхціца, у нерашучасці спыніліся. Незнаёмцу было гадоў пад сорак. Невысокі, але моцны, каржакаваты, ён нагадваў дубовы камель, на які нейкі жартаўнік начапіў стальную браню. Твар яго быў гладка паголены і меў такі цёмны колер, што Самуіл спачатку нават сумеўся — а ці не маўр гэта? Аднак незнаёмец не быў маўрам і размаўляў на зразумелай усім мове.

— Сядайце, панове, — прагракатаў ён басавітым голасам, і Корчак здагадаўся, што перад імі сядзіць чалавек, які ўдзельнічаў не ў адной сечы, які прывык жыць на прыродзе, і які больш часу праводзіць у конскім сядле, чым пад дахам свайго палаца, і такім чалавекам у Берасці зараз быў княжы намеснік пан Ключэўскі.

Ключэўскі з лёгкай, паблажлівай усмешкай на вуснах пачакаў, пакуль Самуіл з Фёдарам уладкуюцца на лаве, потым павярнуўся да пана Міхала:

— І ты кажаш, што яны могуць быць мне карыснымі?

Войт паціснуў плячыма і прамаўчаў.

— Добра, — уздыхнуў княжы намеснік, — мне ўсё роўна ўжо няма чаго губляць. — Ён цяжка варухнуўся на лаве, яго стальныя даспехі незадаволена загулі, зноў з-пад броваў зірнуў на лаўнікаў, даўжэй затрымаў позірк на Корчаку, стрымана ўсміхнуўся: — Вы ведаеце, панове, што ў вашых лясах з’яві-

лася банда лютых злодзеяў, якія не толькі рабуюць купцоў, але і не пакідаюць у жывых свае ахвяры. Злыдні ўжо зарэзалі некалькі дзясяткаў паважаных людзей і гэта не на жарт усхвалявала нашага князя Жыгімонта.

Я два месяцы ганяюся за гэтымі забойцамі, злавіў і павесіў на прыдарожных дрэвах не адзін дзясятак разбойнікаў, і ўжо думаў, што ўрэшце знішчыў банду Ваўчыцы, але не — сённяшняй ноччу яны зноў нанеслі свой крывавы ўдар, перахапілі на лясной дарозе сям'ю пана Андрэя Вароны і поўнасцю выразалі яе. — Пачуўшы гэтую вестку, Самуіл скрыгатнуў зубамі і застагнаў: «Я ж мог папярэдзіць гэта забойства!» Але пан Ключэўскі не звярнуў увагі на стан лаўніка і працягваў: — Гэта азначае, што нехрысці жывыя, і што мне прыйдзецца яшчэ затрымацца ў вас на няпэўны час.

— Няўжо няма ніякіх зачэпак, каб вылічыць гэту Ваўчыцу з яе вывадкам? — пацікавіўся войт. — Няўжо ніхто нічога не бачыў ці не чуў?

— Сведкаў іх зладзействаў няма, бо нябожчыкі, як вядома, не размаўляюць, а сяляне будуць маўчаць, нават калі і бачылі нешта падазронае, бо разумеюць — калі яны раскажуць тое, што ведаюць, іх сем'і выражуць, а двары іх спаляць. Жах — вось тое пачуццё, з якім зараз жывуць вашы сяляне.

— Як жа злавіць душагубаў? Дзе іх шукаць? — узрушаны войт пачухаў патыліцу, і запытальна паглядзеў на княжага намесніка: — Што рабіць будзем, пан Мікалай?

— Думаць трэба, — адказаў намеснік. — Трэба шукаць іх схованку, апытваць людзей.

— А я думаю, што банду Ваўчыцы шукаць зусім не абавязкова, — перапыніў размову шляхціцаў Корчак і, убачыўшы іх здзіўленыя твары, патлумачыў: — Трэба прыдумаць такую хітрасць, каб гэтая банда сама прыйшла ў пастаўлены намі капкан.

— Ну-ка, ну-ка кажы, лаўнік, што ты задумаў, — пан Ключэўскі нават нахіліўся да Самуіла.

— Трэба распусціць чутку, што нейкі шляхціц знайшоў вялікі скарб. Потым зрабіць у гэтага шляхціца засаду і чакаць ноччу гасцей.

— Прапанова нядрэнная, — расцягваючы словы і ў душы шкадуючы, што гэта не ён яе прыдумаў, прагаварыў намеснік. — Толькі як увесці яе ў вушы злыдням?

— Ну гэта мы з Фёдарам зробім, — крыва і нават злосна ўсміхнуўся Корчак. — Нам не прывыкаць да такіх спраў, я праўду кажу, Федзя?

— Ну-у, — разгублена заміргаў вачыма Фёдар.

— Яшчэ трэба дамовіцца з кімсьці, хто быццам бы знайшоў гэты скарб, — Самуіл зірнуў на войта. — Усё ж такі непрыкметна схаваць на двары паўсотні ратнікаў — няпроста нават для шляхціца.

— А навошта нам усім хавацца ў засадзе? — вочы пана Ключэўскага паюначы ззялі запалам. — Я адбяру два дзясяткі лепшых самастрэльшчыкаў і мы пераб'ём разбойнікаў проста на панадворку.

— Ноччу гэта будзе зрабіць складана.

— Цемната для нас не перашкода, ды і ночы зараз месячныя, светлыя.

— А для засады можна выбраць двор пана Быліцкага, — павесялеў і войт, — ён жыве адзін, ужо немалады, мае вялікі двор са старымі пабудовамі.

— Вось і добра, — намеснік падняўся з лавы, ад чаго яго даспехі весела зазвінелі. — Ты, — ён рашуча паказаў пальцам на Самуіла, — распускаеш плётку пра скарб, а я раблю засаду і, дасць бог, наступнай раніцай у гэтым пакоі мы з табой вып'ем па кубку добрага віна за тое, каб паганыя душы Ваўчыцы і яе хаўруснікаў добра-такі падсмажыліся ў пекле.

## 6

Лаўнікі выйшлі з ратушы на гандлёвую плошчу, спыніліся і, бы па камандзе, паднялі ўверх галовы.

— Сонца ўжо высока, — першым загаварыў Фёдар, — час і папалуднаваць.

— А работа? Мы ж с табой павінны распусціць па горадзе чутку пра скарб, які быццам бы знайшоў пан Юрый Быліцкі, і за якім заўтра прыедуць яго сыны.

— Дык у чым складанасць? — Фёдар у непаразуменні ўзняў бровы. — Ты толькі азірніся і паглядзі колькі тут народу! Шапні аднаму на вуха гэтую плётку, а да вечара аб ёй будзе гаварыць увесь горад.

— Э-э не, даражэнькі! Аб тым, што пан Юрый знайшоў золата павінны ведаць усяго некалькі чалавек і сярод іх абавязкова павінна быць Ваўчыца.

— І дзе ты яе знойдзеш? — спахмурнеў Фёдар. — Калі ты ведаеш яе нару, то скажы аб гэтым пану Ключэўскаму, а ён, як я думаю, разбярэцца з ёй хутка, па-салдацку, без усялякіх дурацкіх прыдумак пра золата і самацветнае каменне.

— Ну не злуйся, Федзя, — Самуіл весела паляпаў сябра па плячы. — Я зараз вось аб чым падумаў…

— Папалуднаваць у карчме?

— Лепш: мы з табой сходзім у госці, пазнаёмімся з маёй будучай нявесткай. Там, спадзяюся, і папалуднуем, і па чарцы добрай гарэлкі вып’ем.

Фёдар адразу павесялеў, вочы яго спагадліва засвяціліся, вусны расцягнуліся ва ўсмешцы:

— А што, твой Марцін жэніцца? А я і не ведаў. Хто ж яна — яго абранніца?

— Удава Гераські Дораха.

— Цесляра Гераські? — Фёдар недаверліва зірнуў на сябра. — Таго, які памёр у пачатку лета мінулага года?

— Таго самага цесляра Гераські.

— Памятаю я яго, — уздыхнуў Фёдар. — Чалавекам ён быў неблагім: ціхім, спакойным, працавітым. Куфар мне некалі зрабіў адмысловы, вечка разьбой упрыгожыў. А аб тым, што ў яго была жонка, я і не ведаў, вось толькі зараз ад цябе і пачуў. Цікава!

— Ты толькі ў яе хаце нічога аб гэтым не кажы — пакрыўдзіш жанчыну, сапсуеш наша знаёмства. Дарэчы, а родныя ў Гераські былі?

— Некалі былі, але пасеклі іх татары дваццаць гадоў таму. Гераську толькі і пакінулі ў жывых, бо немаўля ён быў яшчэ грудное, думалі, пэўна, — памрэ і так.

— Цікава, — Самуіл задумліва прыгладзіў сваю ахайную бародку. — Аднак пайшлі ў госці, бо, як вядома, лаўніка ногі кормяць.

Дзень быў у самым разгары. Па-летняму яркае сонца ахінула горад гарачынёй і трапяткой цякучай смугой, у якой яскрава адчуваўся пах даспяваючых яблыкаў і свежазжатага жыта. Неба сінела сваёй безданню — у ім толькі дзенідзе ў недасягальнай вышыні бялелі лёгкія, як пух, чыстыя воблачкі.

Удава Гераські Юлія сустрэла гасцей на сваім панадворку. На выгляд ёй было гадоў шаснаццаць. Невысокага росту, танклявая, жылістая, з дробнымі рысамі твару яна здалёк больш нагадвала дзяўчынку-падлетка, аднак вочы! Чорныя, бяздонныя ў сваёй чарнаце, яны адразу пранізвалі чалавека ледзяной трывогай, якая паступова пераходзіла ў неасэнсаваны жах. Такім позіркам

глядзіць на сваю ахвяру драпежнік, перш чым упіцца ікламі ў яе горла і бязлітасна парваць яго на шматкі. Самуіл паспрабаваў зазірнуць у іх бездань, дабрацца да яе дна, але акрамя чорнай пустаты нічога там не ўбачыў.

— Я старэйшы брат Марціна Корчака, — прадставіўся ён гаспадыні і са здзіўленнем адзначыў, як рэзка змяніўся колер яе вачэй — яны імгненна сталі цёмнымі і ў іх радасна запульсавалі вясёлыя смяшынкі. «Вось гэта сіла! — з павагай падумаў ён пра жанчыну. — З ёй трэба быць вельмі асцярожным». А ўголас патлумачыў: — Заходзілі з сябрам да вашага суседа Донькі, але яго жонка кажа, што ён зараз недзе на рэчцы і да вечара дадому не вернецца.

— Ён з сынам і сапраўды днямі прападае на Мухаўцы, — голас у гаспадыні быў звонкі, мілагучны і па ўсім было бачна, што яна вельмі рада гасцям, хаця крыху і разгубілася ад іх нечаканага прыходу. — Аднак, што мы стаім на панадворку? Міласці прашу ў хату, праходзьце.

Пасля сонечнага святла ў хаце было цёмна. Лаўнікі крыху пастаялі ля парога — пачакалі, пакуль вочы прывыкнуць да хатняга паўзмроку, потым зайшлі ў памяшканне, перажагналіся на адзінокі, невялічкі абраз, які вісеў пад самай столлю ў куце, і пад якім жоўтай плямкай цеплілася лампадка.

— Вы праходзьце да стала, — прыемным галаском запрасіла гаспадыня. — Мой брат зараз у вёсцы, таму вы ўжо выбачайце мяне за пачастункі.

— Ды не трэба ніякіх пачастункаў, Юлія, — адмоўна замахаў рукамі Самуіл. — Мы проста зайшліся да цябе, каб крыху пазнаёміцца, каб…

— Паглядзець і на цябе, і на тваю гаспадарку, і на парадак у тваёй хаце, — упершыню ўключыўся ў гутарку Фёдар. — І я не ведаю, аб чым там думае Корчак, а сам скажу — жанчына ты не толькі прыгожая і разумная, але і гаспадыня добрая, — Фёдар павярнуўся да свайго сябра, задзірыста запытаўся: — Што, не так? Панадворак чыста падмецены і пасыпаны свежым пяском, адзенне вымыта і ўжо сушыцца, печка выцеплена, у хаце чысціня і парадак — маёй бы Клаве гэтай работы на цэлы дзень хапіла б, ды і то…

— А я хіба з табой спрачаюся? — весела сказаў Самуіл. — І я не сляпы, бачу, што ў майго брата будзе цудоўная жонка.

— Ну хопіць вам спрачацца, панове, — Юлія зноў запрасіла гасцей да стала. Потым упэўненым рухам паставіла на яго місу са студнем, побач з ёй паклала вялікае кальцо вэнджанай каўбасы, глышку сыру. — Мы яшчэ не паспелі як след пазнаёміцца, а вы ўжо столькі добрага мне нагаварылі, што нават мяне, удаву, увагналі ў чырвань.

— Добрага чалавека адразу бачна, — не адводзячы вачэй ад каўбасы, прамовіў Фёдар.

Юлія на словы госця ніяк не адрэагавала. Яна дастала з палічкі кубкі, зняла з хлеба ручнік, павярнулася да прыпечка і паставіла на стол невялікі гляк. Потым уздыхнула:

— Ёсць яшчэ капуста ды параная рэпа, але…

— Ды не мітусіся ты, Юлія, — Фёдар падхапіў гляк, зубамі выцягнуў з яго палатняную затычку, панюхаў змесціва, задаволена хмыкнуў: — Акавіта!

— Брат, здараецца, пасля цяжкай работы выпівае яе кубак, — патлумачыла дзяўчына. — А я хмяльнога не п’ю, нават паху яго не выношу.

Фёдар завагаўся, асцярожна паставіў гляк на стол, паглядзеў на Самуіла.

— Ды ты, пан, налівай, — убачыўшы жэст госця, засмяялася Юлія. — Гэта я сказала, каб вы мяне выбачалі, што я піць буду жур, а не гарэлку.

Фёдар з палёгкай усміхнуўся, рашуча падхапіў пасудзіну і адразу наліў па поўнаму кубку сабе і свайму сябру. Потым паставіў гляк на стол, падняў свой кубак:

— Я прапаную выпіць за здароўе гаспадыні, — ён ветліва схіліў галаву ў бок Юліі. — Няхай яно будзе моцным, як гэта акавіта, а куты яе хаты няхай поўняцца дзіцячым смехам — самай вялікай каштоўнасцю на гэтым свеце.

— Дзякуй, — гаспадыня сціпла апусціла вочы і прыгубіла свой кубак з журам.

Мужчыны ж выпілі свае кубкі да дна. Закусілі.

Пасля акавіты Фёдар прыкметна павесялеў. Яго шчокі пачырванелі, вочы заблішчэлі і, як таварыскі чалавек, ён пачаў без супынку расказваць анекдоты з жыцця сваіх сяброў і знаёмых. Аднак, калі ўбачыў, што Самуіл пацягнуўся да гляка, супыніўся, адвёў убок руку сябра:

— Я сам, — запэўніў ён прысутных, лёгка падхапіў пасудзіну і зноў наліў кубкі да самага верху. Потым зірнуў на Самуіла і прапанаваў: — А зараз скажы некалькі слоў сваёй братавай.

— Ну, аб гэтым казаць яшчэ рана, — паправіў сябра Самуіл, аднак прыўзняў свой кубак і павярнуў галаву да Юліі: — Чалавек, які кахае, ва ўсім бачыць толькі прыгожае, і святло гэтай прыгажосці робіць высакародным і самаго чалавека, і яго ўчынкі, і яго памкненні. Таму чалавек, які кахае па-сапраўднаму, не можа быць забойцам, здраднікам ці нягоднікам. Вось я і хачу пажадаць гаспадыні, каб сэрца яе запаўняла толькі каханне, каб усё жыццё гэтае каханне было сапраўдным, і каб яе кахалі па-сапраўднаму моцна і шчыра — а інакш каханне, а значыць і жыццё, губляюць усялякі сэнс.

Выпілі, закусілі. У хаце нейкі час панавала цішыня, пэўна, кожны з прысутных асэнсоўваў Самуілавы словы. Першым загаварыў Фёдар:

— Ну што, Самуіл, давай вып’ем па апошняму кубку за гасціннасць гаспадыні і разыдземся па сваіх дварах? — ён узяўся за гляк, але напаўняць кубкі не стаў, чакаў, што адкажа сябар.

— Ты маеш рацыю, — пагадзіўся Самуіл. — Сонца ўжо амаль над лесам, а мне яшчэ трэба зайсціся ў ратушу, расказаць пану войту пра скарб, які сягонння выкапаў пан Быліцкі.

— Пра скарб? — Фёдар зрабіў выгляд, што не зразумеў сябра. — Навошта войту ведаць пра скарб, які знайшоў пан Юрый? Тым больш, што заўтра ён раздасць яго сваім дзецям, а дзяцей у яго многа, чалавек пяцёра ці шасцёра!

— Куды дзене золата і самацветнае каменне Быліцкі — яго ўласная справа, а мая — дакласці аб гэтым войту.

Больш спрачацца лаўнікі не сталі, выпілі па трэцяму кубку, ветліва развіталіся з гаспадыняй, па чарзе пацалавалі ёй руку, выйшлі на вуліцу і накіраваліся ў горад. І толькі адышоўшыся ад двара Юліі, Фёдар пацікавіўся ў сябра:

— Ты думаеш, што гэтае дзяўчо разнясе плётку пра скарб па ўсім горадзе?

— Спадзяюся, што яна наогул нікому, акрамя сваіх братоў, аб гэтым не скажа.

— Які ж тады быў сэнс у нашым прадстаўленні?

— А які тут павінен быць сэнс? — Самуіл задумліва паглядзеў на сябра. — Папалуднавалі, выбранніцу майго брата пабачылі зблізку, ацанілі, на што яна здольная. Вось, як ты лічыш, Федзя — ці не памыліўся Марцін з выбарам?

— Ды ты што? — Фёдар нават спыніўся пасярод вуліцы, замахаў рукамі. — Калі б мне з дзясятак гадоў таму сустрэлася такая дзяўчына, то я і дня не раздумваў бы! Ды што дня? Я б ні імгнення не вагаўся, а адразу пацягнуў бы яе ў царкву, а там… А ты што, думаеш інакш?

— Я думаю аб тым, ці можна яе выратаваць і, на жаль, не ведаю правільнага адказу.

— Яна хворая? Чым?

— Сэрца яе перапоўнена ядам, а вось ці можна яго ачысціць — пакажа сённяшняя ноч.

— Ты не памыляешся?

— Дай бог, каб я памыліўся.

## 7

Ноччу Самуіл спаў трывожна: некалькі разоў прачынаўся, піў халодную ваду, выходзіў на панадворак, каб свежым паветрам прытушыць унутраны пал, аднак трывога ніяк не праходзіла, не пакідала яго сэрца і ўрэшце ён здаўся, разбудзіў жонку.

— Насця, можа ў цябе ёсць нешта заспакаяльнае? Цяжар нейкі на маёй душы, млосна мне, бы праклінае мяне нехта зараз, люта жадае маёй смерці!

Жонка ўздыхнула: «Не дзіва пачуць праклёны з такой работай», паднялася з лежака, узяла з палічкі невялікі гарлачык, адліла з яго ў кубак крыху пахучай вадкасці.

— Гэта настой валяр’яны, — патлумачыла яна мужу, — выпі і табе павінна стаць лягчэй.

Самуіл выпіў настой. Праз нейкі час ён ужо і сапраўды спаў, аднак, пэўна, трывога пакідала яго сэрца павольна, бо ў час сну ён неспакойна круціўся, стагнаў, клікаў нейкую лекарку.

А раніцай ён прачнуўся бадзёрым і адпачыўшым.

У магістраце ён з’явіўся як звычайна, калі сонца паднялося над далёкім лесам і галасістыя пеўні сталіся спяваць свае ранішнія песні. Не паспеў ён прычыніць уваходныя дзверы, як яго паклікаў да сябе пан Міхал:

— Нешта познішся ты, Самуіл, апошнімі днямі на работу, — упікнуў ён свайго лаўніка. — Фёдар далей за цябе жыве ад ратушы, а ў магістрат прыходзіць з першымі пеўнямі.

— У яго жонка старэйшая, — аджартаваўся Корчак.

Ён зайшоў у пакой і спыніўся ад здзіўлення: на стале войта стаяла вялікая карчага віна, а ля стала на лаве сядзеў чырванашчокі Фёдар з кубкам у руках.

— У нас што, улада памянялася? — Самуіл жартаўліва вырачыў вочы. — Ці мне гэта ўсё падаецца?

— І ты сядай да стала, — пан Міхал не адказаў на жарт. — Гэта, як і абяцаў, пан Ключэўскі выставіў нам карчагу венгерскага віна.

— Значыць капкан спрацаваў і ён усё ж злавіў Ваўчыцу? — Самуіл спыніўся пасярод кабінета, паглядзеў на войта і, убачыўшы, што той згодна хітнуў галавой, пацікавіўся: — І хто ж яна?

— Ты сядай, — пан Міхал не звярнуў увагі на тое, што вочы Корчака раптоўна ўспыхнулі хваравітым бляскам. — Выпі віна, а я раскажу ўсё па парадку, так, як мне расказаў княжы намеснік.

Самуіл сеў на лаву, пачакаў, пакуль Фёдар напоўніць яго кубак, залпам, бы суцяшаючы ўнутраны боль, выпіў церпкае віно, пацягнуўся па крымскую ягаду. І толькі тады войт пачаў свой пераказ:

— Пан Ключэўскі, як і дамаўляліся, адабраў учора два дзясяткі ратнікаў і патаемна павёў іх пешшу да двара пана Юрыя. Там размеркаваў іх па двое, указаў, хто за які ўчастак панадворка адказвае, загадаў ім надзейна схавацца і цэлую ноч не спаць. Сам жа разам з панам Юрыем застаўся ў хаце.

Бандыты з’явіліся апоўначы, з’явіліся нечакана, каварна. Іх ужо і не чакалі, як пасярод ночы ў вароты нехта адчайна забарабаніў і з таго боку да слыху ратнікаў данёсся дзіцячы голас:

— Дапамажыце! На нас напалі! Тату і маці засеклі, зараз гоняцца за мной! Ратуйце!

Пан Ключэўскі паверыў, выскачыў з хаты, кінуўся да варот, каб іх адчыніць, каб уратаваць нявіннае стварэнне. Адчыніў і адразу ж атрымаў цяжкім дубцом па галаве. Ён, акрываўлены і аглушаны, паваліўся на зямлю, а бандыты ўварваліся на панадворак і натоўпам рынуліся да ўваходных дзвярэй, якія гаспадар паспеў зачыніць на засоўку. Гэта на імгненне азадачыла забойцаў, яны спыніліся і гэтай іх замінкі хапіла самастрэльшчыкам, каб выпусціць у іх два дзясяткі смертаносных стрэл.

Бандытаў перабілі адразу, а вось у хлапчука ніхто з самастрэльшчыкаў не рашыўся пусціць стралу. І, магчыма, ён уцёк бы, выратаваў сваё жыццё, ды пан Ключэўскі своечасова ачуняў, перахапіў яго ля самых варот.

— І што?

— А нічога, — войт весела развёў убок рукі. — Злоўлены хлапчук аказаўся дзяўчынай, а забітыя бандыты — яе братамі.

— Дзяўчынай? — Фёдар з недаверам чамусьці паглядзеў на Корчака. — І, можа, гэта ўдава цесляра Герасіма Дораха?

— Ды не была яна ніколі жонкай Гераські, — неахвотна, быццам гаворачы нешта асабіста-патаемнае, заместа войта адказаў сябру Самуіл. — Так, прыблуда. Пасля смерці сваёй маці прыбілася да Дораха, а як ён памёр — стала гаспадыняй яго двара.

— Ну і жыла б сабе спакойна, дурніца!

— Тут іншае, Федзя. У іх сям’і нараджаліся толькі хлопчыкі, і Юлія павінна была б нарадзіцца хлопчыкам. Аднак Бог недзе зазяваўся, не дагледзеў, а чорт адразу ўсунуў там сваю валасатую лапу — злучыў мужчынскае сэрца і жаночую плоць… Васямнаццаць гадоў барацьбы жаночага і мужчынскага ў адным целе — гэта жах! Хто мог ёй дапамагчы? Хто мог аблегчыць яе пакуты? Ды і выхоўвалася яна ў галечы, без бацькі, разам з братамі.

— Ты яе шкадуеш?

— Я імкнуся зразумець, чаму яна пачала забіваць, хачу разабрацца ў тым, хто сапраўды вінаваты ў яе злачынствах і ці няма ў тым і нашай віны.

— Ну ты і скажаш! — няшчыра, гледзячы на пана Міхала, быццам чакаючы ад яго падтрымкі, засмяяўся Фёдар. — У чым мая перад ёй правіна, калі пра гэтую Юлію да ўчарашняга дня я наогул нічога не чуў? Дарэчы, а дзе яна зараз?

— Зараз пан намеснік у клетцы вязе яе ў Вільню, каб паказаць вялікаму князю, і дзе яе будуць судзіць за ўсе зладзействы, — войт узяў у рукі карчагу, разліў па кубках віно.

— Яна ж, пэўна, просталюдзінка, — паціснуў плячыма Корчак. — Чаму ёй такая пашана, што яе будзе судзіць сам вялікі князь?

— А ты думаеш у Вільні няма лаўніцкага суда? — войт ахінуў добрым, светлым позіркам лаўнікаў і ўрачыста падняў свой кубак: — Няхай у дзяржаве нашай і надалей уладарыць справядлівасць, а паганыя душы, такія, як у гэтай Ваўчыцы, і сапраўды смажацца ў пекле.

— Вельмі ўжо зашмат яду было ў яе сэрцы, — прашаптаў сабе Корчак, сумна ўсміхнуўся ў адказ урачыста-вясёламу пану Міхалу і залпам выпіў свой кубак.



**Тамара БУНТА**

# БАЮСЯ ДАРАВАЦЬ...

*Апавяданне*

Вераніка ступіла на балкон — і аж дух заняло ад захаплення. Перад ёю аж да самага гарызонта прасціралася мора. З дзевятага паверха жылога санаторнага корпуса не было бачна ні пляжа, ні кіёскаў і кавярняў на пляжным узбярэжжы, ні аматараў ранішняга купання — адразу за зялёнымі вяршалінамі дрэў раскошнага парку разлівалася агромністая марская сінь, якая зіхацела мірыядамі сонечных блікаў. А яна браць не хацела гэты нумар — маўляў, завысока!..

— Добры дзень, мора! — усклікнула Вераніка і ўскінула ўверх рукі, як у кіно.

Хтосьці б сказаў, што яна зрабіла гэта ненатуральна, занадта артыстычна, а на самай справе ўсё было шчыра. Яе сэрца перапаўняла радасць. Нарэшце яна на моры ды яшчэ разам з мужам, і наперадзе — амаль два тыдні адпачынку!

— І вам добры дзень! — адказаў прыглушаны мужчынскі голас.

Вераніка войкнула і азірнулася. Вялікі і шырокі балкон быў зроблены адразу для двух нумароў, і злева, за невысокай драўлянай перагародкай, сядзеў на крэсле сталы мужчына з сівымі коратка стрыжанымі валасамі і смуглым тварам. Адчувалася, што загар не свежы, курортны, а даўнішні, мусіць, мужчына — паўднёвы жыхар.

— Выбачайце, я вас не прыкмеціла! — прамовіла Вераніка, радуючыся, што падняўшыся з ложка, не забылася накінуць шаўковы халацік. А то ж магла б пасля рамантычнай ночы з мужам на новым месцы выскачыць на балкон голая — апошні паверх, вуглавы нумар, маўляў, хто тут убачыць?!.

Яна падышла да перагародкі і ўсміхнулася:

— Значыць, мы з вамі — суседзі?.. Будзем знаёмыя!

Назвала сваё імя і сказала, што прыехала з Мінска.

— Сяргей, — мужчына адказаў прыязна, але з крэсла не ўзняўся.

Ён быў значна старэйшы за Вераніку, і, вядома, лепей было б даведацца адразу і яго імя па бацьку, але перапытаць яна пасаромелася. Ды і на курорце — усе роўныя.

---

***Бунта Тамара Пятроўна*** *нарадзілася 21 красавіка 1959 года ў горадзе Маладзечне Мінскай вобласці. Скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1984). Працавала галоўным рэдактарам часопіса «Алеся» (2003—2014). Член Саюза пісьменнікаў Беларусі.*

*Аўтар кнігі прозы для дзяцей «Белое облачко» (2014).*

Перад Сяргеем на маленькім століку стаяла шклянка з віном. У руцэ ён трымаў цыгарэту.

«Сем гадзін раніцы», — міжволі адзначыла ў думках Вераніка.

— Цудоўнае мора, праўда? — спытала яна суседа, каб завязаць гаворку.

— Звычайнае, — адказаў Сяргей.

— Вы, напэўна, тутэйшы, з поўдня?.. Калі мора для вас — не дзіва.

— З поўдня, але не тутэйшы, — ён назваў адзін невялікі, але добра вядомы паўднёвы ўкраінскі горад і глытнуў віна са шклянкі. — А мора для мяне звычайнае, таму што я ўжо дваццаць гадоў езджу адпачываць у гэты санаторый і дваццаць гадоў гляджу на мора з гэтага балкона.

— Вы таксама ваеннаслужачы? — пацікавілася Вераніка.

Хаця было зразумела, што сусед не толькі ваеннаслужачы, але і немалы начальнік, калі дваццаць гадоў запар ездзіць кожнае лета ў ваенны санаторый, які яшчэ з савецкіх часоў носіць статус «генеральскага» і па сённяшні час застаецца прэстыжным месцам адпачынку. Яна са сваім Андрэем, маёрам па званні, патрапіла сюды ўпершыню і толькі пасля таго, калі муж пасля ваеннай акадэміі стаў служыць у Міністэрстве абароны. Вядома, можна было б купіць пуцёўку ў турфірме на любы курорт, але адпачынак у ваенным санаторыі — таннейшы, да таго ж тут і лячэнне ёсць.

— Ваенны ўрач, — адказаў мужчына і зацягнуўся цыгарэтай.

Вераніка здзівілася: доктар вёў нездаровы лад жыцця.

— Мы з мужам перад сняданкам на пляж збіраемся, хочам месцы бліжэй да мора заняць. Можа, і вам тапчан забраніраваць? — шчыра прапанавала яна.

— Я не хаджу на пляж, — адказаў сусед. — Ды і месцы там не трэба займаць — вам дадуць пастаянныя на ўвесь тэрмін адпачынку. Так што ідзіце спакойна ў сталоўку.

— А-а-а… Дзякуй за падказку, — Вераніка трохі збянтэжылася. — А вы дзе купаецеся — у басейне?

— Я наогул не купаюся.

— А на працэдуры ходзіце?..

Сусед толькі хмыкнуў у адказ.

Вераніцы стала няёмка. «Дзівак-чалавек, — падумала яна. — Навошта ж прыязджаць у санаторый на моры, калі не купаешся і не лечышся?».

З нумара выглянуў муж: «Ты хутка?» Але тут Андрэй убачыў суседа і выйшаў на балкон. Мужчыны павіталіся, паціснулі адзін аднаму руку і адрэкамендаваліся. Сусед аказаўся палкоўнікам медыцынскай службы, начальнікам стаматалагічнага аддзялення аднаго ваеннага шпіталя. Праўда, знаёмячыся, з крэсла ён так і не ўзняўся.

Праз гадзіну Вераніка з Андрэем смачна паснедалі ў прасторнай шматлюднай сталоўцы, потым, узяўшы пад пахі прыгожыя ручнікі, купленыя спецыяльна для паездкі на курорт, і прыкрыўшы галовы ад сонца вялікімі капелюшамі, пашыбавалі ў бок пляжа.

Зразумела, што за ўвесь першы дзень у санаторыі яны пра суседа ніводнага разу і не ўспомнілі. Спачатку купаліся шчаслівыя ў цёплым моры і ляжалі разамлелыя пад тэнтам на сваіх тапчанах, якія і сапраўды ім выдзелілі на ўвесь адпачынак. Потым бегалі, як падстрэленыя, па санаторнай паліклініцы з кабінета ў кабінет з прызначэннямі дактароў. Затым, стомленыя пасля мора, працэдур і сытнага абеду, адпачывалі ў сваім нумары, перабываючы спёку. Папалуднаваўшы, зноў пасунуліся на пляж…

Пасля вячэры Вераніка з Андрэем вырашылі прагуляцца за брамку санаторыя, паглядзець курортны гарадок. Аказалася, што глядзець там асабліва няма на што — невялікае гарыстае паселішча з паўтара дзясятка звычайных шэрых пяціпавярховікаў і некалькі нешырокіх цяністых вулачак з прыватнымі дамамі, дзе жывуць людзі, якія абслугоўваюць санаторый — медперсанал, кухары, афіцыянты, прыбіральшчыкі, гандляры, — а заадно здаюць пакоі «дзікім» адпачываючым. Уся прыгажосць і вірлівае курортнае жыццё фактычна засталіся за высокай агароджай санаторыя. Там, на тэрыторыі шыкоўнага парку, поўнага дзівосных раслін, побач з лячэбнымі і жылымі санаторнымі карпусамі месціліся кафэ, рэстаранчыкі, атракцыёны, крамы, танцавальныя пляцоўкі, а ўздоўж мора цягнулася доўгая добраўпарадкаваная паласа пляжаў.

Расчараваныя, Вераніка з Андрэем вельмі хутка вярнуліся ў цывілізаваную санаторную зону. Адзіным суцяшэннем было тое, што па дарозе назад яны купілі на мясцовым кірмашы бутэльку таннага вінаграднага віна і духмяную дыню.

Вінаграднае віно і цукровая дыня — што можа быць смачней за такую вячэру, асабліва, калі гэта вячэра на курорце?.. Яны таксама вырашылі выцягнуць з нумара маленькі столік з крэсламі і павячэраць удваіх на балконе з відам на марскі захад сонца.

Удваіх павячэраць не атрымалася. На сваім балконе сядзеў сусед. Перад ім на століку па-ранейшаму стаяла шклянка з віном, у руках ён трымаў цыгарэту. Быццам нікуды і не сыходзіў з учарашняга дня.

— Далучайцеся да нас! — Андрэй шчыра запрасіў суседа падзяліць з імі вячэру і паказаў рукой на разлітае па шклянках віно і парэзаную на часткі дыню.

— Не, гэта вы да нас далучайцеся! — у тон яму жартліва адказаў сусед і паказаў рукой на свой стол.

Так і пілі ўтраіх — побач, але праз перагародку, — кожны сваё віно. Вераніка з Андрэем закусвалі апетытнай дыняй, Сяргей — цыгарэтамі. Ад дыні ён катэгарычна адмовіўся. Мужчыны палілі, вялі няспешную размову і назіралі за тым, як вялікае гарачае сонца апускаецца ў мора і залівае чырванню ўсю ваду, і Чорнае мора становіцца ўжо не сінім, а чырвоным-чырвоным, падобным да распаленай патэльні. І дзіўна было, што не чутна, як мора шыпіць ад гэтага гарачага дыска. Мора тушыла сонца, і на ўзбярэжжа паступова прыходзіла вячэрняя прахалода.

Калі Вераніка з Андрэем пайшлі спаць, сусед яшчэ заставаўся сядзець на балконе. Таму балконныя дзверы яны зачынілі, хаця ў нумары было душнавата…

І так павялося з дня ў дзень. Зранку, адразу пасля сняданку, Вераніка з Андрэем ішлі на пляж — купаліся, смажыліся на сонцы, ляжалі ў цяньку на сваіх тапчанах, потым вярталіся ў нумар, прымалі душ, вывешвалі сушыцца на балконе ручнікі, купальнік і плаўкі, а самі ішлі на працэдуры, пасля чаго сытна і смачна абедалі ў вялікай прахалоднай ад кандыцыянера сталоўцы і адпачывалі ў ціхі час у нумары, шчыльна завесіўшы шторамі вокны і адчыніўшы балконныя дзверы, а потым зноў ішлі на пляж… Увечары, прыгожа апрануўшыся, гулялі ў парку і па набярэжнай, любаваліся на ружы, магноліі, алеандры, рададэндраны і яшчэ мноства прыгожых раслін і кветак, назвы якіх ім былі невядомыя. Таксама слухалі музыку, глядзелі выступленні розных артыстаў, танцавалі на адкрытых пляцоўках, пілі шампанскае і елі экзатычныя марскія салаты ў шматлікіх адкрытых рэстаранчыках, якія

наскрозь прадзьмуваліся свежым марскім ветрам. Некалькі разоў каталіся па вячэрнім моры на прагулачных цеплаходах і шкадавалі толькі аб адным, што ў гэтым раі няма іх дзяцей — Санькі і Марынкі. Яшчэ на пачатку летніх канікул яны адправілі сваіх малодшакласнікаў у родную вёску пад нагляд бабуль і дзядуль.

Штораз, калі позна ўвечары Вераніка з Андрэем вярталіся ў свой нумар, на суседнім балконе яны бачылі суседа. Сяргей не хадзіў на пляж, не гуляў у парку, здаецца, нават не спускаўся ў сталоўку. Ён цэлы дзень сядзеў у сваім крэсле, пацягваў віно, паліў адну за адной цыгарэты і задумліва глядзеў на мора. Ён быў увесь у сваіх думках. У яго была нейкая таямніца. І гэта вельмі цікавіла Вераніку і не давала ёй спаць па душных начах пасля таго, як яны з мужам нарэшце стамляліся ад гарачай ласкі, і задаволены Андрэй засынаў.

Чаму сусед адпачывае ў санаторыі адзін?.. Дзе яго жонка?.. Чаму так шмат паліць?.. Няўжо ён, доктар, не разумее, што гэта шкодна для здароўя?.. Можа, ён з-за чагосьці перажывае?.. З-за чаго?..

* * *

У апошні вечар перад ад’ездам яны зноў вячэралі ўтраіх — кожны на сваім балконе. Крымскае віно, кавун, дыні, вінаград… А яшчэ свежы пах хвоі з парку, аддаленая музыка, шум мора і, канешне, марскі захад... Апошні, развітальны захад…

Сядзелі амаль да поўначы, а потым Андрэй пайшоў спакоўваць чамадан. Зрабіць гэта было не так і лёгка: да кучы стракатага адзення, якое прывезлі з сабой на курорт і палову якога так і не выкарысталі, цяпер дадаліся шматлікія сувеніры і падарункі для радні і знаёмых. Андрэй доўга важдаўся, але ўсё ж такі спарадкаваў чамадан і ўсе сумкі. Некалькі разоў ён выглядваў з дзвярэй на балкон і вачамі выразна паказваў жонцы, каб яна ішла спаць. Вядома, ён разлічваў на развітальную рамантычную ноч. Але Вераніка рабіла выгляд, што не заўважае яго шматзначных позіркаў: яе цікаўнасць цяпер была вышэйшая за ўсе іншыя жаданні. У рэшце рэшт пакрыўджаны муж выключыў святло ў нумары і лёг спаць.

Вераніка і Сяргей сядзелі кожны на сваім балконе ў поўнай цемры. Мора ўжо даўно пакрыла чорная паўднёвая ноч, і на ім, быццам светлякі, поўзалі залітыя агнямі курортныя прагулачныя цеплаходы. Знізу са шматлікіх кафэ і рэстаранаў з узбярэжжа прыглушана даносілася музыка. І гучаць яна будзе ажно да самай раніцы.

Вераніка і Сяргей моўчкі слухалі паўднёвую ноч.

— Вы ездзеце сюды і цэлымі днямі сядзіце ў нумары, каб схавацца ад людзей? — асцярожна спытала Вераніка.

— Я езджу сюды, каб схавацца ад сваіх успамінаў. Хаця… ці можна схавацца ад сябе самога?.. — адказаў Сяргей.

— У вас штосьці здарылася ў жыцці?.. — Вераніка настойліва хацела дазнацца чужую таямніцу.

— Так, здарылася. Я забіў сваю жонку і сваю дачку…

— Як?!. — Вераніка проста жахнулася ад пачутага.

— Ну, не сам, вядома, забіў… Але я вінаваты ў тым, што яны загінулі…

У цемры ночы гэтыя словы прагучалі злавесна. У Веранікі літаральна мову адняло.

— Так, гучыць вельмі страшна, калі ўслых гаворыш, — сусед быццам прачытаў яе думкі. — А самае страшнае, самае жудаснае, што я сам сваімі рукамі пусціў у свой дом, у сваю сям’ю таго д’ябла, хто іх забіў…

— І хто быў гэты д’ябал? — з заміраючым сэрцам спытала Вераніка.

На суседнім балконе гарэла чырвоная кропачка — сусед паліў цыгарэту.

— Маленькая прыгожая дзяўчынка, падобная да анёлка...

— Дзяўчынка?! — не паверыла сваім вушам Вераніка.

— На той момант, калі я прыняў яе ў сваё сэрца, гэта было дзевяцігадовае бялявае хударлявае мілае дзяўчо…

У цемры забулькала віно — доктар падліваў сабе ў шклянку. Ён збіраўся расказваць доўгую гісторыю.

— Не дарэмна кажуць: «Добрымі намерамі ўсцелены шлях у пекла»… Гэта праўда — я праверыў на сабе. У нашым стаматалагічным аддзяленні працавала адна медсястра, Аксана. Прыгожая, добрасумленная была жанчына. Мы працавалі разам амаль дзесяць гадоў. Сумесная праца вельмі зблізіліся і родніць людзей. Вось і мы з ёю зблізіліся і сталі родныя душы. У рэшце рэшт я прызначыў яе старшай медсястрой. Аднак супрацоўнікі, асабліва жанчыны, чамусьці яе не надта прывячалі. Ведаеце, некаторыя медыцынскія сёстры любяць прыхапіць дадому бінтоў, ваты, спірту. А Аксана строга сачыла за ўсім і не дазваляла гэтага. Але нядоўга ёй давялося пакамандаваць — захварэла на рак і памерла. А перад смерцю вельмі прасіла мяне, каб я паклапаціўся пра яе дзевяцігадовую дачку. Была ў дзяўчынкі бабуля, але што старая магла даць дзіцяці?.. Я паабяцаў, што не кіну Лізавету, так яе клікалі. Хаця, чаму — клікалі?.. І сёння яе так клічуць. Ну, дык вось, я не проста паабяцаў — я слова даў. Слова афіцэра. Слова гонару. Вы чыталі ў дзяцінстве апавяданне Леаніда Панцялеева «Слова гонару»?..

Вераніка прамаўчала. Яна чытала калісьці, яшчэ ў школе, гэты твор, але пра што ён, ужо не памятала. Мусіць, апавяданне яе не ўразіла так, як Сяргея.

— Ну, вядома, сённяшняе маладое пакаленне такіх апавяданняў ужо не чытае. А дарэмна. Для мяне гэта апавяданне, можна сказаць, стала лёсавызначальным. Там расказваецца, як хлопцы, гуляючы ў вайну, паставілі маленькага хлопчыка за вартавога і ўзялі з яго слова гонару, што ён не пакіне свой пост без каманды старэйшага, а самі збеглі. Яны пажартавалі з яго, а хлопчык успрыняў гульню ўсур’ёз і стаяў за вартавога, нават тады, калі надышоў вечар і парк абязлюдзеў. Ён стаяў у цемры і плакаў, але дадому ад страху не збег, бо даў слова гонару. І стаяў да таго часу, пакуль адзін з наведвальнікаў парку не паклікаў з вуліцы ваеннага чалавека, і той нарэшце аддаў хлопчыку каманду — пакінуць пост. Калі я прачытаў апавяданне, — а я тады быў такі самы хлопчык, гадоў дзевяць-дзесяць, — мяне гэта гісторыя так зачапіла!.. Я ўяўляў, што гэта я стаю ў цёмным пустым парку, што мне страшна і хочацца дадому, але нельга, бо я даў слова гонару, я мужчына і таму павінен трымаць яго!..

— І гэта вы ўзялі за правіла для сябе на ўсё жыццё? — спытала Вераніка.

— Менавіта так! Калі я каму-небудзь штосьці паабяцаю і дам слова гонару, я ўжо ніколі не адступлюся ад яго, ніколі не падману! І Аксане я даў слова гонару, што буду клапаціца пра яе дачку. Я тады не разумеў, якую адказнасць, які крыж бяру на сябе!.. Дык вось — па дакументах апекуном дзяўчынкі стала бабуля, а я часта наведваў іх. Вядома, па шпіталі чуткі розныя пайшлі, быццам бы Ліза — мая пазашлюбная дачка. Нават жонка мая, Ірына (яна таксама

была стаматолаг, толькі ў гарадской паліклініцы працавала), раўнаваць пачала, стала дапытвацца, ці было што-небудзь паміж мной і нябожчыцай… А я вельмі захапіўся роляй дабрадзея. Ведаеце, чалавеку ўласціва дабрачыннасць. І робіць ён добрыя справы не столькі для людзей і нават не столькі для таго, каму адрасавана яго дабрачыннасць, колькі для сябе. Для самасцвярджэння. Маўляў, вось які я добры і чалавечны!.. Гэта ўзвышае самога сябе ў сваіх жа вачах. Я стаў забіраць дзяўчынку на выхадныя дні, купляць ёй адзенне, цацкі, кніжкі… А ў мяне дома — такая самая дзяўчынка расла, дачка Лерачка. Толькі Ліза — з доўгімі бялявымі валасамі была, а мая Лера — уся па маці — з чарнявымі вачамі і чорнымі кучаркамі… І стала дачка раўнаваць мяне да Лізы не менш за маці. Маўляў, чаго гэта мой татка чужую дзяўчынку любіць, а не мяне адну?.. Стала яна крыўдзіцца, капрызіць. Бедная мая дачушка, толькі сёння я разумею, якую душэўную траўму наносіў ёй!.. Яна ж мяне проста любіла і не хацела ні з кім дзяліць!.. А я, дурны, тады ўзяў у галаву, што трэба дзяўчатак бліжэй пазнаёміць, каб яны пасябравалі, а потым, калі да Лізы прывыкнуць і Ірына, і Лерачка, можна будзе і ўдачарыць сірату. Пасля гэтага жонка, канешне, яшчэ больш упэўнілася, што Ліза — мая пазашлюбная дачка. І не было ў той час у мяне магчымасці даказаць, што яна памыляецца. Нават у нашым ваенным шпіталі не рабілі тады экспертызу для выяўлення бацькоўства…

На балконе на дзіва стала прахалодна. Вераніка, апранутая ў лёгкі сарафан, пачала дрыжаць, а, мо, дрыжала зусім і не ад прахалоды. Але яна не хацела ісці ў нумар па кофту, баялася перарваць споведзь суседа. Вераніка ўзяла свой пляжны ручнік, які сушыўся на вяроўцы, і ахінула ім плечы, а другі ручнік, мужаў, паклала сабе на голыя ногі.

— Але ж я не толькі Ірыну і Лерачку збіў з панталыку, — працягваў свой аповед сусед. — Ліза таксама ўспрымала мяне як роднага бацьку. І чым большая расла, тым больш цёплымі станавіліся нашы адносіны. Якія б праблемы ў яе не ўзнікалі, заўсёды бегла да мяне. А падлеткам стала — патрэбы выраслі: то кофтачку новую прасіць, то туфлікі, то паліто… Бабуля на сваю пенсію і дзяржаўную дапамогу наўрад ці магла яе модна апранаць. Жонка ж мая, як толькі пра абноўкі для Лізы даведвалася, адразу гвалт усчынала!.. І я, каб мець лішнюю капейку для сіраты, за розныя халтуркі браўся. Зразумела, стаматолагу праца заўсёды знойдзецца…

* * *

Было ўжо далёка за поўнач. Усе вокны ў іхнім корпусе даўно згаслі. Вераніка з доктарам сядзелі ў цемры. І толькі ўдалечыні, на моры, па-ранейшаму поўзалі светлякі — прагулачныя цеплаходы.

— Школу абедзве дзяўчынкі скончылі амаль што на «выдатна». І вось тут упершыню ў мяне адбыўся канфлікт з Лізай. Лерачка адвезла дакументы ў Кіеў, у медыцынскі інстытут. Ліза таксама хацела туды паступаць. А дзе ўзяць грошы на вучобу?.. Левымі заробкамі тут ужо не абыдзешся. Мая Ірына ўпёрлася рогам: «Грошай на Лізу траціць не дазволю! Хай падзякуе, што цягнулі яе да заканчэння школы, дапамагалі і карміць, і апранаць!.. Цяпер няхай атрымлівае працоўную прафесію і сама зарабляе сабе на жыццё». Ну, што казаць — мела жонка рацыю, але ж гэта маё гіпертрафіраванае пачуццё доўгу, маўляў, я ж слова гонару нябожцы даў, таму абавязаны!.. Ды і перад Лізай было сорамна, я ж сам прывучыў яе да сваёй ласкі і падарункаў…

— «Мы заўсёды ў адказе за тых, каго прыручылі», — Вераніка ўслых прыгадала вядомыя словы Сент-Экзюперы.

— Менавіта так я і думаў, — пацвердзіў Сяргей. — Я падабраў і прыручыў гэтае няшчаснае кацяня, пакрыўджанае жыццём, а цяпер трэба выкінуць яго за дзверы і са сваёй душы?.. Вядома, я так зрабіць не мог. Прапанаваў Лізе паступаць у медыцынскі каледж, каб вучыцца на зубнога тэхніка: «Гэта добрая патрэбная прафесія, — казаў ёй. Дык не!.. «Я што, дурнейшая за Лерку?.. Яна — у медыцынскі інстытут, а я — у медыцынскі каледж?!. Ніколі не будзе такога!» Вось тады я і сказаў Лізе, што я не яе родны бацька, і дапамагаў толькі таму, што даў слова гонару яе паміраючай маці. Крыку і плачу было!.. Я тады нават пашкадаваў дзяўчыну, не разумеў, што няшчаснае кацянё даўно ўжо пераўтварылася ў наравістую котку і раўнуе мяне да маёй жа роднай дачкі. Ведаеце, да якой высновы я цяпер прыйшоў? Чалавека не трэба доўга апекаваць — гэта разбэшчвае яго. Ты пазбаўляеш яго магчымасці самастойна змагацца з цяжкасцямі і прыстасоўвацца да жыцця. Ты робіш чалавеку дабро і думаеш, што ён будзе табе за гэта ўдзячны. Ніколі! Твой клопат і тваю дапамогу ён успрымае як належнае. Ён уваходзіць у ролю няшчаснага, якому ўсе наўкол вінныя, і сам ужо не будзе напружвацца, а будзе чакаць, калі яго пашкадуюць, пра яго паклапоцяцца, дадуць усё бясплатна і на залатой талерачцы…

Музыка на пляжным узбярэжжы патроху сціхала. Перасталі ўжо поўзаць па моры і цеплаходы. Курорт супакойваўся і засынаў. Не спалі толькі два чалавекі на балконе. Але яны былі не тут, на ўзбярэжжы цёплага мора, на якое апусцілася чорная паўднёвая ноч, а ў далёкім адсюль горадзе і нават у далёкім ад гэтай ночы часе.

— Паступіла яна мне насуперак у мясцовы тэхнікум сувязі, вывучылася бясплатна на тэлефаністку, потым пачала працаваць на гарадской тэлефоннай станцыі. А Лерачка мая ў медынстытуце ішла выдатна з курса на курс, марыла пра аспірантуру… Таленавітая дзяўчынка была!..

Зноў забулькала віно. Мусіць, без яго сусед не мог справіцца са сваімі страшнымі ўспамінамі. «Як, як гэта здарылася?..» — Вераніка ў думках увесь час падганяла Сяргея, але ў слых спытаць не адважвалася. Але сусед быццам пачуў яе.

— У той год Ірына вырашыла крыху падзаробіць і паехала ў Ізраіль — папрацаваць у прыватным стаматалагічным кабінеце. Прыяцелька яе туды паклікала: калісьці тая ў нашым шпіталі добрым пратэзістам была, цяпер жа на Мёртвым моры свой кабінет трымае… Усяго толькі паўгода жонка і папрацавала там, а грошы прывезла немалыя. І вось зрабіла яна памылку: не паклала грошы на банкаўскі рахунак, наяўнымі іх везла. І мне некалькі разоў тэлефанавала, раілася, прасіла, каб сустрэў яе абавязкова. А мабільнікаў жа ў той час — на пачатку двухтысячных — у нас яшчэ не было. Не, сёй-той ужо меў, але каб так, як сёння, калі ў кожнага ў кішэні трэнькалка ляжыць, то не… Дамаўляліся мы з Ірынай па міжнароднай тэлефоннай сувязі. Праўда, размаўлялі з ёю ўмоўнымі словамі, і чужыя нас не зразумелі б… Пра тое, што нас можа слухаць чалавек, які добра ведае і нашу сям’ю, і нашы таямніцы, мне тады нават у галаву не прыйшло. Прыляцела з Ізраіля жонка, я сустрэў яе ў аэрапорце, дадому прывёз, некалькі дзён пабылі разам, пагаварылі… Наконт грошай параіліся, вырашылі, што будзем адкладаць Лерачцы на кватэру ў Кіеве. І тут мне якраз адпачынак падаспеў, я сюды пачаў збірацца. А трэба вам сказаць, што мы з жонкай даўно ўжо разам не адпачывалі. Дамоўленасць у нас такая была. Бо я Крым люблю, гэтае цёплае Чорнае мора, гэты цудоўны клімат, у якім мне лёгка дыхаецца нават у спякоту, гэтыя горы — невысокія, лясістыя, куды можна прагуляцца і вярнуцца

назад за адзін дзень… А жонцы ў Крыме чысціні і парадку на вуліцах бракавала, ды і сэрвіс мясцовы ёй не спадабаўся. Хаця што праўда, тое праўда. Я ўсё гэта ўспрымаў як элемент крымскай экзотыкі, а Ірыне патрэбны быў камфорт… Жонка ў мяне палову Еўропы аб'ездзіла. Навошта ёй быў вось гэты «савецкі» санаторый?..

Сяргей запаліў чарговую цыгарэту.

— Я ж у той час сюды ездзіў па-сапраўднаму адпачываць — у моры купаўся, гадзінамі на пляжы ляжаў, увечар па ўзбярэжжы гуляў… Жонцы тэлефанаў час ад часу на хатні тэлефон. І вось раптам перад маім вяртаннем яна перастала браць трубку. Адзін раз, другі, трэці… Спачатку падумаў, ну выйшла куды… У другі раз — мо, затрымалася дзе-небудзь на вуліцы… А што на трэці раз было думаць?.. Спытаць, дзе Ірына, няма ў каго: дачка — у Кіеве, а з суседзямі мы не надта сябруем, я нават іхні тэлефон не ведаў. Ехаў дадому — трывожныя прадчуванні душу вярэдзілі. Прыехаў, званю ў дзверы — ніхто не адгукаецца. Адчыніў сваім ключом… Ляжыць мая Ірына на кухні, на падлозе ў лужыне крыві, а ў кватэры ўсё ўверх дном перавернута… Потым экспертыза паказала, што яе сякерай для мяса забілі… Ніякіх грошай, зразумела, у кватэры ўжо не было. Год забойцу шукалі, так і не знайшлі. Дзяўчынкі мае, Лера і Ліза, так горка плакалі па Ірыне на пахаванні! Ліза, мо, грамчэй за родную дачку галасіла…

Тым часам пачало віднець, і ў шэрай ранішняй смузе засінела мора. Было яно пустое і спакойнае — адпачывала перад чарговым вірлівым днём.

Сяргей ужо не паліў. Цыгарэты ў яго скончыліся, ды і віно таксама. Але ён не ішоў па іх у нумар, моўчкі сядзеў у крэсле, узіраўся ў марскую далечыню. Вераніка сядзела ў крэсле на сваім балконе, абшчапіўшы рукамі плечы, накрытыя ручніком, і апусціўшы галаву. Яна баялася глядзець на субяседніка, баялася фіналу страшнага расповеду.

— А роўна праз год, калі я адпачываў тут, зноў замаўчаў хатні тэлефон. Цяпер ужо дома была дачка — вярнулася, атрымаўшы чырвоны дыплом: у наш шпіталь прыехала працаваць стаматалогам. Я нават марыў, каб яна з часам заняла маё месца… І новенькі даччын мабільнік таксама не адказваў. Вось тады я кінуў свой адпачынак, чаго ніколі раней не рабіў, і памчаў дадому. Прымчаў, званю ў дзверы — не адчыняе! Я ўжо ў кватэру адзін не адважыўся зайсці, выклікаў участковага. Пакуль міліцыянер прыйшоў, вы не паверыце, я стаяў пад дзвярамі і Богу маліўся. Дагэтуль ніколі ў храм не хадзіў і малітваў не ведаў, дык я сваімі слова маліўся: «Божачкі, зрабі так, каб мая дзяўчынка была жывая! Зрабі, каб мая дзяўчынка была жывая!» Мусіць, раней мне маліцца трэба было… Прыйшоў участковы, тут якраз і Ліза прыехала, адчынілі мы дзверы… З заміраннем сэрца ўваходзіў я ў кватэру. Лерачка ляжала на сваім ложку, поўнасцю накрытая коўдрай. Адхінулі коўдру — усе грудзі крывёю залітыя!.. Я літаральна самлеў. Каб не Ліза, мусіць, тады б не перажыў гэтае гора!.. Яна ні на крок ад мяне не адыходзіла, за рукі трымала, абдымала, суцяшала, пасля пахавання з маёй кватэры месяц не выходзіла… Я тады думаў: добра, што хоць адна блізкая душа на Зямлі засталася!.. Каб жа я мог здагадацца, што тая, што за рукі мяне трымала, гэтымі рукамі маю Лерачку і жонку маю загубіла!..

Сяргей заскрыгатаў зубамі і замаўчаў. Моўчкі сядзелі ў абсалютнай цішыні. Нават птушкі яшчэ не прачнуліся, затое было чутна, як павольна дыхае мора.

* * *

Вераніка ўзняла галаву, павярнулася да суседа і спытала:
— Яна была ваша палюбоўніца?
— Хто, Аксана?.. Так…
— Не, я — пра Лізу…

Павісла даўжэзная паўза. Потым Сяргей раптам узняўся і пайшоў у свой нумар. Вераніка пасядзела яшчэ некалькі хвілін. Яна падумала, што размова скончана. Сяргей сваім рэзкім адыходам фактычна адказаў на яе пытанне. Нарэшце Вераніка вырашыла, што і ёй ужо трэба ісці ў свой нумар і хоць крышку паспаць перад ад'ездам дадому. І якраз у гэты момант Сяргей вярнуўся з новым пачкам цыгарэт у руках і поўнай бутэлькай віскі. Ён распакаваў цыгарэты, адкаркаваў бутэльку, наліў у шклянку карычневы шатландскі напой, выпіў яго хутка, як гарэлку, і запаліў.

— Як вы здагадаліся?..

— Вельмі проста. У мяне ў жыцці была аналагічная сітуацыя. Я, як і Ліза, расла без бацькі і вельмі ад гэтага пакутавала. Паверце, маленькім дзяўчынкам бацька патрэбны не менш за маці, а можа, нават больш. Менавіта бацька выхоўвае з дзяўчынкі жанчыну: як ён ставіцца да яе, як ён любіць яе, як ён хваліць яе, як ён купляе ёй падарункі, — па ўсім гэтым дзяўчынка атрымлівае першы вопыт адносін з супрацьлеглым полам…

— Вы — псіхолаг?.. — перабіў яе Сяргей.

— Я — педагог, настаўніца англійскай мовы і класны кіраўнік. А кожны педагог — псіхолаг, — усміхнулася Вераніка. — Дык вось, у дзяцінстве і ў юнацтве мне вельмі не хапала бацькавай любові і клопату. Асабліва — у юнацтве… Я адчувала гэты недахоп хваравіта яшчэ таму, што сябравала з дзяўчынкай, у якой быў цудоўны бацька, дзядзька Віця. Дзядзька Віця добра зарабляў і часта купляў маёй сяброўцы падарункі. Я глядзела на яе новыя кофтачкі, боцікі, сукенкі, упрыгажэнні і жудасна зайздросціла. Я хацела, каб гэта ўсё было ў мяне, а галоўнае, я хацела, каб яе клапатлівы бацька быў мой і любіў толькі мяне адну. Так, па начах я марыла, каб дзяцька Віця кінуў сваю цётку Валю, а таксама сваю дачку і маю сяброўку Аленачку і перайшоў жыць да маёй мамы і да мяне. Не, паміж маёй маці і дзядзькам Віцем аніякіх амураў не было, маме ён і не надта спадабаўся. Затое мне з кожным годам — усё больш. Мяне не цікавілі хлопцы-аднагодкі, па начах я думала толькі пра дзядзьку Віцю… А сяброўчын бацька да таго ж меў досыць сучасны выгляд — хадзіў у джынсах, насіў футболкі і швэдары, любіў рок, ездзіў на матацыкле. Ён не падаваўся мне старым чалавекам, і я вырашыла зрабіць усё, каб ён закахаўся ў мяне…

— І як вы дзейнічалі?.. — спытаў Сяргей.

— Аніяк. Не паспела. Аднойчы на дні нараджэнні ў другой сяброўкі я пазнаёмілася з яе стрыечным братам, курсантам вайсковага вучылішча, закахалася, неўзабаве выйшла замуж і атрымала ад яго ўсю тую любоў і клопат, якіх мне так не хапала без бацькі. І цяпер нават сорамна ўзгадваць, якія чорныя планы я сачыняла ў адносінах да сваёй сяброўкі дзяцінства!.. Пра гэта ніхто не ведае, ды і я сама пастаралася на іх забыцца.

— Цікава, а што б цяпер вы адчувалі, каб вашы чорныя планы наконт дзядзькі Віці здзейсніліся? Можа, вы былі б яшчэ шчаслівейшая, чым сёння?..

— Не, я была б расчараваная.

— Чаму вы так упэўнена адказваеце?

— Проста, я неяк пабачылася з ім… Пасля вучылішча муж служыў у розных невялікіх ваенных гарадках, і калі мы прыязджалі дадому на адпачынак, мне ўсё неяк не знаходзілася часу наведаць сяброўку дзяцінства. Не бачыла я і яе бацьку. І вось прайшло гадоў дзесяць, калі аднойчы я выпадкова сустрэлася з ім у родным горадзе на кірмашы. Ён так шчыра ўзрадаваўся нашай сустрэчы, пачаў распытваць, дзе і як я жыву, стаў расказваць мне пра сваю дачку, пра яе жыццё, пра малога ўнука… А я стаяла, ўражаная і збянтэжаная, глядзела на гэтага састарэлага мужчыну з тварам у зморшчынках, з хударлявай шыяй з адвіслай скурай і думала: «Божачка, як я, дурненькая, магла яго калісьці кахаць?!. А каб я дабілася свайго і выйшла за яго замуж, што б цяпер з гэтым старым я рабіла?..» Вось, бачыце, чым скончылася маё першае каханне — поўным расчараваннем.

— Колькі гадоў дагэтуль вы не бачыліся з ім? — спытаў Сяргей.

— Дзесяць.

— Дзесяць… — задумліва паўтарыў сусед.

— А як знайшлі забойцу, вы так і не расказалі, — нагадала Вераніка.

— Як знайшлі?.. Пасля забойства Леры, якое адбылося, як і першае, падчас майго адпачынку ў санаторыі, следству стала зразумела, што злачынца добра ведае расклад жыцця нашай сям'і. І тэлефоны ўсіх нашых блізкіх і знаёмых паставілі на праслухоўванне. У першую чаргу тэлефон Лізы. Дарэчы, як потым аказалася, і мой. Уяўляеце, я таксама быў у падазроных!.. Следства таксама лічыла, што я мог забіць сваю жонку і ўласнае дзіця! Ды што цяпер пра гэта казаць!.. І вось зафіксавалі званок, калі Ліза тэлефанавала свайму быламу аднакурсніку і супакойвала яго: «Не бойся, ніхто ні пра што не здагадваецца і ніхто нічога не знойдзе!.. Не рабі глупстваў!.. Усё будзе добра!» Аказваецца, Лерачку яны забівалі ўдваіх: ён трымаў і рот заціскаў, а яна нажом біла!.. Не хлопец — Ліза забіла! Тымі самымі рукамі, якімі потым суцяшала мяне! На судзе яе аднакурснік сказаў, што не збіраўся ўдзельнічаць у забойстве: быццам бы Ліза проста папрасіла яго дапамагчы «разабрацца з сяброўкай». А яна збіралася, бо нож з сабой узяла! Нож, якім яна забіла Лерачку, быў прынесены, не наш!.. Кватэру яна адчыніла сваім ключом… Божа, я сам даў ёй гэты ключ, каб яна адчувала сябе паўнапраўным членам нашай сям'і!.. Я сам даў!..

Сяргей зноў глынуў віскі, зноў — у каторы ўжо раз! — запаліў.

— Калі яны ўвайшлі, была ноч, і Лерачка спала. Хацелі яе сонную забіць, а яна прачнулася. Бедная, які страх і боль яна перажыла ў апошні свой момант!.. На судзе Ліза гаварыла, што першае забойства яна зрабіла выпадкова. Быццам бы проста прыйшла да маёй жонкі, расказала ёй пра нашы з ёй інтымныя зносіны і стала прасіць, каб Ірына аддала ёй мяне, каб развялася. А Ірына стала абражаць яе, крычаць, маўляў, адразу ведала, што Ліза — змяюка, якую мы прыгрэлі на грудзях, што яна такая ж разбэшчаная, як і яе маці, і што яна павінна рукі-ногі цалаваць за ўсё тое, што для яе зрабіла наша сям'я, а яна, няўдзячная свіння, вось як аддзячыла!.. Зразумела, жонка была раз'юшаная, на злыя словы не скупілася. Ну, а Ліза, абражаная, быццам бы з гарачкі схапіла тое, што ёй пад руку на нашай кухні трапілася — сякеру для мяса, — і стукнула ёю. Адным ударам забіла. А потым спужалася і збегла… Куды падзела сякеру, быццам бы с перапуду не памятае… А вось дачку яна ўжо забівала прадумана, знішчала яе, як апошнюю перашкоду да сваёй запаветнай мэты. І нож з сабой прадбачліва ўзяла, каб потым на кухні не шукаць, а пасля забойства з сабой забрала і ў рэчку кінула… Але суд угледзеў наўмыснасць у абодвух злачынствах: Ліза, забіўшы Ірыну, потым яшчэ адшукала

і забрала грошы, прывезеныя з Ізраіля. Дарэчы, яна прагуляла іх у начных клубах і рэстаранах…

— А якая запаветная мэта ў яе была?

— Як — якая?.. Я, вядома. І ўсё, што да мяне дадаецца: кватэра, машына, мой немалы заробак, курорты, рэстараны... Яна не бачыла іншага спосабу атрымаць усё гэта, як толькі выйсці за мяне замуж…

— А як жа тады — яе былы аднакурснік?.. Выпадковага чалавека яна не ўзяла б з сабой на такую справу.

— Ну… Напэўна, і яго яна забіла б потым, як лішняга сведку…

— Але ж не забіла, наадварот — супакойвала. Думаю, не ён, а вы былі б трэцім у тым страшным шэрагу… Праўда, не адразу — з часам.

— Прызнацца, і я пра гэта неаднойчы думаў…

— Дарэчы, яе асудзілі? На які тэрмін зняволення?..

— Асудзілі. Дзесяць гадоў далі… Аднакурсніку — восем за саўдзел.

— І колькі ўжо гадоў прайшло пасля таго?..

— Дзесяць і прайшло…

— Яна пісала вам?

— Пісала. І прабачэння прасіла, і прыехаць да яе ў турму ўпрошвала… Пагаварыць са мной хацела… Я ніводнага разу не адказаў. І вось хутка яна з’явіцца, калі не з’явілася ўжо… Баюся…

— Чаго вы баіцеся — што яна заб’е вас?.. — шчыра здзівілася Вераніка.

— Даравацьбаюся, дзетка. Дараваць!.. — Сяргей раптам узвысіў голас, і ў ранішняй цішыні гэты выгук адчаю сарваўся з балкона дзевятага паверха, але хутка патануў у рознагалоссі птушак, якім ужо поўніўся прыморскі парк. — Я ж яе сапраўды пакахаў і стаў яе каханкам. Але на судзе я ў гэтым не прызнаўся — не адважыўся перад тымі, хто прысутнічаў у зале — маімі роднымі, знаёмымі, саслужбоўцамі… Казаў, што абвінавачаная ўзводзіць на мяне паклёп, што ніякіх інтымных зносін паміж намі не было і ўсё гэта няпраўда. Самому тады было сорамна і жудасна: што я ўтварыў!.. Вось, чым для мяне абярнулася мая прынцыповасць — маральнай беспрынцыповасцю, а слова гонару — хвілінамі ганьбы. Сапраўды, добрымі намерамі ўсцелены шлях у пекла… На самай жа справе паміж мной і Лізай усё было. Гэта здарылася, калі жонка працавала ў Ізраілі, дачка вучылася ў Кіеве, а я застаўся адзін, і побач аказалася Ліза. Яна была ініцыятаркай нашых зносін… Яна прыйшла да мяне ў ложак, не я дзяўчыну спакусіў!.. А я не здолеў тады прагнаць яе прэч. Ды потым усё так закруцілася, так запалала паміж намі, што я і сам не мог даць рады сваім пачуццям. Сам сабе непадуладны стаў — ні сэрца, ні цела галаву не слухала. Нават абяцаў Лізе развесціся з жонкай, толькі прасіў: «Пачакай трохі, пацярпі!..» Не так гэта лёгка — адважыцца сходу разбурыць сваё папярэдняе жыццё і распачаць усё з нуля. Не так гэта лёгка — пакінуць жанчыну, з якой прайшоў разам агонь і ваду. І тым больш не так гэта лёгка — растлумачыць усё дачцэ, да таго ж, калі твая палюбоўніца — роўня ёй. Вось гэта — для мяне было самае цяжкае з усіх цяжкасцей... Таму тая нецярплівка і вырашыла ўсё сама паскорыць!.. А я цяпер баюся, што ўбачу яе і… пераступлю праз тое, што яна ўтварыла…

Вераніка сядзела ашаломленая. Таямніца суседа, якая так цікавіла яе раней, раптам адкрылася нечаканым, страшным бокам. Дык вось што трывожыла яго! Вось пра што ён думаў, суткамі седзячы на балконе і гледзячы на мора! Вось з-за чаго ён літрамі піў віно і сотнямі, адну за адной, без перадыху паліў цыгарэты!.. Увесь гэты час Сяргей, перабіраючы ўспаміны і прыслухоўваючыся да свайго сэрца, вырашаў адно пытанне: пры сустрэчы з былой

палюбоўніцай даць волю нянавісці ці каханню?.. І баяўся, што каханне пераможа. А каханне, і сапраўды, у жыцці мацнейшае за нянавісць. Гэтае падавалася Вераніцы неверагодным, але інтуітыўна яна адчувала, што так і ёсць на самай справе. «Няўжо можна кахаць чалавека, які забіў тваіх самых блізкіх людзей?.. — думала яна. — Кахаць настолькі, што нават быць гатовым даравацьтакое жудаснае, недаравальнае злачынства?!.»

— Дык вы гаворыце, што праз дзесяць гадоў убачылі бацьку сваёй сяброўкі і зжахнуліся, як ён пастарэў? — раптам спытаў Сяргей.

Вераніка здзіўлена паглядзела на суседа.

— Так, менавіта зжахнулася, — толькі і здолела адказаць.

У гэты момант з яе нумару высунулася ўскудлачаная галава мужа.

— Ты што, яшчэ не клалася спаць?!. — здзіўлена і незадаволена спытаў Андрэй.

Вераніка ўзрадавалася мужу: гэта была нагода прыпыніць размову і развітацца з суседам. Яна баялася, што не стрымаецца і напаследак па-жаночы скажа яму што-небудзь лішняе, эмацыянальнае, рэзкае, што круцілася ў яе на языку пасля нечаканай развязкі. Але ці мае яна права на гэтую рэзкасць у дачыненні да чалавека, якога сама ж і схіліла да споведзі?..

— Ну, усё, бывайце! — прамовіла яна і ўзнялася з крэсла. — Мы ў абед ад'язджаем дадому. Зараз сходзім на сняданак, потым апошні раз — на пляж… І ў абед аўтобусам — на Сімферопаль! Не ведаю, ці пабачымся яшчэ, так што — усяго найлепшага вам!

— Бывайце, — проста адказаў Сяргей і падліў сабе ў шклянку віскі.

* * *

Пасля пляжа Вераніка з мужам павольна ішлі праз санаторны парк. Вераніка глыбока ўдыхала ў сабе цёплае цягучае паветра, напоенае морам і хвоістымі дрэвамі, быццам хацела на год наперад надыхацца ім. Не верылася, што яны сёння ад'язджаюць, і заўтра ўжо прачнуцца ў зусім іншай краіне, у зусім іншым жыцці. Начная размова на балконе здавалася ёй чымсьці нерэальным — быццам страшны фільм па тэлевізары паглядзела. І яна старалася ўсё гэта страшнае, непрыемнае забыць.

Ля ўваходу ў іх корпус стаяла «хуткая дапамога». Каля машыны тоўпіліся мужчыны ў ваеннай форме і ў белых халатах, якія паміж сабой узбуджана размаўлялі. «Напэўна, камусьці з адпачываючых дрэнна,» — падумала Вераніка.

На іх паверсе была нейкая мітусня: бегала дзяжурная, пакаёўка несла вялікі вузел бялізны, спяшалася прыбіральшчыца, бразгаючы вядром…

Дзверы ў нумар суседа былі насцеж расчыненыя. Вераніка і Сяргей прыпыніліся ля іх. Бачна было, што ў нумары прыбіраюць. Вераніка чамусьці ўспомніла пра «хуткую дапамогу».

— Што-небудзь здарылася?.. — спытала яна прыбіральшчыцу, якая накручвала вялікую шэрую анучу на драўляную швабру.

Прыбіральшчыца спачатку незадаволена надзьмулася, быццам хацела ўхіліцца ад адказу. Але, мусіць, ёй вельмі карцела расказаць апошнюю навіну. Яна з апаскаю зірнула па баках і ціхенька, але амаль з радасцю, выпаліла:

— Ваш сусед памёр! Толькі нікому не кажыце! Начальнік шпіталя забараніў пра гэта расказваць, каб не палохаць адпачываючых!..

Вераніка з Андрэем пераглянуліся.

— Вось дык навіна! — сказаў ашаломлены Андрэй.

— Ён забіў сябе?.. — спытала Вераніка.

— Што вы гаворацё?!. Ён памёр ад інфаркту! Так сказаў галоўны кардыёлаг шпіталя, — абурылася прыбіральшчыца. — Я зайшла ў нумар а дзясятай гадзіне, каб прыбраць тут, а ён сядзіць на балконе ў крэсле, галаву на грудзі звесіў, адной рукой шклянку трымае, а ў попельніцы — гара цыгарэт!.. Думала спачатку, мо, п'яны заснуў, кранула, а ён і паваліўся… А што вы хочаце — цэлы месяц піў на балконе! Толькі, крый божа, нікому нічога не кажыце, а то мяне звольняць!..

І пачала энергічна церці анучай падлогу, паказваючы, што размова скончана.

Уражаныя Вераніка і Андрэй пайшлі да сябе. У іх нумары яшчэ не прыбіралі, але ва ўсім ужо адчуваўся нежылы дух. Усе рэчы, прывезеныя з дому, якія на працягу адпачынку дадавалі стандартнаму санаторнаму пакою ўтульнасць і нейкую дамашнюю атмасферу — хатнія халаты, прыгожыя ручнікі, маленькі будзільнік, фота дзяцей у залацістай рамцы, спадачкі для кавы, — былі спакаваныя ў чамадан. Туды ж былі ахайна схаваныя прыгожыя марскія ракавінкі, купленыя на падарункі для радні і сяброў, і забаўныя цацкі з ракавінак — для сына і дачкі. На стале стаялі толькі стандартныя для ўсіх гатэляў графін і дзве шклянкі, ляжаў тэлефонны даведнік санаторыя і пульт ад тэлевізара. На ложках Вераніка расклала ўсе санаторныя ручнікі, каб хутчэй здаць пакаёўцы нумар.

Андрэй напаследак праверыў шафу, тумбачкі, зазірнуў у ванную.

— Пакліч пакаёўку! — сказаў ён жонцы.

— Пакліч, калі ласка, сам, — адказала Вераніка і выйшла на балкон.

Перад ёй мірыядамі блікаў пад яркім паўднёвым сонцам пералівалася марская сінь.

— Бывай, мора! — прамовіла ціха Вераніка і праз хвіліну, абярнуўшыся, глянула на суседні балкон.

Балкон быў пусты — ні століка, ні крэсла, ні суседа ў крэсле з цыгарэтай і шклянкай у руках. Праблема, якой ён так баяўся, вырашылася сама сабой.

Пакаёўка досыць хутка і непрыдзірліва прыняла ў іх нумар і забрала ключ.

— Ну, з Богам, паехалі дадому! — сказаў Андрэй і схапіўся за чамадан.

# ПЕСНІ ДУШЫ ТАЯМНІЧАЙ...

*Кантэ хонда (літаральна — глыбокае спяванне) — клас музыкі і паэзіі фламенка, найбольш старажытная і чыстая яго разнавіднасць. У асноўным для кантэ хонда характэрны сольныя партыі спевакоў з вольным распевам і частымі мелізмамі (уздыхі, лямант) пад акампанемент музычных інструментаў. Гісторыя падобных народных спеваў налічвае амаль тысячу гадоў: са зменамі і дапаўненнямі гэтая музыка існуе з XI стагоддзя.*

*Выдатны іспанскі паэт і драматург Федэрыка Гарсія Лорка абазначаў кантэ хонда нават не як адгалінаванне фламенка, а як самастойны род народнай паэзіі: «Словамі кантэ хонда называюць групу андалузскіх песень, з якіх самай тыповай і дасканалай з'яўляецца цыганская сігірыя; да гэтых песень узыходзяць і іншыя, якія яшчэ захоўваюцца ў народзе: пола, марцінэтэ, карселера і салеар». Галоўнымі вартасцямі такіх спеваў Ф. Гарсія Лорка лічыў лаканічнасць і эмацыйную насычанасць. У асноўным гэта сумная і нават трагічная лірыка, якая не прыхарошвае жыццё простага чалавека, пафіласофску ўздымае праблемы непадзеленага кахання, здрады блізкіх людзей, выпрабаванняў лёсу і смерці. Блізкі да старажытных музычных сістэм Індыі, праспяваны ўслых куплет кантэ хонда, па словах знаўцаў, мае падобнае да гіпнатычнага ўздзеянне на чалавека. Яго выкананне ўяўляе сабой то мармытанне, то вольны струмень голасу, які ўздымаецца ўгору і падае, у выніку чаго атрымліваецца чароўная хвалепадобная вібрацыя. Кантэ хонда — гэта быццам пошчак птушак ці натуральная музыка лесу, крыніцы... Выпусціўшы ў свет выданне «Паэма пра кантэ хонда», прымеркаваную да фестывалю народнай андалузскай песні ў Гранадзе, Ф. Гарсія Лорка заклікаў суайчыннікаў: «Нельга дапусціць, каб самыя глыбокія і хвалюючыя песні нашай таямнічай душы абзывалі карчомнымі, бруднымі; нельга дапусціць, каб нітка, што злучае нас з загадкавым Усходам, была нацягнута на грыф карчомнай гітары; нельга дапусціць, каб дыяментавае сэрца нашых песень пэцкалі танным вінОм рукі падонкаў». Як бачым, у шчырай прамове іспанскага пісьменніка адчуваецца боль, знаёмы ўсім павадырам культурнага адраджэння: даказаць, што творы народа — не прымітыўныя, «мужыцкія», што яны рыхтуюць глебу для развіцця нацыянальнай мовы і літаратуры.*

*Прапанаваная чытачам нізка чатырохрадкоўяў — спроба Анатоля Цыркунова ўвасобіць народную іспанскую паэзію сродкамі беларускай мовы. Зразумела, што мова арыгінала генетычна далёкая ад нашай, ды і своеасаблiва рытмізаваная страфа песні не заўсёды дазваляе казаць пра дакладную «перакладальнасць». Аднак, калі прыгадаць гісторыю айчыннага мастацкага перакладу, то і нашы класікі часта не перакладалі з падрадкоўніка, а давалі жыццё новым творам па матывах арыгінала (як было гэта ў М. Багдановіча падчас працы над вершамі Верлена). Часам галоўным у перакладзе, асабліва, калі гутарка ідзе пра пераклад песні, народнай лірыкі, з'яўляецца ўменне «глыбока суперажываць блізкае, роднае сабе ў іншых культурах, знайсці заўсёды там водгук для сваёй душы, чуласць да «чужога» як да свайго» (В. Івашын).*

*Спадзяёмся, што глыбока праўдзівая і жыццёвая паэзія Іспаніі знойдзе водгук у сэрцах чытачоў і, магчыма, падштурхне да плённай працы па збіранні і папулярызацыі нашых народных песень.*

***Юлія АЛЕЙЧАНКА***

* * *

Жыву і ў душы нашу
надзею на лепшыя дні,
калі сустрэну душу,
якой не шкада цеплыні,

* * *

Што зрабіў са мною горкі лёс,
мама, мая мама,
пагляджу ў люстэрка, і ад слёз
меркне амальгама.

* * *

Сустракаю дзённае свяціла
з сумнай думкай, кожны раз адною:
ластаўка, што раніцай будзіла,
выпырхнула, болей не са мною.

* * *

Жыву я па сціплых нормах,
не скарджуся без прычыны,
хоць часта частуюць кормам,
які праглынуць немагчыма.

* * *

Зношваю свае я кайданы,
толькі чым даўжэй,
на нагах нашу іх, тым яны,
робяцца цяжэй.

* * *

З тварам, як крэйда, белым
стане і кат заказны,
калі перад расстрэлам
паставяць ля сцяны.

* * *

Чым ты мыеш, чараўніца,
тварык свой, каб стаць прыгожай?

Толькі чыстаю вадзіцай,
усё іншае — дар Божы.

* * *

Тыя, што ў першым каханні
зведалі горыч здрады,
самі пры новым спатканні
гэтым дзяліцца рады.

* * *

Як жа любіў я тую,
што мілай была маёй,
калі завёў другую,
з-за падабенства з ёй.

* * *

Накрыў націнкай белай
я вусны ў труне,
зямля каб не пасмела
крануць пасля мяне.

* * *

Каб толькі матуля мая
устала з труны жывая,
адсёк бы руку сабе я,
якою хлеб здабываю.

* * *

Як б'юць раз'юшаныя хвалі
аб бакен на сваім бягу,
мяне так беды дабівалі,
трымацца болей не магу.

* * *

Я быццам той ствол убогі,
што як прыцягальны маяк,
збірае каля дарогі
вяселлі ваўкоў і сабак.

* * *

Той ноччу я спаць не мог,
заснуць замінала свяціла,
і бачыў, як далакоп
капае маю магілу.

* * *

Не сумеў сквітацца пры жыцці —
за труной шукаць забойцу буду,
калі ў пекла прыйдзецца сысці,
то сыду, каб там сустрэць Іуду.

* * *

Доўга крык трывожны не змаўкае,
так што сэрца на шматкі парвецца,
гэта маці ўсё мяне гукае
і ніяк ужо не дазавецца.

***Пераклад з іспанскай***
***Анатоля ЦЫРКУНОВА.***

Святлана КАЛЯДКА

# СЭНСАВЫЗНАЧАЛЬНАЯ І СТЫЛЕЎТВАРАЛЬНАЯ ФУНКЦЫІ ЭМОЦЫІ

У аналізе паэтычнага тэксту мы часта апелюем да эмоцыі, вызначаем эмацыянальную сутнасць аўтарскага самараскрыцця. Аднак што ж стаіць за вызначэннем эмоцыі ў літаратуры і непасрэдна ў паэтычным тэксце? На гэта пытанне мы не знойдзем адказу ў літаратуразнаўчых і энцыклапедычных слоўніках, навуковых даследаваннях. Адбываецца канстатацыя паняцця *эмоцыя*, прысутнічае намінацыя і адсутнічае інтэрпрэтацыя.

Эмоцыя хвалявала даследчыкаў яшчэ з часоў Арыстоцеля. У працы «Пра мастацтва паэзіі» ён пісаў: «Страшное и жалкое может быть произведено театральной обстановкой, но может также возникать и из самого состава событий, что имеет преимущество и составляет признак лучшего поэта. Именно: надо и вне представления на сцене слагать фабулу так, чтобы всякий, слушающий о происходящих событиях, содрогался и чувствовал сострадание по мере того, как развертываются события…» [1, с. 82]. Апелюючы да пачуццяў страху і спачування, Арыстоцель закранае і сферу эмацыянальнай рэакцыі слухача (адпаведна і чытача) на адлюстраваныя ў тэксце пачуцці, якія ўзнікаюць *из самого состава событий.* Пачуцці ў паэтычным тэксце не павінны быць дэкарацыяй і «ляжаць» на паверхні мастацкага твора, яны павінны прысутнічаць у творы ў якасці дынамічнай рухаючай сістэмы, і як адзначае Арыстоцель, «поэт должен доставлять с помощью художественного изображения удовольствие, вытекающее из сострадания и страха…» [1, с. 83]. Такім чынам, вынікам судакранання чытацкага ўспрымання з аўтарскім самараскрыццём у творы павінна стаць *удовольствие* як пачуццё радасці ад прыемных адчуванняў, перажыванняў. А гэта ўжо ўзровень перакрыжавання пачуцця і эмоцыі і прадвызначэнне аднаго другім.

Пачынаючы ад часоў антычнасці і завяршаючы сённяшнім днём, аналізуючы мастацкі твор, даследчыкі называюць розныя бакі эмоцыі, кшталту эмацыянальнае напружанне, эмацыянальнае ўзрушэнне, эмацыянальная ўсхваляванасць, эмацыянальная насычанасць, эмацыянальная афарбоўка, эмацыянальная атмасфера, сапраўднасць эмоцыі, якія зразумелыя ўсім і якія не патрабуюць дэфініцый. Пералічаныя азначэнні набылі характар устойлівых выразаў, да якіх даследчык звяртаецца без дадатковага тлумачэння іх сэнсу.

Звернемся да верша Я. Янішчыц «***Разлука ўпала на траву…»:

Разлука ўпала на траву
Апошняй пазалотаю.
Пакуль жывеш — і я жыву
Святлом і адзінотаю.

У добры шлях! У добры час!
Трывога адкалосіцца.
Смяешся ты —
і я ў адказ,
Хоць смех на слёзы просіцца.

Журбу на лісце раскладу
(Хай з ветрам разлятаецца!),
Пакуль ідзеш — і я іду,
І шлях мой не канчаецца.

І хай злятае на траву
Разлука пазалотаю.
Пакуль жывеш — і я жыву
Любоўю і пяшчотаю [2, с. 48].

Гэты верш Я. Янішчыц, безумоўна, эмацыянальны. Наша ўпэўненасць грунтуецца на наяўнасці ў творы вонкавых прыкмет эмацыянальнасці — клічнікаў, паўтораў клічных канструкцый (У добры шлях! У добры час!), сінтаксічнага паралелізму ў пабудове сказаў (Пакуль жывеш — і я жыву; смяешся ты — і я ў адказ; пакуль ідзеш — і я іду), якія і надаюць вершу эмацыянальную афарбоўку. Аднак акрамя знешняга ўзроўню праяў эмацыянальнасці існуе і ўнутраны, на ўзроўні слоўнага выражэння эмоцыі. Ужо самае першае слова ў вершы становіцца дамінантай у эмацыянальным радзе і задае пэўную танальнасць: лексема *разлука* выклікае ў нашай памяці шэраг асацыяцый, мы згадваем сум, тугу, чаканне, успаміны і г.д., а значыць *разлука* атаясамліваецца ў нашай свядомасці з канататыўнымі адценнямі эмоцыі перажывання. Першае слова зараджае чытача эмацыйна на далейшае прачытанне. А ўсе астатнія лексемы ў эмацыянальным радзе — святло, адзінота, трывога, смех, слёзы, журба, любоў, пяшчота — дэманструюць развіццё перажывання праз прызму змены эмацыянальных станаў. Часавая прастора твора атаясамліваецца з прасторай перажывання лірычнай гераіняй разлукі. Гэта тая кропка адліку (што завецца перажываннем разлукі), у якой канцэнтруецца ў найбольшай эмацыянальнай згушчанасці момант перажывання. А значыць лексема *разлука* ўбірае ў сябе акрамя агульнапрынятага сэнсавага выражэння яшчэ і дадатковае — эмацыянальнае. Слова паўстае ў шматслойнай выражанасці, абумоўленай яго мастацкай прыродай і здольнасцю набываць у мастацкім творы мноства вобразных увасабленняў. Яно нібы набывае прырашчэнне іншых сэнсаў, канатацый, якія дазваляюць яму ў тэксце быць шматвобразным.

Да прыкладу, у першым чатырохрадкоўі мы не знойдзем азначэнняў, якія б нам акрэслілі, апісалі, якой успрымаецца разлука, аднак субстантывы *святло* і *адзінота* бяруць на сябе гэтыя функцыі, у іх сумяшчаюцца значэнні намінацыі і ацэнкі, і мы бачым, што разлука для гераіні напоўнена светлымі перажываннямі, яна не забівае пачуццяў, а наадварот, рыхтуе душу да жыццёвых іспытаў. Дысанансам у эмацыянальным радзе паўстае лексема *смех,* таму што яна адкрывае выхады ў іншыя прасторы руху пачуцця. Калі звярнуцца да графічнага адлюстравання гэтага руху, то патрэбна карыстацца графікам з дзвюма плоскасцямі — па гарызанталі і вертыкалі. Без лексемы *смех* у эмацыянальным радзе рух адбываецца ў межах колападобнай канструкцыі — ад святла да любові і пяшчоты як элементаў станоўчай эмоцыі з гуманістычнай скіраванасцю. Усе астатнія эмацыянальныя станы (у межах адзначанага эмацыянальнага рада) толькі выпрабаванні на шляху да любові. Дзякуючы такой колападобнай канструкцыі ў выяўленні эмоцыі наша свядомасць можа рухацца як да пачатку тэксту, так і да яго канца, фіксуючы факт напружанага душэўнага жыцця гераіні, увасобленага ў вобразе *разлукі.* Гераіня яшчэ не ведае пакут ад яе перажывання. Дзякуючы руху перажывання, адлюстраваным у эмацыянальным радзе, у лексеме *разлука* адбылося наслаенне сэнсаў, і гэты вобраз у паэзіі Я. Янішчыц у дачыненні да першага зборніка «Снежныя грамніцы» (верш «***Разлука ўпала на траву…» апублікаваны ў гэтым зборніку) набыў эмацыянальную матывацыю — разлука не можа стаць перашкодай у імкненні ўсёй істоты асобы да кахання і пяшчоты. У такой танальнасці напісана шмат вершаў першага і другога зборнікаў. Здаецца, «банальная» тэма перажывання разлукі з віртуальным сябрам (у вершы не знойдзем ні аднаго мастацкага срод-

ку, які б нам дапамог акрэсліць яго як рэальнага), аднак у яе вырашэнні ў творы знайшло адлюстраванне эмацыянальна-сэнсавае зрушэнне ў думках і пачуццях лірычнай гераіні, якой важны не момант перажывання, а што гэта перажыванне ў сабе ёй нясе.

Такім чынам, выражаная ў тэксце эмоцыя становіцца цэнтрам ідэйнага зместу твора, выступае формай арганізацыі аўтарскага стылю. Перажываючы разлуку, гераіня апынаецца ў станах адзіноты, журбы, знаходзіцца ў антаганістычных станах са смехам і слёзамі і г.д., аднак гэтая аднамомантная прысутнасць у тэксце такіх розных перажыванняў і эмоцый дазваляе нам гаварыць пра «сінкрэтызм» мастацкай свядомасці паэтэсы, калі кропка перажывання выклікае да жыцця мноства сумежных эмоцый, і яны, па хвалевым прынцыпе, ажыўляюць разам антаганістычныя настроі. Гэтыя якасці працэсуальнага характару ў эмацыянальным самараскрыцці паэтэсы збліжаюць эмоцыю з мастацкім вобразам, які таксама мае рухомую структуру. Мастацкая свядомасць павінна нараджаць сэнсы, а ў паэтэсы сэнсава-рацыяналістычны бок асэнсавання сябе і свету паглынаецца эмацыянальным. І гэта не загана, гэта дэманстрацыя лірычнай прыроды таленту паэтэсы, які жыве ў свеце эмоцый. Рухае лірыкай Я. Янішчыц не свядомасць, а эмоцыя. Перажыванне, пачуццё часта становяцца не штуршком для напісання твора, а вобразным вынікам эмацыянальнай самаідэнтыфікацыі, набываючы дадатковую эмацыянальную нагрузку. Мы, іншым разам, як чытачы, як некалі сказаў М. Гаспараў, «розумам разумеем ідэі і эмоцыі» [3, с. 246] янішчыцкага твора, а ў іншых выпадках услед за аўтаркай кідаемся ў вір яе эмоцый, не размяжоўваючы станоўчае і адмоўнае — настолькі ўсё ў вершы бывае пераплецена паміж сабой. Мы можам прасачыць таксама і за зменамі ў эмацыянальным насычэнні вобразаў у прасторы твора: наколькі ўсё пережыта, наколькі ў ёй прысутнічае асоба. Рух у вершы «***Разлука ўпала на траву…» адбываецца ад эмоцыі пасіўна перажываемай да актыўна праяўляемай і зноў да пасіўнай.

У лексеме *разлука* прысутнічаюць наступныя чыннікі: аб'ектыўнае — яго асноўнае сэнсавае значэнне («расстанне з кім-небудзь родным, блізкім»); суб'ектыўнае — псіхалагічныя асацыяцыі асобы (для паэтэсы гэта светлае перажыванне, якое ў выніку «злятае на траву пазалотаю»), і індывідуальнае — *разлука* адначасова звязана з такімі эмоцыямі, як смех, трывога, журба і слёзы. А. Левідаў у даследаванні «Автор — образ — читатель» у структуры вобраза вылучаў крытэрыі адзінкавага, асаблівага і ўсеагульнага [4, с. 218—219]. Крытэрый адзінкавага дазваляў убачыць лірычную гераіню як жывую асобу з індывідуальнымі адрозненнямі. Як мы заўважылі, прысутнасць смеху ў дыялектыцы перажывання разлукі надае яе «разлуцы» асаблівую эмацыянальную афарбоўку. І калі звярнуцца да вызначэння ўсеагульнага ў А. Левідава, то праявамі «тыповага характару» ў дачыненні да лірыкі стане зварот аўтаркі да тэмы-вобраза разлукі, што часта перажываецца асобай асабліва востра ў маладым узросце, што прыцягвае «жаночую аўдыторыю» творцаў і г. д. Як бачым, прысутнасць у непарыўным адзінстве трох азначаных кампанентаў у эмоцыі паэтычнага тэксту збліжае яе з асаблівасцямі раскрыцця мастацкага вобраза, але толькі набліжае, не надаючы ёй якасцей мастацкага вобраза.

«Мастацкі вобраз — гэта абагульненне элементаў рэальнасці, аб'ектываванае ў пачуццёва-ўспрымаемых формах, якія створаны па законах віду і жанру дадзенага мастацтва, у пэўнай індывідуальна-творчай манеры» [5, с. 40]. Калі карыстацца гэтым вызначэннем, то, безумоўна, убачым, што эмоцыя не займаецца абагульненнем элементаў рэальнасці, аднак яна выступае своеасаблівым абагульненнем перажываемага ў момант напружанага стану асобы, які Тамара Сільман называе «станам лірычнай канцэнтрацыі» [6, с. 6]. Перажыванне ўва мне, эмоцыя ўва мне становіцца для лірыка той аб'ектыўнай рэальнасцю, якая і кіруе нараджэннем мастацкіх вобразаў. Эмоцыя як канататыўнае наслаенне на сэнс слова нябачна прысутнічае ў мностве быццам неэмацыянальных лексем

і лексем, якія традыцыйна асацыююцца ў свядомасці чалавека з пэўнымі эмоцыямі (гл. уверсе аналіз верша «***Разлука ўпала на траву…» Я. Янішчыц). У гэтай сваёй магчымасці эмоцыя здольная перадаваць аб'ектываванае ў пачуццёва-ўспрымаемых формах, што адпавядае функцыянаванню мастацкага вобраза. Аднак усе збліжэнні эмоцыі з мастацкім вобразам звязаны з іх узаемапрадвызначаным суіснаваннем у паэтычным творы, эмоцыя не можа стаць самастойнай вобразнай адзінкай без рэалізацыі ў вобразах паэзіі, без сувязі з акрэсліваннем вобраза лірычнага героя, самога аўтара, а сыходзячы з гэтага, яна можа выконваць толькі службовую функцыю пры вобразах паэзіі, як, да прыкладу, суіснуюць службовыя часціны мовы пры самастойных. Але, як службовыя часціны мовы, так і эмоцыя, прадвызначае сэнс гучання самастойнага слова, кіруючы яго рухам у сказе, сама набывае сэнсаўтваральнае значэнне.

Усё адзначанае дазваляе зрабіць выснову, што *эмоцыя ў паэтычным тэксце і слове — гэта спецыфічная невербальная сэнсавая нагрузка, якая рэалізуецца ў шматзначным слове за конт надання яму дадатковых мастацкіх якасцей, а на розных узроўнях структуры твора — у наданні дадатковых мастацкіх якасцей выразным і выяўленчым сродкам стварэння мастацкага вобраза.* Калі гаварыць абагулена, задача мастацкай эмоцыі — адлюстраваць увесь спектр эмацыянальных станаў і аўтара паэтычнага твора, і лірычнага героя. Эмоцыя не мае сваёй уласнай гукавой формы (акрамя выклічнікаў і гукапераймальных слоў), а таму карыстаецца замест яе формай іншага, літаральнага зместу, накладваючыся на яго дадатковым сэнсам. Ці інакш, адзін змест, які выражаецца ў гукавой форме, служыць формай іншага, які не мае гукавой формы. Больш за тое, сэнс слова набывае дадатковыя стылеўтваральныя якасці пад уздзеяннем пастаўленых аўтарам творчых задач, напаўнення слова новымі эмацыянальнымі значэннямі і ў кантэксце выказвання. Адбываецца наслаенне на асноўны сэнс дадатковых канатацый, якія пачынаюць працаваць у пэўным кантэксце па задуме аўтара. Напрыклад, лексемы *песня, шчасце, радасць* ужо маюць пэўную эмацыянальную выражанасць, безадносна кантэксту. Мы можам уявіць, што знаходзіцца за гукавой абалонкай названых слоў: *песня*, да прыкладу, асацыіруецца з сумам і радасцю, з горкім плачам і бурнай весялосцю — менавіта гісторыяй развіцця гэтага жанру актуалізуюцца ў нас тыя або іншыя эмоцыі пры гаворцы пра песню. А лексемы *сорам, страх, трывога, смутак, гора / бяда, здзіўленне, абурэнне, злосць, гнеў, раздражненне, нянавісць, зайздрасць, шчасце / няшчасце, радасць, задавальненне / незадавальненне, любоў / каханне* ў навуковым даследаванні В. Ляшчынскай разглядаюцца як канцэпты эмоцый [7, с. 3—4], а значыць маюць устаялае эмацыянальнае значэнне, замацаванае за імі і гісторыяй, і культурай беларускага народа. Больш таго, утрымліваюць у сабе *эмацыянальную інфармацыю*, якая лёгка ўзнаўляецца ў любым кантэксце і без кантэксту.

Некалі Б. Ярхо даў наступную характарыстыку вобразу: «Вобраз ёсць такое значэнне слова, якое выклікае ўяўленне пра пачуццёвае ці эмацыянальнае ўспрыняцце» [8, с. 218]. Б. Ярхо напрамую звязваў вобраз з эмацыянальным успрыняццем. Мы ідзём далей, надаючы эмоцыі сувязь са значэннем слова, якія ў межах пэўнага вобраза знаходзяцца ў парадыгматычных адносінах. Напрыклад, лексема *зямля* не будзе мець эмацыянальнага зместу, пакуль не набудзе своеасаблівай экспрэсіі, да прыкладу ў параўнанні *ну ты і чорны, як зямля!* Значыць, у дадзеным выпадку эмоцыя афарбоўвае вобразы. А можа выступаць і формай арганізацыі аўтарскага стылю як у межах асобнага верша, так і цэлага творчага перыяду ці ўсёй творчасці паэта. Напрыклад, у вершы Я. Янішчыц «***Не шукаю гаманлівай славы…» праз прызму эмоцыі прачытваюцца ў тэксце многія вобразы, кшталту:

Не шукаю гаманлівай славы.
І вучуся сціпласці ў кабет.
Для мяне з лугоў надрэчных травы
Лепшы ў свеце вынеслі букет.

Сонца зачапілася за стрэхі,
Акрапіла мёдам верасы...
«Я люблю-ю!» — панесла
ўдалеч рэха,
«Я люблю-ю!» — азваліся лясы.

«Я люблю-ю!» — пацвердзілі дубровы,
Светлыя, як лебедзя крыло.
І для песні падказала словы
Роднае палескае сяло.

У грудзях прачнулася натхненне.
І дыханне заняло.
«Люблю-ю!»
І душа, як чуйнае карэнне,
Зноў адчула родную зямлю...

(***Не шукаю гаманлівай славы…) [2, с. 61]

Паўтор слова «Люблю-ю!», безумоўна, становіцца вобразам-эмоцыяй, які рэфрэнам праходзіць праз увесь тэкст і ў сваім руху стварае эмацыянальны дыялог паміж лірычнай гераіняй і светам. Цыклічны паўтор граматычнай формы з закладзенай у ёй пэўнай эмоцыяй перадае цыклічнасць душэўных рухаў і імпульсаў, звязаных з адным і тым жа перажываннем. Кожнае чатырохрадкоўе як цэласныя, амаль самастойныя кампактныя адзінствы, створаныя з дапамогай адзінага спосабу эмацыянальнага напаўнення. Эмацыянальная энергія слоў-паўтораў, перабоі ў рытміцы і рознаструктурныя сказы ў вершы гарманічна ўзаемадзейнічаюць у арганізме твора дзякуючы таму, што невербальная канатацыя эмоцыі — захапленне жыццём — «надбудоўваецца» над тэкстам, кіруючы яго строем, усімі яго ўзроўнямі. Эмоцыя ў названым вершы паўстае як догма, тэзіс веры, а не прадмет ведання, асэнсаванага тлумачэння. Гераіні не трэба разумець, ёй хочацца знаходзіцца ў стане ўсёахопнага экстазу заўсёды. «У грудзях прачнулася натхненне», якое стала вынікам эмацыянальнага ўзрушэння, выкліканага зліццём «я» з сусветам пад назвай «роднае сяло». Як адзначыла Т. Сільман, «лірыка мадэлюе адносіны паміж асобай і акаляючым светам праз парадыгму суб’ектыўнага перажывання і з устаноўкай на выяўленне сапраўднай сутнасці гэтых адносін, якія перажываюцца» [6, с. 27]. Суб’ектыўнае перажыванне, такім чынам, становіцца арганізуючым прынцыпам цэлага, а эмоцыя яго пастаяннай спадарожніцай. Глыбіня эмоцыі прадвызначыла строгі адбор эмпірычнага жыццёвага матэрыялу (лугі, травы, букет, сонца, стрэхі, мёд, верасы, лясы, дубровы, лебедзя крыло, сяло). З гэтых эстэтызаваных вобразаў нават уператасаваным парадку можна скласці ідылічную карціну сельскага жыцця, якая будзе нагадваць сельскія пейзажы знакамітых мастакоў. Такое ўяўленне, што без гэтых канкрэтных прадметных вобразаў паэтэсе нельга было абысціся, без усяго спіса вобразаў ці, наадварот, пры значным яго павелічэнні верш губляў бы завершанасць і цэласнасць. Аддзяліць безумоўна неабходнае ад выпадковага і другараднага, а то і лішняга дапамагае Я. Янішчыц *пачуццё меры і інтуітыўнае адчуванне гармоніі* ў мастацкім тэксце, якія прадвызначаюць аб’ем твора і «тесноту стихового ряда» (Ю. Тынянаў), а ў выніку — яго ўнутраную дасканаласць. Нават колькасць эмацыянальных паўтораў у творы павінна быць абгрунтавана пачуццём меры.

Мы не аспрэчваем першаснасць сэнсавага плана, акта самапазнання ў асобасным перажыванні аўтара ці лірычнага героя, але эмоцыя ў творчым мадэляванні ў тэксце сэнсаў быцця асобы і свету, як мы паказалі на аналізе, таксама можа мець сэнсавызначальнае значэнне і гэтым уздзейнічаць на спецыфіку аўтарскага стылю. З аднаго боку, эмоцыя ўдзельнічае ў стварэнні мастацкага вобраза, а з другога — у фарміраванні аўтарскага стылю. Эмоцыя выступае неабходным кампанентам у пабудове адносін «асоба» — «свет» і іх інтэрпрэтацыі ў пераасэнса-

ванай рэальнасці мастацкага твора. Эмоцыя ёсць невербальная сэнсавая нагрузка, якая матэрыялізуецца праз словы з эмацыянальным зместам / інфармацыяй ці праз іншыя выразныя і выяўленчыя сродкі, а можа праявіцца ў тэксце і праз неэмацыянальныя лексемы, якія пад уздзеяннем аўтарскай задумы і ў пэўным кантэксце набываюць эмацыянальную афарбоўку. Эмоцыя таксама можа ўздзейнічаць на пераасэнсаванне вобраза. Такім чынам, *эмоцыя рэалізуе свой патэнцыял у першую чаргу ў мнагазначным слове праз прырашчэнне да яго асноўнага значэння эмацыянальнага зместу як новага сэнсу, здольнага надаць слову новую вобразнасць.*

Лірычны твор фіксуе імгненны сэнс спасціжэння аўтарам нейкай сутнасці прадмета, з'явы, факта, падзеі і г. д. Гэта своеасаблівае азарэнне, якое набывае высокую мастацкасць (гаворка ідзе ўсё ж пра класічныя творы мастацкай літаратуры, так званыя шэдэўры). Важна яшчэ гэта азарэнне агучыць, знайсці патрэбныя словы для матэрыялізацыі думкі альбо перажывання / пачуцця. І што б ні ствараў аўтар — маляваў пейзаж альбо фармуляваў філасофскую праграму — у падборы сродкаў выражэння / выяўлення будуць прысутнічаць адносіны лірычнага «я». А гэта ўжо сфера бытавання эмоцыі. Свядомасць аўтара кіруе падборам эмоцый у спосабах арганізацыі паэтычнага тэксту ці наадварот? Верш набывае мастацкую цэласнасць, калі ў ім узаемадапаўняюцца «разумовае» і «пачуццёвае», і эмоцыя ў гэтай іерархічнай арганізацыі выконвае *стылеўтваральную, арганізацыйную, матывацыйную і адаптыўную функцыі.* Т. Сільман у матывацыйныя перадумовы напісання твора ўводзіць паняцце *«эмацыянальнай зацікаўленасці»*, якая павінна працаваць на стварэнне лірычнага твора як абагульненай формулы, не звязанай з адзінкавымі фактамі і індывідуальнай пэўнасцю. Паэт павінен «працаваць на вечнасць», а таму імкнуцца зрабіць свет суб'ектыўных перажыванняў даступным для мноства суб'ектыўных успрыманняў. Адзначым, што варта згадаць і арыстоцелеўскае пажаданне атрымаць задавальненне ад прачытанага — а значыць, паэт павінен арыентавацца на эмацыянальную сферу чытача (калі ён не піша «ў стол»).

Мы падыходзім да наступнай высновы: паэтычны твор — гэта арганізаваная сістэма, у якой паэтычнае слова і выказванне маюць логіка-паняційны і эмацыянальна-ацэначны ўзроўні іх рэалізацыі, што знаходзяцца паміж сабой у каэвалюцыйных[1] адносінах. Эмоцыя мае не толькі функцыю адаптыўную (прыстасавання) да паэтычнага вобраза, яна разам з вобразам праходзіць этапы пераўтварэння, напаўнення новымі адценнямі. У асобных выпадках, пры дасягненні асаблівай вобразнай выразнасці, мы можам гаварыць пра вобраз эмоцыі (згадаем пушкінскае вызначэнне «грустно очарован»). Сэнс вобразнага слова захоўвае першынство над эмоцыяй, вызначае яе прысутнасць / адсутнасць, неабходнасць / непазбежнасць і г. д. у сінхранізацыі / падпарадкаванні іх узаемадзеяння. Аднак у мастацкім творы гэтыя парадыгматычныя адносіны часта мяняюцца месцамі і ў падобных зменах прадвызначаюць спецыфіку аўтарскага стылю.

## Спіс літаратуры:


1. Аристотель. Поэтика: Об искусстве поэзии / Аристотель. — М.: Худ. лит., 1957. — 184 с.

2. Янішчыц, Я. Снежныя грамніцы: Вершы / Яўгенія Янішчыц. — Мінск: Беларусь, 1970. — 64 с.

3. Гаспаров, М. Л. Фет безглагольный: Композиция пространства, чувства и слова / Михаил Леонович Гаспаров // Анализ художественного текста.


[1] Каэвалюцыя — механізм узаемаабумоўленых змен элементаў, якія складаюць цэласную сістэму ў працэсе развіцця.

Лирическое произведение: Хрестоматия / Сост. и примеч. Д. М. Магомедовой, С. Н. Бройтмана. — М.: Российский государственный гуманитарный университет, 2005.

4. Левидов, А. М. Автор — образ — читатель / Александр Михайлович Левидов. — Л.: Изд-во Ленинградского университета, 1977. — 360 с.

5. Введение в литературоведение: Учебник / Н. Л. Вершинина, Е. В. Волкова, А. А. Илюшин и др.; Под общ. ред. Л. М. Крупчанова. — М.: Издательство Оникс, 2005.

6. Сильман, Т. Заметки о лирике / Тамара Сильман. — Л.: Советский писатель, 1977. — 224 с.

7. Ляшчынская, В. А. Фразеалагічная эмацыянальная канцэптасфера беларусаў: манаграфія / В. А. Ляшчынская. — Мінск: РІВШ, 2012. — 246 с.

8. Ярхо, Б. Методология точного литературоведения / Борис Исаакович Ярхо // Контекст-1983. — М.: 1984.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 7 кастрычніка 2015 года.

## Рэзюмэ

**Святлана КАЛЯДКА**

### Сэнсавызначальная і стылеўтваральная функцыі эмоцыі

У артыкуле аналізуюцца спосабы раскрыцця эмоцыі ў паэтычным творы. Вызначаюцца шляхі рэалізацыі эматыўнасці ў беларускай паэзіі. Разглядаюцца сэнсавызначальная і стылеўтваральная функцыі эмоцыі як спосабы арганізацыі эмацыянальнай прасторы паэтычнага твора. Даецца вызначэнне мастацкай эмоцыі. Даказваецца тэза, што эмоцыя ўдзельнічае ў фарміраванні паэтычнага вобраза і аўтарскага стылю.

**Ключавыя словы:** эматыў, эматыўнасць, паэтычны тэкст, паэтычная эмоцыя, мастацкі стыль, сэнсавызначальная функцыя, стылеўтваральная функцыя.

## Summary

**Sviatlana KALIADKA**

### Emotional functions of sense determination and of style formation

The methods of opening of an emotion in poetic work are analyzed in the article. The ways of realization of emotion in Belarusian poetry are determined. Emotional functions of sense determination and of style formation are considered as ways of organizing the emotional space of poetic work. Definition of artistic emotion is given. We prove the thesis that the emotion is involved in the formation of the poetic image and the author's style.

**Keywords:** emotiv, emotivity, poetic text, poetic emotion, art style, sense determination function, style formation function.

# ЖАНОЧАЯ ТВОРЧАСЦЬ ВАЧЫМА ДАСЛЕДЧЫЦЫ

Артыкулы ў рубрыцы «Навуковыя публікацыі» часта выклікаюць жаданне пазнаёміцца з даследчыкамі ў больш свабодным фармаце, каб шырэй даведацца пра іх навуковыя зацікаўленні, пра погляд на сучасную літаратуру. Некалькі пытанняў такога кшталту было адрасавана Святлане Калядцы — кандыдату філалагічных навук, старшаму навуковаму супрацоўніку Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, аўтару сямі манаграфій (у тым ліку трох аўтарскіх).

**— Святлана Уладзіміраўна, падчас адной з дыкусій вы як спецыяліст-гендаролаг зазначылі, што ў беларускай літаратуры 1950—1980-х гг. было нямала аўтараў-жанчын, і з іх няварта рабіць ахвяр. Тым не менш, тагачасныя жанчыны-празаікі амаль невядомыя сучаснаму чытачу. Ці не накладала савецкая сістэма нейкіх абмежаванняў на творчае самавыяўленне пісьменніц?**

— У 1950—80-я гады ў беларускую літаратуру прыйшлі маладыя, апантаныя творцы, якія мелі гарачае жаданне заваёўваць новыя мастацкія вышыні. Сярод іх было шмат аўтараў-жанчын, большасць з якіх — паэтэсы. Як пісаў у адным з артыкулаў А. Бутэвіч, «*… тыя дабрадзейныя гады, падвышаныя так доўгачаканай хрушчоўскай адлігай, якая неадольна здымала з думак і сэрцаў заскарузласць і няпэўнасць, песціла надзею на нешта нерэальна вялікае і прыгожае, былі гадамі зацятых спрэчак пра ролю і прызванне фізікаў і лірыкаў, часам паўсюднага, аж да вялізных стадыёнаў, панавання (і шанавання) паэтычнага слова… Ды і самі лекцыі, семінары заахвочвалі да разняволенасці думкі, да свежасці ўспрыняцця свету і сябе ў гэтым свеце. Выкладчыкі ж, здавалася, разам са студэнтамі адчынялі браму сапраўдных скарбаў, мудра скіроўвалі прагных да ведаў і спасціжэння ісціны маіх аднакурснікаў на шлях развагі, роздуму і засваення права самому даходзіць да сутнасці, не спяшацца глытаць сухі камяк чужых высноў, а шукаць тую адзіна адпаведную праўдзе ісціну, што надае жыццю цэльнасць і мэтаскіраванасць*».

Успаміны Анатоля Бутэвіча красамоўна сцвярджаюць маю думку: з беларускіх аўтараў-жанчын не трэба рабіць ахвяр. Яны, як і творцы-мужчыны, маглі развівацца ў межах, дадзеных ім талентам, у спрыяльнай для творчасці сацыяльнай атмасферы. Толькі талент пісьменніка адкрывае яму дарогі, дазваляе застацца ў гісторыі літаратуры. Гэта прадвызначыла вядомасць такіх паэтэс, як Е. Лось, Д. Бічэль, В. Вярба, Я. Янішчыц, Н. Мацяш, В. Коўтун, Р. Баравікова, В. Іпатава, Г. Каржанеўская, Н. Загорская і г. д.

Калі ў творчым плане адзіным крытэрыем сапраўднага быў талент, то ў сацыяльным абжыванні літаратурнага Парнаса прысутнічалі пэўныя праблемы. Невялікая колькасць дзяржаўных прэмій, прысуджаных аўтарам-жанчынам — адно са сведчанняў ігнаравання дасягненняў «жаночай літаратуры».

У 1990 годзе абышлі ўвагай і нашу беларускую ластаўку Яўгенію Янішчыц, калі праігнаравалі пастанаўленне Савета Міністраў аб ўвекавечанні памяці паэтэ-

сы і выданні яе Збору твораў. Артыкулы ў прэсе з абвяшчэннем аб яго падрыхтоўцы кнігі ўспамінаў пра паэтэсу, значна пашыранага новымі вершамі выбранага так і не набылі працягу. Разам з Таццянай Аўсяннікавай, аднакурсніцай Яўгеніі, я распачала падрыхтоўку трохтомнага выдання «Яўгенія Янішчыц: творы, жыццяпіс, каментарыі».

**— Што натхніла на працу акрамя добрага знаёмства з яе творчасцю?**

— Імя Яўгеніі Янішчыц сёння дастаткова вядомае, яе творы ўключаны ў падручнікі і вучэбныя дапаможнікі па беларускай літаратуры. Амаль штогод праводзяцца вечарыны, прысвечаныя жыццю і творчасці паэтэсы. На вершы Янішчыц напісана шмат песень. Зараз альбом песень на яе словы запісвае Таццяна Беланогая, маладая і таленавітая кампазітар і выканаўца беларускіх песень. Плануецца ўключэнне альбома ў першы том нашага выдання ў якасці музычнага дадатку. У тэатры аднаго акцёра «Зьніч» ставіцца монаспектакль. І гэта няпоўны пералік таго, што звязана з жыццём і творчасцю «непрыручанай птушкі Палесся». Усё гэта гаворыць пра актуальнасць і запатрабаванасць творчасці Я. Янішчыц для сучаснікаў, а значыць ёсць неабходнасць у падрыхтоўцы Збору твораў.

Адпаведна тэндэнцыям часу мы вырашылі пайсці на эксперымент: стварыць універсальнае выданне, якое выходзіць за межы жанру Збору твораў і забяспечвае чытача самай рознай інфармацыяй пра Янішчыц. Нестандартным шляхам падаюцца мастацкія творы: побач з кожным вершам прадстаўлены каментарыі розных даследчыкаў, прычым як станоўчыя, так і крытычныя, успаміны, інфарамацыйныя звесткі і пэўныя тлумачэнні, звязаныя з канкрэтным творам.

Магчыма, некаторыя крытыкі адразу выкажуць незадавальненне, што літаратуразнаўчымі і іншымі каментарыямі да вершаў мы навязваем чытачу думкі іншых, а ім хацелася б разабрацца з вершам самім, без уздзеяння ацэнкі «іншага». Дагадзіць усім нельга, а наш падыход у размеркаванні матэрыялу ў першую чаргу будзе карысны школьнікам, студэнтам і пачынаючым аўтарам.

**— Што, на вашу думку, можа быць найбольш каштоўным і значным у літартурнай творчасці жанчыны-аўтара?**

— Ад літаратуры хочацца атрымліваць задавальненне. Калі ў мастацкім творы штосьці закранае пачуцці ці думкі, значыць, ён прачытаны нездарма! Мэта чытача не ў тым, каб абавязкова заўважыць нестандартнае самавыяўленне аўтара, так званую новую версію аўтарскага «я» (але я абсалютна не супраць гэтага). Для чытача больш істотна за лірычным героем убачыць асобу — адмоўную ці станоўчую — але доказную, абгрунтаваную ў сваіх паводзінах і настроях і, галоўнае, зразумелую ў памкненнях, жыццёвых стратэгіях, нават калі яны не адпавядаюць агульнапрынятым нормам. Зразумела, мастацкі твор павінен стаць набыткам эмацыянальнага вопыту чытача, пры гэтым роля твора не павінна зводзіцца да трэніроўкі думкі, праверкі логікі і ведаў, бо для гэтага існуюць іншыя дысцыпліны.

Свет паэзіі сёння рухаецца да ўніверсальнасці, нівеліроўкі, аднастайнасці ў мужчынскіх і жаночых формах і спосабах апісання сябе і свету. І не па той прычыне, што жанчыне надакучыла быць жанчынай, а мужчыну мужчынам. Усё меней застаецца недатыкальных літаратурных канонаў, традыцыйных клішэ і ўстаялых шаблонаў у паэтыцы.

«Унісекс» — гэта самае дакладнае вызначэнне народжанага ў бясполым кругазвароце думак твора. Прычым вобразы тэксту губляюць не толькі прыродныя атрыбуты жаночай натуры, але і сацыяльныя і культурныя канструкты асобы.

У творах дэманструюцца праявы андрагіннай свядомасці асобы, вызваленай ад стандартаў і клішэ класічнай літаратуры. Старыя каноны смела адпрэчваюцца і выкідваюцца на сметнік «мастацкага друзу», а новыя яшчэ не знайшлі прывязкі да пэўных каштоўнасцей, актуалізаваных новай сучаснасцю без дыктату ідэалогій.

Сучасным аўтаркам цесна ў межах жаночай граматыкі, яны імкнуцца пашырыць поле прыкладання паэтычна-моўнай думкі. Адны, як няўрымслівыя дзеці, «свярдзёлкам» прабіваюць новыя пласты жыцця, вынікі засваення якога

выкладаюць у форме цікавых мастацкіх твораў. Другія шмат гадоў «жывуць» у аднойчы адкрытай і добра абжытай мастацкай прасторы, эксплуатуючы адны і тыя ж вобразы. Трэція выходзяць за межы беларускай рэчаіснасці і шукаюць натхнення ў замежных карцінах жыцця. Чацвёртыя так і не выходзяць з узросту «пачаткоўца», а пятыя дазіравана радуюць рэдкімі, але прарыўнымі ідэямі для беларускага мастацтва...

**— Якой бачыцца вам агульная сітуацыя ў сучаснай беларускай літаратуры?**

— Маладыя аўтары вельмі любяць эксперыменты на ўсіх узроўнях арганізацыі паэтычнага твора. І гэтыя эксперыменты не абмяжоўваюцца фармальнымі наваўвядзеннямі, яны сыходзяць з псіхаэмацыянальнага ўзроўню асэнсавання рэчаіснасці і, там пераўтвораныя, уліваюцца ў паэтычны тэкст хваляй літаратурнага эпатажу, куражу, фарсу, травестыі, здзеклівага змешвання эстэтычных катэгорый і г.д. Такія эксперыменты здзіўляюць, абураюць, узрушваюць і прыцягваюць увагу. Але на кароткі час. Таму што традыцыйныя эстэтычныя каштоўнасці падменьваюцца часовымі, няўстойлівымі, уяўнымі. Пошукі незвычайных, незнаёмых раней форм знешняга аздаблення тэксту нярэдка скіроўваюцца на самарэкламу аўтара, а не на крытэрыі мастацкасці.

Як чытач я атрымліваю асалоду ад паэзіі Максіма Танка (асабліва яго апошніх кніг), Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Еўдакіі Лось, Яўгеніі Янішчыц, Раісы Баравіковай... Пры гэтым не ўзнікае думкі адносна часу напісання твораў, тым больш я не думаю, колькі зараз гадоў гэтым аўтарам і якая часавая адлегласць паміж мной і імі… А многія вершы з падборак у перыядычных выданнях і са зборнікаў многіх маладых паэтаў (не будзем абагульняць, што ўсіх) забываюцца на другі ж дзень і пакідаюць у лепшым выпадку пачуццё абыякавасці і адчуванне, што асабістыя перажыванні аўтара сталі «масавымі». Магчыма, справа ў тым, што выпрацаваныя класікамі крытэрыі мастацкасці не засвоены маладымі аўтарамі.

**— Чаму, на вашу думку, так адбываецца?**

— Разбурэнне/канструяванне паэтычнага зместу/формы — узаемазвязаны працэс, падпарадкаваны паскораным зменам культурных парадыгм у канцы XX — пачатку XXI ст. Цяжка выявіць перавагу аднаго з названых працэсаў, і мэтазгоднасці ў гэтым няма, бо сучасны літаратурны працэс характарызуецца адкрытасцю і незавершанасцю ў эстэтычных пошуках, у самаідэнтыфікацыйных каардынатах і г. д. Аднак назіраецца і адваротная тэндэнцыя: чым далей маладыя беларускія аўтары адыходзяць у эксперыментальных пошуках ад традыцый класічнай літаратуры, тым большае прыцягненне гэтыя традыцыі набываюць у старэйшых пісьменнікаў. Бо ў сучаснай беларускай літаратуры выяўляюцца не толькі дэструктыўныя працэсы, класічная традыцыя застаецца рухавіком у самаарганізацыі беларускай літаратуры і яе паступовым развіцці. Плённа працуюць мэтры літаратуры, актыўна друкуецца «сярэдняе» пакаленне, якое прайшло школу эксперыментаў і набыло свой вопыт у раскрыцці сэнсаў жыцця.

«Выжываюць» у кругазвароце мастацкіх плыняў і кірункаў адпаведныя не толькі традыцыйным нормам літаратуры творы, але ў першую чаргу адпаведныя анталагічнай прыродзе прыгожага. У гэтым сэнсе добрым прыкладам для маладых застаюцца згаданыя мной раней мэтры беларускага мастацтва М. Танк, П. Панчанка, А. Куляшоў, Н. Гілевіч, А. Вярцінскі, Г. Бураўкін і многія іншыя, творчасць якіх не састарэе. Прайсці вучобу праз дасканалае вывучэнне паэзіі пералічаных аўтараў — своеасаблівы тэст на права стаць паэтам.

**— Святлана Уладзіміраўна, чым прываблівае вас гендарная метадалогія, да якой вы неаднойчы звярталіся ў даследаваннях?**

— Апошнім часам у літаратуразнаўчым аналізе беларускай паэзіі і прозы вельмі папулярнымі з’яўляюцца метадалогіі рэцэптыўнай эстэтыкі, фонасемантыкі, інтэрмедыяльнасці, гендаралогіі...

Гендарная метадалогія ўвайшла ў літаратуразнаўчыя даследаванні ў канцы XX стагоддзя, а ў беларускае літаратуразнаўства — у пачатку XXI. Абумоўлена гэта, у першую чаргу, з'яўленнем мастацкіх твораў з ярка выражанымі гендарнымі пазіцыямі аўтараў. Адпаведна, гендарную праблематыку могуць патлумачыць толькі гендарныя тэорыі. З дапамогай гендарнай метадалогіі мне цікава паглыбіцца ў псіхалогію жаночай душы аўтаркі і яе лірычнай гераіні, асэнсаваць нацыянальныя рысы жаночай суб'ектыўнасці, ментальнасць беларускі.

Аднак гэта не адзіная метадалагічная сістэма, да якой я звяртаюся. Мяне заўсёды цікавілі міждысцыплінарныя даследаванні, таму ў сучасных навуковых пошуках карыстаюся набыткамі лінгвістыкі, філасофіі, псіхалогіі, сацыялогіі, прыродазнаўчых навук і г. д.

Сучаснасць накладвае на выяўленне асобаснага свае маркіроўкі, актуалізаваныя супярэчлівымі працэсамі ў грамадстве. У сучаснай беларускай паэзіі дадзеная тэндэнцыя пазіцыянуецца працэсам «паскоранага разбурэння» класічных традыцый і ўстаялых форм і прыёмаў у паэтычным самавыяўленні (у процівагу разгледжанаму В. А. Каваленкам працэсу паскоранага развіцця беларускай літаратуры).

**— У Беларусі на дзяржаўным узроўні разглядаецца гендарная праблематыка, дзейнічае План па паляпшэнні становішча жанчын. Аднак у спецыяльных даследаваннях фіксуецца невысокая гендарная кампетэнтнасць беларускіх педагогаў. Ці неабходна, на вашу думку, звяртацца да вывучэння гендаралогіі ў педагагічных ВНУ? Акцэнтаваць гендарныя праблемы пры вывучэнні літаратуры ў сярэдняй школе?**

— Безумоўна, гэта патрэбна. Талерантныя даследчыкі не скіроўваюць да вайны паміж мужчынам і жанчынай за ўсталяванне так званай гендарнай раўнавагі ва ўсіх сферах жыцця. Заклікі да абсалютызацыі ў адносінах шкодзяць не меней, чым феміністкія закіды на незалежнасць існавання ў сусвеце «інь» і «янь». З дапамогай гендарных падыходаў у разглядзе розных праблем больш пэўна акрэсліваецца іх сацыяльная ангажаванасць, культуралагічная прывязанасць, акцэнтуецца ўвага на пытаннях рэалізацыі жанчыны ў грамадстве, што раней не мела значэння для дзяржавы з-за відавочна падпарадкавальнай і залежнай ролі жанчыны.

Жаночая паэзія на сённяшні дзень успрымаецца асіметрычнай, хаатычнай, шматвектарнай. Пошукі шляхоў самаідэнтыфікацыі беларускай літаратуры прэвалююць над іншымі творчымі працэсамі. Таму зварот да гендаралогіі, асабліва ў выкладанні сучаснай паэзіі, патрабуе ашчаднай працы з мастацкім творам, каб гендарны аналіз не стаў падобны на феміністкія лозунгі, а гендарныя інтэрпрэтацыі тэксту не сталі падменай класічнаму аналізу, у якім закладзены лепшыя традыцыі літаратуразнаўства. Я за тое, каб школьнік на ўроках беларускай і рускай літаратуры, на факультатывах па магчымасці разам з аналізам паэтычных і празаічных твораў атрымліваў першапачатковыя веды і засвойваў азы ўсіх сучасных літаратуразнаўчых метадалогій. Няхай ён не стане філолагам, але ўменне чытаць мастацкія творы з розных пазіцый не пашкодзіць у фарміраванні і развіцці аналітычных здольнасцей.

**— Якой тэмай вы займаецеся цяпер?**

— У аддзеле тэорыі і гісторыі літаратуры аддана, шчыра, таленавіта працуюць такія вучоныя, як загадчык аддзела М. Тычына, супрацоўнікі Я. Гарадніцкі, Г. Кісліцына, Л. Кісялёва. Яны звяртаюцца да літаратурнага працэсу ад канца XIX ст. і да нашых дзён. Увага акадэмічных літаратуразнаўцаў накіравана на вывучэнне гісторыка-культурнай дынамікі мастацкай канцэпцыі чалавека, суаднясенне, узаемасувязь і ўзаемаўзбагачэнне яе з навуковымі дасягненнямі сучасных сацыяльных і гуманітарных дысцыплін. Задача сучаснага літаратуразнаўства звязана і з адкрыццём і інтэрпрэтацыяй духоўнага і эстэтычнага патэнцыялу сучаснай беларускай літаратуры. Менавіта з гэтай задачай стасу-

еца і мая навуковая зацікаўленасць асаблівасцямі рэалізацыі эмоцыі ў паэтычным творы.

Эматыўнасць — перш за ўсё лінгвістычная катэгорыя, звязаная са спосабамі ўвасаблення слоў у тэксце, што перадаюць розныя эмацыянальныя станы чалавека. Аднак у паэтычным творы эмоцыя набывае свае маштабы рэалізацыі, падпарадкаваныя творчай задуме, тактыкам і стратэгіям аўтарскага самавыяўлення, яна па-рознаму раскрываецца ў стылістыцы, рытмічнай арганізацыі твора, фанетычных працэсах, сінтаксічнай будове, вобразным увасабленні і г.д. На жаль, на сённяшні дзень у славянскім літаратуразнаўстве не знойдзем навуковых прац, прысвечаных вывучэнню эмоцыі ў мастацкай творчасці, і дзіўна, што гэтая цікавая навуковая праблема, што ляжала на паверхні як актуальная ў даследаванні паэзіі, да гэтага часу не распрацавана. Таму стаўлю перад сабой задачу распрацоўкі літаратуразнаўчай метадалогіі эмоцыі, якую можна будзе задзейнічаць у аналізе паэтычнага тэксту. Навуковае даследаванне грунтуецца на тэзе: эмоцыя толькі тады набывае ролю эматыва, калі прырошчваецца да вобразнага слова, надаючы яму дадатковае эмацыянальнае значэнне ці эмацыянальную нагрузку, а ў многіх выпадках яшчэ і новыя вобразна-сэнсавае выражэнне і эстэтычнае выяўленне. З эмацыянальнага водгуку на свет пачынаецца паэзія, нараджаецца твор і эмацыянальным водгукам чытача на прачытанае ўсё завяршаецца. Колападобны рух эмоцыі падтрымлівае жыццё твора. Спадзяюся, што гэтыя тэарэтычныя выкладкі знойдуць рэалізацыю ў працэсе выкладання беларускай літаратуры ў ВНУ і школе — на адукацыйны працэс павінны быць скіраваны, на маю думку, усе навуковыя даследаванні. Тут варта звярнуцца да слоў М. Тычыны ў акрэсліванні перспектыў развіцця беларускай навукі ў цэлым:

*Перад беларускімі гісторыкамі і тэарэтыкамі літаратуры стаіць складаная задача сінтэзу разнароднага тэарэтыка-літаратурнага вопыту мінулага і сучаснасці, спадчыны традыцыйнага літаратуразнаўства і трансфармацыі сучасных інавацый, пазбягаючы як уніфікацыі паняційна-тэрміналагічнага апарату тэорыі літаратуры, так і ўстаноўкі на распрацоўку «тэрміналагічнай кабалістыкі», скарачаючы дыстанцыю паміж акадэмічным літаратуразнаўствам і ўніверсітэцкай практыкай выкладання, сцвярджаючы стратэгію практыка-арыентаванага літаратуразнаўства і пераадолення адставання ад рэальных духоўных патрэб.*

***Гутарыла Алеся ЛАПІЦКАЯ.***

**Валеры МАКСІМОВІЧ**

# КАНДРАТ КРАПІВА І СУЧАСНАСЦЬ

*Развагі і думкі з нагоды юбілею*

Агульнавядомы факт: пра масцітых, хрэстаматыйных пісьменнікаў пісаць, шчыра кажучы, зусім няпроста. Па-першае, можна лёгка збіцца на сканаізаваны стэрэатып успрымання, ацэнак, трактовак, і, як вынік, вялікая верагоднасць таго, што сказанае ў многім паўторыць ужо вядомае, агульнапрызнанае. Па-другое, ёсць небяспека выклікаць на сябе шквал крытычных стрэлаў з боку апанентаў і прыхільнікаў таленту, калі раптам аўтар наважыцца збочыць з пратоптанага шляху, выбіцца з кола звычаёвага, абжытага іншымі. Не будзем меркаваць, добра гэта ці не, але насамрэч склаўся пэўны рытуальны канон, паводле якога кожнаму творцу адведзена сваё ранжыраванае месца ў літаратурным пантэоне. Сказанае, зрэшты, ніколькі не азначае, што мы наважыліся пасягнуць «на святое святых», зрабіць пераацэнку, рэвізію даўно ўсталяванаму, агульнапрынятаму. У гэтым сэнсе ў раўніцеляў і апалагетаў не павінна быць сумненняў і лішняй перасцярогі. Мы проста дазволім сабе на ўзроўні і навуковых, і асабістых, суб'ектыўных рэфлексій крыху паразважаць з нагоды слаўнага юбілею аднаго са старэйшын нашай літаратуры Кандрата Крапівы, якому споўнілася б 120 гадоў.

Думаецца, нічога заганнага ў абраным намі спосабе выкладу няма. Наадварот, зараз відавочна ў пашане менавіта адрэфлексаваная, суб'ектывізаваная форма выкладу, якая дае большую магчымасць для стварэння атмасферы даверлівасці, шчырасці, непасрэднасці. А класіка, як вядома, заўсёды схіляе да разваг, роздуму, прымушае задумацца, суаднесці прачытанае, засвоенае са сваім уласным вопытам, з актуальнай рэальнасцю. Спадчына ж такога слыннага майстра, мэтра слова, акадэміка, народнага пісьменніка, Героя Сацыялістычнай Працы, лаўрэата розных дзяржаўных узнагарод дае для гэтага багаты і ўдзячны матэрыял. Іншая рэч, што падобны, крыху раскаваны, фармат можа не апраўдаць стратэгіі чакання чытачоў. Але, з іншага боку, для аўтара гэта проста шчаслівая магчымасць выказацца з нагоды слаўнага юбілею, дадаць свае, хай і нязначныя, штрышкі да творчага партрэта. І не толькі.

Прырода сапраўды надзяліла Крапіву велічэзным і рознабаковым талентам. Драматург, паэт, празаік, сатырык, байкапісец, памфлетыст, камедыёграф, навуковец-лінгвіст, публіцыст, перакладчык — гэты пералік творчых іпастасяў можна доўжыць і доўжыць. Талент пісьменніка, па прызнанні яго даследчыкаў, да гэтага часу ў многім застаецца непераўзыдзеным. І ў гэтым маецца свая рацыя. У асобе Кандрата Кандратавіча мы маем пісьменніка шырокага творчага дыяпазону, самавітага, каларытнага, удумлівага. Ён добра ведаў народнае жыццё, вясковы побыт, імкнуўся зазірнуць у псіхалогію простага чалавека, выявіць яго ментальныя асаблівасці, дасціпны розум, складнікі характару і светапогляду, адметны тып светаадносін. Усё гэта дае падставу гаварыць пра сапраўды непаўторную *нацыянальную самабытнасць*, пра майстэрства выяўлення адметных *нацыянальных форм жыцця*.

Асобную і даволі ўнушальную старонку спадчыны майстра складаюць яго драматургічныя творы. Яны змястава і жанрава разнастайныя, поліфанічныя.

Нароўні з не вельмі ўдалымі, прахаднымі («З народам» (1948), «Зацікаўленая асоба» (1953), «Людзі і д'яблы» (1958)), у актыве драматурга шмат твораў, якія заключаюць у сабе агульначалавечы, агульназначны змест, маюць актуальнасць і сёння («Канец дружбы» (1933), «Хто смяецца апошнім» (1939), «Мілы чалавек» (1945), «Брама неўміручасці» (1972)). Зразумела, час і грамадскія абставіны пакінулі на іх свой адбітак: далёка не ўсё можа быць прызнана бясспрэчна вартым увагі з прычыны відавочнай ідэалагічнай кан'юнктуры, зададзенасці, тэндэнцыйнасці. З гэтага пункту гледжання ацэнкі творчасці пісьменніка застаюцца ў нечым неадназначнымі, а часам і супярэчлівымі. З аднаго боку, творчасць пісьменніка прызнаецца адной з цікавых і арыгінальных старонак беларускай літаратуры, з другога — робіцца акцэнт на моцны ўплыў на мастака ідэалагічных шораў, на свядомую яго арыентацыю (асабліва на пачатку творчага шляху) на ўзоры і каноны літаратуры пралетарскай, партыйна-класавай. Хоць вядома, што часта ідэалагічны складнік празмерна і неапраўдана ўзводзіўся ў абсалют уласна крытыкай, якая свядома (ці неўсвядомлена) імкнулася расставіць «правільныя» акцэнты, падняць на шчыт тое, што было палітычна запатрабаваным, актуальным у дадзены гістарычны момант. Мастак, па зразумелых прычынах, пярэчыць таму не мог. Сённяшнія рэаліі дазваляюць больш унікліва, аб'ектыўна расчытаць сапраўдны змест створанага, зрабіць неабходныя карэктывы, аднавіць першапачаткова зададзенае гучанне. І часам вынікае, што за кан'юнктурным шумавіннем-прыкрыццём больш выразна праступае гуманістычны, выкрывальніцкі, асуджальны пафас, які ў сваім сумарным эквіваленце можа даходзіць да маштабных абагульненняў.

Сімптаматычна, што акцэнт у новым прачытанні твораў пачынае зрушвацца ў плоскасць маральна-этычную, філасофска-аксіялагічную, анталагічную. І гэта правільна. Тым больш што Крапіву, пры ўсім пры тым, нельга аднесці ў разрад казённых пісьменнікаў, пісьменнікаў-ілюстратараў, апалагетаў пралетарскага мастацтва, якія бяздумна выконваюць сацыяльны заказ часу. Чуйным сваім мастакоўскім зрокам Крапіва добра ўсведамляў, што на яго вачах адбывалася кардынальная змена не толькі светапоглядных і традыцыйных духоўных каштоўнасных установак, норм маралі, этыкі, паводзін, нораваў, звычаяў, але і ўсяго ладу жыцця, якія фарміраваўся вякамі. Яму было балюча і горка назіраць, як нашчадкі сейбітаў і ратаяў пад уплывам знешніх абставін неабачліва пачынаюць зракацца сваёй кроўнай генетычнай спадчыны, векавечных традыцый, запаветаў продкаў, — усяго таго, што павінна ляжаць у аснове нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці, вызначаць сутнасць чалавека ўвогуле. Меркаваць пра гэта дазваляюць творы Крапівы, яго апавяданні 20-х гадоў, байкі, той жа раман «Мядзведзічы», дзе наўздзіў каларытнымі, сакавітымі фарбамі намаляваны вясковы побыт, беларуская прырода, узаемаадносіны людзей у трывожны час перамен. Зварот да сялянскай, вясковай атрыбутыкі ў час, калі набіралі сілу нігілістычныя, разбуральныя працэсы, што неслі негатыўныя наступствы для ўсяго нацыянальнага, станавіўся спосабам і ўмовай захавання, культывацыі духоўных скарбаў народа, нацыянальнай спецыфікі творчасці, нацыянальных пачаткаў быцця ўвогуле. Вось чаму гэтыя перамены, як паказана ў творы, суправаджаюцца балючай ломкай, дэфармацыямі, разладам, рэзкім абвастрэннем сацыяльна-псіхалагічнага клімату, дэвальвацыяй традыцыйных устояў. А гэта, у сваю чаргу, з'яўляецца прыдатнай глебай для рознага роду маніпуляцый свядомасцю людзей, іх замбіравання, навязвання ідэй, якія ідуць у разрэз са звычайным жыццёвым вопытам, векавой традыцыяй.

Як ні парадаксальна, але ўсе гэтыя заганныя з'явы былі прыкмечаны Крапівой яшчэ ў самым пачатку іх узнікнення. У цэнтры ўвагі мастака слова станавіліся кар'ерызм і невуцтва, дэмагогія і ашуканства, духоўная нікчэмнасць і двурушнасць, падхалімства і паклёпніцтва. Чытач, пэўна, адразу здагадаўся, які крапівінскі твор бескампрамісна агаляе гэтыя негатыўныя з'явы, а менавіта, яго сатырычная камедыя «Хто смяецца апошнім». Гэтым творам драматург папярэджваў,

у якую небяспечную, разбуральную сілу ўсе гэтыя праявы могуць перарасці, калі трапяць на спрыяльную глебу і не сустрэнуць неабходнага супраціўлення з боку здаровых сіл грамадства.

Проста і, адначасова, па-філасофску глыбока адзначана аўтарамі школьнага падручніка тая звышзадача, якую ставіў перад сабой сатырык: «Выкрываючы зло, ён бараніў дабро, заклікаў людзей паглядзець на сябе як бы збоку, ацаніць свае дзеянні і ўчынкі. Бараніў сумленнасць, дабрачыннасць, дружбу, праўду». Усё, на першы погляд, слушна. Але гэта хрэстаматыйная слушнасць. Іншая рэч, наколькі маральна і светапоглядна падрыхтавана грамадства — і тады, і зараз — для таго, каб адэкватна ўзважыць, спраецыраваць, «прымерыць» на сабе тое заганнае, коснае, фальшывае, што перашкаджае пачуваць сябе паўнавартасным чыннікам жыцця, успрыняць яго як сігнал да дзеяння, як пабуджальны матыў для ўнутранай перабудовы, ачышчэння, аздараўлення. Сённяшні чытач, як падаецца, больш па звычцы, па заведзенай традыцыі, дастаткова індыферэнтна ўспрымае тую ж крапівінскую з'едлівую іронію, знішчальны сарказм, якія, як яму падаецца, не маюць да яго прамога дачынення. Увогуле ж, прыём адкрытай дыдактыкі, павучання, маралітэ не здольны ўжо адыгрываць той дзейснай ролі, як гэта можна было назіраць у тыя далёкія 20-я. Таму мы, у большасці па інерцыі, здольныя легкадумна пацяшацца, знешне рэагаваць, у лепшым выпадку — атрымліваць эстэтычную асалоду, задавальненне ад прачытанага, ад успрынятага. Але мала хто ўсур'ёз задумваецца над непамыснай шкоднасцю, антычалавечнасцю адлюстраванай мастаком з'явы, яе несумяшчальнасцю з агульнапрынятымі правіламі чалавечага сужыцця. Чаму так здараецца? Што таму віной? Абыякавасць, раўнадушша, апатыя? Няздольнасць і нежаданне змагацца з тым, што не толькі вакол, але і ўнутры цябе? Магчыма, прычыны ў іншым, больш істотным, фундаментальным: маштабы зла настолькі непамерна разрасліся, пашырыліся, набылі татальны характар, што чалавеку, застаючыся ўнутры гэтага працэсу, цяжка ці нават немагчыма ўсвядоміць усю ягоную агрэсіўна-наступальную прыроду, ацаніць ступень ваяўнічасці, згубнасці, а не тое што зрабіць нейкія крокі дзеля яго нейтралізацыі, утаймавання, вывядзення з жывой тканіны грамадскага арганізма.

Даводзіцца канстатаваць, што, акрамя адзначаных сімптомаў, ва ўмовах сённяшніх кардынальных сацыяльных трансфармацый «выразна заявілі пра сябе пагрозы ўнутранага характару, абумоўленыя характарам і ўзроўнем развіцця сацыяльна-маральных адносін у грамадстве, якія непасрэдна залежаць ад настрояў, арыентацый, учынкаў канкрэтных людзей» [7, с. 21]. У шэрагу шкодных, абсалютна непрымальных, небяспечных з'яў можна ўказаць на такі ганебны перажытак, як духоўны тэрарызм, які перарос у з'яву сацыяльнай рэчаіснасці. Гэта асобага роду агрэсіўная, разбуральная псіхалагічная экспансія, мэта якой — псіха-эмацыянальнымі сродкамі, уключаючы розныя брутальныя тэхналогіі і прыёмы маральнага прэсінгу, ачарніцельства, нагавору, фарміравання негатыўнай грамадскай (карпаратыўнай) думкі вывесці чалавека з душэўнай раўнавагі, маральна падавіць, зняважыць, навязаць комплекс непаўнацэннасці, заганнасці. Мэта такой антыгуманнай, антыэтычнай дзейнасці адна — шляхам ганьбавання, шальмавання сумленных людзей сцвердзіць сваю перавагу, насамрэч удаваную, падманную. На жаль, гэтая заганная з'ява нярэдка знаходзіць сваё месца ў асяродку творчай і інтэлектуальнай эліты, якая часам не грэбуе прыбягаць да забароненых тэхналогій, чорнага піяру. Але ж вытокі такой з'явы былі яшчэ раскрыты Крапівой у камедыі «Хто смяецца апошнім». Гарлахватчына, па вялікім рахунку, і ёсць мастацкім увасабленнем духоўнага тэрарызму, які напрамую звязаны з шантажом, пагрозай, падманам, падбухторваннем, нагаворам. Да месца ў гэтай сувязі прывесці заўвагу А. Сабалеўскага пра метады дзеянняў сучасных гарлахвацкіх: «Сёння, вядома, гарлахвацкія не такія лабавыя і нахабныя. І ў наступ для дасягнення мэты найчасцей ідуць не з адкрытым забралам і не роўненькай дарож-

кай. Цяпер яны знешне могуць выглядаць прыемнымі ва ўсіх адносінах людзьмі, з’яўляцца ў найсучаснейшым, па апошняй модзе адзенні і гэтак міла, соладка ўсміхацца, а дзейнічаць вельмі вытанчанымі метадамі» [8, с. 44].

Калі і далей працягваць развагі ў гэтым кірунку, патрэбна заўважыць, што адной з прычын такой даволі распаўсюджанай маральнай карозіі сталі тыя ж агрэсіўна-спажывецкія адносіны да жыцця, жаданне ўзаконіць для сябе лепшае месца пад сонцам за кошт іншых, не вельмі клапоцячыся пра выбар сродкаў дасягнення мэты. Дэструктыўныя дзеянні і паводзіны несумленных людзей з хваравітымі амбіцыямі шкодна ўплываюць на працэс кансалідацыі грамадства, падрываюць ролю ўзаемавыручкі і партнёрства, ствараюць сітуацыю нестабільнасці, падазронасці і адчужанасці. Усё гэта, у сваю чаргу, згубна ўплывае на культуру даверу, пад якой разумеюць «увасобленую ў сумесных ідэалах, сэнсах, каштоўнасцях, нормах пэўна скіраваную звычку сэнсавага напаўнення салідарнага дзеяння, новую традыцыю гарманічнага ўзаемадзеяння, норму зносін, якая абумоўлівае ўстанаўленне новых сацыяльных сувязей» [3, с. 93—99]. Між тым духоўная інтэграцыя без умацавання культуры даверу як сістэмаўтваральнай уласцівасці грамадства, без узаемапавагі, прызнання самакаштоўнасці аксіялагічных прыярытэтаў *Іншага* немагчымая.

## 2

Пры ўсёй мастацкай шматвектарнасці, жаданні асвоіць самыя розныя літаратурныя жанры і віды, вызначальнымі дамінантамі творчасці мастака сталі сатыра і гумар. Тое, што пісьменнік прытрымліваўся і культываваў сатырычную плынь у літаратуры, — ужо сам па сабе факт сімптаматычны, красамоўны, знакавы. Сатырычныя творы мастака — здзіўляюча шматпраблемныя, шматаспектныя, якія бескампрамісна, па-крапівінску дасціпна, вобразна і па-мастацку пераканаўча выкрываюць заганныя з’явы ў нашым жыцці.

У аснове сатыры як асобага спосабу паказу рэчаіснасці, асобай формы мастацкага пазнання жыцця, па вызначэнні даследчыкаў, ляжыць ідэйна-эмацыянальная ацэначнасць. З. Драздова адзначае, што «сатырычны твор акцэнтуе ўвагу на недарэчным, абсурдным, бессэнсоўным у жыцці, бачачы іх праз «павелічальнае шкло». Перабольшыць, гіпербалізаваць смехавымі сродкамі тую ці іншую сацыяльную з’яву, каб разгадаць прыхаваны яе сэнс, убачыць ярчэй, глыбей яе сутнасць, — такая задача сатыры, якая чуйна рэагуе на пачварнае ў жыцці, своечасова заўважае тое, што пастаўлена ў ім з ног на галаву» [2, с. 9]. Сатырычная плынь у беларускай літаратуры 20-х гадоў перажывае час свайго росквіту і абнаўлення, нягледзячы на перашкоды, якія ёй чыніліся: да адмоўнага ў сацыяльным жыцці, да заган у чалавечым характары і паводзінах яна была рэзкай і бескампраміснай.

Сатыры (і сатыры Крапівы ў тым ліку) уласцівы выкрывальніцкі пафас. Як правіла, у якасці аб’екта абсмяяння сатырык бярэ з’явы не адзінкавыя, а тыповыя, якія шырока распаўсюджаны ў людскім асяродку, у грамадстве і адмоўна ўплываюць на маральна-сацыяльную атмасферу часу. Іншымі словамі, пад пяром пісьменніка-сатырыка факты бытавога характару, як правіла, непамерна ўзбуйняюцца, набываюць высокую ступень мастацкага абагульнення, тыпізацыі.

Аб’ектам сатырычнага выкрыцця Крапівы ў 20-я гады была паслякастрычніцкая рэчаіснасць. Нароўні з творамі фельетоннага характару («Гаагская каробачка», «Сваты», «Вакол расійскага пытання», «Ліга нацыяў»), побач з крытыкай адсталасці і цемрашальства, «ідыятызму вясковага жыцця», сацыяльна шкодных з’яў пісьменнік пачынае ацэньваць самай высокай мерай тыя сацыяльныя пераўтварэнні ў жыцці краіны, якія адбываліся з вялікімі выдаткамі для простага чалавека, што адчуваў сябе ўсё больш бездапаможным перад навалай шматлікіх цыркуляраў, пастаноў, рэзалюцый. Спакваля ўвага Крапівы, як і большасці беларускіх

пісьменнікаў-сатырыкаў, па тонкім назіранні даследчыкаў, скіроўваецца не на выяўленне суб'ектыўнай віны чалавека, носьбіта зла, колькі на тыя аб'ектыўныя грамадскія ўмовы, якія пазбаўлялі чалавека права абараніць сябе, свой чалавечы гонар і годнасць. «Сатырык паказваў, — заўважае З. Мельнікава, — што здаровы практычны народны розум многага з тагачасных палітыка-ідэалагічных навацый не разумее і не прымае» [5, с. 167].

У сваёй творчай практыцы з першых крокаў у літаратуры К. Крапіва адштурхоўваўся ад народнага, сялянскага светаадчування, ад народнай маралі, кіраваўся народнымі нормамі і прынцыпамі светажыцця. Выхадзец з сялянскага, вясковага асяроддзя, пісьменнік па-сапраўднаму спасцігнуў псіхалогію і склад мыслення простага чалавека, глыбока пранікся яго клопатамі і турботамі. Ён быў упэўнены, што лозунгі і ідэалы здзейсненай рэвалюцыі цалкам адпавядалі яго патрэбам. І селянін першапачаткова прыняў рэвалюцыю як умову збавення ад вечнай запрыгоненасці, як практычнае здзяйсненне сваіх векавых спадзяванняў. І ў тым, што абяцанае заставалася на ўзроўні дэкларацыі, неажыццёўленага пражэкту, — не віна простага чалавека. Галоўная прычына таму — бальшавіцкая дыктатура, што мела на ўвазе не шчасце чалавека, існавала не дзеля чалавека, а дзеля сусветнай рэвалюцыі. Мяшчанскі свет, абывацельскае мысленне рэвалюцыя мала змяніла. Бачыць пісьменнік і тое, што галоўны асяродак абывацельшчыны зусім не вёска, а мястэчка, горад губернскага маштабу. «І тое, што тагачасны горад — не альтэрнатыва вёсцы, што маладая савецкая бюракратыя мала чым лепшая за старую царскую, Крапіва бачыць і разумее» [6, с. 36], — адзначае П. Навуменка. Доказам таму могуць служыць вершы «Пралетарый і буржуй», «На Менскім скверы», «Што я бачыў на трэку», «Класавыя ворагі».

Ужо ў пачатку 20-х гадоў у перакрэсце сатырычнага зроку Крапівы-байкапісца трапляе новы тып людзей-«саўчынаў» (савецкіх чыноўнікаў). Чуйны да грамадскіх перамен у жыцці, валодаючы зайздросным майстэрствам зазірнуць у корань любой з'явы, пісьменнік адразу ўлавіў пагражальны, руйнавальны характар мерапрыемстваў, якія інспіраваліся вышэйшым дзяржаўным кіраўніцтвам. Рэальная пагроза бачылася пісьменніку ў нараджэнні новага грамадскага класа — саўбураў (савецкай буржуазіі), у асяродку якога культываваліся такія грамадска небяспечныя, заганныя з'явы, як чынапаклонства, угодніцтва, прыстасаванства («Праборка музе», «Дэкрэт», «Каршун і Цецярук», «Кормны і надворны», «Махальнік Іваноў»).

Нельга адназначна сцвярджаць, што ранняя паэзія Крапівы (1922—1926) у сваёй ідэйна-праблемнай скіраванасці цалкам падпадае пад «маладнякоўскі» канон, якому ўласцівы павярхоўная сузіральнасць, апісальніцтва, адсутнасць значных мастацкіх абагульненняў. Празмерная заідэалагізаванасць і запалітызаванасць асобных вершаў Крапівы гэтага часу — хутчэй за ўсё сведчанне вымушанага кампрамісу, уступкі ваяўнічым цэрберам пралетарскага мастацтва.

Прадметам сатырычнага высмейвання ў творчасці Крапівы гэтага часу становіцца і «сярэдні чалавек», абагульнены тып абываценя, які з прычыны свайго камфармісцкага характару, беспрынцыповасці, усёўгодлівасці правакаваў жывучасць многіх адмоўных праяў рэчаіснасці. Прычым абывацельшчына набывае іпастась не адзінкавай з'явы: імя ёй — легіён. Вобраз героя-абываценя, люмпена па сваім сацыяльным становішчы, у пісьменніка набывае нестандартную трактоўку. Гэты дэкласаваны элемент, пазбаўлены цвёрдай маральнай асновы, мае ўсе звычкі пярэваратня, прыстасаванца, запабягайлы. Прызнаючы закон насілля адзіным законам у жыцці, падобны тып з аднолькавым поспехам можа выступаць у якасці і ахвяры, і ката. Сваё месца пад сонцам ён імкнецца заваяваць хамствам, пустабрэхам, нахабнасцю. Падобнага «героя» сустракаем у байцы «Старшыня» (1925). Ім аказаўся валачашчы сабака Жук, якому аўтар дае даволі празрыстую характарыстыку:

Натуры быў ён сапсаванай
І за крадзеж не раз балюча луплен, —
Як кажуць, элемент дэкласаваны,
Ну, адным словам — люмпен... [4, с. 61]

Дзякуючы сваёй «пралетарскай» пародзе, эквілібрысцкай здольнасці ўласную нікчэмнасць, нядбайнасць прадставіць як сведчанне несумненнай сваёй пралетарскай абранасці, выключнасці, ён займае кіруючую пасаду, становіцца «таварышам старшынёй»:

Ён справіў зараз галіфэ,
Пад лапу тоўсты ўзяў партфель,
На шыі гальштук ззяе ў срэбры,
І не тарчаць у Жука рэбры.
Задраўшы нос і хвост кручком,
Так важна ходзіць ён маўчком;
Калі ж вітаецца з ім хто, —
Дык толькі ледзь кіўне хвастом,
І толькі той для Жука блізкі сябар,
Хто дасць у лапу хабар.
Не будку мае Жук — палацы
(Хоць не свае, вядома, працы).
Ён разбурэў, ён растаўсцеў... [4, с.62]

Як бачна, тэму перамен, новага ў жыцці Крапіва адлюстроўвае не з агульнапрынятых, афіцыйных пазіцый. Увага паэта-байкапісца скіравана на тую небяспеку, якую неабходна чакаць у выніку актывізацыі люмпенскага элемента, які прэтэндаваў на ролю апостала, прапаведніка новай веры. «Пралетарыят — гегемон, сялянства — адсталы клас, які трэба цягнуць у саюзнікі, — ужо гэта ўстаноўка рэвалюцыі несла ў сабе зарад нелюбові да селяніна і да працы на зямлі» [2, с. 78], — падкрэслівае З. Драздова. Вось чаму многія героі К. Крапівы, як, зрэшты, і героі многіх твораў 20-х гадоў М. Зарэцкага, Л. Калюгі, А. Мрыя, імкнуцца стаць «пралятарамі». «А самае галоўнае — пралятар тады буду, без уласнасці чалавек. І самому лёгка ад гэтага, й другім прыемна, ды к таму — усюды першае месца тваё», — разважае прэтэндэнт на «гегемонію» камсамолец Яська Корабач з аповесці Л. Калюгі «Ні госць ні гаспадар».

Менавіта з сялянствам бальшавікі звязвалі сваю лінію ломкі нацыянальнага быцця і бачылі мэту сваёй зацятай барацьбы з «праклятым мінулым». «Савецкая афіцыйная ідэалогія 20-х гг. глядзела на мінулае як на нейкую імгненную прыкрую недарэчнасць, якая павінна як найхутчэй забыцца, сысці ў бяспамяцтва», — заўважае У. Гніламёдаў. — Былі практычна забаронены паняцці «беларускае адраджэнне», «беларускія нацыянальныя інтарэсы», «беларуская свядомасць», «нацыянальная культура». У ход пайшлі новыя словы: «сусветная рэвалюцыя», «інтэрнацыянал», «дыктатура», «сацыялізм», «пралетарыят» і інш.» [1, с. 4]. Сапраўды, нацыянальны фактар у гэты час набывае акрэсленае ідэйна-палітычнае гучанне. Магутнымі заставаліся контртэндэнцыі, якія перашкаджалі правядзенню нацыянальнай палітыкі. Замест таго заахвочваўся курс на русіфікацыю ўсіх сфер жыцця. Заядлага чынушу-русіфікатара паказаў К. Крапіва ў вобразе казла, які пачуваў сябе «павадыром» «у адной авечай чарадзе», хаця «па-авечы ён не мог ні слова».

Дык гэта яшчэ мала,
Дый невялікая бяда —
Ён, кажуць, захацеў, брыда.
Каб з ім бляяла
Цалютка тая чарада

Няйначай,
Як па-казлячы.
...............................................
А хто не ўмеў бляяць так чыста,
Таго ён лаяў шавіністам.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ці жыў казёл, ці мо ўжо здох,
Аб тым дазнацца я не мог,
А толькі вось чаго мне злосць:
Яшчэ казлы такія ёсць.

(«*Казёл*»)

Кандрату Крапіве нельга адмовіць у мастацкай і гістарычнай відушчасці, празорлівасці.

## 3

У юбілейна-неюбілейных зацемках хацелася б згадаць адзін факт з жыццёвай і творчай біяграфіі Крапівы, звязаны з яго ўдзелам у літаратурна-мастацкім згуртаванні «Узвышша». І не так удзелам, як даволі змрочным фіналам. Як вядома, у выніку нападак вульгарна-сацыялагічнай крытыкі была прынята «Пастанова літаратурна-мастацкага згуртавання “Узвышша” пра палітычныя памылкі ў літаратурна-публіцыстычнай творчасці» (1930). У ёй адзначаліся «ідэйныя памылкі» ў творчасці У. Дубоўкі, Т. Кляшторнага, М. Лужаніна, Я. Пушчы і інш. У артыкуле «Пралетарскім шляхам» кіраўнікі «Узвышша», як канстатуецца ў адкрытых крыніцах, былі вымушаны адмовіцца ад «нашаніўскіх традыцый старэйшага пакалення пісьменнікаў», абяцалі разгарнуць самакрытыку, глыбей засвоіць асноўныя палажэнні марксізму-ленінізму, пераадолець у сваёй свядомасці «дробнабуржуазную сялянскую хістную псіхалогію», уключыцца ў барацьбу за калектывізацыю вёскі і ўзгадняць літаратурную дзейнасць з працай грамадскіх арганізацый. Крапіва як намеснік старшыні аб’яднання не мог заставацца ўбаку і мусіў пад націскам партыйных ідэолагаў мець да гэтага самае цеснае дачыненне. Але нават з улікам таго, што гэта былі жудасныя па сваёй злачынна-езуіцкай сутнасці часы, падобны факт прымушае задумацца над лёсам многіх і многіх ахвяр і памагатых сталінскага тэрору, паразважаць над складанымі пытаннямі, якія тычацца адказнасці чалавека за свой выбар, за здраду сваім жыццём прынцыпам і перакананням, за маладушша, угодніцтва, прыстасавальніцтва, якія, у рэшце рэшт, могуць прывесці да непапраўнага, скалечыць і зламаць чалавечыя лёсы і жыцці. Пэўным застаецца адно: дзеянні і ўчынкі, якія ідуць у разрэз з агульнапрызнаным кодэксам жыцця, з сумленнасцю, адказнасцю, чалавечай высакароднасцю і супярэчаць захаванню годнасці чалавека, несумненна падпадаюць у разрад амаральных, антычалавечых, злачынных.

Так сталася, што мне нядаўна давялося гартаць справу майго дзеда Дубаневіча Каятана Антонавіча, якога арыштавалі па даносе зласліўцаў-суседзяў. Дзед быў прысуджаны да вышэйшай меры пакарання за шпіянаж на карысць буржуазнай Польшчы. Яго расстралялі 5 кастрычніка 1938 года. Верагодна, у Курапатах. Са справы вынікала: з усімі абвінавачваннямі, якія да яго былі прад’яўлены, дзед пагадзіўся, хоць належныя ў такой сітуацыі доказы ў справе адсутнічаюць. Можна толькі здагадвацца, што быў вымушаны перажыць мой дзед, што перанесці, каб самому сабе падпісаць смяротны прысуд. Памяці дзеда — ахвяры сталінскага тэрору — я прысвяціў «Паэму мужнасці і ганьбы» (зб. «Сярод блукаючых планет» (2014), дзе ёсць такія радкі:

Я знаю, што пісаў Міхась Чарот
На шэрых сценах казёмата:

«Мае палі,
Мае бары, —
Кажу вам — я не вінаваты,
Паверце — я не вінаваты».

Мне лёс вядомы тысячаў такіх,
Як ён, сыноў, нявінна скатаваных…
Шчымяць яшчэ дасюль на сэрцы раны
За ўсіх, за ўсіх пакутнікаў святых,

Каму з-за лютай хцівасці людской
Й нянавісці змяіна-падкалоднай
Прыстаўлены быў жудаснай парой
Ярлык прысудны «ворага народа».

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я бачу следчага. Паперы. Грузны стол.
І тэкст, што напісаны быў па-руску…
…А сфальсіфікаваны пратакол
Дзед падпісаў усё ж па-беларуску!

Ды словы, што чытаў я там, — чужыя:
Не мог ніяк ён сведчыць так, казаць.
Бо толькі катаваннем страшным тыя
Маглі «прызнанне» гэта атрымаць.

Мне, як ніколі, моташна было,
Было нясцерпна крыўдна і балюча,
Што анічога не дапамагло
Унікнуць дзеду смерці немінучай.

Я змог сабе ўявіць, што думаў ён
У ноч апошнюю перад світаннем:
Глыбока-роспачны, бездапаможны стогн
З грудзей ішоў — як жаль, як шкадаванне

Свайго жыцця кароткага, як сон,
І трох дачушак — любых, галасістых.
Як шкадаваў, бядотны, жонку ён
І сына свайго Міцю-гарманіста!..

Хай усяго ставала па жыцці —
Не пеставала дужа доля злая,
Але цяпер гатоў ён быў паўзці,
Каб вырвацца, каб жыць! — я гэта знаю.

Знясілены, зняможаны — пытаў:
— За што, за што мне гэтыя пакуты?
Ды немаччу знядужліваю скуты,
Адказ на гэта ён не атрымаў. [с. 64—66]

І мой дзед Каятан, і Крапіва жылі ў скрутныя, жудасныя часы. Камусьці з іх пашэнціла больш, камусьці — менш. Але якім коштам! Здавалася б, за гэтыя доўгія гады мы сталі разумнейшымі, здолелі пераасэнсаваць тое, што не можа

ўкласціся ў звычайнае чалавечае разуменне. Але даводзіцца канстатаваць, што і зараз мы жывём у няпросты час, калі надзвычай ускладніліся сацыяльныя і гуманітарныя праблемы, і, што не можа не насцярожваць, набірае сваю моц неабарачальны працэс дэгуманізацыі сацыяльных і міжасобасных адносін, дэвальвацыі агульнапрынятых норм сужыцця ўвогуле. І што б ні гаварылі, якія б аргументы ці контраргументы ні прыводзілі на гэты конт, пэўным застаецца адно: па ўласнай ахвоце або міжволі віною ўсяму стаўся чалавек, не без удзелу якога само жыццё, існаванне прыроды і соцыуму апынулася ля небяспечнай мяжы.

Культ спажывальніцтва і накаплення замяніў усе зямныя дабрачыннасці. У пагоні за матэрыяльным дабрабытам, у пакланенні залатому цяльцу мы спакваля пачынаем забывацца пра сваё існае зямное прызначэнне, пра сваю духоўную, крэўна-зямную прыроду. Праявы духоўна-маральнага крызісу можна назіраць на звычайным побытавым узроўні, у сферы паўсядзённых зносін. У чым, спытаеце вы, прычына той нясцерпнай раздражнёнасці, азлобленасці, што назіраецца ў грамадстве? Хтосьці наўпрост бачыць у гэтым прамое следства глабалізацыйных працэсаў, якія істотным чынам уплываюць на свядомасць людзей, іх дзеянні і ўчынкі. Іншыя даводзяць, што татальнае пагаршэнне ўнутранага самапачування сучаснага чалавека ідзе ад пачуцця пратэстуючай незадаволенасці, ад жадання набыць цэлае суквецце задавальненняў, прыкладаючы мінімум намаганняў або проста чакаючы дабротаў як манны нябеснай, не ахвяруючы дзеля гэтага абсалютна нічым. Філасофія «лёгкага жыцця», марнатраўства і паразітуючага геданізму марудна, але паступова раз’ядае душы, аддаляючы ад вякамі правераных, здаровых пачаткаў жыцця. Усёдазволенасць — найперш у плане ўнутранай разбэшчанасці — становіцца гіпертрафаванай самамэтай, самазададзенасцю. Мы ўсё часцей імкнёмся сцвердзіць сябе праз усёадмаўленне, гіперкрытыцызм, ігнараванне агульнапрынятых норм грамадскага сужыцця. Але, як падаецца, гэта даволі неабачлівы, рызыкоўны, а то нават і шкодны прыём і спосаб вызваліць сябе ад усіх абавязкаў — унутрысямейных, сяброўскіх, грамадскіх, грамадзянскіх нарэшце. І нічога не прапанаваць пазітыўнага ўзамен.

Праз татальнае адмаўленне ўзрошчваецца самы што ні на ёсць сацыяльны нігілізм, нежаданне і няўменне знайсці сваё месца ў жыцці і зрабіць штосьці карыснае для грамадства. Самае страшнае ва ўсім гэтым, што катастрафічна страчваецца пераемнасць часоў, пакаленняў, родаў, слабее і рвецца сямейная повязь. Іх замяняе або індывідуалістычная асабістая замкнёнасць, або тусовачны ці нейкі іншы групавы інтарэс, які далёка не заўсёды нясе ў сабе пазітыўную інтэнцыю. Ніхто ні аб чым сур’ёзна не задумваецца: жыццё набывае падабенства гульні-забавы, дзе шмат месца адведзена бесшабашнаму эскапізму і групавым разборкам, слэнгаваму пустаслоўю і бязмэтаваму баўленню часу.

Спрычыненасць да агульняпрынятых прынцыпаў і норм, перакананняў і ідэй, якія складаюць аснову, базіс грамадскай структуры (калектыўны сімвалічны капітал), дазваляе сцэментаваць, злучыць у адзінае цэлае розныя часткі сацыяльнага арганізма, кансалідаваць грамадства, актывізаваць працэс нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, а тым самым і дасягнуць духоўнага адзінства. У сённяшняй сацыякультурнай прасторы з яе імклівым разгортваннем працэсаў глабалізацыі праблему нацыянальнай ідэнтычнасці варта аднесці ў разрад праблем асобага стратэгічнага кірунку. Пры шматвектарнасці падыходаў і трактовак (часам неадназначных, а то і палярных) варта пагадзіцца з тым, што чалавек у ХХІ стагоддзі не павінен стаць «закладнікам», а тым больш «ахвярай» глабальных працэсаў, наўпрост звязаных з небяспечнымі праявамі ніveліравання, стандартызацыі асобы як носьбіта індывідуальнага пачатку. Выказаная перасцярога набывае асаблівае значэнне і першаступенную важнасць ва ўмовах духоўна-культурнага крызісу, глыбокай сацыяльнай дыферэнцыяцыі і палярызацыі, дэвальвацыі і размывання гістарычна ўсталяваных (канстытуяваных), выпрацаваных у працэсе культурагенеза сацыяльных каштоў-

насцей і грамадскіх практык. Іх вольнае або міжвольнае ігнараванне ці адмаўленне непапраўна ўплывае на ўнутрана-псіхалагічны стан чалавека, які, пазбаўлены надзейнага духоўнага апірышча, паступова мімікрыруе, звыкаецца з адсутнасцю цвёрдага жыццёвага стрыжня, незаўважна для сябе адаптуецца, прыстасоўваецца да інертнага ладу жыцця, успрымаючы свой стан як аб'ектыўную дадзенасць, і, у выніку, дэградуе, страчваючы сваю самаідэнтычнасць. Адмаўленне ад прынятай грамадствам сістэмы каштоўнасцей, у выніку разбурэння сацыяльна-культурных міфалагем, вядзе да пазбаўлення калектыўнай сацыяльнай памяці, парушэння арганічнай узаемасувязі традыцый як асновы культурна-гістарычнай пераемнасці грамадства ў цэлым.

У гэтай сувязі нельга пагадзіцца з навязлівай ідэяй новага сусветнага беспарадку, узрастання хаосу як праяў «свабоднага», альтэрнатыўнага развіцця грамадства і асобы. Падобныя заявы пярэчаць сутнаснай прыродзе чалавека, у якім жыве адвечная невыкараняльная імкнёнасць да ўгрунтаванасці, стабільнасці, устойлівасці светабудовы і ўласнай суверэннасці. Успрыманне свету як упарадкаванай і структурна арганізаванай цэласнасці, якая развіваецца па сваіх аб'ектыўных законах і заканамернасцях, дабратворна ўплывае на біяпсіхалагічны статус індывідуума, дапамагае яму ўсвядоміць сваё месца ў сістэме грамадскіх і сацыякультурных адносін. Менавіта прытрымліванне родава-генетычных «культурных праграм» як базавых механізмаў самазахавання і самаўзнаўлення гістарычнага вопыту дазваляе пэўным чынам структурыраваць, алгарытмізаваць свядомасць, актывізаваць яе стваральную дамінанту, надаўшы ёй каштоўнасны змест і сэнс, выпрацаваць аптымальную стратэгію дзеянняў і паводзін.

Мы звычайна сарамліва замоўчваем, мякка кажучы, неэтычныя, антымаральныя праявы, якія маюць месца ў нашай сённяшняй рэальнасці. Але яны не такія бяскрыўдныя і дробязныя, як гэта можа падасца на першы погляд. Наадварот, іх варта аднесці да пагражальна дэстабілізуючых, дэструктыўных фактараў, якія згубна ўплываюць на псіха-эмацыянальны баланс асобы як аб'екта духоўнага тэрарызму, груба парушаючы яго жыццёва важныя інтарэсы і правы як чалавека і грамадзяніна. Думаецца, нацыянальная бяспека з улікам маючых месца ў нашым жыцці каштоўнасна-светапоглядных, ментальных трансфармацый, не павінна зводзіцца толькі да неабходнасці абароны ад знешніх пагроз. Сапраўды стратэгічнае значэнне набывае ў гэтай сувязі ўласна форма, умовы і характар развіцця сацыяльных і міжасабовых адносін, іх ступень адпаведнасці этычнаму кодэксу. Ва ўмовах нарастаючай дэгуманізацыі чалавечых адносін, зніжэння ўзроўню духоўна-маральнай культуры важна ўзмацніць гуманістычную дамінанту, не страціць веру ў стваральныя пачаткі жыцця, вярнуць чалавеку яго сапраўдную сутнасць і прызначэнне, скіраваць на шлях духоўнага ўдасканалення і ўзвышэння.

У сітуацыі актывізацыі антыграмадскіх праяў, жорсткасці і гвалту асобую значнасць і важнасць набывае праблема захавання ментальнага, духоўнага свету сучаснага чалавека, яго каштоўнасных арыентацый, маральных якасцей, актыўнай грамадзянскай пазіцыі. Ужо на павестку дня становіцца задача «ачалавечвання» чалавека, наўпрост звязаная з больш наступальным культываваннем яго асабістай душэўнай прасторы, агульнапрынятых норм маралі, этыкі, — усяго таго, што павінна мацаваць стрыжань унутранага свету чалавека, пазітыўна ўплываць на яго эмацыянальна-пачуццёвы стан, сэнсажыццёвыя арыентацыі, перакананні, учынкі і паводзіны.

Думаецца, менавіта такія ці падобныя ідэі ўтрымліваюць у сабе шматлікія творы Крапівы. Пісьменнік-сатырык і драматург, прыцягваючы разнастайны арсенал мастацка-выяўленчых сродкаў сатырычнага пісьма, імкнуўся дайсці да сутнасці любой грамадска-небяспечнай з'явы, выкрыць яе і вынесці ёй свой жорсткі прысуд. І зараз, у эпоху інфармацыйных тэхналогій, татальнай віртуалізацыі рэчаіснасці ідэалы дабра, спагадлівасці, сардэчнага водгуку, любові, сяброўства,

сямейныя каштоўнасці, якія станавіліся ў цэнтры ўвагі роздумаў класіка беларускай літаратуры, не страцілі свайго значэння, як і лепшыя яго творы, пазначаныя пафасам маральнага ачышчэння, пазбаўлення ад усяго нізкага, пошлага, наноснага, што так перашкаджае сапраўднаму адраджэнню менавіта чалавечых якасцей асобы, паўнавартаснаму развіццю грамадства, нацыі.

## Спіс літаратуры:

1. Гніламёдаў, У. На шляху да «Брамы неўміручасці»: Кандрат Крапіва і яго роля ў беларускай літаратуры / У. Гніламёдаў // Роднае слова. — 1997. — № 12. — С. 3 — 12.

2. Драздова, З. У. Творчасць А. Мрыя і Л. Калюгі: Стылявыя асаблівасці / З. У. Драздова. — Мінск: Белар. навука, 1997. — 232 с.

3. Кожем'якіна, О. М. Культура довіри як цінність громадянського суспільства / О. М. Кожем'якіна// Практична філософія. — 2008. — № 1. — С. 93—99.

4. Крапіва, К. Выбр. тв.: У 2 т. — Т. 1. Вершы, байкі, эпіграмы, паэмы, апавяданні, фельетоны, памфлеты, аўтабіяграфія / Прадм. І. Навуменкі / К. Крапіва. — Мінск: Маст. літ. 1980. — 567 с.

5. Мельнікава, З. Выпрабаванне сучаснасцю. Перачытваючы творы К. Крапівы 20—30-х гадоў / З. Мельнікава // Беларуская літаратура. У святле новых фактаў і назіранняў. Брэст, 1996. — Вып. 1. — С. 165—176.

6. Навуменка, П. Невядомы Крапіва / П. Навуменка // Роднае слова. — 1991. — № 3.

7. Павловская, О. А., Павловская С. В. Человек как объект и субъект глобальной безопасности / О. А. Павловская, С. В. Павловская // Безопасность Беларуси в гуманитарной сфере: социокультурные и духовно-нравственные проблемы. — Минск: Беларус. навука, 2010. — С. 13—33.

8. Сабалеўскі, А. Кандрат Крапіва: Нарыс жыцця і творчасці: Для сярэд. і ст. шк. узросту / А. Сабалеўскі. — Мінск: Нар. асвета, 1989. — 222 с.

Іван САВЕРЧАНКА

# СІНКРЭТЫЗМ ЯК МАСТАЦКІ СТЫЛЬ І ЭПОХА

Для нацыянальнага прыгожага пісьменства апошніх дваццаці гадоў характэрны ўніверсальны сінтэз разнастайных ідэйна-філасофскіх і эстэтычных плыняў, максімальна шырокі ідэйна-тэматычны дыяпазон, паглыбленае мастацкае асэнсаванне шматлікіх праблем — лакальных, нацыянальных і глабальных. Майстры слова выкарыстоўваюць увесь наяўны дыяпазон літаратурных родаў, відаў і жанраў. Дзеля вырашэння мастацкіх задач сучасныя празаікі, паэты, драматургі і публіцысты актыўна ўдасканальваюць традыцыйныя формы і ствараюць новыя жанравыя разнавіднасці, як правіла, сінкрэтычныя паводле іх унутранай будовы і поліфанічныя паводле логікі выкладу мастацкага матэрыялу.

## I

Даволі актыўна развіваецца нацыянальны *раман*, які не толькі не згінуў, як прагназавалі скептыкі, але і набыў якасна новыя мадыфікацыі, адпаведныя часу і новым эстэтычным запатрабаванням. Цыкл яркіх раманаў стварыў *Алесь Савіцкі.* Асабліва каштоўны яго апошні эпічны твор — «Пісьмо ў Рай», вызначаны самім пісьменнікам як «раман-споведзь». Паводле зместу ён з’яўляецца ўзнёслым маленнем, адрасаваным памерламу бацьку. У жанравым плане «Пісьмо ў Рай» уяўляе сабой сінтэз мастацкага і дакументальнага пачаткаў, аповед у ім вядзецца ад імя лірычнага героя — Андрэя Смоліча.

Алесь Савіцкі ўсебакова асэнсоўвае трагічны лёс беларускай нацыі падчас вайны і ў пасляваенны перыяд. Унутраным зрокам пісьменнік паказвае супярэчлівую і драматычную эпоху, аглядае ўласнае пражытае жыццё і лёсы блізкіх яму людзей, з вышыні часу аналізуе розныя эпізоды і сітуацыі, у якія трапляў паводле асабістага жадання ці, часцей, па волі выпадку. Аповед у рамане часта перарываецца пранікнёнымі зваротамі галоўнага героя да памерлага бацькі, развагамі пра яго цяжкі лёс.

На старонках твора пісьменнік шматкроць згадвае шматлікія эпізоды з партызанскага жыцця, перадае ўласнае ўзрушэнне падчас наведвання месцаў колішніх бітваў. У яго памяці ўсплываюць найбольш яркія моманты змагання з фашысцкімі захопнікамі. Вельмі павучальныя ўражанні А. Савіцкага ад наведвання Германіі і знаёмства з колішнім салдатам вермахта, які ў гады вайны трапіў у савецкі палон, але здолеў выжыць і вярнуцца дамоў. Яго жыццё вельмі кантраставала з жыццём тых, хто перамог фашызм, бо яго ніхто не дакараў і нічым не папракаў.

Як пісьменнік-рэаліст А. Савіцкі паказаў драматызм жыцця — акупацыю немцамі Беларусі, бежанства людзей на ўсход, вяртанне на захопленую ворагам тэрыторыю, перыпетыі ваеннага часу. Пісьменнік раскрыў трагедыю людзей, лёсы якіх зламаны вайной і сталінскімі рэпрэсіямі. Так, бацька галоўнага героя

Смоліча быў асуджаны на пяць гадоў і адпраўлены ў лагер толькі за тое, што трапіў у палон, не змог застрэліцца, бо ў нагане скончыліся патроны.

Асабліва пакутлівым быў лёс дзяўчат і маладых жанчын, якія аказаліся на акупаванай тэрыторыі і прайшлі праз неверагодныя здзекі. Маналог маладой жанчыны Жаны — сведчанне жахаў, якія прынесла вайна і фашызм на беларускую зямлю. Не менш трагічным аказалася жыццё дзяўчыны падчас вяртання бальшавікоў і чэкістаў, якія прагнулі кантраляваць усё грамадства. Душэўныя пакуты і ўнутраны боль жанчыны аказаліся мацнейшыя за прагу да жыцця і яна, урэшце, рашылася на самагубства.

Раман-споведзь «Пісьмо ў Рай» адрозніваецца асаблівым псіхалагізмам, ён незвычайна эмацыянальны, напоўнены людскім болем, роспаччу і невымернай тугой. Сцэна атрымання ліста ад жывога бацькі, якога лічылі без весткі прапаўшым у сорак першым годзе, уражвае глыбінёй перажыванняў герояў. А. Савіцкі бліскуча перадаў пакуты сям'і салдата-франтавіка, які быў несправядліва сасланы ў лагер на востраў Пуцяцін, што ў Японскім моры. Пісьменнік распавядае пра балючыя перажыванні маці, якая страціла мужа і двух сыноў. Пасля гэтай трагедыі жыццё для яе перастала мець ўсялякі сэнс.

Паказаны неверагодны боль, бясконцая крыўда і адчай юнака, які атрымаў чорную вестку аб смерці бацькі ў лагеры. Разгублены Андрэй Смоліч адчувае безвыходнасць і поўную бездапаможнасць, не ведае, што рабіць, каму скардзіцца, каго прасіць і каго вінаваціць. Да глыбіні душы ён узрушаны і пасля наведвання лагера ваеннапалонных чырвонаармейцаў у Баравусе. Убачанае і пачутае там, урэзалася ў яго памяць на ўсё жыццё. Небывалы душэўны боль зазнаў Андрэй Смоліч, калі даведаўся праўду пра дзяўчыну, якую пакахаў усім сэрцам.

На старонках рамана-споведзі А. Савіцкі надзвычай дэталёва асвятліў працэс развітання з ілюзіямі тых людзей, якія шчыра верылі ў непагрэшнасць Сталіна. Пісьменнік гістарычна дакладна піша аб тым, што ў перыяд кіравання Сталіна, Хрушчова і Брэжнева адукаваныя людзі выдатна бачылі рэаліі і ўсведамлялі сутнасць афіцыйнай прапаганды, якая прыхарошвала рэчаіснасць. Яны прыходзілі да смелай высновы аб тым, што палітыкі хаваюць праўду ад народа, а ў сваіх заявах і дзеяннях кіруюцца пераважна ўласнымі інтарэсамі.

Як непасрэдны сведка многіх падзей А. Савіцкі вынес прысуд звыродліваму таталітарнаму рэжыму і эксперыментам бальшавікоў, якія зламалі мільёны чалавечых лёсаў і пазбавілі людзей права на шчасце. Аўтар праўдзіва паказаў жудасныя вынікі сталінскага таталітарызму, з яго лагерамі і турмамі, дзе страцілі жыцці тысячы і мільёны нявінных людзей. На думку А. Савіцкага, якраз несправядлівасць, хлусня і падман загубілі савецкую цывілізацыю. Тыя, хто безаглядна верыў «правадыру», глыбока памыляліся, бо ён разам з яго атачэннем збудаваў жахлівую сістэму, якой не было аніякай справы да ўсталявання справядлівасці і клопатаў пра канкрэтнага чалавека.

Пісьменнік шчыра клапоціцца пра лёс новых пакаленняў, імкнецца данесці да іх галоўныя ўрокі, здабытыя ўласнай крывёю, сфармуляваць выразныя крытэрыі, паводле якіх варта будаваць справядлівае грамадства. Аўтар рамана-споведзі абураўся пасляваеннымі праявамі дыскрымінацыі ў адносінах да беларускай моладзі, якая аказалася пад нямецкай акупацыяй. Напрыклад, юнакоў не прымалі ў вайсковыя вучылішчы, хоць яны мелі шчырае жаданне служыць Радзіме і, канешне, нават з-за ўзросту, аніяк не маглі супрацоўнічаць з фашысцкімі ўладамі, у чым іх беспадстаўна падазравалі.

Выдатны майстар слова шчодра дзеліцца з чытачом жыццёвым досведам і набытымі ведамі. Найперш, ён слушна адзначыў, што важнейшы стымул у дзейнасці кожнага чалавека, невычэрпная крыніца яго стваральнай энергіі — гэта вера ў светлы пачатак, духоўныя ідэалы, без якіх чалавек і грамадства не могуць жыць.

А. Савіцкі — прыхільнік пазітыўнага ўспрымання жыцця, ён бачыць прыгажосць зямлі, яе прыдатнасць для людскога шчасця і радасці. Вуснамі маці галоўнага героя адзначае дзіўную прывабнасць свету і бясконцасць жыцця: «Усё, што адбылося на зямлі да цябе, было дзеля цябе, і ты з'яўляешся на гэты свет, каб здзівіцца гэтаму свету і зрабіцца яго працягам».

Пісьменнік-інтэлектуал разважае над складанасцямі чалавечага лёсу і, урэшце, прыходзіць да высновы пра неабходнасць даравання, прымірэння, нават паміж самымі лютымі і заклятымі ворагамі. Ён выступае супраць фальшу і падману ва ўсіх сферах жыцця — у палітыцы, у адносінах паміж народамі, паміж сябрамі і каханымі. Хлусня, паводле яго слоў, заўжды вядзе да варажнечы, непазбежных разбурэнняў і страт. У асабістым і сямейным жыцці, падман і хлусня тым больш недапушчальныя, бо яны разбураюць давер і аснову жыцця.

Для А. Савіцкага вельмі важна сцвердзіць думку аб тым, што ўрокі трагічнага мінулага ніхто і ніколі не павінен забываць. Ён спасылаецца на далёкую і найноўшую гісторыю, заклікае людзей быць пільнымі і адказнымі: «Адзін з найгалоўнейшых і горкіх урокаў блізкага і далёкага мінулага знітаваны ў выснове простай і неабвержнай: удзень і ўночы, кожны раз, заўжды, дарагі чалавеча, калі твае рукі цягнуцца да зброі з мэтаю прыдбаць, захапіць, — яны цягнуцца да бяды, якая няўмольна ўзнікае і туліцца ў цябе за плячыма». Са скрухай у сэрцы творца піша пра незлічоныя ахвяры вайны, якая забрала жыцці мільёнаў здольных і таленавітых людзей, прынесла страшэнныя пакуты і боль, велізарныя страты і разбурэнні.

Алесь Савіцкі прыйшоў да высновы, што галоўная місія людзей на зямлі — тварыць дабро, займацца стваральнай працай, дбаць пра выхаванне дзяцей, клапаціцца пра будучыню. Андрэй Смоліч упэўнена кажа: «На зямлі для чалавека няма нічога найлепшага, як будаваць дамы, сеяць хлеб, гадаваць дзяцей і штодня сустракаць святло новага дня, бачыць сонца ў блакітнай прасторы неба».

Аўтар рамана-споведзі цвёрда верыць у глыбінную мудрасць народа, здольнасць нацыі да мабілізацыі і кансалідавання ў крытычны момант, каб абараніць краіну і пераадолець знешнія пагрозы. Пры гэтым пісьменнік цалкам справядліва абураўся тым, што дзяржава не заўсёды абараняе годнасць чалавека, гарантуе законныя правы людзей і эфектыўна вырашае канкрэтныя праблемы, у прыватнасці, такія як выкараненне злачыннасці і крыміналу, усталяванне законнасці і неабходнага грамадскага парадку. А. Савіцкі слушна мяркуе, што бяздзейнасць улады і дзяржавы пазбаўляюць чалавека галоўнага — веры ў справядлівасць і чалавечнасць, а гэта непазбежна вядзе краіну да дэградацыі і заняпаду.

Пісьменнік прапагандуе культ сумленнай працы, якая з'яўляецца зарукай поспеху і сапраўднага шчасця. Ён узнёсла піша: «Толькі праца робіць чалавека моцным, загартоўвае, дае сілы ствараць і радавацца, пераконвае ў тым, што небам наканавана яму дарога творцы, а не разбуральніка і знішчальніка». А. Савіцкі клапоціцца аб тым, каб моладзь засвоіла гэтую аксіёму і накіроўвала ўсю сваю энергію на стваральную працу.

Яго вельмі хваляваў лёс беларускай моладзі, знікненне ў маладых людзей ідэалаў і каштоўнасцей. Асаблівае абурэнне выклікаў учынак вандалаў, якія збілі з Кургана Славы дзюралевыя пліты з імёнамі народных мсціўцаў, адлітых у бронзе. Лірычны герой рамана звяртаецца да нябёсаў з малітвай-кленчам пакараць злачынцаў. А. Савіцкі піша пра неабходнасць выхавання ў моладзі грамадзянскай адказнасці, патрыятызму і высокай культуры. Ён абураецца праявамі дзікунства ў грамадстве, праяўленнем крыміналу і насаджэннем ілжывых каштоўнасцей, якія штурхаюць людзей да разбуральнай дзейнасці, вядуць грамадства ў тупік.

Аўтар рамана заклікаў да адказнасці кожнага за лёс краіны, за будучыню роднай зямлі і народа. На яго думку, толькі супольная праца, агульная мужнасць і воля — могуць забяспечыць годнае жыццё асобы і гістарычную перспектыву беларускай нацыі. А. Савіцкі выказвае веру ў асаблівую ролю жанчыны, якая дае жыццё і надзейна аберагае яго. Ён стварыў сапраўдны гімн рукам жанчыны, «генетычна запраграмаваным» на дабрыню, прыгажосць і каханне.

Выказана ўласная мара пра наступленне шчаслівых дзён на Беларусі, выразна акрэслены галоўныя ўмовы шчаслівага жыцця грамадства і краіны. Паводле меркавання А. Савіцкага, надзвычай важна, каб людзі шанавалі сваю зямлю, аберагалі родную мову, былі верныя запаветам прашчураў: «Дзяржава і людзі шчаслівыя ў ёй толькі тады, калі жыццё іх ідзе пад знакам любові да роднай зямлі, пад знакам людской памяці і вернасці запаветам дзядоў і бацькоў, калі песні матчыны таямнічай крынічкай звіняць над калыскай, калі святыя паняцці — Народ, Вернасць, Бацькаўшчына — не проста гучаць у святочныя дні на вуліцах і плошчах, а штодня жывуць у душы кожнага сумленнага чалавека, і не проста патрэбны, а неабходны яму, як паветра, як вада і сонца».

Мудрасць, веды і досвед продкаў, на думку пісьменніка — асноўны стрыжань паўнавартаснага працягу жыцця. Ён слушна гаворыць аб неабходнасці шанавання народных святыняў, зберажэння запаветаў бацькоў і дзядоў, павагі да зробленага і створанага імі: «Цяпер ведаю дакладна: калі чалавек не моліцца памяці бацькоў і дзядоў, калі не ахоўвае святыні свайго народа, дык на ягонай дарозе ружы не зацвітуць ніколі». А. Савіцкі ўпэўнены, што чалавек прыходзіць на зямлю з місіяй памножыць прыгажосць гэтага свету, «каб нязводная на зямлі была толькі радасць».

У заключных частках рамана-споведзі празаік вельмі слушна адзначае пагрозы, якія нясе грамадству, нацыям і простым людзям глабалізацыя. У прыватнасці, яна нівеліруе нацыянальныя культуры, выкараняе народныя традыцыі і бурыць адвечныя каштоўнасці людзей. Справядліва сказана: «Галоўны ўдар тут глабалісцкая пачвара наносіць па нашай веры ў праўду жыцця, па святынях народных, што праменяць зыркае і энергетычнае святло, якое і складае інтэлектуальны падмурак, веліч чалавечага духу».

У рамане ёсць выдатныя пейзажныя замалёўкі, якія дапамагаюць майстру слова перадаць душэўны стан галоўнага героя. Асабліва часта сустракаюцца яркія малюнкі Дзвіны і Палаты, знаёмыя аўтару твора з дзяцінства. А. Савіцкі разам з Андрэем Смолічам адчуваюць глыбінную і непарыўную сувязь з вадой, яе няспынным рухам. Рэкі для А. Савіцкага, сімвалізуюць бясконцасць жыцця. Ён дбае аб тым, каб доўжылася жыццё, каб лёсы людзей не былі азмрочаны войнамі і няшчасцямі. Заключная сцэна рамана — назіранне за хлопчыкам, маленькім рыбачком, які злавіў на вуду вялізнага язя на Палаце і неверагодна шчаслівы ад ўлову — сведчанне непахіснай веры ў добры набытак нашчадкаў.

Раман-споведзь «Пісьмо ў Рай» — вынік шматгадовага роздуму пісьменніка над жыццём, яго духоўны запавет новым пакаленням — зберагаць мір і грамадскі спакой, пры любых абставінах змагацца за праўду і справядлівасць, самааддана служыць Бацькаўшчыне, клапаціцца пра шчасце дзяцей, заўжды заставацца верным свайму народу і роднай зямлі.

*Леанід Левановіч* парадаваў чытачоў творам «Палыновы вецер» (2009), які ў жанравых адносінах з’яўляецца раманам-хронікай. Упершыню ў нацыянальнай прозе мастацкімі сродкамі аб’ёмна паказаны трагічны перыяд жыцця беларускага народа пасля Чарнобыльскай аварыі. Як пісьменнік-рэаліст Л. Левановіч раскрыў маштабы бяды, якая абрынулася на Беларусь разам з Чарнобыльскай катастрофай. Паводле слушнай высновы аўтара, найвялікшая ў гісторыі чалавецтва тэхнагенная аварыя парушыла адвечны лад жыцця людзей, нібы страшэнны смерч, прагнала вяскоўцаў з абжытых месцаў.

Дамінантная рыса рамана «Палыновы вецер» — глыбокае мастацкае асэнсаванне важнейшых грамадска-палітычных падзей пераломнага часу. Л. Левановіч уважліва і ўсебакова прааналізаваў часы перабудовы, дэталёва разгледзеў абставіны і акалічнасці абвяшчэння суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. Вуснамі герояў даў ацэнку розным з'явам і грамадскім дзеячам, выказаў уласнае разуменне складанай логікі гістарычных працэсаў.

Аналізуючы перыяд перабудовы і галоснасці, які пачаўся з прыходам да ўлады Міхаіла Гарбачова, аўтар рамана-хронікі змог аб'ектыўна вытлумачыць вытокі грамадскага і эканамічнага крызісу СССР, прычыны яго тэхналагічнага адставання ад заходніх краін. Цалкам справядліва пісьменнік апеляваў да ранейшых часоў, паказваючы, як крок за крокам у краіне адбываўся захоп улады партыйнай бюракратыяй, якая змагла ўзяць верх над выканаўчымі камітэтамі і саветамі. Л. Левановіч смела асудзіў дыктатуру адной партыі, ён падтрымаў ідэю вяршэнства Канстытуцыі, якая прадугледжвала перавагу агульнанародных інтарэсаў над вузкапартыйнымі.

Да несумненных заслуг Л. Левановіча належыць мастацкае ўзнаўленне атмасферы грамадскіх дыскусій, якія сталіся сімвалам перабудовы і галоснасці. Ён з гумарам піша пра бясконцыя мітынгі, спрэчкі і сваркі, якія, на яго думку, прыносілі не вельмі шмат карысці: «Дый што ўшчуваць, калі ўся краіна засядае, усе вакол крычаць і сварацца, у чэргах на сходах, асабліва дыскутуюць у лазні, бо там усе голыя: не відаць ні пагонаў, ні ордэнаў, ні іншых рэгалій». Вуснамі персанажаў дадзены трапныя ацэнкі дзейнасці дэпутатаў-дэмагогаў, якія прагнулі таннай папулярнасці.

Леанід Левановіч імкнуўся быць гістарычна дакладным. Ён бліскуча выкарыстаў прыём мастацкай паліфаніі, які якраз дазволіў яму раскрыць максімальна шырокі спектр меркаванняў і поглядаў, паказаць увесь дыяпазон грамадскіх думак, прадставіць розныя жыццёвыя філасофіі і палітычныя меркаванні. Так, вуснамі маладога партыйнага лідара Анатоля Раковіча паказаў логіку і грамадскую пазіцыю тых людзей, пераважна прадстаўнікоў партыйна-гаспадарчага актыву, якія выступалі супраць змен, заклікалі «навесці парадак», бо баяліся страціць прывілеі і ўласнае сацыяльнае становішча. Пісьменнік толькі зрэдку наўпрост дэклараваў уласнаю грамадскую пазіцыю.

Вітаецца ўсталяванне ў краіне дэмакратыі і станоўчыя грамадскія перамены. Л. Левановічу вельмі блізкая пазіцыя маладога ляснічага Дзмітрыя Акуліча, які хоць і належыў да мясцовай «эліты», але быў на баку Ельцына, што вёў барацьбу з путчыстамі. Вуснамі героя Бравусава аўтар асудзіў рэваншыстаў, паказаў прымітывізм рэакцыйных сіл, якія дбалі не пра агульграмадскія інтарэсы, а пра захаванне асабістай улады.

У рамане-хроніцы шмат філасофскіх разважанняў і падагульненняў. Вельмі трапна Л. Левановіч сфармуляваў сутнасць нацыянальнай ідэі, якая, на яго думку, павінна прадугледжваць — дзяржаўны сувернітэт, захаванне духоўна-культурнай самабытнасці і развіццё эканомікі дзеля паляпшэння дабрабыту людзей. Аўтар піша пра нязменнасць прыроды чалавека, яго спрадвечны інстынкт мець сваю гаспадарку, асабістую ўласнасць.

Бліскуча асветлены працэс вяртання гістарычнай памяці і нацыянальнай свядомасці беларусаў. Праз вобраз Пятра Махавікова паказана, як паступова ў сэрцах беларусаў мацаваліся патрыятычныя пачуцці і як яны, пасля знаёмства з гістарычнымі працамі і выдатнымі помнікамі нацыянальнай культуры, станавіліся змагарамі за вольную і незалежную Беларусь. Патрыятычныя пачуцці, паводле слушнага меркавання аўтара, натуральная рыса культурнага і адукаванага чалавека.

Слушна пастаўлена пытанне аб неабходнасці пашырэння ў грамадстве беларускай літаратурнай мовы. Андрэй Сахута, былы сакратар абкама, і Пётр Мамута,

колішні настаўнік гісторыі — разважаюць пра лёс роднага слова, яго ролю ва ўмацаванні нацыі і культурна-духоўным жыцці грамадства.

Раману «Палыновы вецер» уласцівы глыбокі псіхалагізм. Не толькі расказаны пра лёсы людзей, але і паказаны іх унутраныя памкненні, жаданні, трывогі і радасці. Аўтар часта вытлумачвае глыбінныя матывы паводзін і ўчынкаў герояў. Найбольш заглыбіўся ён у псіхалогію Косці Вароніна — сына паліцэйскага, колішняга брыгадзіра, які застрэліў свайго крыўдзіцеля Івана Сырадоева, а затым скончыў жыццё самагубствам.

Вельмі пераканаўча Л. Левановіч перадаў душэўны стан людзей, якія засталіся ў Чарнобыльскай зоне. Марына Сахута і яе муж Уладзімір Бравусаў, Пятро Мамута і яго жонка Юзя насуперак бядзе працягваюць жыць, не губляюць аптымізму, працуюць і радуюцца кожнаму дню. Пісьменнік асабліва падкрэсліў асалоду позняга кахання. Ён цудоўна паказаў, як яно змяніла Марыну Сахуту, якая ўжо ні на што не спадзявалася, мяркуючы дажываць свой жаночы век у бацькоўскай хаце.

У рамане шмат народнага гумару і каларытнага смеху, цікавых выслоўяў і показак. Не абыдзены ўвагай камічныя здарэнні, пісьменнік шмат жартуе, яго героі распавядаюць дасціпныя анекдоты. Нямала цудоўных пейзажных замалёвак, апісанняў непаўторных краявідаў уздоўж маляўнічай Бесядзі, грыбных мясцін. Аўтар захапляецца зімовымі і веснавымі пейзажамі, ззяннем і прыгажосцю бабінага лета, неверагоднай магутнасцю прыроды і стыхій. Невыпадкова, раман-хроніка завяршаецца гімнам Ветру, які напоўнены сімваліка-алегарычным сэнсам. Аўтар вітае новы Вецер, радуецца абнаўленню і пераменам, якія адбыліся ў жыцці краіны і грамадства.

Раман-хроніка «Палыновы вецер» — з’ява ў літаратурным жыцці. Мастацкаэстэтычныя і ідэйна-філасофскія вартасці твора несумненныя, а яго гісторыкапазнаваўчае значэнне з часам будзе толькі ўзрастаць.

Выдатны майстар слова *Анатоль Казлоў* стварыў наватарскі «раман-штрыхамі», які выйшаў пад назвай «Юргон». Новая жанравая форма дазволіла А. Казлову ўмела спалучыць дынамізм навелы і маштабнасць эпікі. Героі яго твораў — Юргон, дух бяссілля Вісун, вядзьмак Чорны Гардзей — надзвычай каларытныя і сцэнічныя; яны — безумоўны творчы плён і мастацкая ўдача пісьменніка. У эксперыментальным рамане «Мінск і воран, Парыж і здань» празаік арганічна сінтэзуе рэальны свет і містыку, рацыянальнае і міфалагічнае.

Паэт-віртуоз *Віктар Шніп* прадставіў чытачам «дзённікавы раман паэта», выдадзены асобнай кнігай пад назвай: «Заўтра была адліга» (2015). У жанравым плане ў творы, здаецца, ёсць усё, што назапашана нацыянальным прыгожым пісьменствам — кароткія запісы, згадкі, занатоўкі, уражанні ад убачанага і прачытанага, падарожныя нататкі, вершы, літаратуразнаўчыя разважанні і філасофскія сентэнцыі.

Арганічнае спалучэнне класічных традыцый і наватарства ўласціва раманам *Уладзіміра Гніламёдава* — «Уліс з Прускі», «Расія», «Вяртанне» і раману-дзённіку «Сем гадоў у ЦК». Выключная назіральнасць і глыбокі жыццёвы досвед аўтара дазволілі яму стварыць уласную мастацкую гісторыю Беларусі XX ст., праўдзіва раскрыць лёсы людзей у віхуры зменлівых падзей і абставін.

Яркім творам, набліжаным да рамана, з’яўляецца дзённік *Георгія Марчука*, які ўбачыў свет пад назвай «Салодкія слёзы»(2010). У ім пісьменнік дае надзвычай трапныя ацэнкі буйным грамадскім і палітычным падзеям, згадвае незабыўныя сустрэчы з цікавымі людзьмі, знамянальныя гутаркі з калегамі, разважае пра стан нацыянальнай літаратуры і перспектывы яе развіцця.

## II

Надзвычай хуткімі тэмпамі развіваецца нацыянальная *аповесць*, а таксама малыя эпічныя формы — *навела і апавяданне*. Яны належаць да класічных жанраў сусветнай літаратуры з уласнай эстэтыкай і аўтарскай стратэгіяй, накіраванай на канцэнтраваны выклад мастацкай ідэі. У беларускай літаратуры аповесці і апавяданні з'явіліся на зары фарміравання прыгожага пісьменства і ўжо развіваліся ў перыяд Готыкі, Рэнесансу, Барока і Асветніцтва.

Вытокі беларускай нацыянальнай аповесці і апавядання — у вуснай народнай творчасці. Яны генетычна звязаны з казкамі, легендамі і паданнямі, сярэднявечнымі містычнымі гісторыямі і павучальнымі прыпавесцямі, аповедамі пра надзвычайныя здарэнні і экстраардынарныя падзеі. Як адметныя жанравыя формы прыгожага пісьменства, аповесць і апавяданне надзвычай шырока выкарыстоўваліся ў беларускай класічнай літаратуры XIX—XX стст. Яны займалі выбітнае месца ў творчасці Францішка Багушэвіча, Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага, Уладзіміра Караткевіча, Янкі Брыля, Івана Чыгрынава.

Імклівасць сучаснага жыцця, калейдаскапічная зменлівасць падзей, інфармацыйная перанасычанасць грамадства ствараюць найлепшыя ўмовы для развіцця менавіта кароткіх і сціслых мастацкіх форм. Можна нават гаварыць пра наступленне зорнага часу для беларускай аповесці, навелы і апавядання. Беларускія майстры слова сапраўды маюць значныя творчыя набыткі ў гэтых літаратурных жанрах.

Выключна яркая з'ява нацыянальнай літаратуры — аповесць *Уладзіміра Саламахі* «Расступіся, зямля». У ёй паказваецца трагічны лёс вясковай жанчыны Ліды Печань. Пісьменнік раскрывае ўнутраны стан гераіні, паказвае яе душэўныя пакуты і перажыванні ў розных сітуацыях. У крызісным, цалкам бездапаможным становішчы Ліда Печань апынулася пасля таго, як яе згвалціў Мікалай Костка. Яна ў поўным адчаі, не ведае, што рабіць, не бачыць аніякага выйсця.

Уладзімір Саламаха раскрывае бясконцае гора і сапраўдную трагедыю маці, якая дачасна страціла адзінага сына. Яе плач-малітва на магіле напоўнены адчаем, болем і невымернай скрухай. Пісьменнік аб'ектыўна паказаў, які страшэнны ўрон нанесла вайна вясковаму ўкладу жыцця. Яна зламала людскія лёсы, зрабіла многіх няшчаснымі, чэрствымі, абыякавымі да чужой бяды. Адзінокая ўдава Ліда Печань пакрыўджаная больш за астатніх, яна пакінута і забыта ўсімі.

У. Саламаха праўдзіва адлюстроўвае, што падчас вайны з'явіліся бандыты, сапраўдныя нелюдзі. Некаторыя з іх пад выглядам партызан здзяйснялі злачынствы, гвалцілі жанчын, адбіралі ў людзей маёмасць, прадукты харчавання. Мікалай Костка і Кот — якраз увасабленне зла і чорных сіл. Пасля вайны нягоднікі здолелі не толькі пазбегнуць пакарання і адказнасці за здзейсненае, але і прыпісалі сабе баявыя заслугі і барацьбу з фашыстамі.

Вельмі ўражваюць рэалістычныя старонкі аповесці пра складанае пасляваеннае жыццё ў вёсцы. Людзі жылі ў беднасці, паўсюль панавала п'янства. Пілі трактарысты, леснікі, старшыня сельсавета, участковы міліцыянер. Даволі падрабязна прасочана эвалюцыя кожнага з персанажаў, раскрыты іх лёсы і жыццёвыя пуцявіны, якімі яны прайшлі. Паводле слушнай высновы У. Саламахі, чалавек у зямным жыцці павінен мужна пераадольваць усе выпрабаванні і пры гэтым не страціць чалавечага аблічча, не азлобіцца на людзей, не затаіць крыўды ў сваім сэрцы. Пісьменнік асуджае самагубства, жаданне асобных людзей развітацца з жыццём, каб не цярпець пакуты.

Пранікаючы ў глыбінныя пласты народнага жыцця, У. Саламаха імкнецца адшукаць адказ на пытанне аб тым, якія фактары аказваюць вызначальны ўплыў на фарміраванне асобы. Паводле яго назіранняў, не толькі паходжанне, «кроў»

і рысы характару, але ў значнай ступені — выхаванне і жыццёвыя абставіны прадвызначаюць лёсы людзей, адны з якіх уздымаюцца ўверх, атрымліваюць вялікую ўладу, а іншыя ўсё жыццё змушаны цяжка працаваць і гібець у жабрацтве.

Пісьменнік вельмі шмат працуе над уласным мастацкім стылем. Мова яго твора надзвычай пластычная, кожны сказ і выраз адшліфаваны, дыялогі дакладныя, мастацкія сцэны надзвычай яркія, даведзеныя да дасканаласці.

Уладзімір Саламаха ажыццявіў глыбокае мастацкае асэнсаванне трагічных вынікаў Вялікай Айчыннай вайны для Беларусі і беларускага народа. Менавіта вайна і фашысцкая акупацыя прынеслі незлічоныя беды, няшчасце і гора ў кожную сям'ю. Вораг вынішчыў мільёны здольных і таленавітых людзей, паставіў пад пытанне фізічнае выжыванне беларускай нацыі і на многія дзесяцігоддзі дэфармаваў паўнавартаснае развіццё беларускага грамадства.

Асаблівае месца ў нацыянальнай літаратуры займаюць інтэлектуальныя аповесці і апавяданні *Андрэя Федарэнкі.* Аўтар асэнсоўвае фундаментальныя пытанні быцця, ключавыя сацыяльныя і грамадскія праблемы нашага часу. У апавяданні «Пеля» А. Федарэнка даводзіць, што паміж чалавекам і яго роднымі мясцінамі існуе таямнічая, да канца неразгаданая містычная сувязь. Чалавек перажывае і сумуе, калі пакідае месца, дзе ён нарадзіўся. Пеля (багна) — гэта сімвал радзімы, не надта прывабнай, напоўненай гадзюкамі і смуродам. Але, як аказалася, на справе толькі яна і з'яўляецца трывалым шчытом і надзейнай абаронай. Герой апавядання не загінуў, бо яго затрымала Пеля. Ён не змог у час выбрацца з багны, спазніўся на той аўтобус, які трапіў у страшную аўтакатастрофу. Паводле разваг пісьменніка, родная зямля не толькі вабіць і прыцягвае чалавека, але і абараняе яго праз усё жыццё, выратоўвае ад выпадковай згубы, служыць зарукай выжывання.

У апавяданні «Тупік» А. Федарэнка спрабуе разгадаць феномен прыроды — існаванне душэўна хворых людзей. Косця Тупік — мясцовы юродзівы, які пашкодзіў розум пасля падзення з воза з сенам. Няшчаснага Косцю ўсе цкуюць, з яго здзекуюцца, пасміхваюцца. Але, як заўважае пісьменнік, у людзей з адхіленнямі адкрываецца ўнутраны зрок, з дапамогай якога яны могуць дакладна прадбачыць развіццё падзей. У іх з'яўляюцца прарочыя здольнасці. Акурат абвостраная пачуццёвасць дазваляе Косцю Тупіку беспамылкова вызначыць, што поспех і дабрабыт там, дзе падпісваюцца важныя паперы і ставяцца пячаткі. Вобраз Косці Тупіка — сімвалічны, шматзначны і полісемантычны. Ён, з аднаго боку, — адбітак трагічнай нацыянальнай гісторыі, вынік сацыяльных катаклізмаў і грамадскіх адхіленняў. Але ў ім гэтаксама сфакусаваны выразныя праявы нашага часу, непрыглядныя рысы новых беларусаў, тых недалёкіх манкуртаў, што як агню баяцца «ведаў і навук», але добра арыентуюцца, у якіх офісах дзеляцца грошы.

Вялікі ўнёсак у развіццё малых жанраў зрабіў *Васіль Шырко* — выдатны знаўца вясковага побыту і людзей, якія звязалі ўласны лёс з вёскай і працай на зямлі. Яго цыкл навел, аб'яднаных агульнай назвай «Хай людзі бачаць», — сапраўдная жамчужына нацыянальнай літаратуры. З захапленнем расказана пра жыццё-быццё жыхароў вёскі Чурылава — «беднай на хлеб і багатай на песні». Пісьменнік спрабуе разгадаць таямніцу магічнага прыцягнення родных мясцін, даць адказ на пытанне аб уздзеянні радзімы на лёс чалавека. Аўтар шчыра прызнаецца, што толькі вёска дае яму магчымасць «адпачыць душой, набрацца сілы».

З глыбокай сыноўскай удзячнасцю і душэўнай цеплынёй аўтар піша пра бацькоў — Аляксандра Аляксандравіча і Ніну Васільеўну. Асабістае клапатлівае стаўленне да маці і бацькі, уласны духоўны досвед і ўсведамленне выключнай ролі бацькоў у жыцці кожнай асобы дазволілі пісьменніку зрабіць па-сапраўднаму філасофскае абагульненне-павучанне, выказанае ім у гімнічнай форме:

«Пакуль жывуць бацькі, мы, іх дзеці, усё яшчэ маладыя, і неба высокае, і мары крылатыя, і будні светлыя. Не стане іх, узыдуць на небе зоркамі, а нам на зямлі стане горка і маркотна: апусціцца ніжэй неба, аслабнуць крылы».

Васіль Шырко праўдзіва паказвае розныя бакі сялянскага жыцця. У творы неверагодна шмат карнавальных сцэн, жартаўлівых сюжэтаў, аповедаў пра розныя камічныя здарэнні, як напрыклад, — пра падман рамізнікаў Палікарпам-злодзеем, пра пакепліванні Валодзі Шута над жонкай, пра распусны лад жыцця мясцовага папа, пра дзіўныя паводзіны Кучука, які падчас акупацыі апранаў форму камісара і хадзіў у райцэнтр да немцаў. Пісьменнік невыпадкова акцэнтуе ўвагу на дасціпных жартах, анекдотах, ён слушна бачыць у народным гумары невычэрпную крыніцу жыццёвай энергіі.

Пры гэтым В. Шырко сумленна і аб’ектыўна піша пра нялёгкую долю працаўніка, пра цяжкасці калгаснікаў, асабліва ў пасляваенны час, калі яны плацілі невыносныя падаткі дзяржаве і выконвалі амаль рабскую працу на зямлі. Маналог-споведзь маці пісьменніка — горкія словы праўды пра бязглуздасць у сельскай гаспадарцы і амаль дзікае стаўленне дзяржавы да земляробаў: «Ты вот скажы, ці разумны гаспадар будзе ўвесь ураджай выграбаць са свірна, людзям, якія сеялі, жалі, малацілі, — ні грама, на насенне — ні грама… А ў нас выграбалі. За панамі такога не было». Роздум-меркаванне гераіні набывае сімвалічнае гучанне, успрымаецца як голас усяго народа: «Але ці варта было спяшацца з тымі калгасамі. І мяса б хапала, і хлеба, і рэчкі цяклі б. Цяпер пустая вёска, няма каму рабіць».

Надзвычай каларытная навела «Бузук». Яна напоўнена светлым гумарам, вясёлымі прыгодамі. Галоўны персанаж — ветфельчар Бузук, які атрымаў мянушку яшчэ падчас тэрміновай службы ў войску, карыстаецца глыбокай павагай і пашанай у вяскоўцаў, бо лечыць свойскіх жывёл. Ён сапраўдны народны герой, які заўжды прыходзіць на дапамогу, нікому не адмаўляе і нікога не пакідае сам-насам з бядой.

Васіль Шырко выдатны майстар пейзажу. Ён улюблёны ў родны край, захапляецца яго прыродай — чыстымі рэкамі і роснымі лугамі, яркімі кветкамі і густымі травамі. Нібы гімн гучаць словы пісьменніка пра луг яго дзяцінства, празваны людзьмі Пажарніцай: «І цвітуць, і радуюць вока пяшчотна-духмяныя краскі маёй зямлі беларускай: залатыя і сівыя, самотныя і вясёлыя, але сапраўды неўвядальныя».

Як бачна, у цыкле вясковых апавяданняў «Хай людзі бачаць» вельмі ярка і поўна выявіліся талент і літаратурнае майстэрства В. Шырко. У мастацкай форме пісьменннік прадставіў уласную філасофію народнага жыцця, заснаваную на глыбокай павазе да чалавека працы, на шанаванні нацыянальнай культуры і традыцый, на беражлівым стаўленні да прыроды і навакольнага асяроддзя.

Цыкл яркіх апавяданняў з моцным публіцыстычным пачаткам стварыў *Зіновій Прыгодзіч*. У творы «Бультэр’еры» ён выкрывае безгустоўнасць і дзікія нора-вы, якія пануюць у асяроддзі сучасных «бізнесменаў». Галоўная гераіня Ірына, якая марыць пра сапраўднае каханне, сутыкаецца з амаральнасцю і пошласцю новых гаспадароў жыцця. Яна не згаджаецца з жывёльным стаўленнем да жанчыны, адкрыта пратэстуе супраць знявагі яе годнасці.

У апавяданні «Грошы» З. Прыгодзіч паказвае адмоўнае ўздзеянне дармовых грошай на чалавека. Празмерныя меркантыльнасць і прагнасць, на думку пісьменніка, непазбежна вядуць да маральнай дэградацыі і разбурэння асобы. Апавяданне «А там будзе бачна…» — гімн чалавеку працы. Герой твора — каваль Мікалай Максімавіч Занкавец — настолькі звыкся з любімай справай, што не ўяўляе жыцця без кузні, без штодзённай дапамогі людзям.

Псіхалагічны напрамак у сучаснай прозе актыўна развівае *Юлія Зарэцкая.* У апавяданні «Пакуль б’ецца сэрца» яна паказвае трагедыю беларускай жанчыны,

у якой вайна забрала ўсё — мужа, родных, дачушку. Невымерным болем, смуткам і адчаем напоўнены аповед жанчыны, якая праз шмат год пасля вайны здолела распавесці пра незваротныя страты і цяжкія пакуты. Псіхалогію і ўнутраны свет маладой дзяўчыны, яе мары, чаканні і перажыванні Ю. Зарэцкая выдатна перадае ў апавяданні «Сон».

Глыбокае пранікненне ў духоўны свет сучаснага чалавека характэрна для твораў *Таццяны Мушынскай.* У апавяданні «Дыханне ранняй восені» яна настойліва праводзіць думку аб тым, што чалавек у асабістым жыцці павінен кіравацца не меркантыльнымі разлікамі, а ісці за поклічам сэрца, за каханнем і дзеля абраных пераадольваць усе бар’еры і перашкоды.

Трагічныя вынікі страшнай сацыяльнай хваробы — п’янства — паказвае *Віктар Праўдзін* у апавяданні «Бездань». Герой твора Васіль не вытрымлівае несправядлівасці на працы і пачынае піць. Яго пакідае жонка і, паступова ён дэградуе як асоба. Ён адбірае грошы ў старой маці, беспадстаўна абражае яе і нават выганяе з уласнага дома. Аднойчы, у п’яным угары, выштурхнуў маці на балкон, дзе яна гіне ад холаду. У навеле «Пастка» пісьменнік выкрывае жахлівыя вынікі бракан’ерства, паказвае бессардэчнасць людзей у адносінах да дзікіх жывёл. Сюжэт навелы вельмі драматычны. У пошуках застрэленага бракан’ерамі ласяняці ласіха трапляе ў горад. Яна шукае паратунку, але не знаходзіць яго і гіне ад разрыву сэрца.

Несумненны набытак нацыянальнай літаратуры — казкі, апавяданні і навелы *Георгія Марчука.* Яго малыя літаратурныя формы тэматычна і стылёва надзвычай шматпланавыя. Выключную каштоўнасць уяўляюць, найперш, яго філасофскія казкі і апавяданні, у якіх пісьменнік прадаўжае і развівае нацыянальную традыцыю славутых «казак жыцця» Якуба Коласа.

Цудоўная казка «Добрае сэрца» — мастацкае абгрунтаванне важнай філасофскай сентэнцыі: ніхто не павінен крыўдзіцца на людзей і на ўвесь свет, калі на яго долю выпадаюць цяжкія выпрабаванні. Пісьменнік слушна даводзіць, што людзі, якія ставяць высокія мэты, імкнуцца ў нябёсы, абавязкова сутыкнуцца з бар’ерамі і перашкодамі на ўласным шляху. Зарукай іх перамогі з’яўляецца чалавекалюбства, шчырасць памкненняў і дабрыня ў сэрцах.

Невялікае апавяданне «Апека» — яркае ўвасабленне адметнай сацыяльнай філасофіі Г. Марчука. Паводле яго мастацкай логікі, чалавек прыходзіць на зямлю з пэўнай місіяй, мае высокае прызначэнне. Богам і нябёсамі кожнаму, нават самаму незаўважнаму чалавеку, без прэтэнзій і амбіцый, абавязкова наканавана здзейсніць штосьці адметнае і яркае.

У апавяданні «Булачка» Г. Марчук выказвае надзвычай каштоўную і выключна гуманістычную ідэю аб таленце, схаваным у кожнай асобе. Маці прымушае дачку Аню паступаць у інстытут, кіруючыся меркаваннямі прыстыжу і ўласнымі ўяўленнямі пра шчасце. Але, як высветлілася, дзяўчына мела выключныя пякарскія здольнасці. У выніку, яна з’язджае на далёкі ўсход і недзе губляецца. Галоўная задача бацькоў і педагогаў — робіць цалкам слушную выснову пісьменнік — своечасова ўбачыць талент дзіцяці, дапамагчы яму напоўніцу раскрыцца. Ціск на асобу, прымус у выбары прафесіі — справа безнадзейная і шкодная.

У філасофскай навеле «Хаос» Г. Марчук выступае як мудры дарадца, дасведчаны чалавек. Галоўнай крыніцай пераадолення ўнутраных крызісаў і адчаю ён бачыць у няспынным імкненні тварыць дабро. Пісьменнік дае слушныя парады тым, хто апынуўся ў стане разгубленасці, каго ахапіла паніка: «Што ж застаецца, калі нічога не можа быць тваім — ні багацце, ні ўлада, ні здароўе, ні адносны спакой? Трэба ўзяць у настаўнікі Бога, настроіць сваё сэрца на лад дабрыні, велікадушнасці і рушыць насустрач Хаосу з пастаяннай любоўю ў душы да ўсяго жывога. Пакутаў і смерцяў на гэтым шляху будзе меней у таго,

хто добры. Бессэнсоўна кіраваць жыццём. Трэба толькі назаўсёды ўсвядоміць, што ты сам з'яўляешся прычынаю гора і смерці і прычынаю радасці ды шчасця іншаму».

Георгій Марчук выдатна выбудоўвае прыгодніцкія сюжэты, займальна распавядае пра лёсы людзей, з замілаваннем апісвае прыроду і палескія краявіды. Ён умее цікава перадаць багаты духоўны свет людзей, якія жывуць у правінцыі, аб чым яскрава сведчыць апавяданне «На беразе Гарыні». У гэтым творы вельмі арганічна спалучаюцца ўспаміны дзяцінства і прыгодніцкі сюжэт, трагічнае і камічнае, сур'ёзнае і пацешнае.

Надзвычай удалыя і каштоўныя ў мастацкім плане навелістычныя творы «Ясельда», «Хвароба каралевы», «Як Несцерка злодзея правучыў». У іх умела выкарыстоўваюцца і выпрацоўваюцца гістарычныя паданні і легенды, анекдоты і народныя показкі.

* * *

Як бачна, сучасная беларускія аповесці, навелы і апавяданні тэматычна і стылёва надзвычай разнастайныя. Паводле ідэйна-тэматычных і зместавых дамінантаў вылучаюцца дакументальныя, сацыяльныя, прыгодніцкія, гістарычныя, дэтэктыўныя, пейзажныя, лірычныя, філасофскія, трагічныя, сатырычныя, гумарыстычныя, містычныя, алегарычныя, фантастычныя, міфалагічныя і бытавыя творы малой прозы.

Паглыбляецца мастацкае асэнсаванне падзей Вялікай Айчыннай вайны і яе трагічных вынікаў. Адно з галоўных месцаў у сучасных творах займае тэма кахання. Ажыццяўляецца глыбокі мастацкі аналіз прычын і наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, якая адбілася на лёсе мільёнаў людзей. Аўтары не толькі фіксуюць разнастайныя падзеі, факты і здарэнні, але глыбока пранікаюць у розныя сферы сацыяльнага і грамадскага жыцця, адлюстроўваюць духоўны свет чалавека, спасцігаюць мінулае Беларусі і глыбінныя законы развіцця соцыуму.

Пісьменнікі, як правіла, абапіраюцца на ўласны жыццёвы досвед, шмат чэрпаюць з гістарычных рэалій, а таксама звяртаюцца да фальклору, народных легенд, паданняў і казак, часта выкарыстоўваюць элементы народнай карнавальнай культуры, забаўныя і анекдатычныя гісторыі, запазычваюць і апрацоўваюць універсальныя сюжэты. Увага апавядальнікаў і навелістаў звычайна канцэнтруецца на яркім дзеянні, адметным факце, выбітнай з'яве. Яны засяроджваюцца на ўнутраным стане персанажаў, прасочваюць зрухі ў душы герояў.

Сучасныя беларускія аповесці і апавяданні абапіраюцца на мастацкі досвед і эстэтычныя здабыткі папярэдніх эпох і стыляў. Пры гэтым, у іх істотна ўзмацніліся рэфлексіўнасць, псіхалагізм і трагедыйнасць. Сярод дамінуючых тэндэнцый — імкненне да інтэлектуальнасці, сімваліка-алегарычных абагульненняў і філасофскіх падсумаванняў. Аповесці і апавяданні захоўваюць унутраную сістэмную цэласнасць, застаючыся вельмі прывабнай жанравай формай для майстроў мастацкага слова.

Такім чынам, сучасная беларуская проза развіваецца ў рэчышчы мастацкага сінкрэтызму. Жанравыя вынаходніцтвы, творчыя ўдасканаленні і смелыя мастацка-вобразныя эксперыменты дазваляюць пісьменнікам паспяхова вырашаць пастаўленыя задачы, даносіць да чытача ўласныя мастацкія здабыткі.

**Васіль СУПРУНЕНКА**

# ДЫЯМЕНТ, АДШЛІФАВАНЫ ПРЫ СВЯТЛЕ ЛУЧЫНЫ

Пра пісьменніка, які даўно пайшоў з жыцця, безумоўна, найлепш і найбольш гавораць яго кнігі. Асабліва, калі ў сваіх творах ён не цураўся аўтабіягафічных момантаў. Аднак гэта тады, калі ўсё тычыцца пэўных жыццёвых рэалій, светапогляду аўтара. У астатніх жа выпадках даводзіцца прыслухоўвацца да голасу і меркаванняў тых, хто добра ведаў гэтага творцу. У дачыненні да Майсея Кульбака — не ў меншай ступені. Столькі ж часу мінулася з той пары, калі яго, разам з іншымі пісьменнікамі, расстралялі як ворага народа.

«Ён быў высокі, чорнавалосы, запаволены і скупы ў словах і жэстах», — такія згадкі пра М. Кульбака пакінуў вядомы беларускі крытык Р. Бярозкін. А гэта сведчанне яўрэйскага паэта С. Галкіна: «Сустракаючыся з Кульбакам, цяжка было сказаць, чаго ў ім больш — тонкай пранікလівасці альбо камлюкаватай прастаты, што ў ім свеціцца — бляск дыямента ці полымя смалістай лучыны». І тут жа С. Галкін удакладняе: «Я б сказаў, што пры святле лучыны ён шліфаваў свой дыямент».

Родам М. Кульбак са Смаргоні, а ўпершыню пабачыў свет 20 сакавіка 1896 года. Праўда, як сведчыць Т. Тарасава ў артыкуле, змешчаным у біябібліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі» (т. 3, 1994), па іншых крыніцах нарадзіўся ён пяццю днямі пазней. Паходзіў са старадаўняй яўрэйскай сям'і, цудоўна ведаў родную мову, таму пісаў на ідыш.

Наколькі дружна жылі Кульбакі, якімі працавітымі яны былі, можна даведацца з паэмы «Беларусь», у якой відочны аўтабіяграфічныя моманты:

Мой дзед быў стары мястэчковы яўрэй,
Хадзіў то ў сярмязе, то ў рэпсавым пыльніку.
Меў хату, каня
і сямнаццаць дзяцей
І жыў у Кабыльніку.

У бацькі майго, такім чынам, было
Шаснаццаць братоў —
не малое багацце.
Як сядуць за стол, дык сказаў бы —
сяло
Сабралася ў дзедавай хаце.

І ўсе — плытагоны, карчавікі —
Вазілі калоды, карчы капалі.
Малыя ж, бывала, як тыя снапкі,
У покат, дзе прыйдзецца,
там і спалі.

*(Пер. Язэпа Семяжона.)*

Маленства будучага пісьменніка, як піша Т. Тарасава, прайшло «ў атмасферы стараяўрэйскай рэлігійнасці і містыцызму». У 13-гадовым узросце бацькі аддалі

хлопчыка ў Валожынскі ешыбот. Калі пачалася Першая сусветная вайна, М. Кульбак адразу ж пераехаў у Мінск, дзе экстэрнам здаў экзамен на званне настаўніка. Працаваў у школах і гімназіях Смаргоні, Мінска і Вільні.

На гэты час прыпадае яго захапленне паэзіяй. Наколькі вядома, далёка не кожнаму маладому аўтару ўдаецца лёгка і адразу самасцвердзіцца. Яму ж, можна сказаць, пашанцавала. Як сведчыў Р. Бярозкін, «Кульбак дэбютаваў у 1916 годзе першым вершам «Зорачка», які адразу стаў народнай песняй. Маладому паэту споўнілася тады дваццаць год».

Пасля кастрычніцкіх паадзей М. Кульбак зноў вяртаецца ў Мінск. Ён не толькі прыняў рэвалюцыю, а і ўслаўляў яе ў сваіх творах. Прынамсі, у 1919 годзе з-пад яго пяра з'явілася паэма «Горад» — пафасная, тэмпераментная, з адкрытай публіцыстычнасцю.

У гэты час М. Кульбак настойліва шукае сябе ў жыцці і літаратуры. Шчыра верыць у тое, пра што піша: «Ведайце, // Што мы — народ крамнёвы: // Спапялілі падзямелля змрок. // Мы нясём для свету // Светач новы. // Не спыняем // Пераможны крок» (пер. Сцяпана Гаўрусёва). Гэтая вера выклікала ў яго пастаяннае жаданне знаходзіцца там, дзе — быў упэўнены ён — асабліва неабходна ягоная прысутнасць. Таму ў 1919 годзе, ледзь вызвалілі Вільню ад белапалякаў, паехаў туды ў камандзіроўку. Не ведаў, што тым самым гэтая ягоная камандзіроўка зойме ажно цэлых восем гадоў. Белапалякі зноў занялі Вільню. Вярнуцца ў Мінск М. Кульбак не паспеў, таму застаўся жыць там. Гэты горад ён хутка палюбіў і пачаў лічыць сваім. Пазней паехаў у Берлін, хацеў паступіць ва ўніверсітэт. У Мінск вярнуўся толькі ў 1928 годзе. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет, у Акадэміі навук БССР.

11 верасня 1937 года М. Кульбака арыштавалі як ворага народа, а 29 кастрычніка таго ж, 1937-га, расстралялі.

На шчасце, напісаць паспеў вельмі шмат. І не толькі як паэт, але і як празаік, драматург. Займаўся М. Кульбак і перакладамі. Пераўвасобіў на ідыш асобныя вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, п'есу Мікалая Гогаля «Рэвізор», раман Мікалая Астроўскага «Як гартавалася сталь».

Першы зборнік М. Кульбака «Вершы» выйшаў у Вільні ў 1920 годзе. Потым ў яго пабачылі свет кнігі паэзіі «Вершы» (Берлін, 1922), «Новыя вершы» (Вільня і Варшава, 1922), раманы «Месія сына Эфраіма» (Вільня і Берлін, 1924), «Панядзелак» (Вільня, 1924; Варшава, 1926). У 1929 годзе да чытача прыйшоў трохтомнік «Усе творы Майсея Кульбака», выдадзены ў Вільні. У тым жа годзе яго выбраныя «Вершы і паэмы» з'явіліся ў Мінску. Увогуле, па вяртанні ў сталіцу Беларусі М. Кульбак друкаваўся часта, кнігі яго выходзілі ці не кожны год. Але ўсё гэта выданні на мове ідыш. На даваенны час прыпадаюць толькі дзве публікацыі яго твораў у перакладзе на беларускую мову. Так, Змітрок Бядуля пераўвасобіў пабеларуску ўрывак з рамана «Зельманцы» (першая кніга гэтага твора выйшла ў 1931 годзе ў Харкаве, другая — у Мінску ў 1935-м). І. Плаўнік пераклаў апавяданне М. Кульбака «Радыё». Яно было надрукавана ў газеце «Звязда».

Сучасны ж чытач можа пазнаёміцца з раманам М. Кульбака «Зельманцы» (у 1960 годзе выйшаў у Дзяржаўным выдавецтве БССР у перакладзе на беларускую мову Віталя Вольскага і ў тым жа годзе ва ўсесаюзным выдавецтве «Советский писатель», пераўвасоблены па-руску Р. Баумволь). Нядаўна «Зельманцы» па-беларуску перавыдадзены. Невялікі зборнік паэзіі М. Кульбака «Выбранае» ў 1979 годзе пабачыў свет у выдавецтве «Беларусь».

Не шмат твораў у гэтай кніжцы, ды сабраны акурат тыя з іх, якія даюць уяўленне аб творчасці М. Кульбака як самабытнага паэта. Адразу відаць, што ён і ў вершах, і ў паэмах адштурхоўваўся ад паўсядзённага жыцця, ад тых рэалій, якія добра ведаў. Праўда, быў час, што захапляўся сімвалістамі (дарэчы, не без

іх уплыву напісана і паэма «Горад»), не абмінуў М. Кульбака і імпрэсіяналізм. Ды ўсё гэта выпадковае, няйначай як даніна часу, літаратурнай модзе. Талент М. Кульбака ў сваёй аснове быў рэалістычным. Як паэт, ён цвёрда стаяў на той глебе, якая з'яўлялася апорай і тых, пра каго ён складаў вершы, каму прысвячаў свае паэмы. Гэта былі людзі працы, гэта былі простыя людзі… Яўрэі, беларусы, рускія, прадстаўнікі іншых нацыянальнасцей — яны жылі на адной зямлі ў хаўрусе і згодзе. Праблем ва ўзаемаадносінах між імі, як правіла, не існавала. Безумоўна, гэта былі людзі сумленныя, а яны і з'яўляюцца героямі твораў М. Кульбака.

З першых мастацкіх крокаў ягоная паэзія — гэта паэзія, у якой, па сутнасці, праламляецца сам час. Узяць хоць бы верш «На фабрыцы», што мае падзагаловак «Малюнак з мінулага». М. Кульбак праўдзіва перадае працу тых, хто гадзінамі праводзіць ля станкоў. Усё на дзіва асязальна, значна, выразна і разам з тым гэта дасягаецца ашчадным выкарыстаннем вобразна-выяўленчых сродкаў. Нічога лішняга, усё да месца: «Толькі неба пабляднее — // Горкі спеў прарвецца з вуснаў. // Гоняцца, нібыта змеі, // Рэмні, змазаныя тлуста. // Грукат-гул машынных колаў — // Моцны, сумны, прагавіты. // Пырснуць вогненныя пчолы — Закрычыць руда сярдзіта» (пер. Эдзі Агняцвет).

Паэма ж «Каваль Ёста» вызначаецца, кажучы словамі Р. Бярозкіна, «цэласнасцю, духоўнай сілай, вернасцю народным уяўленням аб дабры і красе». Эпіграфам да твора ўзяты радкі Генрыха Гейнэ: «Я — полымя», а ў цэнтры вобраз каваля-працаўніка. Ёста ад свайго імя прамаўляе і аб годнасці прафесіі, якую выбраў, і аб патрэбнасці яе. Аднак гэтага мала. У паэме важны і іншыя моманты. Ёста пададзены чалавекам агню, чалавекам полымя. Ды не знішчальнага агню, не знішчальнага полымя, а такога агню, такога полымя, якія нясуць чалавеку і ўпэўненасць у яго патрэбнасці на зямлі, і важнасць гэтага моманту, калі паядноўваюцца між сабой прыродная стыхія і стыхія працы — гэткай цяжкой, у нечым знясільваючай, але і такой патрэбнай. Яна ж — як той агонь, што многае можа высвеціць. Увасабленне гэтага агню сам Ёста:

Я ўвесь — агонь.
З агню я, смуглы, з горна,
Таму з агністай чорнай барадой,
З вачыма, што агнём палаюць чорным,
Агонь мой мёртвы — гэта молат мой.
Гарым мы ноччу, калі горан вые,
Гарым па-над жалезам, як браты,
Распрастваемся, як лісты крывыя,
Гарачыя, чырвоныя лісты.
Ўдыхаем жар,
Палаем прамяніста,
Зліваемся ў адзін магутны сплаў,
Каб полымя агнём палала чыстым,
Агонь каб чыстым полымем палаў.
Раўня агню, па сіле брат ягоны,
Я — толькі Ёста паміж двух агнёў…
Браты — агні: я смуглы, ён — чырвоны,
Кідаемся ў абдымкі зноў і зноў.

Само жыццё народнае паўстае і са старонак вышэй ужо згаданай паэмы «Беларусь». Што ні раздзел у ёй, то, як і ў вершах, адчуваецца дакладнасць малюнка, бачыцца пластычнасць выверанага радка.

Майсей Кульбак пісаў пра тое, што добра ведаў, сведкам чаму сам быў з маленства. Для прыкладу, два раздзелы з твора. Першы «Косяць сена». На сенажаці працуюць паэтаў бацька і яго шаснаццаць братоў. Наперадзе ж усіх, канеш-

не, сам іхні бацька, ён жа дзед лірычнага героя. Нібыта чарнявае, смуглявае «войска» сабралася. Праўда, гэтае параўнанне ўзнікае па асацыяцыі. У М. Кульбака яно іншае і, пагодзімся, куды больш дакладнае: «Чаўкаюць босыя ногі па твані. // Цугам — адзін за адным услед. // Быццам іх прашчуры — на Іардані».

Галоўнае ж наперадзе, калі і пачнецца тое, дзеля чаго і прыйшлі ўсе на луг:

І пачынаюць. Што ўзмах, то ж-жах.
Вісне зіпун на лазе сіратліва.
Сыкаюць косы — аж свіст у вушах.
Дзедавы пэйсы ўзлятаюць, як грыва.
А там, у арэшніку недзе, ўсё
Дрозд прадзімае сваю жалейку.
І дзед не стрывае, апусціць кассё
І скажа: — Паслухайце канарэйку.

Дый як жа іначай, калі душа касца-рупліўца прагне хараства?! А пра свайго дзеда М. Кульбак вельмі дакладна скажа ў раздзеле «Гоняць плыты»: «Ён, паэт у душы. // І не промах жывое тварыць. // Сам-насам і з прыродай // Па-свойму ўмеў гаварыць».

Але паэма, зразумела, не пра аднаго дзеда лірычнага героя, а і пра ўвесь паэтаў род. Так і бачыш перад сабой прадстаўнікоў. Быццам увачавідкі прысутнічаюць яны, калі гоняць яны плыты:

А сыны ўжо не спяць —
Пры такім харастве не да сну.
Задзіраюць галовы на сонца,
вітаюць вясну.
І плывуць Кульбакі-плытагоны
пад бору птушынага гоман.
Праплываюць Вілію. Уплываюць у Нёман.

У раздзеле ж «Дзядзька Абрам на начлезе» з адным з Кульбакоў знаёмімся бліжэй: «У дзеда ўсе не гультаі, не лежні: // Брат брату рад падсобіць, памагчы. // Адзін Абрам сярод сыноў — начлежнік, // Яго занятак — выпас штоначы».

Якая ж чулая і адкрытая душа ў яго, наколькі яна гатова ўвабраць у сябе ўсё наваколле! А яшчэ душа гэтая — закаханая. І ў тое ж наваколле, і ў любую дзяўчыну. Не спіцца Абраму. Узіраецца ў начное неба, загадвае на чарговую зорку, што падае: «Няўжо мая шчаслівая?»

Чуйная душа ў яго. Чуйная і да таго лірычная, што проста не верыцца, што на падобныя перажыванні Абрам здатны. Але гэта так, бо дзе сапраўднае каханне — там і пэўная непрадказальнасць учынкаў, выяўлення пачуццяў:

Яго кудысь цягнула. Праз сутонне
Ён у туман нырнуў, і ў тумане
Знайшоў свайго буланага між коней,
Агледзеў пута, ляпнуў па спіне.

І па вільготнай грыве так пяшчотна
Пагладзіў, быццам па ручайках кос.
Ужо падняўся ветах і самотна
Іскрыўся на шчацэ, сырой ад слёз.

Ён плакаў, а душа нібы спявала
Журботная, як няўцешная ўдава.
Настасся, эх, Настасся — пакахала,
А між табой і мною — светы два!..

Ды будзе ўсё ж спатканне. І будуць хвіліны, якія немагчыма перадаць словамі. Але М. Кульбак дасягае немагчымага:

Ах, прыгоды юнацтва,
Залёты начныя,
Пацалункі — аж хустка з плячэй.
І ў шчасівых спатканні да хмелю гарачыя,
А ў няшчасных —
Яшчэ гарачэй.

*(Пер. паэмы Язэпа Семяжона.)*

Умеў М. Кульбак быць лірыкам — тонкім, шчырым, непасрэдным. Яшчэ як умеў! Як у гэтым невялікім вершы: «Снягі. Снягі. Святло ад зоркі вострае, як крык. // Месяц жоўклы. // За трыдзевяць зямель кладзе дзіця на журавік // Мая жонка. Рыдае скрыпка сіняя і снежная віяланчэль. // Які вецер! Мяне мой сын прысніць за трыдзевяць зямель // І ў сне смяецца» (пер. Васіля Макарэвіча).

Аднак М. Кульбак быў не менш таленавітым і паэтам-публіцыстам. Маю на ўвазе не тыя вершы-аднадзёнкі, што пісаліся ім у духу свайго часу. Сцвярджаць аб ягоных набытках у гэтым кірунку дае падставы сваімі лепшымі радкамі паэма «Дзісненскі Чайльд Гарольд». У ёй аўтар папярэджвае, да чаго можа прывесці фашызм, які тады паступова ўзнімаў сваю галаву ў Германіі.

З празаічных твораў М. Кульбака, як ужо гаварылася, сучаснаму чытачу вядомы раман «Зельманцы». І гэта невыпадкова. І В. Вольскі, і Р. Баумволь для перакладу выбралі лепшы твор пісьменніка. Што тычыцца раманаў «Месія сына Эфраіма» і «Панядзелак», дык у іх адчувальны рэлігійныя і містычныя погляды М. Кульбака, а сам матэрыял належным чынам «неарганізаваны», над мастацкасцю нярэдка пераважае звычайнае абгрунтаванне той ці іншай думкі.

Ёсць пэўныя пралікі і ў рамане «Зельманцы». Прычына іх з'яўлення хутчэй за ўсё ў творчай маладосці пісьменніка, калі талент сам па сабе яшчэ не ў стане кампенсаваць адсутнасць мастакоўскага вопыту, хоць, праўда, яго М. Кульбак у многім набыў, працуючы над папярэднімі раманамі. Але, відаць, усё ж трэба і пагадзіцца з Р. Бярозкіным, які пра «Зельманцаў» сказаў так: «Слабасці рамана звязаны з засіллем манеры, з тым, што яна нярэдка празмерна дыктуе свае «ўмовы» расказу пра людзей і падзеі, і ў выніку — страта непасрэдных кантактаў паміж аўтарам і матэрыялам, паміж чытачом і аўтарам».

Застаецца хіба дадаць, што відочна і пэўная кампазіцыйная рыхласць твора, асабліва калі супаставіць яго першую і другую кнігі. У прыватнасці, у другой знаходзяць удакладненне асобныя сюжэтныя лініі з першай, не абышлося і без звычайных у такім разе паўтораў. А ў астатнім…

Мая парада тым, хто з раманам не знаёмы: абавязкова прачытайце яго. Паверце: падобнае задавальненне можна напаткаць не часта. «Зельманцы» — свайго роду энцыклапедыя яўрэйскага жыцця, узноўленая чалавекам неабыякавым, але адначасова і пазбаўленым жадання сваё, кроўнае толькі ўзвышаць, паэтызаваць. Для М. Кульбака не гэта галоўнае. Для яго важней — праўда. І тут ён цудоўна працягвае традыцыі сваіх вялікіх папярэднікаў — класікаў яўрэйскай літаратуры.

Наконт гэтага правільна сказаў С. Галкін: «Майсей Кульбак у большасці сваіх твораў народны, але не ў духу народнасці Шалом-Алейхема. Калі гаварыць пра літаратурнае сваяцтва, дык ён хутчэй за ўсё блізкі дзядулю яўрэйскай літаратуры Мэндэле Мойхер-Сфорыму: у яго больш сатыры, чым гумару, больш іроніі, чым спачування. А сціпласць гаворкі, удзельная вага слова, уся хватка — ад Мэндэля. Але гэта не значыць, што на творах Кульбака пячатка наследавання класіку».

І сапраўды: у сваіх празаічных творах, асабліва ў рамане «Зельманцы», М. Кульбак ішоў ад свайго жыццёвага і творчага вопыту (няхай і не такога вялікага), плённа выкарыстаўшы шматлікія і штогадовыя назіранні над побытам свайго народа. Таму зельманцы (у дадзеным выпадку маецца на ўвазе не назва рамана) — сам зрэз яўрэйскага грамадства, калі на змену спаконвечным традыцыям прыходзілі новыя рэаліі, а чалавек, з цяжкасцю і не адразу прывыкаючы да іх, вымушаны быў многае перагледзець у самім сабе, пераасэнсоўваць у сваіх учынках і паводзінах.

Хоць з іроніяй, нязменным гумарам, а месцамі і з непрыхаваным сарказмам гаворыць пісьменнік пра сваіх герояў, але пры гэтым пастаянна прысутнічае яго любоў да «чалавека нізоў», да «чалавека прадмесця», як кажа Р. Бярозкін. Любоў, што праступае праз разуменне стану тых, хто, каб выжыць, выстаяць, мусіў прыстасоўвацца да абставін і ўжо насуперак ім працягваць свой род.

«Адкуль узяўся рэб Зельмелэ?», — задае пытанне М. Кульбак і сам жа адказвае:

«Сярод яго сям'і жыве паданне, быццам ён паходзіць з «глыбіні Расіі». Але як бы там ні было, ён ужо тут ажаніўся з бабкай Басяй, якая тады яшчэ, відаць, была дзяўчынай, і пасля гэтага пачала пладзіцца.

Бабка Бася, як кажуць, пладзілася без усякай меры, безупынна, з нейкім заўзятым запалам, і дзеці ў яе нараджаліся рослыя, чорныя, з шырокімі плячыма — сапраўдныя зельманцы. Пазней дзеці пераходзілі да рэб Зельмелэ, гэта значыць, нянькай ён ім не быў, але, пачакаўшы трохі, аддаваў іх вучыцца на рамеснікаў.

Не паспелі агледзецца, як ужо і самі дзеці пачалі пладзіцца. Нявесткі былі рознай пладавітасці, і зяці розныя, але, нарэшце, суседзі павінны былі ачысціць ім месца на двары. Усе хаты былі біткам набіты жвавымі, чорнымі зельманчыкамі. Русыя траляліся рэдка. І тое — больш сярод дзяўчат. Пара рыжых хлопцаў з'явілася ўжо ў апошні час, у самыя апошнія гады. Як яны трапілі ў гэтую сям'ю, не высветлена да гэтага часу».

Крыху ніжэй М. Кульбак удакладняе: «…зельманец — просты, як кавалак хлеба». Ды ад гэтай сваёй прастаты, не сказаць, каб зельманцам жылося лягчэй. Па той прычыне, што наўкола менш за ўсё знаходзілася гэткіх простых і адкрытых, а найбольш — хіжых, гатовых горла парваць іншым дзеля асабістай выгоды, дзеля ўласнага кавалка хлеба.

Пісьменнік застаецца нязменным рэалістам, праўдзіва паказваючы, як патрыярхальны быт зельманцаў уступае ў супрацьстаянне з тым новым, што прынесла з сабой рэвалюцыя. А, як гэта і заўсёды адбываецца ў час надзвычайных сацыяльных зрухаў, паражэнне церпяць тыя, хто слабейшы. У дадзеным выпадку акурат «слабейшыя» самі зельманцы. Праўда, будзем справядлівымі, аўтар нісколькі не ідэалізуе іх жыцця. Адсюль і пастаянны гумар, сатыра, іронія, пэўны сарказм. Аднак, высмейваючы цемру, забабонства, невуцтва сваіх персанажаў, ён робіць гэта незласліва. Усё ж неаднойчы гаворыць пра іх са спачуваннем, чаго, на жаль, чамусьці не змог убачыць у рамане С. Галкін.

Здатны М. Кульбак і на добры гумар. На той гумар, які ад чалавека не адштурхоўвае, а, наадварот, яшчэ больш набліжае да яго, таму што лішні раз пераконваешся ў яго шчырасці, непасрэднасці. Нельга не ўсміхацца, калі чытаеш пра тое, як зельманцы, парадаваўшыся ў сваіх хатах электрычнаму святлу, неўзабаве засумняваліся, а ці не пакрыўдзілі іх пры гэтым. У сяго-таго нават з'явілася думка, што «ў прыгарад адсылаюць горшую электрычнасць, тое, што застаецца на дне катла».

А як не зразумець  стан цёткі Малкі, якая, нарэшце, навучылася чытаць?! І вось яна ўжо не размаўляе са сваім мужам, а … перапісваецца з ім: «Я здаровая.

Ты шыеш, ідзі да печы, вымай гляк, дык будзем піць чай. Ад мяне, тваёй глыбокапаважанай жонкі Малкі Хвост».

Гэты ж момант у рамане, я б сказаў, узор кульбакаўскага гумару. «Хаечка дзядзькі Юды» і сын дзядзькі Ічы Бера пакахаліся. Больш ініцыятывы пры гэтым праявіла дзяўчына — няйначай яна дзейнічала ў духу паслярэвалюцыйнай свабоды: «Хаечка раптам абхапіла яго сваімі тоўстымі, заўсёды змерзлымі рукамі за галаву і пачала цалаваць у губы, у нос, у шчокі. Вось што было далей.

Справа такім чынам высветлілася. Толькі неяк дзіўна было, што стаялі яны на страшэнным марозе і цалаваліся без канца, без краю. Яшчэ больш: пазней нейкі пажылы чалавек праходзіў выпадкова па гэтай вуліцы, дык ён тут, на гэтым самым месцы, адмарозіў нагу».

Дарэчы, пра Беру ў рамане гаворыцца шмат, найперш у другой кнізе. Якніяк, а ён «новы чалавек»! Дагэтуль ваяваў на фронце. Ды яшчэ як ваяваў! Ніяк не хацеў развітвацца з барацьбой. Нават выпадкова трапіўшы ў зельманскі двор, нядоўга затрымаўся там: «Ён сеў есці вельмі заўзята і глядзеў на стол. Дзядзька Юда плюнуў і выйшаў. Бера пад'еў, надзеў боты і зноў пайшоў ваяваць». Цяпер жа Бера — міліцыянер, а пасля ідзе працаваць рабочым дзеля першыхавання.

Праўда, менш пераканаўчыя ў рамане заключныя раздзелы. Але гэта, калі падыходзіць да іх так, як у свой час асэнсоўвала іх крытыка, дый, бадай, улічваючы тую задачу, што ставіў перад сабой сам пісьменнік. М. Кульбак, працуючы ў духу свайго часу, прытрымліваючыся тагачасных ідэйных норм, імкнуўся паказаць, як у рэшце рэшт зельманскі двор як увасабленне старога жыцця перастае існаваць. На яго месцы ўзнікаюць карпусы фабрыкі, а самі насельнікі атрымліваюць ад дзяржавы кватэры.

Ва ўсім гэтым відочна не псіхалагічная пераканаўчасць і глыбіня, а тая зададзенасць, калі аўтар вымушаны пісаць так, як ад яго патрабавалася. Калі пра ўсё гэта чытаеш сёння, не пакідае пачуццё шкадавання, нават скрухі, што з зельманскім дваром адышла цэлая эпоха. Незваротна, назаўсёды. Тым не менш, яна дайшла да нас. Дзякуючы раману М. Кульбака «Зельманцы». Дый дзякуючы іншым ягоным творам, якія, на жаль, даўно не перавыдаваліся і, да ўсяго ж, не ўсе перакладзены на мовы таго народа, сярод якога ён жыў і сярод якога ніколі не лічыў сябе чужым.

**Зінаіда ДРАЗДОВА**

# МАЛЯЎНІЧАЯ СІЛА СЛОВА

Максім Гарэцкі па праве лічыцца адным з самых вялікіх майстроў беларускага мастацкага слова. Аб храстве яго мовы справядліва гаварылі многія даследчыкі, у тым ліку А. Адамовіч, М. Мушынскі, а таксама Н. Рандаў, перакладчык яго твораў у ГДР, рэцэнзенты «Маладняка» і «Полымя» пасля выхаду з друку першага асобнага выданння аповесці «Ціхія песні» (1926) (так спачатку назваў Гарэцкі аповесць; у другім выданні (Мн., 1930) гэты твор ужо мае назву «Ціхая плынь»). Так, А. Лясны пісаў: «Стыль кніжкі арыгінальны, добры і лёгкі, а мова багатая і так блізкая да народнай беларускай мовы, як бадай ні ў аднаго з нашых пісьменнікаў» [1, с. 106].

І сёння цікавасць да творчасці М. Гарэцкага не спадае ў чытачоў і пісьменнікаў. Значэнне і прывабную сілу літаратурнай спадчыны празаіка імкнуцца спасцігнуць і многія сучасныя паэты. Захоплена піша пра Гарэцкіх у вершы «Чытаю Гарэцкіх» вядомы паэт Анатоль Вярцінскі:

Чытаю Гарэцкіх
Максіма, Гаўрылу, Радзіма...
Вось дзіўнае дзіва!

Чытаю Гарэцкіх
Гаўрылу, Радзіма, Максіма...
Вось слова! Вось сіла!
<...>
Чытаю Гарэцкіх
Тут нашае радасць і гора...
Чытаю Гарэцкіх
Тут нашы сёння і ўчора [2, с. 124—125].

Анатоль Вярцінскі паэтычна асэнсоўвае вялікі ўнёсак Гарэцкіх у славу роднай Бацькаўшчыны, у яе духоўнае адраджэнне, магутную сілу іх слова, іх барацьбу за росквіт нацыянальнай культуры і навукі.

У 2008 годзе выйшла вялікае манаграфічнае даследаванне прызнанага беларускага даследчыка, літаратуразнаўцы, члена-карэспандэнта НАН Беларусі М. Мушынскага «Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі: жыццёвы і творчы шлях Максіма Гарэцкага», падрыхтаванае да 115-й гадавіны з дня нараджэння Максіма Гарэцкага, у якім зроблены аналітычны разгляд жыцця і творчасці пісьменніка, па-новаму прачытваецца «малая» і «вялікая» проза, драматургія, публіцыстыка, крытыка і гісторыка-літаратурныя працы, ацэньваецца яго роля ў станаўленні нацыянальнай свядомасці, асэнсоўваецца грамадска-культурная, асветніцка-педагагічная дзейнасць. М. Мушынскім шмат зроблена ў кнізе, каб, кажучы яго словамі, «напоўніць паняцці *класік беларускай літаратуры, пісьменнік-наватар, выдатны майстар слова* больш канкрэтным зместам дзеля таго, каб яшчэ выразней бачылася па-сапраўднаму маштабная, эпахальная постаць, непаўторная асоба пісьменніка-грамадзяніна, мастака-адраджэнца, які, нягледзячы на неспры-

яльныя ўмовы жыцця і трагічныя выпрабаванні, што выпалі на яго долю, узняў нацыянальную літаратуру на новы эстэтычны ўзровень, унёс неацэнны ўклад у развіццё духоўнай культуры беларускага народа» [3, с. 499]. Аднак, на наш погляд, мове твораў М. Гарэцкага ў працах літаратуразнаўцаў удзялялася пакуль што малавата ўвагі. Таму тут мы і спынімся коратка на пытаннях майстэрства пейзажу, дыялогу і партрэта ў аповесцях Максіма Гарэцкага «Меланхолія» і «Ціхая плынь» і ў некаторых апавяданнях.

Названыя аповесці змяшчаюць у сабе мноства чароўных пейзажных малюнкаў роднай Беларусі. Прыродныя вобразы займаюць вялікае месца і ва ўспамінах галоўных герояў гэтых твораў Лявона і Хомкі, дзе яны такія ж значныя, як і людзі. У такім разе пісьменніку важна стварыць пэўны настрой, выкліканы і падфарбаваны ўспамінамі. Адзін з раздзелаў «Ціхай плыні» называецца «Млявыя сненні». Пісьменнік умее перадаць атмасферу шчырай радасці і здзіўлення дзіцяці ад судакранання з прыроднымі з'явамі, разнастайнасцю іх каляровай гамы, якая змяняецца ў залежнасці ад асвятлення. У названым раздзеле пададзены эмацыянальныя карціны розных пор года, звязаныя з успамінамі маленства, — калядныя зімовыя вечары, вясновыя дні часу разліву, калі «Парыцца зямелька. Буры лес пукацца пачаў, і ўжо раскідаецца, і ўжо ўкрываецца рунню ліпкіх лісточкаў» [4, с. 96], і цёплыя летнія раніцы і вечары, і восеньскія дні, калі «мароз асеў на страсе», калі «На двары, на саломе — тая ж маразяная бель» [4, с. 10]. Жывапісныя пейзажы М. Гарэцкага раскрываюць лірычна-рамантычнае светаадчуванне героя, адзначанае пэўнай сентыментальнай летуценнасцю, незвычайнай чуйнасцю да прыгожага: «Яшчэ яно быццам да вечара дужа далёка.

Ды неўзабаве кіне сонейка над лесам чырвоныя заходнія касулі, што з прыгожага, але трывожнага святла. Сплывуцца светленькія болачкі ў бліскуча-хмарныя з краёў гудкі і вялікія сярэбраныя кучы. Асвеціцца закат ціхім, супакойным роўным полымем — і лягуць пахалодлівыя цені. Звалчэе троху на дарогах пыл...» [4, с. 104].

Гарэцкі-пейзажыст імкнецца перадаць менавіта ўражанні дзіцяці з яго захапленнем дробязямі, з разгубленасцю перад невядомым, з яго пытаннямі і шуканнямі адгадак: «Хомка палахліва прыліпае ў куточку і жаласна самотнічае ў ім. Дзівуецца адтуль, што навокал ад святла лямпы — зялёны персцень і ўва ўсе бакі — залатыя касулькі. Прыплюшчыць адно вока — каснічкі растуць, бягуць далей, як жывыя. Чаму яно так? Ну чаму? Няма адгадкі, чаму... І яшчэ гэты патаемны хрупат адзаду... І вось яшчэ: чорныя цені скачуць па сценах і кутах — як бы і людзі, толькі нямыя, хоць і рухавыя, — яму страшна, ён палохаецца, але ніхто не спагадае яму. А цені, быццам спужаныя нейкім зданнём, усё бегаюць і ківаюцца... І раптам скончылася патаёмнае хрустанне, страшная чорная морда з агнявымі, кацінымі вочкамі зірнула з-пад полу... (А гэта авечцы дакучыла там і захацелася выйсці з-пад полу на волю). Жах абуяў хлопчыка...» [4, с. 96].

Краіна маленства ў Гарэцкага — краіна цудаў, таямніц, час спазнання свету, час тварэння, разгадка яго загадак.

Аўтар аповесці «Ціхая плынь» з'яўляецца песняром вольнай дзіцячай творчасці, невераемна багатай дзіцячай фантазіі, знаходлівасці і назіральнасці ў пару маленства, якое лічыць лепшай парой жыцця. Маленства — час адкрыцця, творчай радасці. Гэта пара, піша Гарэцкі, «на якую не варта забывацца. Хто счарсцвеў, пагінуў у будзёншчыне, — у дзіцячыя гады быў вялікім музыкаю, іграючы на скрыпачцы з лучынак і са струнамі з нітак. І даўлела яму, быў змысел і была радасць. Хто зрабіўся тупы, як палка, — у гады маленства з палкі вырабляў мастацкія для яго мастацкіх пачуванняў штукі: птушачак, звяроў і проста харошы кіёчак-папірашку. Надышлі гады жыццёвага амбарасу і бясконцага дурнога клопату — і знішчылі творчую радасць, растапталі дыямант у пабітым шкле, з паэта зрабілі быдліну» [4, с. 73].

Дарослыя ў большасці сваёй за мітуснёй, безліччу спраў губляюць дзіцячую непасрэднасць і шчырасць, здольнасць да выдумкі, успрымання жыцця як цуду. Але ў старасці гэтыя выдатныя асаблівасці свежых адносін да жыцця зноў вяртаюцца, і стары становіцца, як малы. Вось чаму ў Гарэцкага так цягнуцца адзін да аднаго ўнук і дзед. Вось чаму такой сардэчнай атрымліваецца іх дружба. Лявон і дзед, Хомка і дзед... «Гэты дзед — паэт у душы і вельмі ўлюбіў пару года між лета і восені, калі надыходзіць пярэкрут у прыродзе на зіму, калі ўсё расліннае даспявае, сыпле семя...» [4, с. 72].

Любімымі паэтычнымі матывамі Гарэцкага-пейзажыста з'яўляюцца матывы сыходзячага лета, перадвосеньскай светлай пары: «Любіць дзед ісці аб гэтай пары па сцежачцы, сярод зялёнай пушчы канапелек, якія тхнуць сваім п'яным пахам і патроху прадзіраюць вочкі. Любіць любавацца на фарботы залаценькай павуціны, што бліскаюць на сонцы, цягнуцца, быццам плывуць і быццам сцелюцца ад поля (дзе пажата і пусцее) на гароды (дзе густа і поўна, а ўжо смягне і ўсыхае) і дальш на чорныя гоні (дзе незабавам зачырванее рунь). Любіць дзед, расклаўшы цяпло пад асеццю і паплакаўшы ад едкага, з пахам прэлай гуменнай зямлі, дыму, доўгадоўга сядзець і бавіць час ля палыхаючых агнём плашак і грэць старыя косці» [4, с. 72]. Мажорны настрой дзеда выкліканы, як бачым, залаціста-вогненнымі пахамі восені, да болю знаёмымі і роднымі пахамі зямлі і яе расліннасці. Стан яго душы гэтай парой перададзены аўтарам паўторам слова «любіць», «улюбіў».

Пейзажныя апісанні Гарэцкага нельга ўявіць не толькі без уліку каляровых адносін у прыродзе, але і без дакладнай перадачы стану паветранай атмасферы, а таксама без гукавой аснашчанасці: «Клякоча скакунец-каваль. Гудам гудзіць сіняпазалочаная муха. Трапыхаецца і снуе туды-сюды над жытам жоўценькая мятлушка» [4, с. 94].

Пладаносны час у вясковых пейзажах Гарэцкага пазначаны спакоем і цішынёй, ціхамірнасцю, нейкай нават санлівасцю і нерухомасцю паветра: «Ціха вясковая вуліца. Паснулі сланечнікі і макі. Аніводным пазалочаным лістком не варухнуцца яблынькі ці сліўкі. У галлі і лісці бялеюць і чырванеюць яблыкі, а паспелыя сліўкі густа спляліся і віснуць, чорныя, да долу» [4, с. 74].

Намаляваная словам карціна выглядае як бы застылай на палатне, выклікаючы ў душы чытача настрой мірнай задаволенасці.

Тэма беларускай вёскі ў Гарэцкага адрозніваецца паэтычнасцю матываў — маленькія парасяткі на сонейку на саломцы, вульканне галубоў, якія песцяць сваіх дзетак, вучаць іх лётаць, ластаўкі ў сінім, чыстым, цёплым бяздонні, красаванне макаў. Максім Гарэцкі, як мастак-жывапісец, робіць аб'ектам пільнай увагі ў сваіх пейзажах светапаветранае асяроддзе. Больш за тое, ён адчувае ў паветры нейкую думку: «У паветры нейкая ціхая восеньская дума. Быццам віхаецца яно: ці даць сонцу распаўсюдзіцца, абагрэць зямлю, узвесяліць дзетак і ўсё жывое і нежывое, ці то ўжо прыціснуць як мае быць гэтым восеньскім марозам — шэранню і пусціць зіму, снег і сцюжу, бо ўсё роўна аслабела сонца — свеціць, стараецца, а не можа абагрэць, як грэла ўлетку» [4, с. 101].

Чытаеш Гарэцкага — і вельмі выразна адчуваеш цяпло, сонечнае святло, пахі прыроды, радасць жыцця ўсяго жывога: «Такая ж цёплая, чыстая раніца! На падворку, дзе сонейка цалуецца з залатою саломкаю, порскаюць парасяткі рабенькія і чарнюсенькія, бы жучкі, і пярэсценькія ды іржава-рудзенькія — усе з гладзенькай шэрстачкаю, з малюсенькімі, дзяцінымі чысценькімі лычыкамі. Жартуюць, клычуць саломку. Піскнуць, брыкнуць, схопяць жменьку ў зубы іківількіviль ува ўсе бакі, круць-круць дробненькімі закруцістымі хвосцікамі. Рохкае матка іхняя ў свінарцы, каб ішлі туды, дзе яна, а ім хочацца гуляць на сонейку» [4, с. 99]

Жывёльны свет з'яўляецца неад'емнай часткай пейзажаў Гарэцкага. Кабыла, карова, авечка, сабака, нават муха, авадзень, мятлушка — намаляваны аўтарам так, што застаюцца ў памяці чытача. «На паляне хадзіла рыжая карова, скубла

траву, круціла хвастом, чмыхала мордаю па баках ад мошак, разам дрыгала-тупатала нагамі, і мяла траву, і званіла балабонам.

І, паглядзеўшы на яе, можна было зусім супакоіцца і нават пачуць задаволенасць, што жыве карова сваім здаровым, нармальным жыццём» [4, с.18].

Жывёлы ў аповесцях «Меланхолія» і «Ціхая плынь» не толькі жывуць «сваім здаровым, нармальным жыццём», але ўмеюць, як і людзі радавацца прыгажосці: «Эх, не да канца ты, паэт, сабака! Падаў цалюткі дзень на палях, лясах і сенажацях, радуючыся хараству прыроды і сабачага жыцця. А цяпер во забыўся ты на ўсё і, падцягнуўшы, як хорт, бруха, шукаеш скарынкі хлеба ў брудным свіным цэбры, глыбока макаючы і пэцкаючы сваю морду...» [4, с. 104].

З самага пачатку творчага шляху Максім Гарэцкі клапоціцца аб якасці слова, адбірае ў дыялогах словы, якія з найбольшай сілай выяўляюць адметнасць чалавечага характару. У гэтых аповесцях многія старонкі застаюцца ў памяці, уражваюць глыбокім псіхалагізмам. Цудоўна выпісана, напрыклад, сцэна нечаканага наведвання школы айцом благачынным. Вучань Хомка, настаўнік, айцец-рэвізор — кожны з гэтых трох персанажаў паўстае жывым і непаўторным. Характар кожнага адгаданы і паказаны як мага лепш. Партрэт папа намаляваны асабліва ярка, чаму ў немалой ступені садзейнічаюць яго моўныя паводзіны. Паводле горкаўскага запавету «гутарцы, галасам трэба зрабіць маленькае апісанне абставін, а таксама даць нарысы твараў, фігур людзей, якія гутараць», растлумачыць «дзе гавораць і хто гаворыць» [5, с. 356], Гарэцкі і знаёміць нас з героямі: «Адчыняюцца дзверы, лятуць лёгкія камы сцюдзёнае пары, і *ўвальваецца здаравенная, грубая і даўгаполая папоўская постаць. Спалоханы настаўнік кумільгам злятае з печы* і кідаецца з далонямі, падстаўленымі жменькаю, атрымаць благаславенне. Але айцец-рэвізор спачатку моліцца на абраз і ўжо тады бласлаўляе настаўніка. Настаўнік цалуе яму руку і асцярожна-асцярожна, *баючыся смялей даткнуцца, сцягвае з яго за рукаў хутру. Дзеці не ўлучылі ўсхапіцца разам, як муштраваў іх загадзя, у сваім часе, настаўнік, і цяпер стараюцца кожны па-свойму паправіць бяду*» [4, с. 79].

Душэўная недалікатнасць айца-рэвізора, палахлівая ліслівасць настаўніка перад рэвізорам і здрадлівая нянавісць да вучняў, якія ў такім нявыгадным святле паказваюць яго школу, асабліва выразна паўстаюць з дыялогу, у якім важная роля адводзіцца зрокаваму вобразу сцэны, мастацкай дэталі. Тое, чаго больш за ўсё баіцца настаўнік, адбываецца. Айцец благачынны тыкае пальцам «якраз у нашага беднага Хомачку.

— Перваготнік гэта, ваша высокапрападобіе! — *забягае наўперад устрывожаны настаўнік і з ненавідасцю паглядае на свайго няўдалага вучня.*

Хомка *сапе, пазірае з-пад лобу і пачынае дрыжаць дробнай дрыготкай, як высілены конь у аглоблях.*

— Эх ты, брат, труса гоняеш..., не бойся, не б'ю! — жартліва кажа яму рэвізор. — Ну-тка, этава да, што ты там чытаеш? — б, л, а — бла? Ну, прачытай жа мне, мой друг, б-л-а-бла!» [4, с. 79].

Хрысціянскае пачуццё любові павінна было б падказаць свяшчэнніку, каб ён пакінуў перапалоханага хлапчука ў спакоі, заняўся з іншымі вучнямі, аднак гэтага не адбываецца: «І ізноў прыступае да Хомкі, *чэпіцца да яго, як смала, бярэ яго на мукі*:

— Як тваё, братуля, імя?

— Хомка! Хомка! — падказвае нехта, шэпча, але ў Хомкі *рот запячатаўся нясходнай нямотаю.*

— Хомка ён! — раптам і бойка гаворыць адзін хлопчык, павесялеўшы, і *бегае* сваімі *смяшлівымі бакулкамі.*

— Ідзі-ка стань на калені! — *ласкава кажа* гэтаму хлапчуку благачынны, *і сам настаўнік паслушна памагае пакаранаму вылезці з-пад парты і хутчэй выканаць загад»* [4, с. 80].

Як шмат страціў бы прыведзены дыялог без згадвання пра тое, як настаўнік «з ненавіднасцю паглядае на свайго няўдалага вучня», як «сам настаўнік паслушна памагае пакаранаму вылезці з-пад парты і хутчэй выканаць загад», як Хомка «пазірае з-пад лобу і пачынае дрыжаць дробнай дрыготкай, як высілены конь у аглоблях».

У адлюстраванні вобразаў такога сацыяльнага пласта як духавенства Гарэцкі-партрэтыст карыстаецца тымі ж фарбамі, што і Паустоўскі. Своеасаблівы тон асуджэння, які суправаджае партрэт айца благачыннага, характэрны і для партрэта протаіерэя Трэгубава ў «Далёкіх гадах» рускага празаіка. «Вышэйшая праўдзівасць таленту» (К. Чукоўскі) адступае і тут перад ідэяй класавай барацьбы. Паказальна, што і жыццё папярэдніка Трэгубава, протаіерэя Златавярхоўскага намалявана Паустоўскім у карыкатурна-скажоным выглядзе: «дряхлый, шепелявый и глухой», ён быў зусім абыякавым у выкладанні «Закону Божага», спаў на ўроках, пакуль клас ціха весяліўся. Галоўнай тэмай партрэта духоўных асоб і ў Гарэцкага, і ў Паустоўскага з'яўляецца нелюбоў да чалавека. «Мы ненавидели его так же холодно, как он ненавидел нас. Но церковные тексты мы заучивали на всю жизнь» [6, с. 29], — заўважае Паустоўскі, завастраючы ўвагу чытача на вузкіх пагардлівых вачах Трэгубава, залатым крыжы акадэміка, які зіхацеў на шыкоўнай расе: «После Златоверховникова Трегубов явился к нам, как карающий бог Саваоф. Он и вправду был похож на бога Саваофа с церковного купола — *огромный, с широкой бородой и гневными бровями.*

Трегубова боялись не только гимназисты, но и учителя. Он был монархистом, членом Государственного совета и гонителем свободомыслия. Он стоял на равной ноге с киевским митрополитом и приводил в полное безгласие захудалых сельских батюшек, когда они являлись к нему получать разнос за недостойные поступки.

*Трегубов любил выступать на модных в то время религиозно-философских диспутах. Он говорил гладко и сладко, распространяя запах одеколона*» [6, с. 29].

Больш мяккімі фарбамі намаляваны ў аповесці Паустоўскага партрэт каноніка Алендскага — «высокого ксендза со смеющимися глазами» [6, с. 31], які хаваў у сябе на ўроках каталіцкага «закона» праваслаўных гімназістаў. Герой-апавядальнік «Далёкіх гадоў», чалавек уважлівы і назіральны, тонка апісвае ўзаемаадносіны прадстаўнікоў гэтых розных хрысціянскіх канфесій: «Трегубов, конечно, знал, что Олендский прячет нас у себя на уроках. Но перед Олендским даже Трегубов терялся. *Добродушный ксендз при встречах с Трегубовым становился изысканно-вежлив и ядовит*» [6, с. 30]. Такім чынам, Паустоўскі даводзіў, што хрысціянскі дух любові адсутнічаў і ў сэрцы «дабрадушнага» ксяндза.

Відовішчныя элементы сцэн размоў побач з моўнымі і нямоўнымі размовамі паміж людзьмі, вельмі важныя ў дыялогах аповесцей «Меланхолія» і «Ціхая плынь». Суб'ектывізацыя рэмаркі — важная асаблівасць дыялогаў Гарэцкага. Лявон, які з'яўляецца не толькі ўдзельнікам, але і назіральнікам сцэн размоў паміж людзьмі, нярэдка дае ўнутраны каментарый адносна інтанацый і характару моўных унутраных памкненняў партнёраў: «... увайшоў другі чыноўнік, і хтосьці ў пачакальні пачціва і прыглушана азнаёміў: «Сам начальнік...»

Гэта быў даволі высокі чорнабароды чалавек *з злым, але боязкім поглядам.*

Ён пачуў Лявонавы словы і, ідучы, сказаў *сварлівым голасам, чыста парасійску і з нетутэйшаю, асабліваю вымоваю*:

— Нікакіх там ручак не даваць!.. Была палажана, стянулі, ну так пушчай тіперь пішут пальцам.

Лявон пачырванеў, але змоўчыў.

Зараз, следам за паштмейстарам, калі ён сеў і пачаў выймаць са стала паперы, увайшла *чорненькая курносенькая паненка*, а за ёю *чысценькі студэнцік, вельмі падобны да таго, з якім паспрачаўся Лявон на вакзале*, калі ехаў з школы на працу.

— Ізвініце! — *далікатна, але грэбліва сказала паненка* за Лявонаваю спіною і разам з студэнцікам увайшла ў канцылярыю. — Ці можна паслаць грошы? — *зусім іншым, прыяцельскім і какетліва-жартаўлівым тонам* звярнулася яна да паштмейстара. — Дзень добры, пане начальнік!

— Ваш пакорны слуга! — адказаў паштмейстар, расшаркаўся, патрос ёй і студэнту ручкі і падставіў крэсла. *Зараз у іх палілася мілая, вясёлая гутарка*» [4, с. 24].

Лявон усё ж камплексуе з выпадку сваёй беднай вопраткі, адчувае няёмкасць за свой шэры сялянскі жупанок. Ён упэўнены, што менавіта з-за яго студэнтка грэбліва гаворыць з ім, менавіта ім выклікана гырканне паштмейстара: «Што я ў сялянскім жупанку, дык ты смела мяне зневажаеш... — слаба, вінавата, быццам шукаючы да сябе спагады і жалю, падумаў ён. — А як ты даведаешся, што я ж каморнік, дык табе будзе сорамна... А селяніна табе можна зневажаць...» [4, с. 25]. Адсюль у сваю чаргу і яго непрыязныя адносіны да чорнай курносенькай паненкі і чысценькага студэнціка. Адсюль і ўчынены ім скандал на пошце.

Лявон стараецца абыходзіцца з сялянамі вёскі, у якую яго паслалі, як селянін з сялянамі. Імкнецца не выдзяляцца адзеннем, аднак адчувае, што апошнія адгарадзіліся ад яго кітайскім мурам. У лісце да сябра галоўны герой «Меланхоліі» піша: «Іх дзівіць, што я хаджу ў шэрым сялянскім жупанку. Іх дзівіць, што раніцаю, калі яны прыходзяць па інструменты ісці ў поле, я вітаюся з імі за руку.

А каморнік мой меў смеласць цынічна сказаць мне: «Не смяшыце вы добрых людзей... З ручкаю не падходзьце і шэрых жупанкоў не напранайце, а то не будуць вас баяцца і яшчэ калі-небудзь, не разабраўшыся, прывітаюць вас каменем па галаве...» [4, с. 11—12].

Пісьменнік умее выявіць вялікую сілу выразнасці адзення. Шэры жупанок Лявона не дарэмна з насмешкай успрымаецца калегамі і з недаверам сялянамі. За гэтым стаіць пэўны фальш, гульня, таму і сам герой саромеецца яго, хоць і носіць прынцыпова. Партрэты Гарэцкага стракацяць эпітэтамі, якія вызначаюць устойлівыя якасці ўнутранага свету герояў. Многія старонкі аповесцей здзіўляць нас аўтарскім уменнем бачыць за знешнім унутранае, матываваць учынкі герояў. Але тонкі аналітык чалавечай душы Максім Гарэцкі заўважыць, што не ўсе чалавечыя ўчынкі можна аргументаваць, растлумачыць. Лявон, вачамі якога падаюцца прырода і людзі, нават у сабе адкрые таямнічае, загадкавае, не аднойчы спалохаецца нейкага свайго «дурнога выбрыку».

У жанры аб'ектыўнага, эпічнага апавядання Гарэцкі дасягае вельмі значных поспехаў. Аб тым, што яму ўдалося авалодаць мастацтвам пластычнага паказу людзей, сведчыць досыць вялікі для апавядання твор пісьменніка «Зіма», дзе ён без усялякіх прыкрас малюе жыццё некалькіх пакаленняў адной сялянскай сям'і пад адной страхой. Пад яго ўмелым пяром выразна паўстае дом, яго знешні парадак і ўладкаванне і жыхары — дзед Пятрок, баба Петрачыха, нявестка з трыма дзецьмі і брат яе мужа Панас. Кожны з членаў сям'і мае свой занятак гэтым зімовым вечарам: «*Дзед Пятрок,* седзячы ў жупане, даплятаў лапаць і *сварыўся*, а *баба Петрачыха касцястымі і худымі, цьмянымі, нібы ад загару, рукамі* мяшала ў цэбры мякіну. *Маладуха-нявехна, — белая-белая, як папера, — прала на ўслоне кудзелю і маўчала, як нямая ці якая пакутніца.*

Белавалосая дзяўчынка стаяла ля полу і хлабасцінаю адганяла курэй ад кормнага вапрука, што чмякаў з жолабу, раскідаючы па зямлі каля сябе цеста.

На падлозе, у запечку, хлопчык у штоніках на матузках цераз плечы і пузатая дзяўчынка на крывых, выгнутых дугою ножках гулялі ў лялькі і то лашчыліся, то сварыліся, заціхаючы, калі дзед Пятрок пачынаў гаманіць дужэй.

— Картэўнікі! Паабедаць некалі прыйсці з гульні, а коні паіць і не думаюць. Ну, хлопчыкі! — злосна бурчэў стары.

— Усе гуляюць, ну і наш там. Пайшоў бы ды гукнуў яго, — казала старая» [7, с. 74].

І далей аўтар працягвае кінематаграфічны агляд хаты, абстаноўкі, дэталей паўсядзённага акружэння герояў, дае чытачу магчымасць паслухаць гутаркі, якія вядуцца ў ёй і ўбачыць падзеі, якія тут адбываюцца.

Ужо з прыведзенага намі ўрыўка можна меркаваць аб характарах і настроі сямейнікаў, аб тым, што яны звычайна дапускаюць у адносінах адзін да аднаго. Дамашняе жыццё ў найбольшай ступені садзейнічае выяўленню галоўнай сутнасці чалавека, яго маральнага вобліку, бо па-за домам чалавек часта хавае свае сапраўдныя думкі і пачуцці, свой нораў. З дамашнімі ж чалавек паводзіць сябе разняволена, нічога не хавае, выказвае ўсё, што на сэрцы. Старэйшы член сям'і апавядання М. Гарэцкага «Зіма» дзед Пятрок. Ён і пачувае сябе гаспадаром хаты, адказным за родных сямейнікаў. Аднак сваімі паводзінамі, на жаль, не падае ўзору для пераймання. Галава сям'і мае сварлівы, звяглівы характар, не мае патрэбнага цярпення, дабрадушнасці, змірэння, яму бракуе, і галоўнага ў сямейных адносінах — любові. Ён папракае (канешне ж, заслужана) свайго нежанатага сына Панаса, які загуляўся ў карты і не думае ісці паіць коней, адбівае ахвоту ў апошняга знаходзіцца дома: «Апрыкліла і свая хата. Бацька заразаў яго паўсёдным злым нараканнем» [7, с. 78], — гаворыцца ў творы пра пачуванне Панаса ў родным доме. Баба Петрачыха, здаецца, больш спакойная, разважлівая, цярплівая, але да пары да часу, бо невялікае непрыемнае здарэнне (певень пабіў міску) выклікае ў яе плач і злосную кляцьбу. Старая кляне нявестку, якая недагледзела за дачкой, што праганяла пеўня: «І ты ж тут, матуля, сядзіш, нічога не бачыш. Ці напрадзеш ты сабе кашулечку на той свет ці не» [7, с. 75].

Лінія паводзін нявесткі, вядома ж, абумоўліваецца такім негатыўным стаўленнем да яе з боку свякрухі і свёкра. Яе муж, мяркуючы па словах малых, якія гуляюць у лялькі, паехаў працаваць на шахты (« — А як прыйдзе татка з шахтаў, дык я яму скажу…») І ёй нясоладка адной у доме мужавых бацькоў, яна не адчувае сябе тут гаспадыняй, хоць усяляк і імкнецца далучыцца да таго стылю і ўкладу жыцця, якія існуюць у доме, стараецца дагадзіць старым: «Маўклівая маладуха, сцяўшы зубы, клала і клала рубяжы матузкамі на хударлявенькай дзіцячай спінцы <…> Меншыя дзеці залезлі за комін і прытуліліся, пакуль улашчыцца матка, да якой належала ўлада караць іх па загаду заканадаўцаў: дзеда, а найгорш — бабы, і пакуль зачыняць дзверы ды ўсё сціхамірыцца» [7, с. 75], — такой кароткай аўтарскай заўвагай, па сутнасці, многа гаворыцца аб арганізацыі жыцця ў гэтай сялянскай хаце. «Заканадаўцамі» з'яўляюцца ў ёй дзед, «а найгорш — баба», а маці выканаўца іх загаду. Ад усялякіх непрыемнасцей нявестка адгароджваецца маўчаннем, адчуваючы сябе пакутніцай, што выразна адбіваецца на ўсім яе знешнім вобліку. І гэта шмат у чым абумоўлівае яе ўспрыманне сямейнікамі: «Не хацелася бачыць маўклівую братовую, слухаць бясконцую сумяціцу дзяцей» [7, с. 78], — сказана ў апавяданні пра тое, што маўклівасць нявесткі дзейнічае на Панаса гэтак жа адштурхоўваюча, як і злыя нараканні бацькі, выклікаючы жаданне «з'ехаць на край свету».

Грунтам і стрыжнем маральнага жыцця чалавека з'яўляецца дабрадзейнае жыццё ў сям'і, у роднай хаце. Вельмі добра, калі тут пануе мір і згода, любоў і адзінства. «На что и клад, когда в семействе лад», — кажа руская прымаўка, высока ўзносячы велікадушнасць усіх членаў сям'і, уменне кожнага паблажліва ставіцца да слабасцей бліжніх, цярпець іх недасканаласць, дараваць крыўды.

У апавяданні «Зіма» Максім Гарэцкі паказвае сямейнага чалавека не толькі ў хатняй абстаноўцы, але і на людзях. Запрошаныя на вяселле дарослыя члены сям'і старога Петрака паказваюць сябе тут у вельмі выгадным святле. Гэта ўжо як бы зусім іншыя людзі, якімі любуюцца аднавяскоўцы. Прывядзём гэту сцэну: «Пакуль ішла ў іх размова, да кругу штурхалася сярод людзей Петрачыха, цягнучы за рукаў сваю маўклівую нявестку.

— Пойдзем, пойдзем, мая рыбухна! Разам працуем, разам паскачам. Няхай палюбуюцца добрыя людзі, як мы гуляем.

І пусцілася старая задам, скачучы як сарока: пляскала ў ладкі і вясёлымі вочкамі пільна ўглядалася ў маладуху, а тая, падхапіўшы крайчык свайго хвартуха, а другою рукою плаўна махаючы ля галавы, плыла за свякроваю з ледзь прыкметнай усмешкаю, у якой паўсюдная ціхая пакута ішла цяпер на спатканне весялосці і паддавалася ёй.

Старая запяяла старым, дрыжачым і ласкавым голасам:

Ты, нявестачка,
Ты — лябёдачка!..
А маладуха зараз падхапіла:
Матка ж мая старэнькая,
Як галубка сівенькая!

І ўсе былі здзіўлены, што ў гэтае ціхае і маўклівае Петраковае нявесткі такі чысты і звонкі голас» [7, с. 86].

Нельга не здзівіцца пластычнай маляўнічай сіле слова М. Гарэцкага, чытаючы гэту сцэну. Усё як бы адбываецца на нашых вачах. Выразна бачацца жывыя воблікі нявесткі і свякрухі, іх манера трымацца, змена рухаў і станаў, паводзін у танцы. Сапраўды, якая дакладнасць у выбары параўнанняў, у выбары дзеясловаў, якія перадаюць дынаміку паводзін дзвюх жанчын, своеасаблівую ідылію, эстэтыку іх узаемаадносін у час танца: «*пусцілася старая задам, скачучы як сарока, а тая, падхапіўшы крайчык свайго хвартуха, а другою рукою плаўна махаючы ля галавы, плыла за свякроваю з ледзь прыкметнай усмешкаю…*» Бясспрэчна, што аўтар умеў карыстацца магутнай, бязмежнай скарбніцай народнай мовы, беручы з яе самае патрэбнае, каб узмацніць зрокавую сілу карцін і сцэн. Вочы ўсіх прысутных на вяселлі скіраваны на Петраковых жанчын. Аднавяскоўцы ўражаны талентам да спеваў яго звычайна маўклівай нявесткі. Уражанне ўзмацняецца ад задаволеных, радасных воклічаў мясцовага настаўніка, які марыць пра лепшае, больш цывілізаванае жыццё роднай Беларусі і піша творы на роднай мове: «Ляксей Ляксеевіч ледзь не заплакаў, што яна так добра вядзе, як ён ніколі не чуў нават ад настаўніц. «Жыве наша Беларусь, — сказаў ён Ганусі і сціснуў яе за рукі на ўсю сілу, — жыве, Ганулька, не траць веры!» [7, с. 86].

Поспех жанчын, іх скокі і спевы на людзях выклікаюць гордасць у галавы сям'і — дзеда Петрака. Цяпер ён ужо не гаворыць: «Божухна, за што караеш?», а з замілаваннем глядзіць на іх: «Пятрок распіхаў усіх, падышоў бліжэй і прыемна казаў:

— Люблю! Дый люблю ж! Ай ды бабы мае! Ведай Петраковых!» [7, с. 86].

Такая рэакцыя вельмі паказальная. Два пакаленні адной сям'і, паміж якімі ў штодзённым жыцці ўзнікаюць сваркі і непаразуменні, якія жывуць з адчуваннем вялікай дыстанцыі, на людзях імкнуцца стварыць ілюзію поўнага аднадушша і ўзаемазгоды. Як глядзець на гэтыя, такія знешне прыгожыя адносіны ў гэтай сітуацыі, гэта значыць, на вяселлі, свекрыві, нявесткі і свёкра? Што тут: фальш, няшчырасць, вымушаных жыць пад адной страхой і знаходзіць спосабы мірнага суіснавання людзей, якія выстаўляюць перад аднавяскоўцамі любоў, якой на самай справе няма? А можа, сапраўды з'яўленне расткоў блізкасці, сардэчных адносін паміж роднымі людзьмі, якія не маглі выявіцца пры жыццёвых цяжкасцях і душэўнай стоме суровых будняў і аказаліся разбуджанымі агульным святам і радасцю? Пранікнёны пісьменнік Максім Гарэцкі, думаецца, схіляўся да апошняга, разумеючы, як важна для тых, хто ў поце чала здабывае свой штодзённы хлеб, узмацніць душэўныя сілы, даўшы адпачынак целу.

Роздум над сямейным жыццём селяніна-беларуса нязменна выклікаў смутак у душы Максіма Гарэцкага. Чытаючы яго творы, нельга не звярнуць увагу на такія аўтарскія заўвагі, як, напрыклад, паведамленне аб тым, што галоўны герой аповесці «Ціхая плынь» Хомка «плача ўва сне па скалечанай кабыле, а не па маці,

жорстка зняважанай бацькавым біццём» [7, с. 295—296]. Для такой дзіцячай іерархіі каштоўнасцей пісьменнік знаходзіць «змякчальныя абставіны», бо «мець сваю кабылу — было найсаладзейшаю думачкаю ўсёй сям'і цераз доўгі час»: «На тое, каб ужыццёвіць гэтую салодкасць, пайшлі недаспаныя раніцы дзяцей, што бегалі ў грыбы, збіраючы іх на продаж і разыкуючы трапіць пад бізун панскага аб'ездчыка. На тое пайшла яешанка самага вялікага свята, бо дзеля грошы на кабылу яйкі ехалі на Зэлікавым возе ў Оршу ці ў Смаленск. Той жа думкаю палягчалася гарката дзіцячых слёз і выццё і кляцьба маткі, калі Юрка ўпіваўся: слова «кабыла» спыняла лішнюю чарку ў паветры край самага роту і ставіла яе назад на стол. Дык ці ж можна раўнаваць з кабыліным калецтвам матчыны слёзы і матчына выццё пад бацькавымі кулакамі — такія звычайныя з'явы ў штодзённым асмолаўскім жыцці?» [7, с. 295—296].

Максім Гэрэцкі паказвае выключную цярплівасць, пакорлівасць і змірэнне жанчыны-сялянкі, яе ўменне суцішваць і ўтаймоўваць жорсткі нораў мужа, здольнасць да бязмежнай самаахвярнасці. Ідэя ўзаемнай вернасці і адзінкавасці гэтага саюзу жыве глыбока ў свядомасці мужа і жонкі, нягледзячы на грубасць і знешнюю нярадаснасць іх адносін. У аповесці «У чым яго крыўда?» маленькі эпізод аб паводзінах бацькі ў час матчынай хваробы даносіць хараство і паэзію іх узаемаадносін. Бацька ўзяў на сябе ўвесь цяжар хатніх клопатаў і клопатаў па гаспадарцы. «Матка, бачачы, як яму цяжка аднаму цягнуць на двор цэбар з мешанкаю свінням, саскаквала з печы, як маладзенькая, і бегла хоць дзверы за ім зачыніць. А ён гневаўся, і злаваўся, і крычаў на яе:

— Ляжы ты ўжо, калі хворая ляжыш! Што я, сам не зачыню дзвярэй? Пасобіш ты мне гэтым» [7, с. 177].

Паказальна, што адукаваны сын Лявон, герой аповесцей Гарэцкага, успрымае маці і бацьку як нешта непадзельнае, як адзіны жывы арганізм. Ён амаль у аднолькавай меры паважае іх і любіць. Праўда, пабыўшы ў свеце і пабачыўшы іншае жыццё, Лявон адчувае няўтульнасць ад беспарадку і гразі ў хаце, мякка дакарае родных за яе запушчанасць. Лявон і яго малодшы брат Лаўрынька належаць да дзяцей удзячных, пачцівых і паслухмяных, паблажлівых да недахопаў і слабасцей бацькоў, як маральных, так і разумовых. У іх ёсць пэўная мудрасць і справядлівасць і ў тых выпадках, калі бацька прад'яўляе да іх патрабаванні, якія не ў згодзе з маральнасцю. Так, Лаўрынька імкнецца тактоўна ўхіліцца ад неразумных прапаноў п'янага бацькі, калі той прымушае яго выпіць чарку, а пасля схадзіць пазычыць пляшку ў дзядзькі: «Лаўрынька, ідзі выпі чарку.

— Я не хачу.

— Што?!

— Я не буду піць, — упарта адказаў Лаўрынька.

Бацька метануў на яго погляд з захаванаю злосцю і пагрозаю, але змоўчыў, адкладаючы, відаць, расправу на пазнейшы час.

— Дык ідзі гукні дзядзьку ды спытайся, ці не засталося ў яго ад талакі гэтага зелля. Хай пляшку прынясе, пазычыць.

— Ай некалі мне... Па каня пара ісці ў поле, — увесь аж пачырванеў Лаўрынька. Ён не хацеў, каб на стале з'явілася яшчэ адна проклятая пляшка» [7, с. 224—225]. І толькі ўпэўніўшыся, што непаслушэнства выкліча вялікі скандал, сын ідзе выконваць гэты прыкры загад.

Цікава, што на «п'яныя штукі» бацькі маці глядзіць «з мяккім насміханнем» [7, с. 225].

Вядома, як у кожнай сям'і, здараюцца і ў сям'і Лявона і сваркі, і сутыкненні, аднак пастаянная руплівая праца і зварот да Бога (у кнізе «На імперыялістычнай вайне» гэта бачна асабліва) садзейнічаюць згуртаванасці і адзінству сям'і, узаемапавазе і цярпімасці кожнага да недахопаў іншых членаў сям'і. Аб гэтым сведчыць і тое, што Лявон пачуваецца ў коле дамашніх досыць утульна. Радасны сямейны

клімат асабліва малюецца ва ўспамінах галоўнага героя, калі ён прыгадвае сваё шчаслівае маленства, добрага, ласкавага, «любага дзедзю» — «старэйшага за ўсіх у хаце»: «якая салодкая апора ў дзіцячай бядзе — гэта дзедава спакойна-ласкавая гутарка і халаднаватая, худая рука на галоўцы» [7, с. 243]. Яго сэрца поўна любові і да бацькоў, перад якімі адчувае вялікую віну: «Бедныя вы мае, родныя мае! — падумаў Лявон. — Век-вяком вы цяжка працуеце. А калі я прыязджаю, ніякай працы ад мяне не вымагаеце, а нават не хочаце, каб я працаваў. І ўсё вы мне даруеце, усе крыўды, якія я раблю вам цераз розніцу ў нашых поглядах. З астатніх магчымасцей вучыце мяне…» [7, с. 174], — дакарае сябе Лявон у думках, незадаволены сваёй халоднасцю ў адносінах да бацькоў, а ў лістах просячы дараваць яму «тое-сёе» (аповесць «У чым яго крыўда?»).

Максім Гэрэцкі праўдзіва малюе партрэты родных галоўнага героя, не абмінаючы іх слабасцей. Бацька ганарыцца вучоным сынам, яго поспехамі ў навуцы і звысоку глядзіць на яго магчымых нявест. Лаўрынька вельмі перажывае за брата, над лістом якога да каханай дзяўчыны Лёксы насміхаюцца вяскоўцы. Малапісьменная Лёкса, не здолеўшы сама прачытаць ліст, давала чытаць яго «найбольшаму цёмналескаму грамацею», а пасля «ліст быў чытаны і перачытаны» пры ўсіх людзях. «Каб і знаку ад братавага сораму не засталося» [7, с. 183], Лаўрынька вырашае хітрасцю завалодаць лістом, пааб'яцаўшы Лёксінай меншай сястры за яго свой прыгожа спісаны сшытак, што робіць «пасля доўгіх душэўных мук», праяўляючы самаахвярнасць, бо вельмі даражыць сшыткам.

У аповесці «На імперыялістычнай вайне» Лявон па-свойму цешыцца жыццём у сям'і і малітоўнай атмасферай роднага дома — маці і бацькі, нявесткі і дзяцей перад адыходам да сну. Герой адчувае ўласную несправядлівасць у адносінах да нявесткі, якая любіць яго брата, ушчувае сябе: «І мне шкода і прыкра… Яна тужыць па Стахвану, а я з ёю няласкавы і грубы» [7, с. 434].

Усе «біяграфічныя» аповесці Гарэцкага, звязаныя скразным вобразам галоўнага героя — Лявона Задумы, — цікавы матэрыял для роздуму над сямейнымі праблемамі селяніна-беларуса, матэрыял шмат у чым павучальны, бо паказвае сям'ю як школу цярпення, даравання, згоды, любові і ўзаемаадказнасці. Дабрыні і самаўдасканалення.

Творчасць Максіма Гарэцкага адрозніваецца тэматычным багаццем. Пісьменнік імкнуўся як мага аб'ёмней ахапіць жыццё, зачэрпнуць пабольш з разнастайнасці натуры чалавечай, імкнуўся расказаць пра многіх людзей, якія сустрэліся на яго жыццёвай дарозе. Ён закранаў тэмы, да якіх наша прыгожае пісьменства звярталася вельмі рэдка, напрыклад, тэму манаства (апавяданні «Чарнічка», «Памылка»).

Упершыню надрукаванае ў газеце «Вольная Беларусь» 8 снежня1917 года, апавяданне «Чарнічка» займае ў творчай спадчыне Гарэцкага асаблівае месца. Па-першае, таму што закранае адну з вайжнейшых тэм — тэму манаства і звязаную з ёй тэму ўзаемаадносін душы з Богам, бо ў цэнтры твора — гераіні як бы з іншага свету, свету ангелаў — манашкі, жанчыны, якія адракліся ад насалод зямнога жыцця, аддаўшы сваю душу і сэрца Богу. Па-другое, яно прываблівае сваім жывапісам, псіхалагізмам, эмацыянальнасцю. Канешне, апавяданне не можа аб'ёмна ахапіць жыццё, усебакова раскрыць чалавека, аднак яно можа высвеціць штосьці вельмі важнае ў яго характары. У «Чарнічцы» М. Гарэцкі паказвае ўсяго адзін дзень, нават не дзень, а нейкаю пару гадзін з жыцця сваіх незвычайных герань, якія, збіраючы па вёсках восеньскую каляду на манастыр, папрасіліся паабедаць у адной з сялянскіх хат. Аднак гэтыя пару гадзін — іх жыццё ў мініяцюры. Пісьменнік малюе паводзіны Хрыстовых нявест за абедам і пасля абеду ў гутарцы з мірскімі людзьмі — маладымі хлопцам і маладзіцаю-маці.

Своеасаблівай уверцюрай да аповеду пра чарнічак з’яўляецца апісанне бязрадаснага восеньскага пейзажу. На што настройвае ён? На ўспрыманне такога ж бязрадаснага жыцця чарнічак? Такой «наўмыснасці» ў творы не адчуваецца, хоць пейзаж і ўваходзіць у духоўнае жыццё гераінь: «І трэба было згадзіцца, што восень на дварэ, а нейкае невыразнае нездавальненне варушылася на сэрцы, і чагосьці сярод восеньскага смутку жадалася» [8, с. 138]. Такім пейзажам, такім надвор’ем персанажы як бы выпрабоўваюцца: калі ў іх няма любові да Бога, калі яны не на сваім месцы, то, пазбаўленыя ўсялякіх уцех, яны ў такое надвор’е павінны б былі адчуваць нейкую асаблівую адзіноту, бязрадаснасць.

У першым жа сказе «Чарнічак» увага чытача звернута на неба і зямлю. Такім чынам, чытач як бы адразу настройваецца на разважанні аб «нябесным» і «зямным» у чалавеку: «Над пахмураю, мокраю зямлёю павісла шэра-цёмнае, нуднае восеньскае неба.

Пустая вуліца маўчыць. Людзі, калі ў дварэ, дык сядзяць па хатах. І коні ў пуні, бо ў полі зямля замерзла, і толькі сёння троху адтала і пакрылася ліпкаю гразёю. А ў лагчынах яшчэ бялеецца, па лагу і блізка лесу, рэдкі снегавы налёт» [8, с. 137].

Малюючы сумны восеньскі дзень, аўтар паказвае ўплыў «настрою» прыроды на ўнутраны стан і настрой чалавека і ўсяго жывога. І манастырскі конь адчувае сваю залежнасць ад надвор’я: «Спусціў ён галаву, звесіў вушы і не есць. <…> Стаяў, як заснуў, гняды конь: пуста і хмарна было на вуліцы; вецер клычыў жмуток балотнага сена» [8, с. 138].

Максім Гарэцкі глядзіць на сваіх гераінь вачыма любові, імкнучыся адгадаць загадку характару кожнай з іх, усведамляючы, што манаскае званне кліча да большага. З прыязнасцю і цікавасцю сочаць за імі і гаспадары хаты, назіраючы за манераю іх паводзін, за зменамі на іх твары, услухоўваючыся ў інтанацыі голасу. Кожная з манашак выказваецца як не трэба выразней у час яды: «Старэйшая, васпаватая, курносая, утупіла вочы ў стол і не ўзнімае іх з-пад чорнае наміткі. Слабенькая ружовая краска рэдзенька выступіла ў яе кропкамі і жылкамі на шчоках там, дзе ягадкі. Лыжку па лыжцы нясе яна паціху варыва і падстаўляе кусанік акуратна, каб не было капак на стале.

Маладзейшая — смялей. Расчырванелася за ядою, з-пад змятае, злінялае намітачкі выбілася чорная жменька валасоў. Вусны пухлы і чырвоны. Знянацку яна сарамліва ўскіне часам чорныя бліскучыя вочы на маладога хлопца і зноў патупіцца» [8, с. 138].

У апавяданні супрацьпастаўлены старэйшая чарнічка, якая знешне трымаецца бездакорна, адказвае строга і правільна, і маладзейшая, не навучыўшыся бубнець «змірэнна, як псальму чытаючы», адказвае маладому гаспадару, чырванеючы, «як мак добры». Першая глядзіць у зямлю, не ўзнімаючы вачэй, паводзіць сябе спакойна, проста і змірэнна. Другая забываецца і раз-пораз ускідае свае «чорныя, бліскучыя вочы» на «мірскога чалавека», ловячы на сабе яго неабыякавыя позіркі. Яна нават спыняецца на думцы аб тым, кім даводзіцца маладзіцы-маці гэты хлопец: «“То ж, мусіць, не сястра яго, а жонка”, — думаецца маладой манашцы» [8, с. 138]. У яе позірку чытаецца цікавасць да мірскога і схаваны смутак па ім. Старэйшая абдумвае свае словы і ўчынкі, маладзейшая пакуль не навучылася дзейнічаць з разважлівасцю, не ведае, дзе і як што сказаць, дзе прамаўчаць, гаворыць часам глупства. Яна часта пазірае ў вакенца хаты на свайго коніка, выдаючы сваю залішнюю трывогу. Гэта заўважае і хлопец:

«— Не бойся: на нашай вуліцы ўсё дабро цэла будзе... Чаго такая палахлівая? — сказаў, адвёў ад яе вочы, зацягнуўся і выпусціў шмат дыму» [8, с. 138].

Адказвае чарнічка вельмі характэрнай фразай, за якой — уся яна з яе хісткім духоўным станам, свецкім непакоем: «— Каб часам конь не адвязаўся. Збяжыць, тады што нам?» [8, с. 138]. Больш дакладнай фразы нельга, здаецца, і прыдумаць

для гераіні, характар якой ужо і так вельмі выразна абазначыў аўтар. Не да твару такія словы і паводзіны манашцы, таму старэйшая непрыкметна таўхае яе пад сталом, прымушаючы яе маўчаць і бярэ адказнасць за гаворку ў свае рукі.

Пісьменнік змог выклікаць у сэрцы чытача любоў да сваіх гераінь і данесці вялікую пашану маладога чалавека да чарнічак. Нягледзячы на тое, што яго госці паводзяць сябе, можа, і не зусім узорна, бо пакуль не сталі яшчэ сапраўднымі інакінямі, ён адчувае іх духоўную перавагу над знаёмымі дзяўчатамі, бо само іх з'яўленне сведчыць пра тое, што ёсць нешта вышэйшае, ёсць Бог. Таму ў гаворцы з чарнічкамі ён стрымлівае сябе, кантралюе, імкнучыся гаварыць далікатней. Гарэцкі не робіць падрабязнага разбору яго думак і слоў, але самі словы і аўтарскія каментарыі да іх раскрываюць яго працу над сабой: «пажартаваў ён і трошку пачырванеў, што, можа, сказаў ім лішняе» [8, с. 138] «і зноў зацягнуўся і глядзеў у бок, як быццам засаромеўся, што не смее сказаць, каб як далікатней» [8, с. 139].

Прысутнасць чарнічак «правакуе» людзей задумацца над тым, што жыццё мае больш глыбокі сэнс, чым толькі зямныя клопаты. «Кожная манашка, — піша сучасны старац Паісій Святагорац, — апроч малітвы за мір, дапамагае яму манерай сваіх паводзін, тым, як яна адносіцца да розных праблем, той парай слоў, якія яна скажа ў архандарыку якому-небудзь паломніку, каб ён змог зразумець самы глыбокі сэнс жыцця, або якой-небудзь мацеры, каб яе падтрымаць» [9, с. 336].

Характарыстыка ўнутранага жыцця герояў даецца Гарэцкім праз фізічна зрокавае (міміку, жэст, погляд і г. д.) і праз іх мову, прычым пісьменнік пазбягае «разжоўвання» семантыкі знешніх рухаў, пакідаючы некаторыя рэчы дадумаць чытачу. За рамкамі твора — мінулае манашак, тыя абставіны і матывы, якія прывялі іх у манастыр, прымусілі адмовіцца ад замуства і мацярынства, праз якія таксама можна ўратавацца. Пра гэты другі шлях жанчыны — замуства і нараджэнне дзяцей — нагадвае ў апавяданні маладзіца, упэўненая ў тым, што гэта і ёсць сапраўднае прызначэнне жанчыны. Яна ласкава і пяшчотна глядзіць на сваё дзіця, сваім выглядам як бы робячы выклік чарнічкам: «села карміць дзіця, не саромліва, а з правам маці, разгарнуўшы цьмяна-белыя грудзі» [8, с. 138]. Героі «Чарнічкі» абменьваюцца не толькі рэплікамі, слоўнымі формамі зносін, але і «дыялагічнымі» ўчынкамі і дзеяннямі, як, напрыклад, у гэтым выпадку, калі жанчына-маці сваімі паводзінамі як бы падкрэслівае сваю вышэйшасць перад манашкамі. На заўвагу хлопца, што ён быў у манастыры і бачыў там прыгожых чарнічак, яна выказвае сваё шчырае неразуменне таго, чаму ідуць туды, асабліва маладыя і прыгожыя: « — І я ўжо дзівілася, — адгукнулася з запечку маладухамаці. — Ёсць такія маладзенькія... Ча'йта ўжо так ідуць? Ці сіротак туды бяруць гадаваць змалку, ці то, кажуць, дзеля хлеба, дзеля спакою каторая ў манашкі ідзе?» [8, с. 138].

Апавяданне пачынаецца і заканчваецца журботнымі пейзажамі позняй восені. Манашкі моўчкі вяртаюцца ў свой манастыр, кожная са сваімі думкамі. Старэйшая варушыць вуснамі, шэпчучы словы малітвы. Пісьменнік абірае цікавую пазіцыю, ён адмаўляецца ад пазіцыі ўсё ведаючага і ўсё разумеючага аўтара, адчуваючы выключную адказнасць за створаныя ім вобразы, баючыся сграшыць супраць праўды. Двойчы ў фінале ён паўтарае пытанне адносна маладзейшай манашкі: «Аб чым яна думае?» І толькі ў заключнай фразе твора як бы асцярожна выказвае сваю гіпотэзу: «Мусіць, думае: «Больш мяне па каляду не пашлюць...» [8, с. 140].

Такім чынам таленавіты празаік пазбег спрошчанага паказу ўнутранага свету малітоўніц за ўвесь свет, затушоўвання ў іх вобразах «нябеснага», пазбег навязвання чытачу сваіх думак, мірскога шкадавання манашак, чаго не ўдалося некаторым пазнейшым прадаўжальнікам гэтай тэмы ў савецкі час.

Мы закранулі толькі некаторыя асаблівасці пейзажа, партрэта, дыялога, псіхааналізу выдатнага беларускага празаіка Максіма Гарэцкага. Але і гэтыя назіранні

і прыведзеныя намі ўрыўкі з твораў яскрава сведчаць, што Гарэцкіі — эстэт у літаратуры. І менавіта ў распазнаванні «сакрэтаў» майстэрства гэтага вельмі чуйнага да слова празаіка, праз мову і стыль, мы бачым перспектыву далейшага даследавання яго творчасці.

## Спіс літаратуры:

1. Маладняк. 1926. № 5.

2. Вярцінскі, А. Выбраныя творы/ А. Вярцінскі — Мінск: Кнігазбор. 2009. — 524 с.

3. Мушынскі, М. Падзвіжнік з Малой Багацькаўкі: жыццёвы і творчы шлях Максіма Гарэцкага / М. Мушынскі — Мінск: Беларуская навука, 2008. — 509 с.

4. Гарэцкі, М. Выбраныя творы: у двух тамах / М. Гарэцкі — Мінск: Мастацкая літаратура. 1973. — Т. 2. Аповесці, дакументальна-мастацкія запіскі, раман. — 478 с.

5. Русские писатели о языке: хрестоматия / Под общ. ред. А. М. Докусова. — 2-е изд. — Л., 1955.— 460 с.

6. Паустовский, К. Поэтическое излучение. / К. Паустовский — Повести. Рассказы. Письма. — Москва: Молодая гвардия, 1976. — 432 с.

7. Гарэцкі, М. Творы: апавяданні, аповесці / М. Гарэцкі — Мінск: Мастацкая літаратура, 1995. — 446 с.

8. Гарэцкі, М. Збор твораў у чатырох тамах. Т. 1. Апавяданні 1913—1930. Мн.: Мастацкая літаратура, 1984.

9. Блаженной памяти. Старец Паисий Святогорец. Слова. Т. 2. Духовное пробуждение. Издательский дом «Святая гора» — М., 2004.

**Алена МАСЛА**

# «ЧОРНЫЯ ДЗЮРКІ» НА «ЗАЛАТОЕ ПРАВІЛА»: ВЫГОДНЫ АБМЕН

## Першапраходзец на літаратурнай «экалагічнай» сцежцы

Цягам апошняга дзесяцігоддзя ў беларускай дзіцячай літаратуры актыўна развіваецца напрамак, названы крытыкамі «экалагічнай казкай». Найперш варта згадаць праекты, здзейсненыя РВУ «Літаратура і Мастацтва» — «Чырвоная кніга ў казках і вершах» (2007), «Лясная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў» (2008), «Блакітная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў» (2009) і «Касмічная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў» (2010).

Кнігі Віктара Гардзея «Малая дзіцячая Чырвоная кніга» (2008) і «Малая дзіцячая Чырвоная кніга. Ахоўная флора» (2010), якія выйшлі ў выдавецтве «Беларусь», стаяць асабняком. Аднак менавіта з экалагічных вершаў Гардзея, што і склалі іх змест, пачаўся новы, энцыклапедычна-мастацкі накірунак развіцця прыродазнаўчай тэматыкі і ў вершах, і ў казках.

Адбываецца гэта не на голым месцы. Успомнім хаця б аповесць Уладзіміра Дубоўкі «Як Алік у тайзе заблудзіўся», альбо славутых «Палескіх рабінзонаў» Янкі Маўра. Героі названых твораў апынуліся ў экстрэмальных абставінах і пановаму адкрылі для сябе свет прыроды. Аднак стасункі гэтых персанажаў маюць пераважна ўтылітарны характар. Як выжыць, ацалець без дабротаў цывілізацыі? Як у гэтым можа дапамагчы раслінны і жывёльны свет? Высновы відавочныя: вывучай прыроду, яе з’явы, будзь у гэтай навуцы выдатнікам — каб не пачувацца на зямлі чужынцам, а, наадварот, быць адукаваным жыхаром і ўмець прымяніць гэтыя веды ў жыцці.

«Быць выдатнікам», засвоіць канкрэтныя веды пра раслінны і жывёльны свет праз мастацкае слова якраз і дапамагаюць прыродазнаўчыя творы Гардзея, бо пісьменнік вынайшаў арыгінальную форму падачы матэрыялу, калі дакладныя энцыклапедычныя звесткі аб прадстаўніках жывёльнага або расліннага свету і мастацкае апісанне іх прыводзяцца разам.

«Не шкодзь прыродзе, жыві з ёю ў згодзе!» — вось ідэя, якой кіраваўся ён у напісанні «Малой дзіцячай Чырвонай кнігі» і якую агучыў, так назваўшы прадмову да першай кнігі: ад задачы быць граматным спажыўцом прыродных багаццяў, якімі надзяляе чалавека зямля, пісьменнік робіць крок у кірунку ідэі захавання прыродных рэсурсаў, беражлівага стаўлення да іх. Балазе, дзесяцігоддзі актыўнага развіцця тэхнічнага прагрэсу адгукнуліся і працягваюць адгукацца навакольнаму асяродку экалагічнымі катастрофамі, вымушаюць шукаць новы падыход да фарміравання свядомасці людзей, у тым ліку і праз мастацкія творы.

«Выхоўваць з маленства высокую экалагічную культуру — справа складаная і не простая, але ганаровая і патрэбная, таму што кожны чалавек сёння асабіста адказны перад светам за скарбы сваёй роднай прыроды», — гаворыцца ў анатацыі.

Кнігі выйшлі адна за адной на працягу двух гадоў, але складаліся яны амаль два дзесяцігоддзі. У студзені 1985 года Гардзей пачаў працаваць у часопісе «Родная прырода». Спасціжэнне спецыфікі выдання вымусіла яго заглыбіцца ў тэму прыродазнаўства.

«Менавіта тады, калі я ўсё больш пазнаваў таямніцы жывой прыроды, аднойчы ў мяне і нарадзілася ідэя стварыць паэтычную Чырвоную кнігу Беларусі для дзяцей, што, на мой погляд, дужа арыгінальна, бо пра ахоўных жывёл і птушак у вершах яшчэ ніхто не пісаў. Са зборам патрэбных матэрыялаў праблемы не было ад самага пачатку. Каштоўнай крыніцай інфармацыі найперш стаў часопіс «Родная прырода», у якім з цікавымі артыкуламі пра жывёльны свет нашай краіны пастаянна друкаваліся супрацоўнікі Інстытута заалогіі… Багата патрэбнага матэрыялу для ажыццяўлення сваёй задумы давалі камандзіроўкі і паездкі ў самыя розныя куткі Беларусі. …праца прасоўвалася ўвогуле марудна, што і зразумела. Паспрабуй у кароценькім вершы апісаць у мастацкіх вобразах бадай ці не ўсю біялогію нейкага малавядомага паўзуна, матыля, кажана, птушкі, а да навуковай дакладнасці я акурат і імкнуўся» [1].

Дзеля ілюстрацыі сказанага працытуем верш «Апалон».

Матылёк, названы апалонам,
Тут, на Беларусі, рэдкі госць.
Вось чаму ахоўваюць законам
Рэдкую такую прыгажосць.

Ён жыве наогул там, дзе сопкі,
Дзе з гарамі зліўся небасхіл.
Буйныя аранжавыя кропкі —
Яркая аздоба снежных крыл.

На палянах у цішы вясковай
Кружыцца між кветак і травы.
Апалона спудзіш выпадкова —
Упадзе на дол, як нежывы.

Прыляцеў да нас з лугоў альпійскіх,
Дык сачок, аматар, выкінь вон.
Беларускі, польскі ці латвійскі, —
Апалон заўсёды апалон!

*(«Вясёлка», № 8, 1996)*

Гэта — паэтычнае выкладанне фактаў. Кароткія навуковыя звесткі пра матыля ў кнізе прыведзены адразу ж побач з вершам.

***Апалон (аполлон).*** *Буйны дзённы матыль з размахам крылаў да 15 сантыметраў. Распаўсюджаны ў гарыстай мясцовасці, дзе яшчэ ў значнай колькасці захаваўся на альпійскіх лугах. З 1993 года занесены ў Чырвоную кнігу Беларусі. Жыве на сонечных палянах, сярод сухіх малалюдных урочышчаў. Не любіць шуму, абмінае мясціны, дзе пасвіцца статак. Калі матыля патрывожыць, можа вокамгненна ўпасці на дол, прыкінуўшыся нежывым. Кожны калекцыянер-аматар лічыць за шчасце злавіць апалона, які вызначаецца адметнай і непаўторнай афарбоўкай. Крылы матыля амаль празрыстыя, светлага альбо снежна-крэмавага колеру. На верхніх сіметрычна размешчана па 5 чорных плям, ніжнія аздоблены дзвюма парамі сумежных чорных і аранжавых колцаў з белай кропкай усярэдзіне. Паўсюдна ў Еўропе апалон знікае ў выніку неабдуманай гаспадарчай дзейнасці чалавека, знішчэння мясцін пражывання і пагаршэння клімату. Верагодна, сваю прыгожую назву рэдкі матыль атрымаў у гонар Апалона — старажытнагрэчаскага бога сонца, святла, мастацтва і паэзіі.*

Праца над кнігай у асноўным завяршылася ў 2003 годзе. Больш за 200 відаў «чырванакніжнікаў» — прадстаўнікоў знікаючай флоры і фаўны Беларусі — па-майстэрску апаэтызаваныя Гардзеем. Асобныя творы з будучай кнігі друкаваліся ў часопісах «Бярозка», «Вясёлка», «Лесавічок», «Пачатковая школа». Пакуль «Малая дзіцячая Чырвоная кніга» рыхтавалася да друку (ішоў пошук кампетэнтнага выдаўца, удакладняліся факты і спраўджвалася інфармацыя пра «чырванакніжнікаў», трэцяе выданне якой выйшла акурат падчас працы над рукапісам), у Беларусі абазначылася цэлая кагорта паслядоўнікаў Гардзея.

## «Міфалагізацыі свету» па-беларуску

У 2003 годзе ў РВУ «Літаратура і Мастацтва» выходзіць «Чырвоная кніга ў казках і вершах беларускіх пісьменнікаў».

«Дарагі сябар! Ты трымаеш у руках унікальную кніжку, якая расхінае перад табой дзівосны і непаўторны свет роднай прыроды праз вершы і казкі беларускіх пісьменнікаў. Безумоўна, яны табе спадабаюцца як літаратурныя творы. Але пісьменнікі, калі стваралі гэтыя займальныя сюжэты, думалі пра адно: абудзіць у тваім сэрцы любоў да ўсяго жывога на зямлі, да раслін і кветак, да таго непаўторнага свету, які робіць наш край прыгожым. Бо менавіта з любві пачынаецца жаданне зберагчы і захаваць тое, што мы атрымалі ў спадчыну, для нашчадкаў. «Чырвоная кніга» — гэта папярэджанне ўсім нам — не дайце ачарсцвець душы, а сэрцу стаць абыякавым. У «Чырвонай кнізе» ты знойдзеш тое, што чакае тваёй любові», — гаворыцца ў анатацыі [2].

Укладальніцай кнігі стала Раіса Баравікова. Прапанаваны творы многіх аўтараў, сярод якіх і Гардзей. Поруч з першапраходцам рушылі ў захапляльны свет жывой прыроды і павялі за сабой чытачоў Уладзімір Мазго, Віктар Праўдзін, Людміла Рублеўская, Міхась Пазнякоў, Яўген Хвалей, Віктар Шніп. Прынцып падачы твораў такі ж, як і ў Гардзея — чытач знаёміцца са звесткамі з Чырвонай кнігі і з мастацкім творам — казкай або вершам — створанымі на падставе гэтых звестак.

Выданне, да таго ж цудоўна праілюстраванае мастаком В. Дударанкам, стала заўважным і паспяховым, і ўслед за ім у 2007 годзе РВУ «Літаратура і Мастацтва» выпускае наступную «Чырвоную кнігу ў казках і вершах».

У шэрагу твораў, якія складаюць названыя выданні (напрыклад, казкі Баравіковай «Пра дзвюх сясцёр і чараўніка Магу Тое, На Што Здатны» і «З казак старога астранаўта»; Рублеўскай «З казак бабулі Юстыны») свет жывёл і раслін падаецца адухоўленым не толькі праз тое, што маюць галасы. Сваім з’яўленнем на свет яны абавязаны людзям, героям розных гісторый, якія ў выніку пэўных падзей ператвараюцца ў раслін і жывёл — так аўтары міфалагізуюць прыродны асяродак.

У беларускім фальклоры, як вядома, шмат песень, легенд і паданняў, якія апавядаюць пра ператварэнні людзей. Нялюбая нявестка, ратуючыся ад злой свякроўкі, ператвараецца ў вярбу. Закаханыя, якім чыніцца перашкода — у явар з калінаю. Ратуючыся ад палону, жанчыны кідаюцца на дно возера — і падымаюцца на яго паверхні белымі кветкамі… З узнікненнем традыцый рамантызму, закладзеных яшчэ ў XIX стагоддзі, пісьменнікі звярталіся да фальклору. Легенды і паданні клаліся ў аснову літаратурных твораў. Варта згадаць баладу «Свіцязянка» Адама Міцкевіча, у якой якраз Свіцязянкі — белыя кветкі, якімі сталі няскораныя чужынцамі-ворагамі дзяўчаты; альбо «Паэму пра явар і каліну» Уладзіміра Караткевіча.

Экалагічныя казкі сучасных пісьменнікаў — з’ява ўнікальная таму, што, наследуючы рамантычнай традыцыі, яны, тым не менш, не адштурхоўваюцца ад вядомых фальклорных сюжэтаў і вобразаў, а ствараюць свой адметны свет, які нагадвае нам пра старажытныя легенды і паданні паходжання раслін, і міфалагізуюць яго.

Даследуючы традыцыі рамантызму ў беларускай літаратуры, Любоў Тарасюк пісала, што яна (традыцыя рамантызму. — *А. М.*) была «мастацкай асновай спасціжэння некаторых адметных рыс беларускага менталітэту, асаблівай схільнасці да міфалагізацыі свету, да першаснапаэтычных фальклорных уяўленняў» [3].

Гэтая схільнасць, што выявілася і ў творах сучасных аўтараў, ставіць напісаныя імі творы ў шэраг надзвычай актуальнай сёння экалагічнай літаратуры, бо цалкам упісваецца ў канцэпцыю «залатога правіла» экалогіі ў постіндустрыяльную эпоху, дзе ўсё гучней заяўляе пра сябе ідэя неабходнасці стварэння экалагічнага грамадства.

## «Экалагічнае грамадства» і «экалагічныя творы»

У «экалагічным грамадстве» чакаюцца змены структуры асобы з «агрэсіўна-спажывецкай на любоўна-творчую» [4]. У выніку прыхільнікі развіцця яго спадзяюцца на гарманізацыю стасункаў чалавека з чалавекам і чалавека з прыродай. Галоўнай задачай абвяшчаецца ступень упарадкавання біясферы — як адзінай сферы для ўсяго жывога. Гэта, у сваю чаргу, павінна прывесці да росту разнастайнасці і ўстойлівасці сістэмы «чалавек — прыродны асяродак» і вывесці на п’едэстал маральны закон раўназначнасці. У дзейнасць павінна ўступіць «залатое правіла» экалогіі: «стаўся да прыроды так, як хочаш, каб ставіліся да цябе».

Каб быць жыццяздольнымі, перамены ў свядомасці мусяць адбыцца натуральным, безгвалтоўным чынам. Шлях да экалагічнага грамадства — гэта шлях асветніцтва, «образованья души», як спявае бард Аляксандр Дольскі. Менавіта «адукацыю душы» можа дапамагаць здзяйсняць мастацкае слова.

Слова, прамоўленае праз «экалагічныя творы» беларускімі пісьменнікамі, гучыць паэтычна і чароўна, бо жыццё ператвараюць у казку, казку — у жыццё.

*«З часам Наяда вельмі змянілася. Яна стала больш падобнай на расліну, чым на дзяўчыну. Яе стройныя ножкі ператварыліся ў доўгае гнуткае сцябло, а ручкі ўжо нагадвалі тоненькія вузенькія лісточкі. Займеўшы карані, яна ўжо не змагла больш усплываць на паверхню. Але нават стаўшы раслінай, яна па-ранейшаму заставалася фарсухай. Толькі ўпрыгожаннямі цяпер ёй служылі ўласныя кветачкі, праўда, не такія яркія і шыкоўныя, якімі яна ўбіралася, жывучы ў моры. Кветачкі выраслі на яе сцяблінах нечакана для самой Наяды. І любіла яна іх куды мацней. Наядзе здавалася, што з’яўленне кветак — гэта водгук яе душы на цудоўныя салаўіныя спевы, якія на ўсё жыццё сталі яе галоўнай уцехай і падтрымкай. Раслінкі, што з’явіліся з насення гэтых кветачак, абралі сабе месцам жыхарства тыя азёры, у якіх вада была хаця б крышачку саланаватай. І раслі яны групкамі, якраз як тыя дзяўчаты — Наяды і Нерыіды, з якіх і пачалася іх гісторыя» [5].*

Прыведзены ўрывак з казкі Наталлі Бучынскай «Наяда марская, або Услед за песняй», у якой апавядаецца, як юная Наяда закахалася ў салаўіныя песні і пакінула салёныя марскія воды, сваю радзіму, каб плысці ў нязнаныя краі ўслед за Салоўкам. Як дзяўчына стала кветкай у прэснай вадзе — але мела шчасце слухаць Салаўя.

Прырода — жывая, яна адчувае, думае, пакутуе, любіць і гневаецца, бо людзі — гэта яна. А яна — гэта людзі і ўвесь навакольны свет.

У беларускай традыцыі, якая перадаецца праз фальклорную спадчыну, спрадвечнае разуменне повязі ўсяго жывога. Чаго вартыя толькі народныя прыкметы — не руш гняздо ластавак, бо рабаціннем пакрыешся; не забівай жаб — барадаўкамі абсыпле (альбо дождж пойдзе)…

Гэтае разуменне — і ў вядомых еўрапейскіх легендах і паданнях пра з’яўленне на зямлі розных кветак: гладыёлусы выраслі на месцы мячоў, якія, не жадаючы біцца на смерць, уторкнулі ў зямлю гладыятары… У кветку нарцыса перакінуўся ганарлівы юнак-прыгажун. Лілеі прараслі там, куды ўпалі кроплі малака з грудзей багіні Геры… Менавіта тэма раўназначнасці ўсяго жывога яднае старажытныя легенды і паданні з творамі сучасных беларускіх аўтараў, якія ствараюць вершы і казкі ў рэчышчы «залатога правіла» экалогіі. Іх збліжае «…пачуццё еднасці з усім светам; разуменне не проста яго біялагічнага існавання, але адушаўлёнасці, пачуццёвасці, спрычыненасці да лёсу людзей» [6].

У нашай дзіцячай літаратуры апроч названых вышэй кніг ёсць кніга Н. Бучынскай «Атракцыён для вадзянікоў» (2014) і А. Масла «Як пані Чаротная на госці ў Палангу бегала» (2009).

Пасля друкавання ў «Чырвонай кнізе» асобнымі выданнямі выйшлі «Казкі астранаўта, альбо Касмічныя падарожжы беларусаў» (2006), «Казкі з гербарыя»

(2008) Баравіковай і «Карона на дне віра, альбо Казкі з хутара Юстыны» (2008) Рублеўскай. У гэтых выданнях, праўда, ужо няма спасылак на канкрэтную інфармацыю з Чырвонай кнігі, але назвы твораў, апроч мастацкіх, утрымліваюць назву прадстаўнікоў расліннага свету — напрыклад, «Праўда лірніка Венанцы, альбо Чыставуст каралеўскі» (Рублеўская, «Карона на дне віра»). У «Казках з гербарыя» Баравіковай, да таго ж, ідэя падтрымана мастаком-ілюстратарам — выява кажнай расліны, пра якую апавядаецца казачная гісторыя, пададзена з навуковай назвай. Галоўная ідэя — повязі ўсяго жывога на Зямлі, міфалагізацыя свету — захаваная пісьменніцамі.

## «Чорныя дзюркі» літаратурнай адукацыі

Аналізуючы такую з’яву, як экалагічныя літаратурныя творы для дзяцей, не магчыма абмінуць тэмы балючай, якая ўжо набіла аскоміну — і, тым не менш, замоўчваць яе нельга: не веданне свайго.

Калі чарговы раз чытаеш абвінавачванні, што дзецям няма нічога беларускага вучыць на памяць, каб выступіць на ранішніку; адсутнічаюць кніжныя героі, якіх хацелася б увасобіць у карнавальным касцюме на ёлку, робіцца вусцішна за няведанне літаратуры адукаванымі нібыта людзьмі. Вось адзін са «свежых» папрокаў — са старонак газеты «Культура» ад спецыяльнага карэспандэнта А. Саўчанкі. Нагледзеўшыся на навагодніх ранішніках на дзяцей у касцюмах чалавека-павука, каўбоеў, мушкецёраў і іншы «замежны тавар», яна піша:

«Зразумела, ніякіх айчынных персанажаў я на шэрагу гэтых ранішнікаў не сустрэла. Чаму «зразумела»? Мо таму, што няма ў нас такіх культавых прывабных герояў з кніжак, мультфільмаў, коміксаў ці проста выцягнутых з масавай культуры (хіба хакейны зубр з апошніх гадоў). І сапраўды, ну не ў Міколку ж Паравоза апранацца дзецям? Хаця можна звярнуцца да той жа міфалогіі. Наш фальклор багаты на незвычайных і адметных істот кшталту русалак ці дамавікоў, перуноў ці зюзяў. Можна, урэшце, «пагуляць» з адаптацыяй вобразаў гістарычных асоб — кагосьці з тых жа Радзівілаў ці Агінскіх, Вітаўта ці Рагнеды. Ды мой каменьчык не ў гарод бацькоў паляцеў. Грамада, за рэдкім выключэннем, спажывае тое, што культывуецца наўкола», — *слушна заўважае карэспандэнт і працягвае*: «Новы час патрабуе новых лідараў, герояў. Для дзіцячага ўспрымання ў тым ліку. Мы хочам верыць у станоўчую, харызматычную, непрымітыўную асобу, хай сабе і кіношную. Гэта адчувальна нават па тым, што я бачыла на ранішніках, падрыхтаваных як прыватнымі, так і дзяржаўнымі калектывамі. Дзецям і дарослым не хапае больш увасабленняў дабра і справядлівасці. Можа, менавіта таму з’явіліся і Пітар Паркер, і Гары Потар. І калі нашы творцы такіх прыкладаў не даюць, то мы і надалей будзем пазычаць іх у замежжы. Інакш не атрымаецца? А можа, галоўнае, каб у нашых дзяцей увогуле былі героі і добрыя прыклады перад вачыма» [7].

Усё так. Апроч аднаго. Усіх, хто крытыку айчыннай дзіцячай літаратуры пачынае са згадак Міколкі-Паравоза, хочацца перш-наперш праэкзаменаваць на веданне і гісторыі літаратуры, і навінак у літаратурным жыцці. Ужо калі выносіць прысуды — то не толькі з разумным выглядам, а і з веданнем справы.

А веданне справы, апроч свабоднай арыентацыі ў тэме, абранай для гаворкі, мае на ўвазе і веданне абавязковых правіл па прасоўванні прадукта (у дадзеным выпадку літаратурных твораў) на рынак. Творчы чалавек стварае творчы прадукт. Патрабаваць ад яго быць рэкламістам і папулярызатарам уласных твораў, агентам, які «сасватае» літаратурны твор выдавецтвам, кінастудыям, прадпрыемствам, каб тыя ўзяліся прадукцыю вырабляць з выкарыстаннем выяў кніжных герояў — такую пастаноўку пытання можна назваць нармальнай?

Пазнавальныя героі — гэта вынік супрацы шматлікіх спецыялістаў па прасоўванні брэнда. І калі ўжо задаваць дакорлівыя пытанні, то час адлюстраваць іх «пракурорам беларускай літаратуры» і прапанаваць: а давайце разам папрацуем над тым, каб на наступных ранішніках з'явіліся героі нацыянальных казак! Каб экалагічныя мерапрыемствы, якіх праводзіцца шмат, хоць часткова грунтаваліся на беларускім літаратурным матэрыяле. СМІ, у прыватнасці, і мусяць дапамагчы творцам — расказаць пра іх творы, абудзіць цікавасць, з якой, магчыма, усё і пачнецца. А заадно і пацікавіцца, колькі сродкаў укладзена ў раскрутку вобразаў, якія пералічвае аўтарка згаданага допісу!

Цэлая серыя экалагічных твораў для дзяцей, якія больш за дзесяць год выдаюцца ў Беларусі — але, сапраўды, з розных нагод не далі падставы бацькам нават дзецям касцюм на навагодні ранішнік справіць — гэта сорам. Не пісьменнікам — яны стварылі ўнікальны прадукт, актуальны не толькі для Беларусі — для людской супольнасці ўвогуле.

Гэтыя творы, як і дзясяткі іншых, правальваюцца ў «чорныя дзюркі»: праз абыякавась да свайго, кепскае веданне роднай мовы, невялікія наклады, адсутнасць належнай папулярызацыі. Яны застаюцца ў ліку твораў, якія скадаюць падмурак для тых, хто ўласны дом будуе на адукаванасці, павазе да сябе і свайго ў сабе і свеце.

Бо залатое правіла экалогіі і палягае ў разуменні таго, што ўсё вакол узаемазвязанае. У рэчышчы гэтага «залатога правіла» беларускімі пісьменнікамі створаны шэраг адметных твораў. Кнігі гэтыя вартыя прэзентацыі, перакладаў, могуць стаць асновай і для сцэнарыяў мультфільмаў, і для стварэнняў гульняў...

Новая экалагічная казка, калі толькі пажадаюць беларусы і зробяць у гэтым накірунку патрэбныя крокі, можа стаць яскравым літаратурным брэндам краіны.

## Спіс літаратуры:

1. Малая дзіцячая Чырвоная кніга / Віктар Гардзей. — Мінск : Беларусь, 2008.

2. Чырвоная кніга ў казках і вершах беларускіх пісьменнікаў / Уклад. Р. А. Баравікова. — Мн. : Літаратура і Мастацтва, 2003.

3. Тарасюк, Л. Рамантызм у беларускай літаратуры / Л. Тарасюк // Роднае слова. — 1998. — №9. — С. 37 — 43.

4. Горелов, А. А. Экология: конспект лекций / А. Горелов. — М.: Высшее образование, 2008.

5. Атракцыён для вадзянікоў / Наталля Бучынская. — Мінск : Мастацкая літаратура, 2015.

6. Масла, А. Ключ да разумення жывога свету. / А. Масла // Полымя. — 2007. — №11. С. 136 — 139.

Валянціна ДЗЯМЕШКА

# У БУДУЧЫНЮ З... ФІНАНСАВАЙ ДЫЕТАЙ




**ФИНАНСОВАЯ ДИЕТА:**
***реформы государственных финансов Беларуси.***

*Под науч. ред. К. В. Рудого. —*

*Минск. Издательский дом «Звязда». 2016*

Не задумваліся над тым, якая канкурэнтная перавага ў сучасных умовах гаспадарання? Прызнаюся шчыра: мяне таксама не надта хвалявала згаданае пытанне. Бо ўсё гэта, нягледзячы на правільнае выказванне аднаго з класікаў пра тое, што «жыць у грамадстве і быць не залежным ад грамадства немагчыма», усё ж далекавата ад маіх прафесійных інтарэсаў. Ды тое, што мусць адбыцца, абавязкова адбудзецца. Узяла ў рукі кнігу «Финансовая диета: реформы государственных финансов в Беларуси» і нечакана атрымала адказ. У самым пачатку яе. У «Введении», а калі канкрэтна, то ў першым падзагалоўку — «О чем эта книга…» Прытым адказ для мяне стаў нечаканым і ў самой сваёй сутнасці: «Мир вокруг Беларуси стремительно меняется. Новые технологии, неограниченная информация, всеобщая открытость и мобильность ускоряют течение времени. Сегодня человек проживает многие события быстрее, чем вчера. Новые продукты, компании и рынки появляются и исчезают со скоростью Интернета. Главным конкурентным преимуществом становится не сырье, не технологии, не финансы и даже не люди, а время. Вовремя принятые решения и их своевременная реализация — гарантия не только успеха, но и выживания».

Неабходнасць прыняцця важных рашэнняў, якія б працавалі не толькі на сёння, колькі і на перспектыву, на будучае, не проста важна, а архіважна. Тым больш, «экономика Беларуси находится в сложных условиях. Практически исчерпан запас постсоветской структуры экономики и «ручного» управления. Денежная эмиссия, девальвации, займы ранее давали рывки в экономическом росте. Но относительно свободный и длительный доступ к деньгам исказил стимулы в экономике. В государственном секторе финансовое насыщение тормозит инициативу и инновации, а непрерывный льготный финансовый поток скрывает управленческие ошибки».

Праблемы, праблемы… На іх і засяроджваюць увагу аўтары гэтай калек-

тыўнай манаграфіі. Імі з'яўляюцца вучоныя Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта, Інстытута эканомікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Беларускага эканамічнага даследчыцка-адукацыйнага цэнтра BEROC, Даследчыцкага цэнтра ІПМ, Арызонскага дзяржаўнага ўніверсітэта (ЗША), Нацыянальнага інстытута эканамічных і сацыяльных даследаванняў (Вялікабрытанія), Нямецкай эканамічнай групы (Германіі). Суаўтар гэтага навукова-даследчыцкага калектыву і навуковы рэдактар — доктар эканамічных навук Кірыл Рудый. Ім жа напісаны ўступ, першы, другі і трэці раздзелы, а таксама, а калі прыняць пад увагу, што і асобныя параграфы ў іншых главах, то відавочна, які вялікі аб'ём работы выкананы адным чалавекам. Адначасова бачна і іншае: развагі, вывады, абагульненні К. Рудага — гэта як бы стрыжань усёй даследчыцкай працы, яе мэтанакіруючы вектар, яе стрыжнявыя звенні, вакол якіх і выстройваецца цэласная карціна трансфармацыі эканомікі, а дапасавана да нашых умоў — эканомікі беларускай, нацыянальнай. Той эканомікі, дзякуючы развіццю якой і можна будзе гаварыць аб паспяховым рэфармаванні фінансаў Беларусі. Разам з тым гэта не адмаўляе сутыкненне розных меркаванняў, падыходаў, што і відаць з артыкулаў, змешчаных у гэтай калектыўнай манаграфіі.

Паняцце «фінансавая дыета», як на гэта звернута ўвага ва ўводзінах, «это не шок и не голодовка. «Финансовая диета» предпологает упорядоченное, рациональное перераспределение финансовых ресурсов по известным и общепринятым правилам. Принципиальным является, как распределять: по справедливости или эффективности?» Адказ не прымушае сябе чакаць. Аказваецца, што ў «финансовой сфере эти понятия разнозначны. Диета (*греч.* — «образ жизни») в финансах, как и в медицине, ведет к оптимизации структуры организма, делает его более гибким и устойчивым. Для любога человека она создает здоровые стимулы к активной жизни, поддержанию тонуса, умеренности в потреблении. «Финансовая диета» напоминает, что капитал (особенно государственный) — это такой же невозобновляемый ресурс, как нефть, газ или время».

Зыходзячы з нашых умоў — гэта, аднак, не столькі структурная трансфармацыя ўсёй энаномікі, колькі трансфармацыя дзяржаўных фінансаў, паколькі менавіта яна стаіць на першым месцы. Якраз трансфармацыя дзяржаўных фінансаў «оптимизирует соотношение затраты — результат, позволяет набрать вес государственному бюджету, укрепить государство в выполнении своих главных функций». Але аднаго павышэння эфектыўнасці выкакарыстання дзяржаўных сродкаў мала. Прынцыпова і тое, наколькі значным стане паварот у самой ідэалогіі гэтых фінансаў. Трэба зразумець, што дзяржфінансы — «это зона наивысшей ответственности государства перед населением, связанная с предоставлением государством услуг на благо и под заказ его жителей». Не дзяржава павінна ацэньваць, што добра, а што кепска. Не абавязак дзяржорганаў вызначаць нормы і стандарты якасці. Самі спажыўцы дзяржаўных паслуг мусяць рабіць гэта. Праз сацыялагічныя даследаванні, альбо праз інтэрнэт-апытанні. «В этой связи, — падкрэсліваецца ў кнізе, — главным заказчиком и реформатором государственных финансов Беларуси становится население».

Складаецца гэтая калектыўная манаграфія з чатырох раздзелаў. Першы з іх — «Реформы государственого капитализма: необходимость в Республике Беларусь и зарубежный опыт» — даецца адказ на пытанне, якое сёння хвалюе ці не кожнага: а навошта так ужо неабходны рэформы? Зыходзячы ж назвы манаграфіі яго неабходна канкрэтызаваць: няўжо беларуская эканоміка не можа абысціся без «фінансавай дыеты»? Не можа. Вядучыя эканамісты ўпэўнены не толькі ў тым, што

яна даўно наспела, а і разумеюць, што прамаруджванне з прымяненнем яе будзе дорага каштаваць. Працэсы, якія адбываюцца, могуць стаць незваротнымі. На шляху беларускай эканомікі з'явілася, як вобразна зазначае К. Рудый, некалькі пастак. Кожная з гэтых пастак: «дефицита финансирования экономики», «конфликтующих соседей», «среднего дохода», «социальных расходов», «управления изменениями», «ресурсного проклятия», «долгосрочной стагнации» — па-свойму небяспечная. Разам узятыя — тым больш. Таму, несумненна, неабходна рабіць усё для таго, каб гэтых пастак на дарозе эканамічнага развіцця не было. Аднак толькі ўласных намаганняў мала. Таму не абысціся без прымянення ў гэтым накірунку вопыту іншых дзяржаў. На што і звернута ўвага ў першым раздзеле. Аналізуецца ўсё тое карыснае, што набыта ў трансфармацыі эканомік як постсавецкіх краін, так і дзяржаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Астатнія раздзелы развіваюць асноўныя палажэнні першага, засяроджваючы пільную ўвагу на пэўным аспекце рэформы дзяржаўных фінансаў.

Так, тэма раздзела другога вызначана як «Концептуальные подходы к реформированию бюджетных отношений в Республике Беларусь». Безумоўна, кожны артыкул бюджэта павінен даваць канкрэтны вынік. Несумненна, і тое, што прыярытэтнай з'яўляецца сацыяльна сфера, а гэта адукацыя, ахова здароўя, навука, культура і некаторыя іншыя накірункі, што з'яўляюцца гарантыяй будучыні краіны. Вельмі прывабны шлях — павялічэнне фінансавання, павышэнне зарплат тым, хто працуе ў гэтай сферы. Аднак, гаворыцца ў кнізе, калі прытрымлівацца толькі яго, наўрад ці можна дасягнуць неабходнага поспеху. Выйсце ў тым, каб павысіць эфектыўнасць бюджэтных расходаў. Дамагчыся гэта можна і пры ўмове прадастаўлення бюджэтным арганізацыям самастойнасці. Для таго, каб яны дасягнулі найлепшых вынікаў у сваёй рабоце, трэба дазволіць ім самім шукаць варыянты фінансавання. Тады з'явіцца і магчымасць заахвочваць лепшых работнікаў павышэннем зарплаты. У другім раздзеле ўвага звернута не толькі на гэтыя састаўныя дыеты для фінансаў, а і на іншыя.

Раздзел трэці — не менш важны, чым папярэднія — «Новый этап налоговых реформ в Республике Беларусь». Падатковая рэформа — гэта пэўная перазагрузка падатковай сістэмы краіны. Усё, што робіцца, мусіць патрапляць пад тыя патрабаванні, як і пры іншых дзяржаўных паслугах: прастата, хуткасць і стабільнасць. Дэталёва і аргументавана падкрэсліваецца, што рэфармаванне падатковых паслуг немагчыма без «повышения их информатизации, возможной оптимизации фискальных органов, применения государством экономического патернализма, внедрения налогового консультирования». Магчымы, канешне, і пэўныя льготы, прэферэнцыі, аднак у дадзеным выпадку, упэўнены аўтары манаграфіі, падыход павінен быць гэткі ж самы, як і пры правядзенні бюджэтнай рэформы. Трэба ўлічваць эфектыўнасць падобных мер, праводзіць належны кантроль і своечасовую справаздачу аб тым, што робіцца і ў імя чаго здзяйсняецца.

«Подходы к реформированию государственной системы социальной защиты» — раздзел чацвёрты. Ён аб праблемах, якія апошнія некалькі гадоў не сыходзяць з вуснаў, як дзяржаўнага кіраўніцтва, эканамістаў, так і самога насельніцтва. Гэта пытанні падтрымкі сем'яў, працоўнай занятасці, а перад усім — пенсійнага забеспячэння. Ніхто не сумняваецца ў тым, што ў пенсійную сістэму краіны неабходна ўносіць змены. Толькі як і калі гэта рабіць, каб было менш балюча, дало станоўчыя вынікі, не пагоршыла матэрыяльнае становішча, як тых, хто рыхтуецца стаць пенсіянерам, так і тых, хто ім ужо з'яўляецца. Наколькі ўсебаковы падыход да праблемы рэфармавання дзяржаўнай сістэмы сацыяльнай аба-

роны, відаць па назвах глаў: «Пенсионная реформа: необходимость и возможности для Беларуси», «Трансформация отдельных элементов системы социальной защиты Республики Беларусь».

Неяк Ёган Вольфган Гётэ выказаў такую думку: «Лічбы не кіруюць светам, але яны дазваляюць лепш зразумець яго». Гэтае меркаванне стасуецца і да кнігі «Финансовая диета». У ёй таксама нямала лічбаў, але ўсе яны прыводзяцца настолькі да месца, удала дапаўняюць тое, пра што разважаюць аўтары, дапамагаюць лепш зразумець сутнасць іх пазіцыі па тым ці іншым пытанні, па той ці іншай праблеме, а ў рэшце рэшт таксама лепей зразумець свет. Ды не толькі не той, які акаляе і ў якім усе мы жывём, а толькі частку гэтага велізарнага, аб’ёмнага свету. Канешне, яна, у параўнанні з ім куды меншая, але разам з тым вялікая, бо свет гэты — на дзіва неардынарны, адметны і ўсе мы — хочам таго ці не хочам — усё адно пастаянна адчуваем на сабе ягоны ўплыў. Як і будзем адчуваць яго ў будучым. Хутчэй за ўсё нават у большай ступені, чым цяпер, бо свет гэты — фінансы. Як жа гэта будзе адбывацца, што дасць яно нам і чаго пазбавіць нас і можна даведацца, пазнаёміўшыся з кнігай «Финансовая диета: реформы государственных финансов Беларуси».

Сапраўды, кніга гэтая спецыфічная. Сапраўды, яна для эканамістаў. Ды толькі і тады, калі яе возьме ў рукі не спецыяліст, пазнаёміўшыя з ёю, ён абавязкова атрымае для сябе карысную і важную інфармацыю, знойдзе падставу для роздуму, а то і для аналізу. Бо, пры ўсім іншым, «эта книга касается каждого. «Финансовая диета» — это выбор каждого человека. Но выбор не только между потреблением и сбережением, и не только между «хочу» и «могу». В меню этой «диеты» прежде всего выбор между рациональными и нормальными «ингредиентами».

Таму ўсё ж не лішне з ёю пазнаёміцца. Цяжка будзе прабівацца праз спецыфічныя тэрміны? Пачне палохаць мноства лічбаў? Не так і лёгка разабрацца ў сутыкненні поглядаў розных эканамістаў — як тэарэтыкаў, так і практыкаў? Палохацца не трэба. Па-першае, не абавязкова чытаць усё, можна штосьці і прапусціць. Па-другое ж… Памятаеце, што сказаў Аляксандр Сувораў: «Цяжка ў навучанні — лёгка ў баі». Навучанне ж гэтае, пакарыстаемся такім вызначэннем, паверце, таксама не лёгкае. Безумоўна, ні з кім ваяваць не давядзецца, тым не менш, узброіцца ўдасца. Ведамі, якія спатрэбяцца, бадай, кожнаму. Сутнасць жа іх у тым, што, захоўваючы «фінансавую дыету», лёгка крочыць у будучыню. Калі будзем прытрымлівацца яе, ніякія крызісы, катаклізмы нам не страшны. Тыя ж спецыялісты, якія паспелі ўжо набыць гэтую кнігу, якая, дарэчы, карыстаецца вялікай папулярнасцю, у гэтым упэўніліся. Усе ж мы павінны запомніць раз і назаўсёды: «(…) если не ограничить бюджетные ресурсы, то экономику будут постоянно преследовать девальвация, инфляция и необходимость государственных займов».

Арцём ШЫЦІК

# ГЕРАЛЬДЫКА — ТАКСАМА СПАДЧЫНА




*Анатоль ЦІТОЎ.*

**ГЕРБОЎНІК БЕЛАРУСКІХ ГАРАДОЎ (XVI — ПАЧАТАК XX СТ.).**

*Мінск: Беларусь, 2015.*

Гербоўнікі — магчыма, нехта з маладасведчаных чытачоў і не ведае гэтага, — зборы гербаў у выглядзе рукапіснай або друкаванай кнігі. Слова герб паходзіць ад польскага herb, якое ў сваю чаргу ўтварылася ад нямецкага erbe, што ў перакладзе азначае спадчына. Герб, калі падыходзіць да яго ў шырокім значэнні гэтага слова, то ён перш-наперш — спадчынны знак адрознення, а калі канкрэтызаваць гэтае паняцце, то — эмблема. На Беларусі здаўна былі радавыя і асабістыя гербы. Потым з'явіліся гарадскія, часцей за ўсё з надананнем пэўнаму гораду магдэбургскага права. Былі таксама свае гербы ў цэхаў рамеснікаў, у рэлігійных брацтваў, храмаў, а ў XIX стагоддзі расійскія ўлады зацвердзілі гербы Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Мінскай і Віленскай губерняў. Дзяржаўны ж герб — афіцыйная эмблема той ці іншай краіны, таму ён змяшчаецца на пячатках, на бланках дзяржаўных устаноў, а таксама на грашовых знаках.

На Беларусі асабліва плённа праблемы геральдыкі даследуе кандыдат гістарычных навук, геральдык, сфрагіст Анатоль Цітоў. Дарэчы, сфрагістыка — спецыяльная гістарычная навука, што вывучае пячаткі. Яна вытворная ад грэчаскага слова sphragis, што і перакладаецца як пячатка. А Цітоў — аўтар многіх кніг, навуковых публікацый. Сярод іх ёсць і прысвечаныя сфрагістыцы. Для прыкладу, «Пячаткі старажытнай Беларусі», што мае падзагаловак «Нарысы сфрагістыкі».

«Гербоўнік беларускіх гарадоў», як прызнаецца А. Цітоў у «Прадмове», — «гэта ў пэўнай ступені абагульненне навукова-пошукавай работы за апошнія трыццаць гадоў і спроба даць, па магчымасці, вычарпальную інфармацыю па аднаму з вялікіх пластоў нашай культурна-гістарычнай і духоўнай спадчыны». Разам з тым, на што таксама звернута ўвага ў «Прадмове», дый відаць з самой назвы кнігі, — «гэтая праца з'яўляецца спробай сабраць і асвятліць толькі адну галіну геральдыкі — гарадскую гербавую спадчыну».

Прытрымліваючыся пастаўленай перад сабой задачы, А. Цітоў спачатку прапануе чытацкай увазе «агульны нарыс узнікнення і развіцця і прынцыпы функцыянавання гарадской геральдыкі на этнічных землях Беларусі і асноўныя вехі гэтага прагрэсу». Адзначаючы, што геральдыка гарадоў існуе не сама па сабе, а належыць да агульнай групы, якая называецца карпарацыйнай геральдыкай, аўтар кнігі падкрэслівае, што такая геральдыка аб'ядноўвае як уласныя гербы, так і цэхавыя, а яшчэ сімвалы брацтваў. Няцяжка здагадацца, што ўласныя гербы з'яўляліся сімваламі самакіравання пэўнага месца. Пры гэтым А. Цітоў выкарыстоўвае прыметнік «мескі» як вытворны ад слова «места», што азначала горад. Тым самым прытрымліваецца таго варыянта, які сустракаецца ў актавых кнігах XVI—XVIII стагоддзяў.

Фарміраванне «мескай» геральдыкі было «адной са знешніх адзнак станаўлення і развіцця гарадскіх паселішчаў Беларусі ў XVI—XVIII стст.» Праўда, А. Цітоў удакладняе, што «далёка не ўсе гарадскія паселішчы дасягнулі такога высокага ўзроўню сацыяльна-эканамічнай арганізацыі, пры якой узнікае патрэба ў існаванні ўласных адміністрацыйных органаў і канцылярыі». Менавіта гэта дазваляла мець уласныя пячатку і герб. Але навуковец, разам з тым, напамінае, што «наяўнасць гэтых атрыбутаў можа быць для даследчыка надзейным паказальнікам існавання інстытута «мескай» геральдыкі. Ён можа разглядацца і вывучацца як у шырокім, так і ў вузкім аспектах». У сваю чаргу, другі аспект уключае ў сябе толькі атрыбуты, звязаныя з наяўнасцю самакіравання. Агульнавядома, што яно прадугледжвалася нормамі магдэбургскага права. Ад назвы горада (места) Магдэбург ці Майдэборг (А. Цітоў ужывае другі варыянт) ва Усходняй Германіі, які атрымаў права на самакіраванне ў XIII ст.

Першы раздзел кнігі і называецца «Герб места». Гаворка ідзе пра тое, як таму ці іншаму населенаму пункту надаваліся гербы, прычым вельмі часта ініцыятарамі гэтага выступалі самі мяшчане. Таму нярэдка назіралася так, што горад не адразу меў свой герб. Так было і з Менскам. «Майдэборгскія правы» ён атрымаў у 1499 годзе, а прывілей на герб займеў толькі 12 студзеня 1591 года. Падобныя прыклады не адзінкавыя, на што і звяртае ўвагу А. Цітоў: «ініцыятыва гарадскіх улад прасочваецца і ў прывілеях Дзівіну, Магілёву, Навагрудку, Полацку, Пружанам і іншым гарадам».

Не абыдзены даследчыкам і такі момант, як спалучэнне колераў поля шчыта і фігур, а гэтыя элементы ўвогуле маюць у геральдыцы значную ролю, з'яўляюцца істотнымі элементамі. Канешне, на працягу стагоддзяў і ў выкарыстанні колераў адбываліся змены. Але ў гербах заўсёды пераважаў блакітны колер, што характэрна не толькі для гэтых, свайго роду апазнавальных знакаў гарадоў, а і адпавядае традыцыям класічнай геральдыкі. На другім месцы стаяў чырвоны колер — найбольш інтэнсіўна ён выкарыстоўваўся ў XVI стагоддзі. Затым ішоў срэбны, асабліва папулярны ў XVIII стагоддзі. Што тычыцца залатога колеру, дык ён «ужываўся прыкладна з аднолькавай частатой на працягу ўсяго перыяду існавання гарадскіх гербаў». Паводле асноўных правілаў геральдыкі забараняецца ўжываць у спалучэнні чырвоны і зялёны колеры, дый увогуле спалучаць метал з металам, а колер з колерам. Толькі нездарма кажуць: няма правіла без выключэння. У гербе Геранёнаў чырвоная эмблема знаходзіцца на зялёным полі.

Калі мець на ўвазе сучасную Беларусь, дык, як вядома, на яе землях першым «майдэборгскія правы» атрымала Бярэсце. Гэта адбылося 15 жніўня 1390 года паводле прывілея, падпісанага каралём польскім і вялікім князем літоўскім Ягайлам. Праз год падобны прывілей атрымала Гародня, пазней — іншыя гарады і мястэчкі.

Што гэта давала? У раздзеле «Прывілей на вольнасці» пра ўсё расказваецца падрабязна. З яго можна і даведацца, што сам прывілей на «майдэборгскія правы» «знешне… уяўляў сабой аркуш пергаменту памерам ад 20—70 см у вышыню і ад 30—100 см у шырыню, па якім пазёмна пісаўся тэкст, дзе агаворваліся даваныя месту ільготы, правы і абавязкі». Часта ў цэнтры размяшчаўся малюнак герба, а сам аркуш па краях упрыгожваўся раслінным арнаментам. Але так было да пачатку XVIII стагоддзя, калі знешні выгляд прывілея змяніўся. Па сваёй форме ён стаў падобны на сшытак. Колькасць старонак у падобным «сшытку» была не аднолькавая. Іх магло быць дзве, чатыры, а то і ўсе шэсць.

Анатоль Цітоў прыводзіць нямала і іншых звестак, што тычацца гэтага ўнікальнага дакумента. Ёсць сярод іх і такія, якія, не адмаўляючы свайго навуковага значэння, маюць і пазнавальнае значэнне, паколькі дазваляюць упэўніцца ў тым, што і з гербамі часам адбывалася так, што, па сутнасці, парушалася традыцыя, якая склалася. Так, не ва ўсіх выпадках прывілей на «майдэборгскія правы» абавязкова даваў і права на герб. Прыклад таму — сітуацыя, што склалася ў Ваганаве Берасцейскага ваяводства. Яно 20 верасня 1565 года атрымала неабходны прывілей, але пра герб у ім не гаварылася. У Гомелі ўсё адбылося наадварот. Гэтаму гораду герб надалі, а «майдэборгскія правы» толькі паабяцалі.

Прывілеі былі двух відаў. Першапачатковы яшчэ называўся фундацыйным. Канфірмацыйнаму прывілею адводзілася роля пацвярджальнага. Яго атрымлівалі гарады, мястэчкі, калі прастол займаў новы кароль польскі — вялікі князь літоўскі. Таму і атрымалася так, што «за некалькі стагоддзяў карыстання правамі самакіравання ў некаторых беларускіх мястэчках (Гародня, Віцебск і іншыя) сабралася столькі прывілеяў, што яны складалі цэлыя кнігі. У сярэднім кожнае «майдэборгскае» места на Беларусі мела ад пяці да трынаццаці асноўных і канфірмацыйных прывілеяў».

Раздзелы «Сімволіка гербаў» і «Шляхі развіцця гарадской геральдыкі Беларусі» — гэта далейшае заглыбленне аўтара кнігі ў сутнасць праблематыкі, якой яна прысвечана. А. Цітоў, як і ў папярэдніх раздзелах, апелюе многімі фактамі, спасылаецца на шмат якія крыніцы, адкуль яны ўзяты, прыводзіць зесткі, што не могуць не зацікавіць. Усё гэта яшчэ больш сведчыць на карысць таго, што ў яго асобе маем даследчыка, які цудоўна ведае свой прадмет, а яшчэ, што таксама немалаважна, можа пісаць даходліва, але гэтая даходлівасць ніколькі не шкодзіць навуковай выверанасці і дакладнасці.

Асабліва інфармацыйна насычаным атрымаўся пяты, заключны раздзел кнігі — «Інвентар гарадскіх гербаў». Ён займае без малога палову яе. Такая ўвага аўтара менавіта да гэтага матэрыялу лёгка зразумелая і апраўданая. Як сведчыць А. Цітоў, «у гэтай частцы кнігі сабрана інфармацыя пра гербы-сімвалы самакіравання, якімі карысталіся нашы гарады». Большасць выяў гербаў, а іх некалькі дзясяткаў, з'яўляецца «майдэборгскай». Асобныя былі атрыманы гарадамі, мястэчкамі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай. Не лішне адзначыць, што кніга ўвогуле багата ілюстравана. У кожным раздзеле абавязкова напаткаеш такое, што, убачанае на ўласныя вочы, дазваляе лішні раз упэўніцца ў тым, наколькі багаты гербоўнік беларускіх гарадоў.

Але, несумненна, асабліва цікава будзе пазнаёміцца з гербамі, прадстаўленымі ў заключным раздзеле. Іхняя, калі можна так сказаць, геаграфія, вельмі шырокая. Ёсць і такія, якія належалі населеным пунктам, што да сучаснай Беларусі не адносяцца. Аднак большасць усё ж, безумоўна, маюць да яе самае непасрэднае дачыненне.

Гэта сведчыць і на карысць таго, што было б вельмі добра, калі б кніга «Гербоўнік беларускіх гарадоў» абавязкова

трапіла ў бібліятэкі тых гарадоў, якія дзякуючы сваім гербам сталі свайго роду «героямі» яе. Шкада, аднак, што прадстаўлены гэтыя адрозныя эмблемы далёка не ўсіх населеных пунктаў, якія маюць багатую гісторыю. Але ў гэтым ніякай віны аўтара кнігі няма. А. Цітоў зрабіў тое, што мог зрабіць. Канкрэтызуючы ж гэтую думку, нельга не сказаць, што ў асобных выпадках ён здзейсніў нават тое, што пад сілу далёка не кожнаму навукоўцу. Як па аб'ёме выкананай даследчыцкай работы, так і па настойлівасці і мэтанакіраванасці, апантанасці ў пошуку неабходных звестак.

Ды не ўсё залежала ад ягоных намаганняў. Пра гэта А. Цітоў гаворыць і ў заключных радках сваёй кнігі: «На жаль, з прычыны браку дакументальных крыніц, у гэтае частцы адсутнічаюць гербы такіх гарадоў, як Ваганава Берасцейскае, Бешанковічы, Бялынічы, Талачын, Чарнаўцы, Стары Мядзел і інш.». Разам з тым і падказвае, як быць далей: «Гэта павінна падштурхнуць даследчыкаў нашай геральдычнай спадчыны. Каб сцерці «белыя плямы» з яе, неабходна напружаная праца ў архіўных і музейных сховішчах. Гэта адзіны шлях у вывучэнні гісторыі розных аспектаў нашае Бацькаўшчыны. Спробы шляхам кабінетных разваг запоўніць тую ці іншую лакуну ў гісторыі не маюць аніякай перспектывы і іх чакае хуткае і поўнае забыццё».

Будзем спадзявацца, што далейшыя даследчыцкія пошукі дадуць свой плён. Магчыма, удасца знайсці нешта новае самому А. Цітову, штосьці адкрыюць іншыя навукоўцы. Як бы там ні было, а гэта будзе на карысць, бо спадчына, што засталася нам — тое, што звязана з геральдыкай не выключэнне, — агульны набытак, таму яго неабходна вывучаць, памнажаць і прапагандаваць. Як гэта і робіць А. Цітоў. Не ў апошнюю чаргу і сваёй новай кнігай «Гербоўнік беларускіх гарадоў (XVI — пачатак XX ст.)».

Павел НАВУМОВІЧ

# УСІМ, ХТО КНІГУ ЛЮБІЦЬ




**БЕРАСЦЕЙСКІЯ КНІГАЗБОРЫ: ПРАБЛЕМЫ І ПЕРСПЕКТЫВЫ ДАСЛЕДАВАННЯ.**

**Матэрыялы і даклады II Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. Брэст, 31 мая — 3 чэрвеня 2012 года.**

Пад агульнай рэдакцыяй доктара філалагічных навук М. В. Нікалаева. Брэст, 2013.

**БЕРАСЦЕЙСКІЯ КНІГАЗБОРЫ.**

**Брэсцкая Біблія — унікальны помнік культуры XVI стагоддзя: да 450-годдзя выдання. Матэрыялы і даклады міжнароднага круглага стала. Брэст, 29 — 31 мая 2013 года.**

Пад агульнай рэдакцыяй доктара філалагічных навук М. В. Нікалаева. Брэст, 2014.

Гэтыя дзве кнігі — нават не проста кнігі, а аб'ёмныя тамы, — свайго роду працяг яшчэ аднаго. Хоць на карашку выдання і не значыцца лічбамі іх паслядоўнасць, але той, які пабачыў свет у 2010 годзе і таксама быў выдадзены ў Брэсце, з'яўляецца першынцам. Перадгісторыя таго ж, першага тома, які па-свойму «падштурхнуў» з'яўленне і гэтых двух, якія ўмоўна можна пазначыць другі і трэці, такая.

У 2008 годзе, а калі канкрэтна, то 30—31 кастрычніка Брэсцкі абласны выканаўчы камітэт, Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага і Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна ладзілі міжнародную навукова-практычную канферэнцыю «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання». Гэты навукова-даследчыцкі форум прайшоў паспяхова. Асноўны вынік яго, які не маглі не прызнаць, як самі ўдзельнікі, так і госці, — гэта тое, што не засталіся марнымі намаганні арганізатараў. Яны ж былі звязаны з тым, каб зафіксаваць, а ў некаторых выпадках і патлумачыць тыя брэсцкія кніжныя старажытнасці, што захоўваюцца за межамі сучаснага Брэста, але, безумоўна, самі па сабе сведчаць аб плённасці развіцця ў гэтым рэгіёне кнігадрукавання, а таксама аб тым, што існавалі цесныя сувязі яго, рэгіёна, з іншымі рэгіёнамі. Дый не толькі сённяшняй Беларусі, а і з тымі, якія цяпер адносяцца да іншых краін. Істотны і такі момант: на ўсё гэта глядзелі прафесійныя даследчыкі. Да іхніх жа меркаванняў, абагульненняў, высноў нельга не прыслухоўвацца. Гэта ж, у сваю чаргу, важна не толькі для самых

навукоўцаў, якіх цікавіць згаданая праблема, а і краязнаўцаў, а калі глядзець шырэй, то і радзімазнаўцаў. Адным словам, людзей неабыякавых да кнігі, такіх, якія любяць яе і якім хочацца як мага больш ведаць, як друкаванае слова прабівала сабе дарогу.

Зыходзячы з плённасці работы канферэнцыі, прымаючы пад увагу актуальнасць узнятых на ёй праблем, а таксама ўлічваючы тое, што работа гэтага навукова-даследчыцкага кніжнага форуму будзе цікавая ўсім, хто неабыякавы да кнігі і яе гісторыі, і было вырашана матэрыялы гэтай канферэнцыі выдаць асобнай кнігай, што і было здзейснена ў 2010 годзе пад назвай «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання».

Час, як вядома, не стаіць на месцы. Асабліва ён хуткі ў сваёй хадзе для тых, хто імкнецца зрабіць як мага больш. І за тое хочацца ўзяцца, і за гэтае. Не ў апошнюю чаргу тады, калі ўжо вызначаны той стрыжнявы момант, ад якога і трэба адштурхоўвацца, рухаючыся далей. Тут ужо вядомы лацінскі выраз — спяшайся не спяшаючыся — набывае свой найбольш важкі сэнс у першай частцы. Спяшацца ўсё ж трэба, хоць нельга не прытрымлівацца і таго, што патрапляе пад вызначэнне «не спяшаючыся». У тым сэнсе, што, робячы сваю справу, нельга паслабляць патрабаванні, трэба трымаць узнятую планку на належнай вышыні. Як і не трэба перад часовым поспехам забываць аб тым, што куды важней працаваць так, каб зробленае не толькі сёння радавала, а спрацоўвала і на перспектыву.

Гэтым кіраваліся арганізатары II Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання», якая прайшла ў Брэсце 31 мая — 3 чэрвеня 2012 года. Матэрыялы яе і выйшлі асобнай кнігай у 2013 годзе.

Чытачы, знаёмыя з першым томам, праўда, не маглі не заўважыць у кампазіцыйнай пабудове выдання пэўных змен. Найперш кідалася ў вочы адсутнасць адваротна-храналагічнага прынцыпу падачы матэрыялаў. Бадай, выйгрышным стала тое, што матэрыялы ў гэтым томе падзелены на тры асобныя часткі паводле іх праблематыкі. Паколькі кожная з іх атрымалася аб'ёмнай, дык можна смела гаварыць аб трох кнігах у адной кнізе.

Першая частка называецца «Праблемы гісторыі кнігі на Берасцейшчыне». Свайго роду запеўкай да гэтай важнай тэмы ўспрымаецца выступленне намесніка дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па навуковай рабоце А. Сушы «Беларускія гістарычныя кнігазборы: перспектывы даследавання і рэканструкцыі». Як вядома, НББ з'яўляецца навукова-даследчай установай у галіне бібліятэказнаўства, бібліяграфазнаўства і кнігазнаўства. У гэтым накірунку работы ўжо накоплены багаты вопыт. Тым больш, важныя меркаванні таго, хто мае немалыя набыткі ў правядзенні такой работы. А. Суша падрабязна расказвае пра тое, што ўжо ажыццёўлена калектывам бібліятэкі, але ён жа не абыходзіць увагай і таго, што неабходна яшчэ зрабіць, на чым засяродзіць асноўны клопат. Гэта тычыцца не толькі самой Нацыянальнай бібліятэкі, а і тых жа абласных бібліятэк. Дый увогуле ўсіх, хто працуе ў бібліятэчнай сістэме. Нельга не пагадзіцца з вывадам А. Сушы: «…шлях комплекснага навуковага даследавання гісторыі кніжнай культуры з'яўляецца найбольш перспектыўным, паколькі ён дазваляе аб'яднаць намаганні даследчыкаў беларускай кніжнасці незалежна ад месца іх працы, забяспечвае магчымасці для ўзаемадзеяння ўстаноў рознай ведамаснай падпарадкаванасці і геаграфічнага размяшчэння, стварае ўмовы для комплекснага вывучэння кніжнай культуры Беларусі як цэласнай з'явы».

«Кнігадрукаванне і бібліятэчная справа ў заходніх рэгіёнах Беларусі ў 1921 — 1939 гг.» — тэма, узнятая дырэктарам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Р. Матульскім. Загадчык навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства НББ Г. Кірэева знаёміць з кніжнымі рэдкасцямі Брэстчыны, што знаходзяцца ў фондах самага буйнага кнігасховішча нашай краіны. Тэматычна блізкае гэтым матэрыялам і выступленне загадчыка сектара старадрукаў і рэд-

кіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь В. Герасімава «Рукапісныя дакументы «Берасцейскага паходжання» ў фондзе Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь як сведчанні дзяржаўнага і рэлігійнага жыцця рэгіёна XIX — пач. XX ст».

Зразумела, што гэтымі матэрыяламі змест першай часткі кнігі — «Праблемы гісторыі кнігі на Берасцейшчыне» — не вычэрпваецца. Ёсць і іншыя, не менш цікававыя публікацыі. Істотнае і тое, што яны сэнсавава ўзаемна дапаўняюць сябе, ствараючы цэласны малюнак па згаданай праблеме, узнімаючы пытанні, што не пакідаюць абыякавым. Адначасова падштурхоўваюць і да далейшых даследаванняў у згаданым кірунку. На неабходнасць такой работы, дарэчы, таксама акцэнтуе ўвагу Р. Матульскі: «Праблематыка развіцця кніжнай і бібліятэчнай справы ў заходніх рэгіёнах Беларусі ў міжваенны перыяд чакае сваіх даследчыкаў. Чым больш мы будзем ведаць аб развіцці кніжнай культуры на заходніх этнічных беларускіх землях у той няпросты час, тым больш дакладна зможам узнавіць гісторыю сваёй краіны».

Другая частка кнігі — «Кніжнасць на Берасцейшчыне ў XVI—XIX стагоддзях» — таксама мае прадстаўнічае кола аўтараў. Гэтаксама вядзецца зацікаўленая гаворка з прыцягненнем багатага фактычнага матэрыялу, з выказваннем розных меркаванняў, часам, магчыма, у нечым і спрэчных, але яны самі па сабе ўжо не могуць не прыцягнуць увагу, бо, як вядома, сутыкненне розных поглядаў — таксама плённы шлях да пошуку ісціны. Асабліва тады, калі пытанні, што ўзнімаюцца, ніколі не страцяць свайго першаступеннага значэння. Наадварот, цягам часу іх прыцягальнасць становіцца яшчэ больш важкай.

Гэта відавочна і з часткі — яна як бы трэцяя кніга ў томе «Беларускія кнігазборы…» — «Кнігазборы Сапегаў». Прынамсі, лектар Інстытута кнігазнаўства і дакументалістыкі Вільнюскага ўніверсітэта А. Бразюнене прасочвае лёс Ружанскай бібліятэкі Льва Сапегі і ягоных сыноў. Бібліятэка гэтая, як і іншыя знакамітыя кнігазборы, канешне ж, у сваім першапачатковым выглядзе не захавалася. Як відаць з паведамлення загадчыка аддзела рукапісаў і кніжных помнікаў Навуковай бібліятэкі Томскага дзяржаўнага ўніверсітэта В. Есіпавай, некаторыя выданні з кнігазбору Яна Фрыдэрыка Сапегі, напрыклад, трапілі і ў гэтую навуковую бібліятэку.

Ні ў якім разе нельга абмінуць матэрыял загадчыка аддзела рэдкай кнігі Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі (Санкт-Пецярбруг) М. Нікалаева «Магнаты Сапегі як феномен беларускай культуры (палеміка з Львом Крыштаповічам)». М. Нікалаеў адштурхоўваецца ад круглага стала «Рэлігійны фактар нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь», што прайшоў у Мінску 15 сакавіка 2012 года. Калі канкрэтна, дык ад выступлення на ім доктара філасофскіх навук Л. Крыштаповіча, які заявіў (цытую па артыкуле М. Нікалаева), што «мы павінны культываваць і развіваць нашы нацыянальныя традыцыі. Праўда, часам пад імі пачынаюць прапагандаваць такія традыцыі, якія, я лічу, не маюць нічога агульнага з ментальнасцю нашага народа. Калі ў нашу беларускую культуру цягнуць Радзівілаў, Сапегаў, Агінскіх як прадстаўнікоў беларускіх шляхетных родаў. Гэтыя імёны прыналежаць іншай культуры, іншай ментальнасці». На прыкладзе Сапегаў М. Нікалаеў аргументавана даказвае, што значаць для Беларусі гэтыя магнацкія роды. Тым самым пераконвае, што нельга дзяліць выдатных дзеячаў на «чужых» і «сваіх», калі яны так шмат зрабілі для беларускай дзяржаўнасці, беларускай культуры.

Кіраўнік жа кафедры старапольскай літаратуры і Цэнтра даследаванняў Польскай бібліяграфіі Эстрэйхераў Ягелонскага ўніверсітэта (Кракаў) В. Валецкі («У чаканні юбілею Брэсцкай Бібліі»), па сутнасці, сваім выступленнем падказаў, на чым неабходна будзе засяродзіць увагу на III Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі. Якраз набліжаўся важны юбілей не толькі ў гісторыі Беларусі — 450-годдзя з дня перакладу на польскую мову Святога пісання, што

ўвайшоў у гісторыю, як Брэсцкая ці Радзівілаўская Біблія.

Як мы цяпер ведаем, гэты юбілей быў шырока адзначаны. Канешне, не маглі застацца ад яго ў баку і арганізатары Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Берасцейскія кнігазборы». Праўда, гэтым разам (29—31 мая 2013 года была праведзена не традыцыйная ўжо для Брэста канферэнцыя. Адбыўся міжнародны круглы стол «Брэсцкая Біблія — унікальны помнік культуры XVI стагоддзя: да 450-годдзя выдання», матэрыялы якога і прадстаўлены ў асобным томе, што стаў трэцім у серыі «Берасцейскія кнігазборы».

Такая вялікая ўвага да Брэсцкай ці Радзівілаўскай Бібліі — невыпадковая. Гэтае выданне найбольш прыкметнае сярод першых старадрукаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Яно самае вялікае і па аб'ёме і па фармаце сярод тых, што з'явіліся ў XУІ стагоддзі. Увогуле, 1563 год, калі пабачыла свет гэтая Біблія, назаўсёды прапісаўся ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага як адна з самых значных падзей. Паводле рашэння Віленскага сойма Праваслаўе і Пратэстанцызм сталі роўныя з Каталіцызмам, які на той час панаваў у дзяржаве. Гэта спрыяла міру і згодзе паміж насельніцтвам ВКЛ, што прытрымлівалася рознага веравызнання. Сваю ж другую назву Біблія, што была выдадзена ў верасні 1563 года, атрымала таму, што выданне яе фінансаваў брэсцкі староста і канцлер Вялікага Княства Літоўскага Мікалай Радзівіл Чорны.

Адметнасць Радзівілаўскай Бібліі яшчэ і ў тым, што гэты фаліянт багата праілюстраваны. Дарэчы, атрымаць пэўнае ўяўленне аб тым, як Брэсцкая Біблія выглядала, можна дзякуючы таму, у якім і публікуюцца матэрыялы згаданага круглага стала. У ім змешчаны пятнаццаць каляровых рэпрадукцый, у тым ліку на трох старонках факсіміле тэксту прадмовы Мікалая Радзівіла Чорнага да караля Жыгімонта II Аўгуста.

Трэці ж том «Берасцейскіх кнігазбораў» адкрываецца тэкстам гэтай прадмовы, перакладзенай з польскай мовы на беларускую М. Нікалаевым. Самі матэрыялы прадстаўлены ў двух раздзелах «Друкавана ў Берасці…» і «Брэст—Берасце—Берасцейшчына». У іх разглядаюцца шмат якія аспекты, звязаныя з гэтым унікальным культурным помнікам, а таксама адлюстраваны розныя моманты гісторыі культуры Беларусі і Брэстчыны з моманту заснавання горада над Бугам.

Як і ў папярэднім томе, матэрыялы друкуюцца на тых мовах, якія на гэтых навуковых форумах былі рабочымі: беларускай, рускай, украінскай і польскай. Да польскамоўных тэкстаў М. Нікалаеў зрабіў скарочаныя пераклады па-беларуску, што, безумоўна, зручна для чытачоў, якія польскую мову не ведаюць. А чытачоў у гэтых кніг, несумненна, будзе нямала, паколькі пытанні, што ўздымаліся ў час пасяджэнняў, цікавыя для шырокай аўдыторыі. Наклад жа, прымаючы сённяшнія рэаліі, прыстойны: па 500 асобнікаў кожнага тома. Ва ўсякім разе ў многія бібліятэкі яны трапілі.

Хацелася б, аднак, звярнуць увагу і на такі момант. Няма сумнення, што выданне «Берасцейскіх кнігазбораў» будзе прадоўжана па меры правядзення чарговых Міжнародных навукова-практычных канферэнцый ці круглых сталоў, прысвечаных кнігадрукаванню на Брэстчыне ў розныя часы. Безумоўна, працяг падобных намаганняў застаецца толькі вітаць. Разам з тым хацелася б, каб вопыт брастаўчан знайшоў сваё практычнае ўвасабленне і ў іншых абласных цэнтрах. Канешне, там нямала робіцца ў гэтым кірунку. Гэтаксама пастаянна выдаюцца і кнігі краязнаўчай і радзімазнаўчай тэматыкі. Але будзе добра, калі такая работа ўвасобіцца ў серыйныя выданні, як гэта і практыкуецца ў Брэсце. Усімі, хто па-сапраўднаму любіць кнігу, яны, несумненна, будуць запатрабаваны.

Сяргей ЖЫЛЕНКА

# АД ЦЭНТРА ГРАФСТВА — ДА АГРАГАРАДКА




**НАШ ГОНАР — РАКАЎ.**

***Укладанне, падрыхтоўка тэкстаў Вячаслава Рагойшы.***

*Мінск: Рэгістр. 2015*

Невядома хто і калі сказаў: «У Беларусі тры сталіцы: Ракаў, Мінск і Плешчаніцы». Хоць гэта не так і істотна, бо любое народнае выслоўе само па сабе не ўзнікае. Гэтае — не выключэнне. Сапраўды, Ракаў, як і Мінск, Плешчаніцы, мае багатую гісторыю. Дый сталіцай некалі быў: з'яўляўся цэнтрам колішняга Ракаўскага графства. Цяпер гэта аграгарадок у Валожынскім раёне. Таксама свайго роду сталіца — цэнтр санаторна-курортнай зоны. Калі ж прыняць пад увагу, што размешчаны не так далёка ад Мінска, усяго ў нейкіх дваццаці пяці кіламетрах на захад па дарозе, што вядзе на Гродна і Вільнюс, то гэта вельмі зручна для адпачынку. Немалаважна і тое, што ў Ракаве ёсць што паглядзець, чым грэшна не захапляцца. Адным словам, гарадок малы, ды прыкметны.

Невыпадкова вядомы літаратуразнавец Вячаслаў Рагойша (дарэчы, ён нарадзіўся ў Ракаве) гэтую калектыўную кнігу назваў «Наш гонар — Ракаў», прамовіўшы так не толькі ад свайго імя, а і вуснамі шмат каго, хто родам адсюль, ці каму давялося ў розны час наведвацца сюды. Кніжка адметная тым, што прысвечана 550-годдзю Ракава.У дакументах гэтае паселішча ўпамінаецца з 1465 года. Каб жа атрымаць статус мястэчка, яму спатрэбілася 114 гадоў. Хоць для гісторыі гэта не так і шмат, бо абсягі часу ў ёй вымяраюцца не столькі гадамі, колькі дзесяцігоддзямі, а то і ўвогуле стагоддзямі. Гэта тычыцца і даты заснавання таго ці іншага населенага пункта. Афіцыйна прынята так, што свой адлік ён бярэ з першага пісьмовага ўпамінання. Летапісы ж такую «ласку» рабілі толькі ў тым выпадку, калі ў гэтым населеным пункце ці каля яго, адбывалася нешта такое, што нельга не засведчыць. «Жыць» жа ён мог і раней.

Гэта тычыцца і Ракава: «[…] раскопкі, праведзеныя ў 1996 г. археолагам В. Шаблюком, адносяць пачатак жыцця ў паселішчы прынамсі на сто гадоў раней за першую дату». Гэта я ўжо ўзяў цытату з артыкула В. Рагойшы «Шляхамі стагоддзяў». Ягонай рупнасцю і пачалося дэталёвае вывучэнне і асэнсаванне гісторыі Ракава ў самых розных яе аспектах. Па ініцыятыве Вячаслава Пятровіча ў сярэдзіне 90-х гадоў мінулага стагоддзя быў створаны Грамадскі камітэт Ракаўскіх чытанняў. Ён раз у два гады праводзіў навуковыя канферэнцыі. Адбылося пяць Ракаў-

скіх чытанняў. Першыя прайшлі ў 1996 годзе, пятыя — у 2004-м.

Добры пачатак пры належнай рупнасці абавязкова абяцае працяг. Так адбылося і гэтым разам. У 2000 годзе пабачыў свет першы нумар газеты «Ракаўскі шлях» — культурна-асветнае выданне Ракаўскага краю. Рэдактарам-выдаўцом яго стаў таксама В. Рагойша. Выдавала ж газету на грамадскіх пачатках сям'я Рагойшаў. Плён навідавоку: да канца 2008 года выйшаў сорак адзін нумар фарматам А4 на чатырох, а некаторыя нумары — на васьмі старонках. Чаму так падрабязна кажу пра гэта? Ды таму, што кніга «Наш гонар — Ракаў» «вырасла» з газеты «Ракаўскі шлях». Амаль усе матэрыялы ў розны час былі апрабаваны на старонках газеты. Не было б пачынанняў В. Рагойшы, не выходзіў бы «Ракаўскі шлях». Не было б і гэтага цудоўнага выдання, якое годна папаўняе скарбонку нацыянальнай краязнаўчай, а калі глядзець шырэй, то і радзімазнаўчай тэматыкі.

Складаецца кніга з чатырох раздзелаў: «Ракаў у часе і прасторы», «Ракаў — не Кракаў, але…», «Знітаваныя з Ракавам», «Славім свой край». Адкрываецца ж кніга словам старшыні Ракаўскага сельсавета Аляксандра Мякінкі «Ракаў учора, сёння, заўтра». Як быццам, звычайная «запеўка», але, прыняўшы пад увагу пасаду таго, хто гэта прамаўляе, «запеўка» сімптаматычная, якая наводзіць на прыемны роздум. Вельмі добра, калі прадстаўнікі мясцовай улады разумеюць, што — магчыма, гэта і прагучыць крыху шаблонна, але не хлебам адзіным жыве чалавек. Апроч хлеба надзённага, як вядома, ёсць яшчэ і хлеб духоўны, а ён, скажам так, больш спажыўны, калі замешаны і на тых традыцыях, што жывуць здаўна і якія нельга забываць. Здрада ім — раўназначная нацыянальнаму беспамяцтву.

Прачытаць у кнізе можна пра што заўгодна. Пачынаючы з таго, адкуль ёсць, пайшло менавіта такое найменне паселішча («Меркаванне пра назву "Ракаў"» Таццяны Шамякінай) і пра яго тапанімічных цёзкаў («Не адзін Гаўрыла ў Полацку, не адзін у Еўропе Ракаў» Эдварда Зайкоўскага), да таго, што ў гэтым населеным пункце ёсць «сляды» Льва Талстога і Элізы Ажэшкі. Не кажучы ўжо пра нашых знакамітых сучаснікаў, у тым ліку і Уладзіміра Караткевіча («Дзядзька Валодзя, Валодзя, Уладзімір Караткевіч…» Таццяны Кабржыцкай).

Усё пазнавальна, а ў чымсьці і займальна. Ды гэта не пазнавальнасць дзеля пазнавальнасці, не займальнасць дзеля займальнасці. Гэта — без перабольшання — пашырэнне нашага ўяўлення пра Ракаў. Магчымасць успрыняць яго не проста як малую Радзіму тых, хто звязаў з ім свой лёс, а і як частку ўсёй Радзімы, усёй Беларусі. Як яшчэ адзін напамінак пра тое, што трэба ашчадна збіраць самыя розныя звесткі, якія б у той ці іншай ступені дазволілі лепш спазнаць «партрэт» таго паселішча, якое табе дорага. Для прыкладу, змешчана невялікая вытрымка з кнігі Ільі Эрэнбурга. Яна пра ўбачанае знакамітым пісьменнікам 18 ліпеня 1944 года ў толькі што вызваленым ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў мястэчаку. Але гэта таксама ўнёсак у летапіс Ракава. А што ўжо казаць пра такія артыкулы, як «Славяназнавец з Ракава Мар'ян Здзяхоўскі», «Горкі лёс Уры Фінкеля», «Калі б мы былі японцамі...» В. Рагойшы?! На дзіва цікавы матэрыял уводзіцца ў шырокі ўжытак. У апошнім з названых артыкулаў расказваецца, як бацькі Янкі Купалы незадоўга да нараджэння сына з'ўляліся арандатарамі ў Паморшчыне, што побач з Ракавам. Выснова нечаканая, тым не менш: «[…] калі б мы былі японцамі (ці ўвогуле народамі азіяцкага ўсходу), то часам нараджэння песняра лічылі б 6 кастрыніка 1881 года (да ўзросту чалавека дадаецца яшчэ 9 месяцаў яго развіцця ў лоне маці), а месцам нараджэння Паморшчыну (улічваецца месца, дзе чалавек зачынаўся, а не дзе з'явіўся на свет)».

Такая яна, Ракаўская зямля. Дзе ні ступіш, абавязкова напаткаеш штосьці такое, што не можа не крануць. Асабліва тады, калі пададзена ўмела, з адкрыццём цікавых падрабязнасцей. Як гэта і зроблена ў кнізе «Наш гонар — Ракаў».

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# КАМУ ДАДЗЕНА БЫЦЬ ВЕРАСАМ?




*Зоська ВЕРАС*

**ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ**

**Серыя «Беларускі кнігазбор»**

**Уклад. Г. Запартыка**

*Мн.: Беларуская навука, 2015*

«Добра быць коласам; але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?» — пісаў Максім Багдановіч. І хочацца дадаць, а яшчэ — верасам. Паводле даўняй шатландскай легенды, гэтая сціплая кветка была адзінай, што пагадзілася па просьбе Бога расці на голых схілах узгоркаў. За гэта Усявышні ўзнагародзіў верас незвычайнай трываласцю, моцай і натуральнай прыгажосцю, а таксама прыемным водарам і мядком. Нездарма ж Людвіка Антонаўна Сівіцкая абрала сабе менавіта такі літаратурны псеўданім, вызначыўшы ў нечым уласны лёс. Ці шчаслівы той, каму давялося быць верасам? Пэўна, шчаслівы. Толькі шчасце яго няпростае.

Няпростаму жыццёваму і творчаму лёсу Зоські Верас прысвечаны чарговы том «Беларускага кнігазбору», які змяшчае вершы, абразкі, апавяданні, успаміны, артыкулы, лісты і нават «Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік», які дзяячка рыхтавала да друку. Словам, тое, што хвалявала Людвіку Антонаўну на працягу ўсяго жыцця, тое, чым яна жыла. Канешне, том не атрымаўся б такім поўным і грунтоўным без абазнанага ў сваёй справе ўкладальніка. А ім выступае дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганна Запартыка. Выступае яна і як аўтар грунтоўнай прадмовы, што адсочвае доўгі (амаль стагадовы) зямны шлях пісьменніцы і грамадскай дзяячкі. А пісаць, несумненна, ёсць пра што. Захапленне батанікай у школе, курсы агародніцтва, садоўніцтва і пчалярства, ранняя смерць бацькі і першага мужа, праца ў Камітэце помачы ахвярам вайны, у Беларускім нацыянальным камітэце, у Вялікай Беларускай радзе, ратаванне параненых, сяброўства з Максімам Багдановічам, Змітраком Бядулем, Усеваладам Фальскім, Ядвігіным Ш., выданне дзіцячага часопіса і бясконцыя творчыя задумы, новыя вершы, апавяданні, апрацоўка легенд… Лёс, як бачым, не шараговы. І пры гэтым мужнай жанчыне, як сціп-

лай кветцы ў легендзе, удалося набыць жыццёвую мудрасць, моцу, пераканасць у светлай ідэі. Яна не баялася жыць, тварыць, марыць, аб чым яскрава сведчыць яе творчасць:

Я не баюся жыццёвай буры,
Хоць добра знаю шум яе панурый,
І будучыні не баюся ценя
Бяз ласкі цёплай сонка прамення,
І не баюся працаў мазольных
Для рук бяздольных…

Шчыры клопат і душэўны боль адчуваецца і ў кожным лісце з архіва Людвікі Антонаўны. Літаратура, журналістыка, батаніка, этнаграфія, бібліятэчная і музейная справы — гэта далёка не поўны пералік галін, у якіх апантана працавала Зоська Верас. У рэдакцыі «Нашай нівы» яна перыядычна замаўляла кнігі (у тым ліку, «Беларусаў» Яўхіма Карскага, даследаванні якога незвычайна натхнялі на ўласную пошукавую працу). Вацлаву Ластоўскаму піша аб працы над «Батанічным слоўнікам» і даведнікам «Медадайныя расліны», аб гадоўлі каштоўных флянсаў і мары ажывіць кааператыўнае таварыства «Пчала». Сяргею Новіку-Пеюну — аб рэдагаванні дзіцячых часопісаў «Пралескі» і «Заранка». З Ларысай Геніюш шчыра дзеліцца ўражаннямі ад яе паэмы «Куфар», а яшчэ — глыбокім сумам аб стане культуры: «Куфраў са скарбамі, хіба, ужо няма. Музеяў вартасных — таксама. Нацыянальнай вопраткі, такой праўдзівай, старадаўняй — не пабачыш, поўны заняпад. А другія народы яе маюць, шануюць. І гэтага неяк ніхто не бачыць і не перажывае. А можа, я мылюся? Хацелася б, каб так было».

Як бачым, чытанне літаратурна-мастацкай і эпісталярнай спадчыны нашай нястомнай суайчынніцы — гэта цікавы экскурс у гісторыю нацыянальнага культурнага адраджэння, а таксама ўрок неабыякавасці. Дык няхай жа для кожнага з нас, сённяшніх, маральным запаветам стануць паэтычныя радкі, выказаныя Зоськай Верас у далёкім 1915-м годзе:

Больш чым цялеснай баюся смерці
Душой умерці…




*Таццяна СІВЕЦ*

**РАЗНЯВОЛЕНАСЦЬ**

*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2016*

«У Сярэднявечча і аж да позняга Адраджэння індывідуальнасць была мінімізіравана; на палотнах Джота ўсе, акрамя Хрыста, падобныя адзін да аднаго. Да канца эпохі Адраджэння індывідуальнасць пачала квітнець, і ў Рэмбранта і Эль Грэка другарадныя персанажы ўжо не падобныя да харыстаў», — канстатуе заснавальнік сучаснай пазітыўнай псіхалогіі Марцін Селігман глабальную змену парадыгмы развіцця чалавечай культуры. І сапраўды, час, у які мы жывём, прынята называць «стагоддзем выбару», «стагоддзем індывідуальнасці». Ды каб зразумець сваю індывідуальнасць, трэба ведаць, якія межы здольны перайсці. Трэба быць разняволеным…

«Разняволенасць» назвала сваю новую паэтычную кнігу і Таццяна Сівец.

І такое найменне як нельга лепей характарызуе як канкрэтны зборнік, так і творчую манеру паэткі ў цэлым. Таццяна Сівец часта ідзе на смелыя эксперыменты, каб намацаць сваё, адметнае. І эксперыменты гэтыя не падаюцца штучнымі, не выглядаюць як даніна модзе. Проста чалавек так мысліць, адчувае, не прызнае рамак і абмежаванняў у творчым фармаце. І тлумачыць (нават крыху ў іранічна-гратэскным рэчышчы) ролю свайго літаратурнага пакалення:

Вы ўсё яшчэ пішаце ямбам,
тады мы ідзем да вас!
Прабіраемся Белавежаю,
вожыкамі ў смузе…
Умеем лічыць да трох свае творы
і рыфмы дзяліць на два!
І згодны адразу ў бронзу
ці ў літмузей!..
За нас нават можна трошачкі пазаўзець,
Калі мы адно другому натхнёна
плюём у твар…
І няхай нас у гэтыя шэрагі
аніхто не зваў!
І няхай да заўтра кожны першы
не дапаўзе!..

Назва вызначае і фармат кнігі. Тут і вершы, і паэма, і пераклады твораў зусім не падобных адзін да аднаго пісьменнікаў з розных краін свету (Расіі, Калмыкіі, Рэспубліке Комі, Славакіі, Украіны, Чачэнскай рэспубліцы). Розныя і ўзоры аўтарскай лірыкі кнігі, аднак іх аб’ядноўваюць агульныя рысы: шырокі культурны кантэкст, цікавая пабудова страфы, арыгінальны характар рыфмоўкі. І зноў жа паўтаруся: гэта не блазенства, не стракатасць, за якой пустата. Гэта арганічная карціна нашага глабалізаванага свету вачыма шчырай, непасрэднай, кемлівай жанчыны, якая проста не можа маўчаць пра тое балючае, што адбываецца вакол:

Доктар, мне штосьці перашкаджае
дыхаць і гаварыць!
Доктар, вы можаце гэта з горла майго
ўзяць і выразаць
назаўсёды?
Не, спачатку было нічога…
Нават пэўная асалода…
Быццам бы там жылі
два заўзятыя дудары…
Ды пасварыліся, вырашылі завастрыць
Свае гукі, парэзаць рукі,
усёю мной завалодаць…

Пэўна, своеасаблівай квінтэсэнцыяй усяго папярэдне напісанага з’яўляецца выдатная паэма Таццяны Сівец «Баку». Надта пачуццёвая, трапяткая, асацыятыўная, яна бездакорна раскрывае як каларыт сонечнай краіны, так і светапогляд аўтаркі. Смак, водар, колер — тое простае і галоўнае, праз што можна спазнаць новую рэальнасць, выходзіць у паэткі на першы план. Менавіта так раіць вучыць мову лірычная гераіня:

Мову тут вучыш лёгка —
галоўныя словы на «эс»:
прывітанне, дзякую і кахаю…
А ўсе астатнія пазнаеш
па смаку, водару, плёскату,
позірку і дыханні…

Ды не толькі з візуальных асацыяцый складаецца паэма… Гэта хутчэй толькі знешняе, «фасад»… Галоўным у творы ўсё ж такі з’яўляецца глыбокі роздум, рэфлексія над няпростым лёсам народаў свету, у якіх «стадыёны на могілках», і даты нараджэння і смерці на самотных помніках «розняцца год на дваццаць». Словам, ніштo так не яднае, як агульны боль. Яднае так, што замест манеткі, каб вярнуцца, кідаеш у мора ўласнае сэрца…

Ды і «Баку» — толькі адна кропка на вялізнай карце свету Таццяны Сівец. Кніга «Разняволенасць» — запамінальная вандроўка па мікра- і макракосмасе пісьменніцы. Чытачы пачуюць моцны голас паэткі і яе своеасаблівы дыялог з Лэйлай Аліевай, Чынгізам Аліаглы, Эдвардам Мілітанянам, Нурланам Аразаліным, Галінай Тарасюк, Лулай Куні ды іншымі творцамі. Дык натхняйцеся гэтым сумоўем і станавіцеся не разбэшчанымі, не, а менавіта разняволенымі.




**ЯК МЯДЗВЕДЗЬ ПЧАЛЯРОМ СТАЎ**

**Серыя «Казачны куфэрак»**

**Уклад. В. Аляксеева**

*Мн.: Выдавецкі дом «Звязда», 2015*

Актыўнае развіццё беларускамоўнай дзіцячай літаратуры многія пачалі ўжо называць няйначай як феноменам. І сапраўды, пасля многіх гадоў амаль поўнай «цішыні» бібліятэка айчыннага чытача перыядычна папаўняецца аповесцямі, апавяданнямі, казкамі, вершамі для дзяцей. Добрай традыцыяй Выдавецкага дома «Звязда» стала выданне кніг у спецыяльных серыях «Вясёлы калейдаскоп» і «Казачны куфэрак». У апошняй не так даўно пабачыла свет чарговая шыкоўна аформленая кніга «Як мядзведзь пчаляром стаў». Проста прайсці каля стэлажа з гэтым выданнем дзіця дакладна не зможа: шчыры гумар аўтараў выдатна выяўляе вокладка. Вялізны смешны мядзведзь з дапаможнікам «Пчалярства» ў сумцы пяшчотна абдымае барадатага сімпатычнага беларуса…

Гэткім жа мяккім гумарам, падобным да гумару фальклорнага, напоўнены дасціпныя вершы Генадзя Аўласенкі пра вялікую сілу кемлівасці. Слабейшыя, аднак разумнейшыя конь і вавёрка падманваюць драпежных воўка і лісу і, карыстаючыся іх няёмкім становішчам, выходзяць пераможцамі. Гэтак жа дзейнічае і «цар звяроў» з верша Уладзіміра Карызны «Казка пра мужнага ката»: асабліва не прыкладаючы намаганняў наводзіць жах на ўсіх лясных жыхароў. Ды перасягнуў усіх мядзведзь з верша Кастуся Жука, што даў назву кнізе. Каб не халадзіць лапы, стары таптыга носіць лапці ды частуе ўсіх духмяным мядком. «Той ніколі не стары, / Хто сябруе з мёдам», — пэўна, гэтыя радкі вясёлага і адначасова мудрага лірычнага твора дапамогуць матулям прапанаваць дзецям колькі лыжачак каштоўнага салодкага прадукта. А яшчэ не толькі праз алегарычныя вобразы жывёл сцвярджаецца ідэя аб дамінуючай ролі розуму, шчырых пачуццяў. Міхась Пазнякоў актуалізуе вядомы казачны сюжэт пра лесавіка, што дапамагае селяніну дастаць з ракі згубленую сякеру. Адмаўляючыся ад залатой і сярэбранай, бядняк атрымоўвае ўсе тры. А багацей, паквапіўшыся на каштоўныя сякеры, застаецца з носам.

Аднак не трэба думаць, што кніга «Як мядзведзь пчаляром стаў» мае алюзіі толькі на беларускую народную творчасць. Казка Георгія Марчука «Аўтобус, ліфт і насценны гадзіннік» скіроўвае чытача ў дзівосны свет адухоўленых рэчаў, за якімі назірае мудры Бог. «Гэта ж як у Андэрсена і Бажова!» — усклікнуць уважлівыя. І будуць правыя: на гэтыя асацыяцыі і разлічвае аўтар. Стары аўтобус марыць атрымаць спакой і адпачынак, ліфт — узляцець на пяцідзясяты паверх, насценны гадзіннік — пабачыць вялікі свет. І што важна, кожнаму не хапае павагі і ўдзячнасці людзей, якія іх выкарыстоўваюць… Тыя сварацца без дай прычыны, не берагуць рэчы, не берагуць успаміны. Як жа прайсці праз гэтыя выпрабаванні, фігуральна кажучы, не апусціць рукі? Дык тут спрацоўвае

простая біблейская ісціна: роспач — вялікі грэх, трэба захапляцца маленькімі жыццёвымі радасцямі. Праз свайго своеасаблівага героя, гадзіннік, Георгій Марчук агучвае немудрагелістую формулу шчасця: «…калі ты патрэбны нават аднаму чалавеку, можаш лічыць сябе шчаслівым». Той, хто не страчвае надзею, абавязкова будзе ўзнагароджаны. Гэта доказна даводзіцца ў казцы: аўтобус усталёўваюць на п'едэстал перад аўтапаркам, ліфт мадэрнізуюць і пераносяць у новы высокі гмах, гадзіннік адчувае цікавасць наведвальнікаў у музеі.

Калі ўжо гаварыць далей пра рознасць казкавых традыцый, то варта ўзгадаць аўтарскі стыль маладой пісьменніцы Кацярыны Хадасевіч-Лісавой. «Падарожжа ў Кветкавую краіну» яго яскрава дэманструе. Незвычайнай увагай да дэталей, панарамнасцю фантастычных карцін твор, безумоўна, нагадае казкі Мікалая Носава. Тым больш, што і тэматычна блізкі: яго Нязнайка таксама падарожнічаў у кветкавым горадзе. Аднак гэта зусім не плагіят, бо Кацярына Хадасевіч-Лісавая стварае свой, непаўторны свет падарожжаў у сне. Запамінальныя персанажы (экскурсавод па казках Сіняй падушкі Пухлік, кароль Кветкавай краіны Фларыстыкус, мастачка Маляваначка), дзіўныя транспартныя сродкі (конікі, карэта-мак), геаграфічныя назвы (Клумбавая алея, Матыльковая паляна), стравы (суп з пялёсткаў ружовай півоні, пюрэ з карэння гамільтыкуса, катлета з бульбеты духмянай), неаспрэчна, прыцягваюць увагу маленькіх фантазёраў. А яшчэ «Падарожжа ў Кветкавую краіну» — гэта гісторыя пра першае каханне. Шчырае, крыху сарамлівае, з «рамонкавымі спатканнямі», але глыбокае і сапраўднае.

Пэўна, у юным узросце трэба не столькі павучаць, а паказваць свет з розных бакоў, каб маленькі чалавек сам падыходзіў да разумення добрага і дрэннага, знаходзіў свой непаўторны шлях у дарослае жыццё. Зборнік «Як мядзведзь пчаляром стаў» дэманструе творчасць зусім непадобных адзін да аднаго пісьменнікаў. Міхась Пазнякоў, Тамара Бунта, Таццяна Мушынская, Алена Масла, Алесь Карлюкевіч, Вольга Савасцюк, Мікола Чарняўскі, Алена Стэльмах маюць розныя погляды на жыццё і творчасць, але намагаюцца паказаць як мага больш далёкія далягляды дзецям. Вядомая шведская пісьменніца Юя Вісландэр некалі сказала ў адным з інтэрв'ю: «Я хачу, каб кнігі натхнялі на жыццё». Казачныя гісторыі чарговай кнігі серыі «Казачны куфэрак», безумоўна, натхняюць на сапраўдныя ўчынкі, прыгоды, творчасць. Не будзем супрацівіцца натхненню!

# ВЕРА Ў ДОБРАЕ СЭРЦА

Піша вам чытачка, якая нядаўна прачытала аповесць Уладзіміра Саламахі «…І няма шляху чужога» ў кнізе, а потым у часопісе «Полымя» яе працяг — «Не цурайся веры сваёй…», каб падзяліцца сваімі ўражаннямі.

Першае ўражанне: якое глыбокае веданне жыцця, якая праўда, якая горкая праўда!.. І якое глыбокае разуменне простага чалавека, якое спачуванне яму!.. Адчуваеш, што аўтар не назіральнік, а свой сярод сваіх (хоць і стаіць зараз на больш высокім узроўні светапогляду), што яго сэрца звязана цесна са сваім народам. І гэта сэрца баліць болем народа. Калі чытала, здавалася: я зноў вяртаюся ў дзяцінства, якое скалечыла вайна. Я ж дзіця партызана, у васьмігадовым узросце, калі фашысты палілі нашу вёску Зеляніца ў Кіраўскім раёне, разам з маці і астатнімі жыхарамі цудам выратавалася ў лесе, мне ўсё добра і зараз помніцца… І хоць маё пасляваеннае дзяцінства і юнацтва было лягчэйшым, чым у герояў гэтай аповесці, але ўсё напісанае кранае, яно блізка і зразумела табе.

Глыбока кранае вера аўтара ў добрае сэрца простага чалавека, у яго душу. Усе выпрабаванні ваеннага ліхалецця не сагнулі, не зламалі яго. Чалавек застаўся чалавекам. Купка жыхароў спаленай разам з людзьмі вёскі Гуды, якія цудам засталіся жывымі, сталі чымсьці адзіным. У гэтым адзінстве — іх сіла. Адчуваеш, што ніякія цяжкасці, жыццёвыя выпрабаванні не зломяць іх. І калі па прапанове Яўхіма пачынаюць цягаць бярвенні для будучай хаты Каці, разумееш, адчуваеш: інакш і не магло тут быць… А з якім хваляваннем чакаюць мужчыны, пакуль Каця народзіць!..

Але ж ёсць і яшчэ адзін жыхар — Іосіф. Яго хату не спалілі. У яго ёсць дом — і няма дома. Адзінота ў гэтым доме. Іосіф побач, а не разам, ён — ізгой. З якой глыбінёй раскрыты пакуты гэтага чалавека! Ён не вінаваты перад людзьмі, яны гэтага не ведаюць, у іх да яго — непрыязь, агіда, нянавісць. Але ў крытычны момант, калі Гуду залівае паводка, Іосіф на сваёй лодцы плыве да людзей, вязе ім ежу і мех зерня. «Людзі! — я да вас…»

Не пачулі, не прынялі, не паверылі, як калісьці не паверыў Іосіф каханай Тэклі. Ён адвярнуўся ад яе, здрадзіў каханню, здрадзіў сабе. І жыццё жорстка адпомсціла.

Я не прыпомню твора, дзе б так нешматслоўна і глыбока паказана трагедыя пакрыўджанага кахання. І ўсё ж каханне засталося ў сэрцы Тэклі і Іосіфа на ўсё жыццё. Яно дапамагло Тэклі дабрацца з далёкай Сібіры назад у родныя мясціны, сустрэцца з адзіным любым — з Іосіфам. Простыя сяляне, просты чалавек умее глыбока, шчыра кахаць, як у высокіх трагедыях, пакутаваць, што калісьці адрокся ад свайго кахання, ад веры ў яго.

Хочацца сказаць некалькі слоў аб мове, дакладней, аб маім успрыманні яе. Чытаючы, я адчувала, што гэта мова тых людзей, тых мясцін, дзе прайшло маё дзяцінства. Гэта народная мова: яркая, прыгожая, выразная. Я быццам чую гаворку маіх родных. Яны ўжывалі словы, з якімі я з радасцю сустрэлася на старонках аповесцей…

Здаецца, што ў творах мала падзей, а цячэ глыбокая плынь жыцця, з вірамі, перакатамі праз каменні.

Нельга ўявіць, як разгортваюцца падзеі ў трэцяй частцы трылогіі, але апошнія сказы аповесці «Не цурайся веры сваёй…» даюць надзею. Я ўяўляю, як ў лодцы, якую калісьці Іосіф пакінуў сваім аднавяскоўцам, плывуць Яўхім і Надзін сын Валік. Плывуць, каб сустрэцца з Іосіфам. Якая будзе гэтая сустрэча?..

***Зінаіда Комбар,***
***настаўніца-пенсіянерка, г. Віцебск.***

# ЛЕПШЫЯ ЎЗОРЫ СЕРБСКАЙ САТЫРЫЧНАЙ АФАРЫСТЫКІ

## Мілаван Вітэзавіч (1944 г. н.)

❍ Гісторыя была нам настаўніцай жыцця. Потым прыйшлі нейкія маньякі і згвалцілі нашу настаўніцу.

❍ Хто высока лётае, таго праводзяць і сустракаюць у аэрапорце.

❍ У хлусні кароткія ногі, але іх не відаць за трыбунаю.

❍ Цытуючы Маркса, абараніў капітал.

❍ Рашаючы многія заблытаныя пытанні, мы вынайшлі новыя разнавіднасці вузлоў.

❍ Хто спявае, той кепска не думае. А хто думае, таму не да спеваў.

❍ Скідаючы адзін перад адным капелюшы, англічане разганяюць туман.

❍ Шпеглер напісаў «Пагібель Захаду». Усходу дзеля гэтага не спатрэбіліся пісьменнікі.

❍ Уваход у XXI стагоддзе: пасля нашай эры!

❍ Не час маўчаць — сачы, што гаворыш!

❍ Калі ўсе будуць пісаць паэзію, кепскія паэты выйграюць у масавасці!

❍ Толькі праз сумненні прыходзяць да твораў несумненнай вартасці.

❍ Не перагортвайце другога ліста, калі і першага не прачыталі!

❍ Ведаў, калі страціў галаву, толькі не меў часу шукаць яе!

❍ Узвялі мы нейкіх пасрэдных пісьменнікаў у сусветныя. А цяпер самі здзіўляемся, што сусветная літаратура нейкая пасрэдная.

❍ Свабода творчасці абумоўлена гатоўнасцю ствараць.

❍ У маладосці пісьменнікі прагнуць змяніць свет. У старасці адчуваюць адказнасць за тое, каб свет не быў зменены.

❍ Няма пісьменніка, які б не быў за аб’ектыўную і бязлітасную крытыку іншых.

❍ Папера церпіць усё. Ды я не магу!

❍ Гамера, можа, і не было, аднак ён пакінуў значны след!

❍ Хочаце, каб я сказаў вам, што думаю пра вашу кнігу, ці лепш застанёмся прыяцелямі?

## Мілаван Вржына (1951 г. н.)

❍ На былых варожых пазіцыях цяпер знаходзяцца нашы людзі!

❍ У нас ворагам няма чаго браць, бо ўсё разабралі сябры.

❍ Маркс пісаў пра класавыя супярэчнасці, а я іх нават і бачыў!

❍ Толькі наперад. Астатнія — стой!

❍ У нас багі застаюцца і тады, калі народ перастае верыць у іх.

❍ Дзе-каго сапсавала вуліца, а дзе-каго — наш новы шлях.

❍ Калі б нават знайшлі зерне мудрасці, мы б ім вокны выбівалі!

❍ Вытворчая траўма — і тады, калі парушаецца страваванне пасля ўрачыстых банкетаў.

❍ Першыя шэрагі ратуюцца тым, што апошнімі прыходзяць.

❍ Мусім вар'іраваць, калі тэма зададзена.

❍ Каб не было тых, што пагражаюць, дык ніхто з нас і пальцам бы не варухнуў.

## Мілан Бештыч (1952 г. н.)

❍ Яшчэ ў дванаццатым стагоддзі тут елі з відэльцамі і нажом. І цяпер бы так елі, каб было што.

❍ У Амерыцы ішла вайна Поўначы супраць Поўдня, а нашы краі прасціраюцца на ўсе чатыры бакі свету.

❍ Разумныя атрымлівалі кулю ў лоб. Так пачаўся адток мазгоў.

❍ Чаму літаратурныя крытыкі не носяць уніформы?

❍ У нашым банку вашы ўклады захоўваюцца надзейна. Нават вы іх зняць не зможаце.

❍ Куля без свінца — экалагічны хіт.

❍ Сцеражыся сабакі! У яго ёсць гаспадар.

❍ Парушаю толькі адну Божую запаведзь. Я хрысціянін на ўсе 90 працэнтаў.

❍ Учора ён казаў, што серада, сёння кажа, што чацвер, заўтра скажа нешта трэцяе. Як жа верыць такому чалавеку?!

❍ Ігракі на полі просяць каментатара, каб гаварыў марудней, бо яны не могуць так хутка бегаць.

❍ Астролагі маюць астранамічныя заробкі, а калі астраномам выдадуць зарплату, гэта пытайце ў астролагаў!

❍ Плагіят — гэта мастацкі твор з радаслоўнай.

❍ Санаторый і крэматорый. Вось да чаго рыфмаванне можа давесці!

❍ Ува мне 70 працэнтаў вады. Астатняе — гэта я, але канцэнтрат.

❍ За лекі не дзякуюць. За іх плаціць трэба!

❍ Калі будзеце некаму адсякаць галаву, то рабіце гэта электрапілою. Бензапіла забруджвае асяроддзе.

***Укладанне і пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ.***

